# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ:
## вядомы і невядомы

*Крытыка-архіўны зборнік*



Мінск
«Літаратура і Мастацтва»
2011

УДК [821.161.3.09+929Багдановіч](082)
ББК 83.3(4Беи)я43
М17

Укладанне і каментарыі
Ц. В. Чарнякевіча

Прадмова і гласарый
Ю. В. Пацюпы

Рэцэнзенты:
доктар філалагічных навук
*І. В. Саверчанка;*
доктар філалагічных навук
*М. А. Тычына*

*Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу*
*і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь*

М17 **Максім Багдановіч: вядомы і невядомы** : зб. літаратуразн. і арх. матэрыялаў / уклад. і камент. Ц. В. Чарнякевіча; прадм. і гласарый Ю. В. Пацюпы – Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2011. – 392 с.

ISBN 978-985-6994-74-9.

У чарговы зборнік гісторыка-літаратурнай серыі РВУ «Літаратура і Мастацтва» ўключаны даследаванні творчасці Максіма Багдановіча 1910–1940-х гадоў, дзякуючы якім можна прасачыць, як паэзія класіка беларускай літаратуры ўспрымалася на працягу першай паловы XX стагоддзя. Акцэнт зроблены на літаратуразнаўчыя працы, што не перавыдаваліся з часоў першапублікацыі. З архіўных матэрыялаў асобнае месца займае першая кандыдацкая дысертацыя па творчасці беларускага паэта, абароненая Р. Жалязняком у Ленінградзе ў 1940 г. У асобным раздзеле змяшчаюцца таксама малавядомыя матэрыялы перапіскі родных і сяброў Максіма Багдановіча, з якіх асоба песняра, 120-годдзе з дня нараджэння якога святкуецца сёлета, паўстае ў новым і часта нечаканым святле.

Выданне разлічана на літаратурназнаўцаў, выкладчыкаў ВНУ, настаўнікаў-славеснікаў, архівістаў, студэнтаў-філолагаў і шырокае кола аматараў творчасці Максіма Багдановіча.

**УДК [821.161.3.09+929Багдановіч](082)**
**ББК 83.3(4Беи)я43**

**ISBN 978-985-6994-74-9**

## ДА ВЫТОКАЎ БАГДАНОВІЧАЗНАЎСТВА

Калі Усевалад Ігнатоўскі называў Максіма Багдановіча госцем з высокага неба, то, відаць, і сам не думаў, які веер сэнсаў тоіць у сабе гэтае азначэнне. Развіваючы ягоную дасціпную метафару, паэта можна параўнаць і з яркім метэорам на нашаніўскім чытацкім гарызонце, і з загадкавым метэарытам на чорным грунце тутэйшай літаратуры. Багдановіч адразу быў успрыняты як чужароднае цела і выклікаў буру канфліктаў. Спрэчкі склаліся ў сістэму, стварылі ўласную логіку развіцця і не затухаюць да гэтай пары, хоць паэт даўно стаў сваім, родным для беларускай літаратуры. Даследаваць гісторыю спасціжэння Багдановіча не менш цікава, чым вывучаць ягоную паэзію. Але, на жаль, сёння, абняўшы вокам абшары багдановічазнаўства, з прыкрасцю заўважаеш, што ўсё, нават найлепшае, напісанае ад 30-х гг. ХХ ст. і пазней, мае ў сабе нейкую заганную зададзенасць, быццам тую лыжку дзёгцю ўлілі ў бочку з мёдам. Каб пазбыцца гэтай заганнасці, даводзіцца азірацца на 20-я гг. Дасягненні ў сучасным багдановічазнаўстве мажлівыя пры адной, папярэдняй і абавязковай, умове: вяртанні да таго незашоранага дыскусійнага стану, які панаваў да 30-х гг.

* * *

Пры жыцці Багдановіч абдумваў праект стварэння навуковай крытыкі. Наступнае, пасмяротнае, дзесяцігоддзе якраз і сталася агнішчам зацятых метадалагічных спрэчак, якім сёння, у наш эклектычны час, можна толькі пазайздросціць. Асабліва востра палеміка аб развіцці літаратуразнаўства разгарэлася ў СССР, маладой паслярэвалюцыйнай краіне, дзе вызвалілася каласальная людская энергія. Завадатарамі дыскусіі стала група маладых даследчыкаў літаратуры, пераважна апаязаўцаў – В. Шклоўскі, Ю. Тынянаў, Б. Эйхенбаум, Р. Якабсон, Б. Тамашэўскі, В. Жырмунскі, якіх у літаратурных колах называлі фармалістамі. Грунтам для адштурхоўвання паслужыла практыка культурна-гістарычнай школы, заснаванай у ХІХ ст. французскім літаратуразнаўцам І. Тэнам, а ў Расіі прадоўжанай працамі М. Ціханравава, А. Пыпіна, інш. прадстаўнікоў акадэмічнай навукі. Культурна-гістарычная школа як тыповая з’ява парадыгмы ХІХ ст. разгортвала свае даследаванні на вывучэнні каўзальнага шэрагу – тых вонкавых чыннікаў, якія дэтэрмінавалі з’яўленне і развіццё літаратурных твораў. І. Тэн вылучыў тры такія чыннікі: біялагічны – **раса**, сацыяльны – **асяродак** і культурны – **момант**. Тэнаўская школа паглыбляла ідэі біяграфічнага метаду Ш. Сэнт-Бёва і процістаяла састарэлым установкам нарматыўнай паэтыкі Арыстоцеля ды Буало. Здавалася б, такім спосабам літаратура ахаплялася з усіх бакоў, і лепшага метаду даследавання нельга прыдумаць, аднак пры гэтым неяк незаўважна выпадала галоўнае: сам літаратурны твор як тэкст пэўным парадкам арганізаваны. Апошняе і завяло ў тупік акадэмічную практыку.

Яшчэ да рэвалюцыі А. Яўлахаў, зацяты вораг культурна-гістарычнай школы, наракаў: якія толькі непатрэбныя дробязі з біяграфіі пісьменнікаў ні збіраюцца, нават пра іхных цешчаў можна даведацца, адно нічога пра самі творы. Фармалісты якраз і паставілі сабе на мэце стварэнне спецыфічнай навукі пра літаратуру, якая б не падмяняла літаратурны шэраг сацыяльным. Яны паслядоўна адмаўляліся ад папулярнага найменння «фармалісты» і спрабавалі сцвердзіць сябе як «спецыфікатары». Фактычна, былі адкінутыя экстралітаратурныя зацікаўленні і актуалізаваўся іманентны аналіз тэксту, які ў свой час практыкавалі і паслядоўнікі Арыстоцеля, але цяпер ужо на якасна новым этапе: адну ўсеагульную нарматыўную паэтыку заступала мноства нетрывіяльных прыватных паэтык. Яшчэ раней аналагічная, хоць і менш канфліктная, змена парадыгмаў адбылася ў мовазнаўстве: паслядоўнікі Ф. дэ Сасюра і Я. Бадуэна дэ Куртэнэ адышлі ад дыяхранічных даследаванняў параўнальна-гістарычнага мовазнаўства і звярнуліся да сінхроннага апісання сістэмаў моў, што ў пэўным сэнсе можна разглядаць як абнаўленне ідэі ўніверсальнай граматыкі Пор Раяля. Дарэчы, фармалісты свядома абапіраліся на ідэі сасюраўскага мовазнаўства – і ў тым, і ў другім разе каўзальнае апісанне заступалася ўніфікацыйным. У аснове фармальнага аналізу ляжаў тэзіс В. Шклоўскага аб мастацтве як **суме прыёмаў** і **астраненні** (ад рус. *странный* ‘дзіўны’) як механізме абнаўлення прыёмаў. Пазней сума прыёмаў была перасэнсаваная як **сістэма прыёмаў**.

Апазіцыю, і вельмі агрэсіўную, фармальнаму метаду склала ў 20-я гг. не паўжывая акадэмічная навука, а вульгарна-сацыялагічная школа, якая ў той час атэставала сябе як марксісцкае літаратуразнаўства. Карыфеямі гэтай плыні лічыліся У. Фрычэ і В. Пераверзеў. Вульгарныя сацыёлагі апелявалі да эстэтыкі Г. Пляханава, а фактычна абсалютызавалі і даводзілі да скрайнасці адзін, сацыяльны, бок культурна-гістарычнай школы. Усякая літаратурная з’ява разглядалася ў іх як класавы прадукт вытворчых адносін. Аб’ектам даследавання быў каўзальны шэраг, дзе прычынна-выніковая лучнасць ішла адразу ад эканомікі да літаратуры, абмінаючы культуру ў цэлым як інстытут, што і надавала вульгарнасці зусім не беспадстаўнаму сацыяльнаму аналізу. Ступень вульгарнасці залежала ад колькасці апасродкаванняў у прычынна-выніковай залежнасці: адны праводзілі скразную залежнасць літаратуры ад вытворчых сіл (базісу), другія, менш вульгарныя, ставілі яе ў залежнасць ад вытворчых адносін (надбудовы). І ўсё ж, у сярэдзіне 20-х гг., насуперак шалёнай крытыцы з боку вульгарных сацыёлагаў, фармальны аналіз стаў вельмі папулярным і пачаў уплываць на практыку акадэмічных навукоўцаў. Але найслабейшым месцам фармалізму было разуменне гісторыі літаратуры, таму і пасталі рознага кшталту эклектычныя плыні, якія спрабавалі спалучыць сінхронны фармальны аналіз з дыяхронным сацыяльным. Гэта найбольш яскрава заўважалася ў П. Сакуліна, прадстаўніка старой акадэмічнай навукі, які прапанаваў пачынаць даследаванне з фармальнага боку і замыкаць яго сацыяльным.

Поспехі фармалістаў былі такія відавочныя, што аніводная школа не магла ім процістаяць, іх нетрывіяльныя падыходы выклікалі інтэлектуальны шок. Парушальнікаў спакою цяжка было пераспрэчыць, прасцей задушыць, што нейзабаве і зрабілі. Адно толькі кола М. Бахціна (апрача апошняга – П. Мядзведзеў і В. Валошынаў) станавіла дзейсную інтэлектуальную апазіцыю фармалізму. Бахціністы не ніякавелі перад поспехамі фармальнага аналізу, не саромеліся сваіх сацыяльных установак, але разам з тым дыстанцыяваліся і ад вульгарных сацыёлагаў. Яны падкрэслівалі ўласнае найменне фармальнага метаду як «марфалагічнага» і ў гэтым, найбольш паспяховым аспекце, бачылі ягоную слабасць. Паводле метадолагаў з кола Бахціна, літаратура ад самага пачатку пранятая сацыяльнымі інтэнцыямі і пачынаць аналіз, выпускаючы з-пад вока такую фундаментальную ўласцівасць літаратуры, – гэта значыць загадзя выракаваць сябе на правал. Такім парадкам крытыкаваліся не толькі фармалісты, але і эклектыкі, якія, паддаўшыся чарам фармалізму, гатовыя былі паўтараць іхную ж памылку: аналізаваць форму, абстрагаваўшыся ад яе сацыяльнай функцыі. Кола Бахціна выстаўляла

як альтэрнатыву маністычнае і іманентнае бачанне літаратуры, заснаванае на сацыяльным падыходзе. На жаль, на гэтую плынь у той час не звярнулі ўвагі, дый не маглі звярнуць на фоне бліскучых прац фармалістаў і ваяўнічых заяў вульгарных сацыёлагаў.

У беларускім кантэксце ўсесаюзная карта літаратуразнаўчых кірункаў збольшага адлюстроўвалася, але расклад творчых сіл не быў простым яе працягам, а меў тутэйшую спецыфіку, заўважалася тэндэнцыя да стварэння нацыянальных версій літаратуразнаўчых школ. Калі ў 10-я гг. у асяроддзі нашаніўцаў можна было вылучыць толькі яркія постаці крытыкаў без яснага акрэслення метадалогіі, то ў 20-я гг. з'явілася цэлая пляяда навукоўцаў, якія свядома распрацоўвалі метадалогію літаратуразнаўства і свядома стасавалі яе да канкрэтных асоб і праблем. Найярчэйшым нашаніўскім крытыкам быў сам Багдановіч, ён сінтэзаваў багатую палітру сусветнай філалогіі ды філасофіі і стварыў арыгінальную эстэтыку хараства, а адштурхоўваючыся ад уласнай эстэтыкі, заснаваў нацыянальную версію эстэтычнай крытыкі, дзе перадусім заўважаецца ўплыў псіхалагічных школ – А. Лацаруса, Ф. Лейена, А. Патабні – і настойліва праяўляецца тэндэнцыя да фармальнага аналізу. Багдановіч ішоў супраць плыні, прышчапляючы беларускай літаратуры класічныя і мадэрныя дасягненні і ставячы перад ёй заданні, якіх і сёння мы не даем рады развязаць. Блізкім яму па духу быў С. Палуян, ён першы дзейсна падтрымаў паэта. Не менш блізкім быў А. Луцкевіч – нястомны і ўсебакова адукаваны публіцыст, палітык еўрапейскага маштабу, а пры ўсім тым выдатны крытык, які шчаслівым збегам абставін стаў першым Багдановічавым рэцэнзентам і інтэрпрэтатарам. Супраціўны полюс стварaў Л. Гмырак, зарыентаваны на публіцыстычны метад рускай рэальнай крытыкі, якраз у ім можна бачыць выразніка агульных месцаў нашаніўскай эстэтыкі.

У 20-я гг., калі ствараўся Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, у Мінск прыехала цэлая пляяда прафесароў з былога Варшаўскага ўніверсітэта. Ант. Адамовіч даводзіць, што яны трапілі ў Беларусь праз Я. Карскага, прызнанага карыфея беларусазнаўства і былога рэктара Варшаўскага ўніверсітэта, якога мелі прызначыць і рэктарам БДУ, але, каб паслабіць нацыянальны ўплыў, прызначылі ўрэшце У. Пічэту. Так у Мінску з'явіліся аўтарытэтныя расійскія літаратуразнаўцы І. Замоцін, А. Яўлахаў, а таксама маладзейшыя і пакуль што менш вядомыя А. Вазнясенскі, Я. Барычэўскі ды М. Піятуховіч. Трох апошніх Адамовіч трактуе як вучняў Яўлахава, але сапраўдная пераемнасць заўважаецца толькі з Вазнясенскім. У БДУ Яўлахаў, калі верыць Адамовічу, узгадаваў яшчэ двух вучняў, крытыкаў Ул. Дзяржынскага (Ул. Чаржынскага) і А. Бабарэку. Дарэчы, тутэйшым, з Сенненскага павета, быў і М. Піятуховіч, а таксама Я. Барычэўскі, народжаны ў Мінску. Усе прафесары хутка засвоілі беларускую мову і сталі выкладаць: І. Замоцін і А. Вазнясенскі – рускую літаратуру, М. Піятуховіч – беларускую, Я. Барычэўскі – паэтыку, а тэорыю літаратуры, як сведчаць Н. Ватацы і Ант. Адамовіч, у БДУ прыязджалі выкладаць вучні В. Пераверзева.

Літаратуразнаўцы 20-х гг. уражваюць метадалагічнай разнастайнасцю. Найстарэйшы з іх І. Замоцін пільнаваўся акадэмічнай культурна-гістарычнай школы, з пэўным ухілам у біяграфічны метад. Увага гэтай школы да фактаў і да крыніцаў паспрыяла таму, што І. Замоцін стаў заснавальнікам айчыннай тэксталогіі, а першым аб'ектам яе стасавання былі творы М. Багдановіча. А. Яўлахаў лічыў сябе вучнем найбуйнейшага кампаратывіста А. Весялоўскага, спецыяльна распрацоўваў метадалогію гісторыі літаратуры і рэзка выступаў супраць культурна-гістарычнай школы. Самому А. Яўлахаву найбліжэй былі псіхалагічныя кірункі і духоўна-гістарычная школа. Аднак у 20–30-я гг. часта цытавалася яго выказванне: «гісторыя літаратуры – гісторыя паэзіі, гісторыя паэзіі – гісторыя формаў», якое давала падставу бачыць у ім папярэдніка фармалістаў. Урэшце, А. Яўлахаў паводле запрашэння В. Іванава пераехаў у Баку, перакваліфікаваўся на медыка, а неўзабаве і зусім мусіў развітацца з літаратуразнаўствам. Яго роля ў станаўленні беларускай навукі аб літаратуры дагэтуль не вывучаная, зрэшты, як і творчасць у цэлым.

Даследаванні А. Яўлахава ў метадалогіі прадоўжыў ягоны малодшы калега А. Вазнясенскі. Н.Ватацы, апісваючы сваіх універсітэцкіх настаўнікаў, падкрэслівала, што

ў БДУ А. Вазнясенскі слыў як фармаліст, сведчаннем таму і ягоныя працы, як тэарэтычныя, так і гістарычна-літаратурныя. Таму сёння дзіўна і кур'ёзна чытаць у некаторых энцыклапедычных даведніках, быццам А. Вазнясенскі належаў да культурна-гістарычнай школы. Праўда, тут трэба зрабіць адну спецыяльную спасцярогу: беларускі літаратуразнаўца выйшаў з акадэмічнага асяроддзя, ён ніколі не належаў ані да апаязу, ані да блізкіх яму гурткоў, фармалізм А. Вазнясенскага – самастойны, яўлахаўскай школы, і не такі радыкальны, як у В. Шклоўскага ці ў Б. Эйхенбаўма. Цікава, што А. Вазнясенскі, як і раней М. Багдановіч, утаесамляў фармальны аналіз ды эстэтычную крытыку. Пазней, знаходзячыся пад няспынным ідэалагічным наглядам і ціскам прадстаўнікоў вульгарнай сацыялогіі, ён спрабаваў ісці на кампраміс, спалучыць фармальны метад з сацыялагічным. Тым часам ягоны калега Я. Барычэўскі наагул стаяў воддаль ад усіх папулярных плыняў, ён арыентаваўся на нямецкую эстэтыку – нездарма ж і навучанне ён пачынаў у Берлінскім універсітэце, – ягоныя працы імпанавалі колу М. Бахціна, пра што сведчыць прыхільны водгук П. Мядзведзева ў часопісе «Звезда» на дослед Я. Барычэўскага.

У 30-я гг., калі пачаліся рэпрэсіі, усе літаратуразнаўчыя школы спынілі сваё існаванне. Лёс беларускай навукі аб літаратуры ў гэтым плане даволі павучальны. А. Яўлахаў, вядомы як эстэт, імараліст і апанент марксізму, – назаўжды развітаўся з літаратуразнаўствам. Ён не быў рэпрэсаваны, дажыў да 1965 г., але заплаціў за мінулае поўным забыццём. Крыху іншы лёс у А. Вазнясенскага, які адбыў пяць гадоў лагеру і працягваў літаратуразнаўчую працу ў Казані. І. Замоцін, паводле светапогляду больш блізкі да марксізму, пратрымаўся ў літаратуразнаўстве да 1938 г., пакуль не быў рэпрэсаваны, асуджаны, памёр – у лагеры. М. Піятуховіч найхутчэй прыстасоўваўся да кан'юнктуры, за што яго і празвалі «эластычным» прафесарам, але патрапіў пад рэпрэсіі на год раней. Ён мусіў з'ехаць з Беларусі на Каўказ і ўсё ж быў арыштаваны ды расстраляны. З маладзейшых больш суровая доля напаткала А. Бабарэку – памёр у лагерным шпіталі, а тым часам Ул. Дзяржынскі, быў высланы з Беларусі, затое яго імя, як і А. Яўлахава, начыста павыкасоўвалі з усіх бібліяграфічных даведнікаў. У выніку ж вымалёўваецца парадаксальная карціна: чым больш навукоўцы прыстасоўваліся да сталінскага рэжыму, тым больш жорстка рэжым з імі распраўляўся. Тыя ж, што спынілі ўсякі дыялог з уладаю, так ці інакш перабылі рэпрэсіі.

Як паказвае практыка, крынічанне дапытлівай чалавечай думкі цяжка перарваць. Пасля нядоўгага перыяду буры і наступу заўзятых пераверзіянцаў ды вульгарызатараў, такіх як Л. Бэндэ, А. Кучар, Я. Бранштэйн, В. Барысенка, у рэзервацыі артадаксальнага марксізму-ленінізму адзін за другім падрасталі дапытлівыя студэнты, што спрабавалі глядзець на літаратуру бесстаронне і цвяроза. Многія з іх, як Р. Бярозкін, сталі выдатнымі багдановічазнаўцамі. Асабліва актыўна за вывучэнне Багдановіча ўзялася група ленінградскіх аспірантаў Б. Эйхенбаўма, аднаго з заснавальнікаў апаязу, на той час, праўда, занятага больш тэксталогіяй і змушанага развітацца з былым радыкалізмам. Некаторыя з іх разгарнуліся толькі пасля вайны – М. Смолкін, а некаторыя загінулі – Р. Жалязняк на фронце, Дз. Савановіч у блакадным Ленінградзе, але паспелі напісаць і нават апублікаваць паасобныя працы.

* * *

Агульныя кірункі ўспрыняцця Багдановічавых твораў, якія потым не раз будуць адгукацца ў розных даследаваннях, узніклі ў 1909 г., калі паэт даслаў у «Нашу Ніву» першыя вершаваныя тэксты. Паводле сведчання В. Ластоўскага частка рэдакцыі («верхняя» палата), а таксама пісьменнік Ядвігін Ш. не ўспрынялі Багдановічавых вершаў і адправілі іх «у архіў», а тым часам «ніжняя» палата, перш за ўсё Янка Купала і Сяргей Палуян, падтрымалі паэтавы спробы, апошні, у жніўні 1909 г. увайшоўшы ў склад рэдакцыі, дабіўся іх публікацыі. Ядвігін Ш., які назваў Багдановічавы вершы «дэкадэншчынай», па-ранейшаму цвердзіў, маўляў, яны «не для народа». Адмоўную рэакцыю Багдановічава паэзія выклікала ў У. Галубка і А. Паўловіча, апошні старанна

выкпіваў Багдановічаў стыль, называючы паэта «ваш Лесавік», але неўзабаве і сам стаў пісаць «пад Багдановіча».

Але першая згадка пра Багдановіча ў друку – на апавяданне «Музыка» – з'явілася яшчэ раней, у працы І. Святыцькага «Відродженє білоруського письменства» (Львоў, 1908). Ён не проста працытаваў паэта, а пачаў з гэтага даследаванне: «*Пра кожнага з цяперашніх беларускіх пісьменнікаў можна разам з Максімам Багдановічам сказаць: "Ён усю душу сваю клаў у ігру..."*», тым самым паказаўшы, што паэт дасціпна сфакусаваў галоўны матыў, агульнае месца нашаніўскага светабачання.

У 1910 г. Багдановіча ўспаміналі ў беларускім, украінскім, рускім і чэшскім друку. С. Палуян ахарактарызаваў яго як паэта «*сумнага і ціхага настрою*» і меў пэўнасць, што Багдановіч апынецца «*ў першым раду нашых пісьменнікаў*». Рускі гісторык А. Пагодзін, асудзіўшы расійскі шавінізм і прывітаўшы беларускі нацыянальны рух, знайшоў трапныя словы і для паэта:

«*М. Багдановіч – адна з звычайных з'яў, якія суправаджаюць нацыянальнае абуджэнне народаў: тонкая і чулая натура, абнятая імкненнем вярнуцца да прыніжанага і забытага народа*».

Не менш высока ацаніў Багдановіча чэшскі славіст А. Чэрны:

«*Гэта чалавек новае культуры… Вылучае яго паэзію надзвычайнае пачуццё народнага духу, выказанае праз суб'ектыўныя пачуцці сучаснага чалавека, узгадаванага на сусветнай культуры*».

У 1912 г. у энцыклапедычным слоўніку Гранат у артыкуле «Беларусы» А. Пагодзін зноў успамянуў Багдановіча. А этнограф М. Янчук, адзін з першых айчынных гісторыкаў літаратуры, у аглядзе беларускай паэзіі, адрасаваным расійскаму чытачу, назваў яго «*найадукаванейшым з новых беларускіх песняроў*», пад канец зазначыўшы, што няма «*ў новай беларускай паэзіі тае ненармальнае, хваравітае з'явы, якую называюць мадэрнізмам*». Апошняе сцверджанне сёння можа выклікаць толькі ўсмешку, але для нас яно пагатоў каштоўнае як прыклад тагачаснай рэцэпцыі беларускага пісьменства.

У 1913 г. Ул. Рагоўскі, робячы для польскага чытача агляд беларускай паэзіі, ці не першы падкрэсліў не толькі агульную Багдановічаву культуру, але і ягонае майстэрства:

«*...найвыкшталцонейшы паэт вялікае еўрапейскае культуры, надзіва субтэльны, ён умее прасці тканіну найвыдворнейшае паэтычнае формы*».

На гэтым фоне зычлівых і нейтральных водгукаў замежных славістаў кідаецца ў вочы тое, што па-ранейшаму даволі насцярожана ўспрымалі Багдановічаву паэтыку некаторыя калегі-літаратары. Л. Гмырак у 1914 г. неяк лёгка, як бы між іншым, зазначыў:

«*Асобна ад іншых трэба паставіць паэта Максіма Багдановіча, які шмат нам даў тыповых пробак паэзіі "штукарства для штукарства"*».

Калі супаставіць Янчукову і Гмыракаву рэцэпцыі, то відавочна, што абодва не прымаюць мадэрнізму, але адзін не заўважае яго ў Багдановічавых творах, а другі заўважае, але халаднавата ўспрымае. Гэтая дылема, якая ў суме процістаіць характарыстыцы Рагоўскага, атрымае далейшае развіццё і не раз адгукнецца ў інтэрпрэтацыях Багдановіча.

І ўсё ж у ранні перыяд найцікавейшай інтэрпрэтацыяй паэта была яго аўтахарактарыстыка, пададзеная ў аглядзе «Глыбы і слаі» (1911):

«*Што да Багдановіча, то ў ім непрыкметна шпаркага развіцця, хоць асобнасці яго таленту выступаюць ужо даволі ясна. Гэта паэт-маляр. Слабы як лірык, ён усю сваю ўвагу звяртае на абразнасць зместу вершаў і разам з тым клапоціцца аб згушчонасці яго, спадзеючыся прыдаць ім праз гэта асаблівую сілу, але, сціснутыя паводлуг такіх заходаў, вершы іншы раз заміж малюнка даюць якісь абрывак яго. Што варта гэтая праца, сказаць пакуль што цяжка, а таму, адзначыўшы даволі шырокі круг тэм у гэтых вершах і бледнасць мовы іх, я пераходжу да другарадных паэтаў*».

Паэт лепш, чым крытыкі збоку, расставіў акцэнты, адмежаваўшыся ад творцаў меладыйнага і пачуццёвага кшталту – «лірыкаў» – і падкрэсліўшы метафарычны і ін-

тэлектуальны пачаткі ў сваіх вершах – «паэт-маляр». На жаль, даследнікі замала звярталіся да гэтага фрагменту.

Але сапраўднае спасціжэнне Багдановічавай творчасці пачалося па выхадзе «Вянка» (1913), калі з'явілася рэцэнзія А. Луцкевіча «Пясняр чыстай красы». Яе назва і стала першым і асноўным азначэннем паэта. Крытык пісаў пра лірычнага героя зборніка:

*«Яго душа замкнёная ў сабе, жыве ў нейкім іншым, асаблівым свеце – у свеце чыстай красы і шчырай паэзіі, ды толькі праз яе глядзіць на нашае жыццё – рэальнае, цяжкое, поўнае змагання і безупыннай працы».*

У 20-я гг. паглыблялася Луцкевічава азначэнне, закладваліся падваліны багдановічазнаўства. Яго падтрымаў Я. Карскі артыкулам «М. А. Багдановіч – беларускі паэт чыстага мастацтва» (1920). У тым жа кірунку шэраг важных допісаў апублікаваў З. Бядуля, з якіх вылучалася эсэ «Натхненне і гармонія» (1920). Паводле Бядулі Багдановіч – *«адзін з жрацоў хараства»*, прасякнуты ім да самазабыцця, хоць культ хараства як абсалюту больш уласцівы самому Бядулі, а Багдановіч вызнаваў парадаксальную, супярэчлівую ідэю хараства. Згодна з Луцкевічавай традыцыяй разглядалі Багдановіча і М. Гарэцкі ў «Гісторыі беларускай літаратуры» (1920), і Я. Карскі ў 3-м т. нарысаў «Беларусы» (1922). Гарэцкі зазначаў: *«Кожны вершык Багдановіча мае ў сабе якую-небудзь філасофскую думку»*. Крыху пазней у гэтым жа кірунку выступіў М. Грамыка з эсэ «Пясняр сноў і чараў» (1923), дзе, як і Бядуля, паспрабаваў цэласна спасцігнуць паэта. Ён назваў Багдановіча эстэтам і пад тое зазначыў: *«Гэта грэх у беларускай вопратцы»*. У. Пічэта ў артыкуле «М. Багдановіч як гісторык беларускага адраджэння» (1922) зазначыў: *«Асноўныя вехі гэтага працэсу прадстаўлены правільна, і будучаму гісторыку прыйдзецца з імі лічыцца»*. Ён прааналізаваў і ацаніў паэтавы гістарычныя працы як *«напісаныя без усякай палітычнай прадузятасці, з належачым маладому пісьменніку прыгожствам»*, адметныя *«аўтарытэтнасцю і грунтоўнасцю»*.

З 1922 па 1927 гг. – перыяд, які А. Бабарэка назваў «рэгістрацыйным дзесяцёхгоддзем», пачынаецца навуковае вывучэнне Багдановічавай паэзіі. Першымі працамі, вытрыманымі ў духу фармальнага метаду, былі артыкулы Ул. Дзяржынскага «Максім Багдановіч як стылізатар беларускага вершу» (1922) і «М. Багдановіч як апісальнік прыроды» (1922). Гэты пачын развіў А. Вазнясенскі, напісаўшы на матэрыяле «Вянка» «Паэтыку М. Багдановіча» (1926). Я. Барычэўскі значнае месца адвёў песняру ў «Паэтыцы літаратурных жанраў» (1927) і ў «Тэорыі санету». Архітэктоніку «Вянка» разглядаў Я. Плашчынскі ў працы «Кніга лірыкі як мастацкае цэлае» (1927). Але другой пасля Луцкевічавай рэцэнзіі значнай падзеяй у вывучэнні Багдановічавай паэзіі стаў артыкул М. Піятуховіча «Максім Багдановіч як паэта імпрэсіяністы» (1923). Рэдакцыя часопіса «Полымя» змясціла яго чыста ў парадку дыскусіі. Аднак мінае час, і нетрывіяльная ідэя «эластычнага» прафесара становіцца ўсё больш праўдападобнай. На жаль, былі ў гэтым артыкуле і негатыўныя ноткі што да Багдановіча. Наступны Піятуховічаў артыкул 1927 г. «Цені і святло ў творчасці М. Багдановіча» быў ужо цалкам вытрыманы ў духу школы Фрычэ і Пераверзева: Багдановічу прыпісваліся «хваравітыя енкі разладу» філасофскага і сацыяльнага, на што М. Волмар у маладнякоўскай рэцэнзіі іранічна заўважыў:

*«Праф. Пятуховіч і тутака стараецца давесці, што М. Багдановіч і песімісты, і паэта чыстага мастацтва, і расчараванец, і яшчэ што, але і тутака гэта не ўдаецца. <…> Пічэта, Замоцін і шмат хто іншых не знаходзяць у Багдановіча таго, што хоча знайсці Пятуховіч. Мабыць затым, што, чытаючы творы паэты, апошні бачыць не тое, што напісана, а нешта іншае».*

У тым жа вульгарна-сацыялагічным кірунку разважаў і З. Жылуновіч, для якога паэзія Багдановіча – *«канфеці ў час кіпучае ўтомнае работы»*.

Актыўна ў абарону Багдановіча выступіла літаб'яднанне «Узвышша», узняўшы яго на свой сцяг. Асабліва цікавыя ў гэтым плане працы А. Бабарэкі 1927 г.: «З літаратур-

ных нататкаў», «Максім Багдановіч у літаратурных ацэнках», «Аб разуменні мастацкай творчасці і аб некаторых пытаннях у вывучэнні беларускай літаратуры». Бабарэка рэзка адпрэчыў канцэпцыю «*паэта чыстай красы*», «*мастацтва для мастацтва*», «*паэта-імпрэсіяніста*», прапанаваўшы альтэрнатыўныя азначэнні Багдановіча як «*паэта-класіка*», «*мастака-сінтэтыка*» і «*мастака хараства жыцця*». Ніводнае з іх не прыжылося, але тут праявілася яшчэ адна тэндэнцыя ў інтэрпрэтацыі Багдановіча: як адраджэнца, г. зн. мастака заангажаванага. Дарэчы, у наш час усё часцей праводзяцца паралелі паміж Багдановічам і ўкраінскімі паэтамі-неакласікамі. Супраць Піятуховічавых перабольшанняў таксама выступіў С. Замбржыцкі ў артыкуле «Нацягванне чужога халата» (1927). Нават у «Маладняку» з'явіўся артыкул М. Каспяровіча «Матывы барацьбы ў творчасці М. Багдановіча» (1927), дзе даводзілася, што «*ў прыгожай форме Багдановіч даваў каштоўны змест*». Яшчэ раней падобнае разуменне сцвярджаў Я. Лёсік: «*Мілуючы форму і куючы свой сталёвы беларусінскі верш, паэта*» «*служыў ідэі адраджэння*». Праўда, апублікавалі Лёсіка толькі ў 1991 г. – такі падыход не атрымаў афіцыйнай падтрымкі.

Але найбольшым дасягненнем багдановічазнаўства 20-х гг. стаў выхад акадэмічнага выдання спадчыны Багдановіча. Камісія Інбелкульта на чале з І. Замоціным правяла вялікую арганізацыйную і тэксталагічную працу, вынікам якой сталі 1 і 2 тт. «Твораў» Багдановіча. І да гэтай пары выданне служыць узорам навуковай грунтоўнасці ў тэксталогіі. Спецыяльна для «Твораў» Замоцін зрабіў падрабязны жыццяпіс Багдановіча. Ён прасачыў спадчынныя, сацыяльныя і культурныя аспекты Багдановічавай біяграфіі як адно цэлае, абапіраючыся на палажэнні культурна-гістарычнай школы. Праўда, з'едлівы Т. Глыбоцкі не прамінуў, каб не ўпікнуць за выдаткі метаду:

*«Адносна вельмі цікавага артыкулу праф. Замоціна "М. Багдановіч" мы мусім зрабіць адну заўвагу. Нам здаецца, што паважаны прафесар, мякка кажучы, перасаліў, выкопваючы здольнасці дальніх продкаў Багдановіча і ўвязваючы іх надоранасць з талентам паэты. Нам думаецца, што калі ісці шляхам гэтых меркаванняў, дык смела можна дайсці да ўтварэння асобнага племені паэтаў, пісьменнікаў, мастакоў ды г. д.»*

Тады ж у 1927 г. на 10-я ўгодкі смерці Багдановіча ў заходнебеларускім часопісе «Родныя гоні» А. Луцкевіч даў урэшце філасофскае абгрунтаванне канцэпцыі «чыстай красы» ў артыкуле «Праблемы красы й мастацтва ў творах Максіма Багдановіча». У тым жа нумары «Родных гоняў» быў апублікаваны артыкул пра Багдановіча І. Дварчаніна, які, аднак, паўтараў многія палажэнні багдановічазнаўства 20-х гг. У савецкім друку варта яшчэ адзначыць раздзел пра Багдановіча ў кнізе Л. Клейнбарта «Маладая Беларусь» (1928), а таксама цікавую прадмову ўкраінскага паэта-неакласіка М. Драй-Хмары да кнігі перакладаў з Багдановіча. Ю. Дрэйзін у артыкуле «Антычныя матывы ў творчасці М. Багдановіча» (1928) не толькі звярнуў увагу на рэмінісцэнцыі з антычных аўтараў, але і паказаў тыпалагічную блізкасць Багдановіча да антычнасці: «*Як антычныя аўтары не абмяжоўваюцца параўнаннем у адным-двух словах, але даюць больш-менш падрабязны малюнак прыроды… так гэта робіць М. Багдановіч*». На гэтым, бадай што, пазітыўны этап у багдановічазнаўстве сканчаецца.

У рэцэнзіі на 1 т. Багдановічавых «Твораў» М. Байкоў выракаваў: «*Яго творчасць непасрэднай цікавасці з погляду сучаснасці не выяўляе*». А Т. Глыбоцкі лічыў Багдановіча «*найбольш пасіўным у справе змагання за знішчэнне сацыяльнай несправядлівасці*». Таму зусім не выпадкова «Паэтыка…» А. Вазнясенскага публікавалася па-за межамі Беларусі ў ковенскім «Крывічы», а меркаваны 3 т. «Твораў» так і не выйшаў у свет. З. Жылуновіч, Т. Глыбоцкі, М. Байкоў, найбольш заўзятыя прыхільнікі чысціні «пралетарскай культуры», падрыхтавалі з'яўленне ў 1930-я гг. крытыкаў новай фармацыі, Л. Бэндэ, А. Кучара і Я. Бранштэйна, якія засяродзілі сваю ўвагу выключна на «класавым аналізе» літаратуры. Класавы аналіз зводзіўся да навешвання цэтлікаў, маніпулявання тэматыкай твораў і паўтору гатовых формул у аднатыпных «Матар'ялах да нарысаў па гісторыі

беларускай літаратуры», дзе пра Багдановіча пісалі, маўляў, ён *«з'яўляецца найбольш яскравым прадстаўніком беларускай буржуазіі»* перыяду заняпаду. Або вось такія перліны класавага аналізу:

*«Творчасць Багдановіча пры ўсёй сваёй ідэёвай убогасці… служыла сродкам класавага змагання буржуазіі супраць пралетарыяту».*

*«Калі перлы буржуазнага мастацтва і культуры ўзраслі на глебе і карку працоўных, на карку рабочых і сялян, – дык гэтыя працоўная павінны любавацца гэтай культурай і маліцца за яе. Эстэтызм Багдановіча даходзіць да крайнасці».*

*«Нацыяналізм Багдановіча даходзіць да крайнасці…»*

*«Песімізм, містыка і рэлігійнасць, фатальнасць і нацыяналізм, бязвольнасць і пасівізм, беспрасветнасць, упадак і бесперспектыўнасць, вось чым напоўнена і прасякнута да самых глыбінь творчасць Багдановіча».*

Узоры падобнай «крытыкі» – гэта сведчанне амаль поўнай страты Багдановіча для культуры і поўнага заняпаду багдановічазнаўства як навукі.

Шчаслівым выняткам быў толькі артыкул Якуба Коласа «Шаўчэнка і беларуская паэзія», дзе высока ацэньваўся Багдановіч як крытык (1939). Праўда, у Заходняй Беларусі рэдчас з'яўляюцца юбілейныя публікацыі пра Багдановіча. Публікуе новыя даследаванні А. Луцкевіч: «Праблема сфармавання нацыянальнае душы Максіма Багдановіча» (1937), «Да крыніцаў творчасці М. Багдановіча» (1939). Але пад канец 30-х і тон крытыкаў-вульгарызатараў пачынае спакваля мяняцца. А. Багдановіч у адным з лістоў аб сынавай творчасці заўважыў: *«Пасля далучэння Заходняй Беларусі цікавасць да яго ажывілася»*. І сапраўды, у Маскве ў «Литературной газете» з'яўляецца сімптаматычны артыкул Е. Мазалькова «Замечательный белорусский поэт» (1939). Мяняе арыентацыю А. Кучар: брашурку «Творчасць М. Багдановіча (Матэрыялы для выкладчыка беларускай літаратуры)» (1939) ён пачынае не з аблайвання «буржуазнасці», а з канстатацыі: *«Максім Багдановіч – майстар невялікага лірычнага верша»*. А ў 1940 г. выходзяць «Выбраныя вершы» Багдановіча з прадмовай М. Ларчанкі і на рускай мове «Избранные стихи» з прадмовай Е. Мазалькова.

Падбор вершаў у гэтых зборніках вельмі тэндэнцыйны, абмежаваны, а Ларчанкава прадмова – адметны ўзор крытыкі пераходнага перыяду. Аўтар апрыёрна абвяшчае Багдановіча сімвалістам, хоць дагэтуль сімвалізм традыцыйна знаходзілі ў Купалы, у Бядулі, а ў звязку з Багдановічам ён успамінаўся эпізадычна – у таго ж Кучара. Але дзесяцігоддзе вульгарызатарскага выпальвання культуры дало свой плён: усе літаратурныя кірункі зліліся ў адно невыразнае цэлае і ўспомніліся пад найменнем сімвалізму як найбольш уплывовай школы пачатку XX ст. Цікава, што ў 1949 г. Ларчанка перавыдаў сваю прадмову ў выглядзе брашуры амаль без зменаў, толькі выдаліўшы раздзел пра сімвалізм і ўжо назваўшы Багдановіча рэалістам. У 1940-я гг. у Ленінградзе аспіранты тэксталагічнага семінара Б. Эйхенбаўма Р. Жалязняк і Дз. Савановіч на новы лад звяртаюцца да творчасці Багдановіча. Жалязняк разважаў: *«Паэзія Багдановіча разглядалася не ў руху, а статычна. А між тым яна пражыла пэўнае развіццё»*. Гэтую ідэю ён разгарнуў у дысертацыі «Паэзія М. А. Багдановіча» (1941), дзе паспрабаваў прасачыць і рэканструяваць ход мастацкага мыслення паэта пры стварэнні розных тэматычных цыклаў, раскрыць кола яго культурных прыярытэтаў. Дз. Савановіч паспеў апублікаваць у 1941 г. толькі два артыкулы: «“Старая Беларусь” М. Багдановіча» і «Фальклор у творчасці М. Багдановіча» – на нераспрацаванасць апошняга аспекту звяртаў увагу яшчэ А. Бабарэка.

* * *

Мінае час, падрастаюць новыя пакаленні літаратуразнаўцаў, крытыкаў, апрабоўваюцца нетрывіляльныя метадалогіі, і штогод пішуцца новыя працы пра Максіма Багдановіча. Пасля пакутлівага і супярэчлівага рэнесансу 20-х гг., пасля генацыду і стагна-

цыі 30-х гг. за XX і XXI ст. было нямала створана ў літаратурнай навуцы, Багдановічу прысвечана не адна манаграфія, але ўсё больш і больш прывабнымі, прыцягальнымі робяцца працы менавіта 20-х гг. Хочацца азірнуцца назад і спытацца, а з чаго ўсё пачыналася? Хто быў першы? Чаму мы прачытваем Багдановіча так, а не інакш? І ці не хібяць нашы прачытанні, ці няма ў іх друзу нейкіх сацыяльных комплексаў? Жыццё літаратурных жанраў як інстытутаў карэктуецца перыядычным вяртаннем да вытокаў, відаць, тое самае рэгулярна адбываецца і ў навуцы. На поўным сур'ёзе мы запытваемся: а што мы там страцілі, чаго не ўлічылі, што забытае старое прагне стаць новым? Дый старыя часопісы збуцвелі ад часу, яшчэ крыху – і мы не зможам прачытаць нават тое, што захавалася. А нешта ўжо і незваротна прапала ў Лету.

У гэты зборнік увайшлі працы, напісаныя ў даваенны перыяд, якія сталі бібліяграфічнай рэдкасцю і даступныя толькі вузкаму колу спецыялістаў. Кожны з пададзеных тут аўтараў невыпадковы, кожны паставіў прыкметную вяху ў даследаванні Багдановіча. А. Луцкевіч мае прыярытэт пачынальніка багдановічазнаўства, стваральніка агульнаэстэтычнай канцэпцыі «песняра чыстай красы». М. Піятуховіч адкрыў стылёвы кірунак Багдановіча як паэта-імпрэсіяніста, яго прыватнаэстэтычную версію. Тым часам Ул. Дзяржынскі першы даследаваў Багдановічаву паэтыку ў аспекце вершазнаўчым. Гэтую працу развіў А. Вазнясенскі з шырэйшым абдымам паэтыкі, прылучыўшы і вобразна-сюжэтны аспект. Дз. Сагановіч сістэматызаваў фальклорны ўплыў у Багдановічавай паэзіі. Праца ж Р. Жалязняка зусім ніколі не публікавалася цалкам, хоць менавіта яна служыць крыніцай шмат якіх чарнавых урыўкаў з страчанага паэтавага архіва, апрача таго, менавіта Жалязняк упершыню даў усебаковы параўнальна-гістарычны аналіз Багдановічавай творчасці. А што да Я. Карскага, то ягоная нататка ў рускамоўным варыянце ўвайшла ў фундаментальнае даследаванне «Беларусы». І ўсё ж яна адметная: яе назваў патрыярх беларусазнаўства пацвердзіў Луцкевічаву канцэпцыю. Відаць, таму нататка і не патрапіла ў савецкія бібліяграфічныя даведнікі Багдановіча, на сёння газеты «Беларусь», дзе яна друкавалася, у Беларусі нам так і не ўдалося адшукаць.

Луцкевічаву формулу «пясняр чыстай красы» яшчэ ў 20-я гг. не раз спрабавалі адпрэчыць, надаць ёй негатыўны сэнс, хоць у масавай сведамасці яна так і засталася за Багдановічам. Тут варта нагадаць: ідыёму «чыстая краса» Луцкевіч узяў з вядомага Багдановічавага санета «На цёмнай гладзі сонных луж балота…» А сам тэрмін *чыстая краса* сягае эстэтыкі І. Канта і замыкае ў сабе ідэю хараства як катэгорыі незацікаўленага сузірання, вольнага ад усіх карыслівых унёскаў. Апошні момант спрычыніўся да таго, што прыхільнікі тэндэнцыйнага, ідэалагізаванага мастацтва не маглі прыняць данай атэстацыі, то лаючы Багдановіча за «чыстую красу», то баронячы яго ад «чыстай красы». Але важны сам факт: паэт адгукнуўся на рэцэнзію ўдзячным вершам «Дзень добры, пане!..», – г. зн. прыняў Луцкевічаву формулу. У сваім найбольш грунтоўным даследаванні «Праблемы красы й мастацтва ў творах Максіма Багдановіча» красу ў прыродзе А. Луцкевіч разглядае як пабуджальнік любові, а эстэтычнае пачуццё як перанос любові на ўсе праявы жыцця, што павышае жыццёвы тонус. Трэба заўважыць, эратычная тэорыя хараства сягае прац Платона, а таксама неаплатонікаў эпохі Рэнесансу. На жаль, у А. Луцкевіча не размяжоўваецца аб'ектыўнае і суб'ектыўнае разуменне хараства, адно з якіх характэрнае для платонікаў, а другое для Багдановіча. Робячы закід у бок моднага тады марксізму, аўтар успамінае і «*працоўную тэорыю паходжання мастацтва*» як прыватны момант любоўнай канцэпцыі. У творах Багдановіча ён вылучыў наступныя аспекты: уплыў красы на чалавека, яе ўсюдыіснасць у прыродзе, «*духовую красу*» як з'яву і ролю працы мастака ў выяўленні красы. Урэшце, аўтар прыйшоў да высновы, што краса, паводле Багдановіча, ёсць самамэтай у сабе самой.

М. Піятуховіч, як ужо зазначалася, выхаваны ў традыцыях культурна-гістарычнай школы, быў прыхільнікам моднага сацыялагічнага метаду. Згодна з гэтым метадам ён

проціпаставіў Багдановіча астатнім беларускім паэтам як носьбітам рэалізму: «*Гэта нервовая муза гораду*». «*З кінематаграфічнай хуткасцю тут адны праявы змяняюцца другімі*». Адштурхнуўшыся ад нізкі «Места», М. Піятуховіч у тым жа ключы ператтлумачыў і гістарычную, і пейзажную Багдановічаву лірыку, а таксама выкарыстанне паэтам сродкаў «*музыкі і малярства*». Пад Багдановічаў імпрэсіянізм ён падвёў філасофію рэлятывізму ў духу Э. Маха, прыпісаўшы паэту песімізм і скептыцызм. Гэтая экстрапаляцыя светапоглядных структураў на стылёвыя, на жаль, стала пачаткам адвольных вульгарна-сацыялагічных інтэрпрэтацый у багдановічазнаўстве. Аднак галоўная ідэя была трывалейшая за прыватныя довады і вытрымала выпрабаванне часам. У апошнія дзесяцігоддзі пра дачыненні Багдановіча з імпрэсіянізмам пісалі Т. Андрэйчанка, Л. Тарасюк, А. Сабуць. Праўда, праявы неакласіцызму ў аўтара «Вянка» не менш яскравыя, але гэтая супярэчнасць – сведчанне складанасці эстэтычнага аб’екта. Багдановіч – імпрэсіяніст паводле светаўспрыняцця і неакласік паводле светапогляду. Ці, як трапна заўважыў І. Навуменка: «*Імпрэсіянізм пранікае нібы “знутры” ў многія кірункі, у тым ліку рэалістычныя*».

Найменш пашанцавала працам Ул. Дзяржынскага, іх не толькі няма ў даведніках (а там дзе ёсць – прыпісваюцца М. Доўнар-Запольскаму), але і самі яны амаль недаступныя. Калі першая праца – «Багдановіч як стылізатар беларускага вершу» – шчасліва публікуецца ў гэтым зборніку, то другой – «М. Багдановіч як апісальнік прыроды» – ужо, мабыць, не існуе і ў прыродзе[1]. Ул. Дзяржынскі зрабіў першыя спробы даследавання Багдановічавай паэтыкі ў рэчышчы фармальнай школы, у прыватнасці, даследаваў метрыку і рыфмы «Вянка», прыйшоўшы да высновы, што Багдановіч выкарыстаў больш за 30 варыянтаў метрыкі і што ў «Вянку» траціна рыфмаў featureрознамарфемныя, якія да таго ж вылучаюцца мілагучнасцю. А матывы прыроды ў паэта «*не вельмі багаты*», але ён умее іх «*так крышталізаваць*», што «*простае, аднастайнае пачынае пераліваццца рознымі колерамі*». Трэба заўважыць, асабліва цікавая ўступная частка артыкула. У першай фразе прачытваецца яўлахаўскі ўплыў: «*Пераважная частка прыгожага пісьменства наогул ёсць замкнёна ў рамкі вершу*». А далей ідуць яскравыя перазовы з адкрыццямі апаязу: «*вершаваная форма заўсёды паяўляецца раней за празаічную*». Некаторыя ж цвярджанні Ул. Дзяржынскага дагэтуль, на жаль, не страцілі актуальнасці, іх не лішне нагадаць і сёння:

«*Свядомае беларускае грамадзянства дагэтуль захоплена яшчэ навізною нашага пісьменства, дагэтуль яшчэ не мае адвагі крытычна падысці да яго, не мае адвагі правесці раўналежную з іншымі літаратурамі, яно быццам баіцца, каб ад шорсткага дотыку крытыкі не страціла нашае пісьменства таго злотабляску, якім свядома акружае яго кожны беларусін-адраджэнец. Беларускае грамадзянства дагэтуль яшчэ цікавіцца выключна адным зместам нашага пісьменства, не звяртаючы ўвагі на тыя формы, у якіх падносяць гэты змест яму беларускія пісьменнікі*».

А. Вазнясенскі спачатку апісаў тэмы і матывы ў Багдановіча, потым перайшоў да эпітэтаў, метафараў і параўнанняў, а завершыў паэтыку апісаннем мелодыкі, рыфмаў і памераў. Такі парадак аналізу, на думку аўтара, больш дакладна перадае сам ход творчага працэсу. Урэшце, ён прыйшоў да высновы, што матывы прыроды ў Багдановіча «*цесна пераплятаюцца з перажываннямі самога мастака*», аднак пераважае стыхія канкрэтнага свету, канкрэтна-зрокавыя эпітэты складаюць 70%, метафарызуюцца таксама ў асноўным з’явы прыроды, гэта надае вершам «*ярка-рэалістычны*» характар. У цэлым жа вылучаюцца два стылёвыя пачаткі: класіцызму і рамантызму. Багдановічу ўласцівыя сэнсоўныя параўнанні, якія займаюць увесь твор і дзеляць яго на дзве часткі: канкрэт-

[1] Звяртаемся да ўсіх неабыякавых чытачоў: калі ёсць магчымасць адшукаць мінскі часопіс «Вольны сцяг», 1922, № 1, дзе апублікаваны артыкул Ул. Дзяржынскага «М. Багдановіч як апісальнік прыроды», то ласка просім паведаміць.

ную і псіхалагічную. Адносна мала ў Багдановіча эўфанічных эфектаў, характэрных для сімвалізму. Апошняе назіранне не лішне было б ведаць пазнейшым даследнікам, якія шмат апрыёрна разважалі пра эўфанію Багдановічавай паэзіі, хоць тэкстаў з музычнымі заданнямі ў яго вобмаль: «Маёвая песня», «Раманс (Зорка Венера...)», «Завіруха» і... мабыць, усё. Дый сам ён сябе ясна абазначыў як паэта-маляра.

Першай працай у даследаванні фальклярызму аўтара «Вянка» стаў артыкул Дз. Сярбановіча «Фальклор у творчасці М. Багдановіча». Аўтар удала падзяліў фальклярызаваныя творы на тры групы: 1) дзе народная міфалогія падначальваецца імпрэсіяністычнаму апісанню; 2) дзе фальклорныя матывы ўносяцца ў тэкст як цытата, настрой і 3) уласна стылізацыі, перайманні фальклорных кампазіцыйных прыёмаў. Гэтую даволі кваліфікаваную працу апісальнага характару пазней дапоўніў тлумачальны артыкул Л. Сагарава «Максім Багдановіч і фальклор» (1946), там падкрэсліваўся трагізм існавання міфалагічных персанажаў, гераізм Страціма-лебедзя, жыццесцвярджальны камізм «Мушкі-зелянушкі…». Наступныя працы П. Ахрыменкі і нават кніга М. Грынчыка няшмат дадавалі да гэтай тэмы. Прыцягнуў увагу Дз. Савановіча і гістарызм Багдановічавай нізкі «Старая Беларусь», наконт якой ён заўважыў: «*У гістарычным мінулым М. Багдановіча цікавіць не адмоўны бок, не ўласна гісторыя, а перш за ўсё чалавек, яго псіхалогія*». Пазней і У. Караткевіча ўразіць гэтая здольнасць паэта бачыць праз стагоддзі, што ён мусіціме прызнацца: «*І дорага б я даў, каб напісаць некалі нешта падобнае*».

Дысертацыя Р. Жалязняка так і не стала даконачанай кнігай, як планаваў яе аўтар, таму цяжка меркаваць, у што б яна перарасла. Праўда, першае знаёмства з тэкстам дысертацыі паказвае: яна, мабыць, адрасавалася чытачу незнаёмаму з беларускай праблематыкай, тут шмат пераказваецца агульных месцаў з беларускай гісторыі, з літаратуры, з паэтавай творчасці. Але не гэтым каштоўная праца. Найперш, прываблівае той фактычны матэрыял, які ў ёй выкарыстаны, і не толькі з Багдановічавага архіва: тут цытуюцца ды інтэрпрэтуюцца крыніцы, якія ўжо страчаныя назаўсёды. Вельмі багаты кампаратывісцкі аспект у Жалязняка, як у плане супастаўлення паэта з сучаснікамі, так і ў апісанні яго агульнакультурных прыярытэтаў. Цікава прасачыць інтэрпрэтацыю Жалязняком і Багдановічавай эстэтыкі. Безумоўна, аўтар – чалавек свайго часу, ён пераптлумачвае песняра чыстай красы ў савецкім духу, але робіць гэта дасціпна – адчуваецца высокая эўрыстычная культура. Прынамсі, робіць не так прасталінейна, як пазней С. Майхровіч і нават – больш пераканаўча, чым А. Лойка. Да Жалязняка такога ўсебаковага аналізу Багдановіча ніхто не рабіў. Гэта першае манаграфічнае апісанне ўсяго напісанага паэтам, якое, на жаль, не дайшло да чытача своечасова. Дык пара вяртаць даўгі, аддаць тое, што належыць. Належыць нам усім.

Падсумоўваючы наша ўступнае слова, хацелася б нагадаць: за ўсе гады спрэчак вакол Багдановіча не забываецца адна дылема, якую можна назваць «асноўным пытаннем Багдановіча»: быў ці не быў аўтар «Вянка» паэтам чыстай красы. Нават калі сярод крытыкаў на нейкім этапе настае згода, яны не кідаюць спрачацца з былымі і ўяўнымі апанентамі. У гэтым пытанні гістарычна развіліся тры пазіцыі: 1) утылітарысты, якія ганяць Багдановіча за эстэтызм; 2) антыўтылітарысты, якія ўхваляюць Багдановіча за эстэтызм; 3) утылітарысты, якія ўхваляюць Багдановіча, але не бачаць у яго эстэтызму. У кожнай групе вылучаюцца больш ці менш паслядоўныя пазіцыі. Мы не сумняемся, гэтая кніга дапаможа расставіць шмат якія кропкі над **і**, у тым ліку і ў «асноўным пытанні», дапаможа глыбей зразумець вялікага беларускага лірыка і філосафа – госця з высокага неба.

***Юры Пацюпа***

*Антон ЛУЦКЕВІЧ*

# ПЯСНЯР ЧЫСТАЙ КРАСЫ

У канцы краю Расейскай зямлі – здалёк ад роднай старонкі – сплятаў пясняр свой «Вянок» са «шчырых думак і чуцця».

Захаваў ён у сваей чулай на ўсялякае хараство душы «краскі, свежыя калісьці»; з іх тварыў прыгожыя абразы далёкай Бацькаўшчыны і ўліваў пачуццё і душу ў тое, што жыло калісь і замёрла, ды толькі след у гутарках-легендах народных пакінула, у творах даўных майстроў-артыстаў адбіваецца.

Нездарма на першай страніцы сваей кніжкі звяртаецца Максім Багдановіч да чытачоў сваіх з гэткімі словамі:

Вы, хто любіце натрапіць
Між страніц старых, пажоўклых
Кнігі, ўжо даўно забытай,
Блёклы, высахшы лісток, –
Праглядзіце гэты томік...

Запраўды: чытаць вершы Багдановіча павінны толькі тыя, хто разумее музыку слова, чыя душа бачыць хараство ў чыстай паэзіі.

Багдановіч любіць родну старонку, любіць свой народ беларускі. Здалёк глядзіць ён на родныя вёскі і ўсюды бачыць панаванне гора і бяды: «хваляй шырокай» разлілося гора па ўсей зямлі, «родны наш край затапіла». І з грудзей песняра рвецца крык-кліч: «Брацця! Ці зможам грамадскае гора?! Брацця! Ці хваце нам сілы?!». Сілы хваце – пясняр верыць у гэта. Ён глядзіць у мінуўшчыну, як «нашых дзедаў душылі абшары лясоў», як «яны тыя пушчы звадзілі агнём», і радзіць браць прыклад «з гэтых дзедаў суворых», «не хіліцца з бяды, не пужацца агня». Ён верыць, што і ў нас усплывуць з дна захаваныя тамака перлы, і, раўнуючы народ да мора, кліча:

Удар, цыклон, удар на мора,
Цалуй яго ў глухое дно,
Ўсплясні ваду – і перлаў горы
На берaг выкіне яно.

Але не грамадскія тэмы займаюць глаўным чынам паэта: ён перш за ўсё шукае чыстай красы і ў тэй дзяўчынцы васьмілетняй, што, пахіліўшыся з трывогаю над плачучым брацікам, выяўляе песняру тайну Мадонны Рафаэля («Мадонны»), і ў народнай веры ў лесуноў і русалак ды вадзянікоў, («У зачарованым царстве»), і ў абразох роднай прыроды, і ў страніцах мінуўшчыны («Старая Беларусь»).

Багдановіч – сведамы паэт: ён не толькі пачувае красу, – ён яе разумее. І – каб пераказаць нам яе – падбірае такія словы і абразы, што папраўдзе выклікаюць у нашай душы шчыры отклік. Усё ў яго выходзіць у такіх мяккіх тонах, быццам на старых тканінах-габеленах; усё сагрэта шчырым пачуццём ды ўсё гэта жыве, выдаецца рэальным.

Лясун калышацца на тонкаствольных соснах, і здаецца, быццам чутно яго гранне... У срэбных праменнях месяца купаюцца русалкі і расплятаюць свае косы, – на дне ракі – у ціне, у вечнай цішы – спіць сівавусы, згорблены вадзянік адвечным сном: аб ім ужо ніхто не помніць... Чуецца шэлест вужоў, што на Ўзвіжанне – у цёмну васеннюю ночку – з царом змяіным паперадзе паўзуць праз лясы і палі «на зімовы цёплы вырай»... З далёкай мінуўшчыны паўстаюць жывыя абразы «Летапісца» і «Перапісчыка»; вясковыя дзяўчаты, у панскі двор узятыя «ткаць залатыя паясы», кідаюць праз шыбы сумны, тужлівы пагляд за вакно – туды, «дзе расцвіла вясна, дзе блішча збожжа ў яснай далі, сінеюць міла васількі», – і «тчэ, забыўшыся, рука заміж персідскага узора цвяток радзімы васілька»...

Багдановіч умее ўсё ажывіць, пeратварыўшы па-свойму. І лёгка ліюцца яго вершы кунштоўнай, філіграннай работы, а кожын формай падходзіць да думкі. Думак тых – багата, і вось бачым у «Вянку» вершы такой формы, такой будовы – часта вельмі рэдкай, якой могуць пахваліцца толькі найбольш культурныя народы з найвышэй развітай літаратурнай мовай, здаецца, калі б наш «пясняр красы» меў толькі адну мэту: паказаць, што беларуская мова можа развівацца, як мова літаратурная, – дык ён гэтай мэты дайшоў.

«Вянок» – гэта праўдзівая перла ў беларускай паэзіі. Раўнаваць Багдановіча ні з кім не будзем: не затым, што няма лепшых за яго паэтаў (бо такія ёсць), але затым, што ён ні да каго не падобны. Яго душа замкнёная ў сабе, жыве ў нейкім іншым, асаблівым свеце – у свеце чыстай красы і шчырай паэзіі, ды толькі праз яе глядзіць на нашае жыццё – рэальнае, цяжкое, поўнае змагання і безупыннай працы. І як у летні гарачы дзень у крыстальна чыстай крынічнай вадзе асвяжаецца нашае цела, так асвяжае душу паэзія Максіма Багдановіча.

***Антон ЛУЦКЕВІЧ***

# ПРАБЛЕМЫ КРАСЫ Й МАСТАЦТВА Ў ТВОРАХ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

*Публічная лекцыя*

«*Песняром Чыстае Красы*» назваў аўтар гэтых радкоў Максіма Багдановіча, калі першы спасярод беларускіх крытыкаў наважыўся даць ацэнку ягонага «Вянка» на страніцах «НАШАЕ НІВЫ» 15 гадоў назад. І гэтае імя, дадзенае тады нашаму незабытаму *Служцы Красы,* сустрэла агульнае прызнанне і перайшло ў гісторыю беларускае адраджэнскае літаратуры.

Бо ж і праўда: ніводзін з беларускіх паэтаў не выявіў такой свядомасці ў шуканні КРАСЫ, не выявіў такога шчырага пакланення ёй, як Максім Багдановіч. І, творачы новую КРАСУ сваімі вершамі, Багдановіч у цэлым радзе сваіх твораў фармуляваў свой погляд на асноўныя, ніколі не ўміраючыя, заўсёды актуальныя і жывыя праблемы КРАСЫ І МАСТАЦТВА.

Што ж такое КРАСА, што такое МАСТАЦТВА? – Каб гаварыць аб поглядах Багдановіча на гэтыя праблемы, трэба перш самім сабе здаць справу з таго, як мы глядзім на іх, пад якім кутом гледжання будзем аналізаваць думкі нашага пісьменніка.

* * *

Усё жывое існуе і прадаўжае ў бесканечнасць існаванне свайго роду і віду дзякуючы магутнаму інстынкту, які, злучаючы два розныя полы, робіць магчымым РАЗМНАЖЭННЕ. Чым вышэйша ступень развіцця данага віду, тым багацейшыя і тыя формы, у якіх выяўляецца гэны разродчы інстынкт. Да акту, які мае на мэце прадаўжэнне роду чалавеча-

га, пабуджае сучаснага цывілізаванага чалавека незвычайна зложнае, асаблівае пачуццё: гэта – ЛЮБОЎ.

Але ЛЮБОЎ далёка перарасла межы свайго пачатнага службовага назначэння. Яна родзе гэтулькі цудоўных, захопліваючых усю нашу істоту настрояў і перажыванняў, што ЛЮБОЎ сталася для нашае свядомасці як быццам САМАМЭТАЙ, нечым непрыраўнальна вышэйшым за самае нашае існаванне, за нашае жыццё – як адзінкі, так і ўсяго роду.

КРАСА, так багата й шчодра рассыпаная ўва ўсёй ПРЫРОДЗЕ, гэта – СТЫМУЛ, ПАБУДЗІЦЕЛЬ да ЛЮБВІ. Шматфарбныя крылцы матылька, хвост павука, які пераліваецца ўсімі колерамі вясёлкі, гордая грыва льва, таксама, як песні салаўіныя і токі глушцовыя, – усё гэта спосабы прываблівання другога полу, усё гэта – пабудзіцелі да ЛЮБВІ. Тое ж самае бачым і ў чалавека: хараство цела ён ужо свядома стараецца павялічыць штучнымі аздобамі, і гэта сустракаем у найдаўнейшыя перыяды існавання чалавека на зямлі. Але не адна толькі КРАСА ФІЗІЧНАЯ іграе гэткую ролю: мо йшчэ больш магутную прываблівающую сілу паміж рознымі поламі бачым мы ў духовых праявах чалавечага Я – у КРАСЕ ДУХОВАЙ.

У меру таго, як паняцце КРАСЫ пашыралася і паглыблялася, робячыся ўсё больш і больш зложным, з КРАСОЙ сталася тое самае, што і з ЛЮБОЎЮ. Бо ж і КРАСА ўтраціла сваю пачатковую ролю – ролю службовую выключна адносна да любві і размнажэння. Яна абняла ўвесь жывы і нежывы, матэрыяльны і нематэрыяльны свет і яго праявы. Чалавек пачаў шукаць і знаходзіць яе ўсюды. Яна сталася для сваіх адэптаў – САМАМЭТАЙ.

Але пачатковая адзнака КРАСЫ: буджэнне расплоднае сілы ўсяго жывога – не счэзла ў сувязі з гэтым. Наадварот: буджэнне нашых творчых сіл выйшла за межы так званае ФІЗІЧНАЕ ЛЮБВІ, абняло ўсе магчымыя кірункі нашага духовага самавыяўлення, творчасці нашага ДУХА, нашае МЫСЛІ. Так званая ЭСТЭТЫЧНАЯ ЭМОЦЫЯ, якую выклікае ў нас КРАСА, і ёсць не што іншае, як від магутнага ДУХОВАГА ЎЗДЫМУ, аналагічны з любоўным экстазам, ёсць перадусім ПАВЫШЭННЕ ў нас так званага ЖЫЦЦЁВАГА ТОНУСУ. І ў гэтым – найбольш істотная і неад'емная рыса КРАСЫ. Што не дае нам гэнага духовага ўздыму, што не павышае нашага жыццёвага тонусу, гэта – *не краса.* Сіла ж павышэння жыццёвага тонусу з'яўляецца запраўднай мерай эстэтычнае эмоцыі ад КРАСЫ.

Такое разуменне КРАСЫ абыймае і найнавейшую ПРАЦОЎНУЮ ТЭОРЫЮ паходжання МАСТАЦТВА: усялякае МАСТАЦТВА, інтэгральную частку якога прадстаўляе КРАСА, запраўды ж мусіла і мусіць нам ПАМАГАЦЬ У ПРАЦЫ, бо эстэтычная эмоцыя, якую дае нам мастацтва, павышаючы ў нас жыццёвы тонус, гэтым самым павышае і нашу здольнасць да ТВАРЭННЯ – да ПРАЦЫ.

Але такі ўплыў робіць КРАСА не толькі на таго, хто ці то глядзіць на яе, ці іншымі спосабамі яе ў сябе ўбірае: яна дае мо йшчэ больш багатыя эстэтычныя эмоцыі таму, хто яе ТВОРЫЦЬ. І ўсялякае МАСТАЦТВА – гэта ёсць такое САМАВЫЯЎЛЕННЕ, у аснове якога ляжыць няўхільна элемент КРАСЫ ды якое дае эстэтычную эмоцыю і ТВАРЦУ, і таму, хто пазнае творства мастака. Дык з поўным правам мы можам паўтарыць словы выдатнага французскага мысліцеля-эстэта М. ГЮЙО: «Адчуваць у сабе жыццё – вось аснова ўсякага мастацтва і ўсякае прыемнасці. А ў роўнай меры дае здаваленне і эстэтычна прыемна вонкавае выяўленне ўнутранага жыцця».

* * *

Мы вывелі гэтае азначэнне КРАСЫ і МАСТАЦТВА, так сказаць, *генетычным метадам,* як найбольш рацыянальным пры разважаннях аб з'явішчы, якое тварылася тысячалеццямі. І з гэтым азначэннем зусім згаджаецца погляд Максіма Багдановіча на асноўныя праблемы КРАСЫ і МАСТАЦТВА.

У першым творы ў прозе «Музыка», надрукаваным у «Нашай Ніве» ў 1907 годзе, Максім Багдановіч дае абраз магутнага ўплыву КРАСЫ на душу чалавека. Як і Гюйо, наш Паэта разглядае эстэтычную эмоцыю як УЗВАРУШЭННЕ ЎСЯЕ ІСТОТЫ ЧАЛАВЕКА. Яно абыймае не якоесь адно чуццё, а ўсю душу, ды – залежна ад настрою – пабуджае дзеяльнасць чалавека ў тым ці іншым кірунку.

«Жыў на свеце музыка. Многа хадзіў ён па зямлі ды ўсё граў на скрыпцы. І плакала ў яго руках скрыпка, і такая была ў яго гранні нуда, што аж за сэрца хапала...

Плача скрыпка, льюць людзі слёзы, а музыка стаіць і выводзіць яшчэ жаласней, яшчэ нудней. І балела сэрца, і падступалі к вачам слёзы: так і ўдарыўся б груддзю аб зямлю ды ўсё слухаў бы музыку, усё плакаў бы па сваёй долі...

А бывала яшчэ й так, што музыка быццам *вырастаў* у вачох людзей і тады граў моцна, гучна: гудзяць струны, дзваніць рымка, бас, як гром, гудзіць і грозна будзіць ад сну, і завець ён народ. І людзі падымалі апушчаныя галовы, і гневам вялікім блішчалі іх вочы...»

Так. Бо ж эстэтычная эмоцыя выклікае «ВЫРАСТАННЕ» як тых, у кім яна збуджана, так і таго, хто гэтую эмоцыю сваім мастацкім творствам выклікае. І затым так горача адгукаліся на іграннe музыкі людзі, што слухалі яго, і сам ён вырастаў у іх вачох.

У гэтым уплыве на ўсю духовую існасць чалавека – *сутнасць* КРАСЫ.

КРАСА рассыпана ўсюды, – трэба толькі быць даволі чуткім на яе, трэба ўмець выкрываць яе. І наш Пясняр дае яркі доказ гэтага.

...«На цёмнай гладзі сонных луж балота», між пачарнелых каранёў чарота, сярод плесні і бруду, дзе «разводзіць гніль спякота», – расцвілі за снег бялейшыя чашачкі лілей. «Хоць там плыве парою слізкі змей, і ржаўчына ляжыць, як пазалота», – «а краскі ўсё ж не робяцца гразней». – «Цвятоў расістых чыстую красу» ўзгадавала «смуроднай жыжкаю» топкае багно...

Вось дзе вырасла краса! І Багдановіч заканчвае свой санет, у якім намаляваў гэты абраз, малітвенным заклікам,

... каб з літоўнасці стрымала
Тут смерць сваю нязвонкую касу

– у імя вырасшае з гнілі – *красы.*

У зграбным рандо ізноў апісвае наш Паэта красу, каторую «з'явіла гразь луж»: «вада балот, стаўкоў, вазёр» адбіла ў сабе частку зорнага неба. І хоць краса гэтая – толькі адбітак запраўднага хараства, якое родзе святло, – Багдановіч не можа моўчкі прайсці міма яе, не можа не ўвабраць у сваю чуткую душу гэты прыгожы абраз.

Але вышэй за гэныя абразы прыроды – КРАСА ДУХОВАЯ, якую носе ў сабе ЧАЛАВЕК. І з асаблівай любасцяй Багдановіч шукае яе і выкрывае там, дзе мо ніхто іншы і не пробаваў бы яе шукаць. Тут мы павінны адзначыць два вершы Багдановіча з цыклу «Мадонны».

Праходзячы ўлетку вясковай вулкай, Паэта спудзіў незнарок маленькага хлопчыка, які кінуўся па ратунак да свае нянькі-сястрычкі, дзяўчынкі гадоў васьмёх.

І вось, – апавядае Паэта, – дабраўшыся, ў падолак разам к ей
З трывожным голасам уткнуўся ён хутчэй;
І, як схіляецца ад ветру верх бярозкі,
Дзяўчынка к хлопчыку нагнулася і, слёзкі
Сціраючы яму, штось пачала казаць,
Каб заспакоіць плач, – зусім як быццам *маць*,
І саліваліся ў жывы абраз ядыны
Той выгляд мацеры ды з воблікам дзяўчыны –
Дзіцячым, цененькім; і ў гэты час яна,
Здавалася, была аж да краёў паўна
Якойсь шырокаю, радзімаю красою,
І, помню, я на міг *пахарашэў душою.*

Багдановіч у вобліку гэнае вясковае дзяўчынкі – «упэцканай, і хілай, і худой» – дагледзеў тую высокую духовую красу,

... што Рафаэль вялікі
Стараўся выявіць праз Маці Божай лікі.

І вось гэты прыпадкам дагледжаны ў вёсцы абразок, гэтая ўкрытая ў сялянскай дзяўчынцы духовая краса – так узварушылі Паэту, што ён лічыць апісаны прыпадак «лепшай страніцай у штодзённіку жыцця» і верыць, што ў цяжкі час – як *магутная падтрымліваючая сіла* – гляне на яго поўны хараства воблік гэнае дзяўчынкі.

Так дзеець запраўдная КРАСА.

Такі ж праблiск духовае красы ўлаўлівае Багдановіч і ў асобе Веранікі, маладзенькай гераіні паэмкі, названае яе імем.

Хто ж і як можа выкрываць КРАСУ, якая ўтоена ўва ўсіх, бадай, праявах жыцця? – На гэта, ведама, трэба быць мастаком, але і мастаку КРАСА не даецца так проста: і мастак можа выявіць КРАСУ толькі СВЯДОМАЙ ПРАЦАЙ.

Ведама, запраўдны мастак мусіць мець у сабе – побач з творчымі здольнасцямі – *вялікае духовае багацце,* каб было што выяўляць у ягоных творах. «Пекна спяваюць і жабы», – кажа ў адным вершу Багдановіч, гаворачы аб творчасці паэты; але гэта – не тая КРАСА, ад якое – як кажуць – *душа расце ў чалавека.* Сваю ўласную духовую КРАСУ, таксама, як і ўбіраную з вонкавага свету, мастак працай сваёй узвялічвае. І трэба думаць, што наш Паэта меў наўвеце перадусім самога сябе, калі ў ведамай сваёй «Эпістале» да п. Ластоўскага выступіў у абароне Сальеры, прадстаўленага Пушкіным у вельмі благім святле ў драме «Моцарт і Сальеры».

...здаецца мне, што тут
Сальеры атрымаў несправядлівы суд,

– кажа Багдановіч і дае вельмі характэрны для яго самога аналіз творства Сальеры:

Халодным розумам праняўшыся, натхненне
Ён мусіў тым губіць, – так кажа абвіненне.
Сальеры ў творчасці усё хацеў паняць,
Ва ўсім упэўніцца, усё абмеркаваць,
Абдумаць спосабы, і матар'ял, і мэту
І горача любіў сваю свядомасць гэту.
У творчасці яго раптоўнага няма:
Аснова да яе – спакойная дума.
Але, але... Аднак, што шкодзіць тут натхненню?
Прыемнае дае Сальеры уражэнне.

Падобны знічцы ён: у іскрах над зямлёй
Яна ўзразае змрок лукою залатой,
Гарыць, бліскучая, ўся ў агню нясецца,
А ў глыбіні сваёй халоднай астаецца.

Уменне да ігры Сальеры здабываў
Праз *мерны, нудны труд;* ці спраўдзі забіваў
Ён гэтым талент свой, як бачна з думак драмы?
Адкажа йскрыпка нам. Стаката, фугі, гамы
Шмат год калісь на ёй Сальеры вывадзіў
І моцна йграннем тым іскрыпкі зык змяніў.
Ямчэй яна гудзіць. Пявучых згукаў сіла
Праз доўгія гады яе перарабіла,
І тымі спевамі уся напоена
Навекі чулаю зрабілася яна.
Няўжо ж душы жывой маглі бы зыкі спева
Ў Сальеры не змяніць, калі змянілі дрэва?

Не! Працай гэтаю сябе ён развіваў.
Сальеры – верны раб, каторы не схаваў
Свой талент у зямлю. Хай судны час настане, –
Спакойна Музе ён і проста ў вочы гляне,
І будзе за любоў да здольнасці сваёй
Апраўдан Музаю і ўласнаю душой!

* * *

Таксама робіш ты, дума, і у паэта
Краснейшым кожны твор. Прывет табе за гэта!

Не менш выразна выказаў Багдановіч свой погляд на ТВОРЧУЮ ПРАЦУ мастака ў хораша стылізаваным на старадаўны лад «АПАВЯДАННЮ АБ ІКОННІКУ І ЗАЛАТАРУ, ЛЮДЗЯХ МУДРЫХ І КРАСАМОЎНЫХ, КНІГАЛЮБЦАМ НЕЙКІМ ДЗЕЛЯ СЛАВЫ БОЖАЙ ДЫ РАЗМНАЖЭННЯ ДАБРА ПАСПАЛІТАГА ВЫКЛАДЗЕНЫМ». Між Іконнікам і Залатаром у слаўным месце Вільні ідзе гутарка аб тых навінах у мастацкай працы, што йдуць у Беларусь з Захаду – у сувязі з маляваннем Сальватoрам Розай фрэскаў на сценах цэркваў полацкіх, аб чым ужо дайшлі весткі ў сталіцу. Іконнік стаіць на пункце гледжання старое школы, якая маляванне святых абразоў за службу Божую ўважала, не на выкананне, а на змест святы ўвагу зварачаючы. Залатар – паклоннік поступу ў мастацтве. «...Думку, быццам ікона ўсягды вялікшую вартасць ад іншага малявання мае, я за несправядлівую мушу ўважаць, – кажа ён. – Бо не тое, каго майстар малюе, а толькі тое,

*як* ён гэта робіць, толькі здольнасць і ўлежнасць яго могуць малюнку хвалу і каштоўнасць надаваць». І, дастаўшы із скрыні дзве срэбныя свечніцы, за прыклад іх падаў, гаворачы: «Роўную яны вагу маюць і з таго ж самага срэбра адліты былі, але ўсё ж такі адна з іх у семкроць больш другой каштуе, бо аздоблена з умеласцю надзвычайнай. Водлуг жа таго, што ўмеласць і здольнасць тыя толькі ў выглядзе рэчы, або, як іншыя цяпер кажуць, у форме яе з'явіць можна, прызнаць мы мусім, што каштоўнасць вырабаў прыгожых адно толькі праз красу іх форм узрастае, і толькі красою форм каштоўнасць тую мерыць можна».

Так на творчай ПРАЦЫ ўсё мастацтва сваё будаваў і Багдановіч, бо не было ў ім тэй выбуховай творчай сілы, якой надзяліла прырода мо шчаслівейшых за яго слуг Красы, што занялі першае месца на нашым Парнасе, як Купала і Колас, каторым так наздзіў лёгка ўсё даецца...

Што ж дае чалавеку ўзамену за ТВОРЧУЮ ПРАЦУ, за ТВОРЧЫ ВЫСІЛАК і МУКІ ТВАРЭННЯ – твораная ім КРАСА?

Максім Багдановіч у гэтым пытанні рэзка разыходзіцца з англійскай школай эстэтаў другое паловы XIX сталецця (Спэнсэр, Грант-Ален), якая зачатак красы бачыць у ЗДАВАЛЕННІ ад дасягненае КАРЫСЦІ. Паводле думкі Багдановіча, КРАСА па-за эстэтычнай эмоцыяй, якая павышае ў нас жыццёвы тонус, не дае ніякае іншае карысці. Вось як гаворыць аб гэтым сімвалічна наш Паэта ў маленечкім васьмірадковым вершыку свайго «ВЯНКА»:

Сеў хлопчык з шкляначкай ля вулічнага ганку
І выдувае з мыла пузыры.
Вясёлкаю гарацъ яны ў зіянні ранку,
Ўзлятаючы ў паветра дагары.

І, заварожаны шматфарбнаю красою,
Са спрытнасцю і хцівасцю ката
Хапае хлопчык іх няжорсткаю рукою,
А застаецца ў ёй – адна слата.

Хто не здаволіцца ЗАВАРОЖАННЕМ АД КРАСЫ, хто выцягне руку па нейкую КАРЫСЦЬ, той і красу загубіць, і карысці не дасягне. Такі сэнс вершыка...

Але йшчэ больш выразна выказвае Багдановіч свой погляд на гэтае пытанне – некалі такое спрэчнае (спрэчка паміж англійскай школай і французскай) – у сваім «АПОКРЫФЕ», як быццам запраўдным ЕВАНГЕЛЛІ МАСТАЦТВА.

...Хадзіў па зямлі Беларускай Хрыстос і з ім святы Пётра і святы Юры. Было гэта ў час жніва, калі ўсе людзі цяжка працавалі ў полі. Дык ніхто не зварачаў на іх увагі.

«7. Толькі музыка, катораму цяпер не было што рабіць, падышоў да

іх і сказаў: сорамна мне, бо сягоння – дзень працы, і ўсе клапочуцца каля яе; адзін я нікчэмны чалавек.

8. І адказаў яму Ісус: не смуціся ў сэрцы сваім. Ці ж не твае песні спяваюць яны цяпер у часе жніва? Таму не схіляй нізка галавы твае і не хавай твар свой ад вачэй людскіх.

9. Бо няма праўды ў тым, каторы кажа, што ты – лішні на зямлі. Запраўды кажу я табе: вось надыдзе да яго гадзіна горычы – і чым ён разважыць смутак свой, апрыч песні твае? Таксама і ў дзень радасці ён прызавець цябе.

10. І, навучаючы яго, казаў: пад песні кладуць чалавека ў калыску і са спевамі ж апускаюць у магілу яго.

11. Штодзённымі клопатамі поўна людское жыццё. Але, калі зварухнецца душа чалавека, толькі песня здолее спатоліць яе. Шануйце ж песні свае.

12. Бо спяваюць нават жабы ў багне. А ці ж не лепшымі будзеце вы ад іх?

13. Так вучыў Хрыстос. Але Пётра, пачуўшы яго словы, сказаў: Вучыцелю, у гэтай старонцы ёсць людзі, каторым няма чаго есці. Ці ж не сціснецца ад сораму сэрца гэтага чалавека, калі ён да іх, шукаючых скарынкі хлеба, прыйдзе з песняй сваёй?

14. І, адказываючы яму, сказаў Хрыстос: так, жыццё гэтых людзей цяжкае, беднае і прыгнечанае. Чаму ж ты хочаш яшчэ і красу адабраць у іх? Мала дадзена ім – няўжо ж трэба, каб было яшчэ менш?

15. І, звярнуўшыся да музыкі, спытаў яго: калі пяюць песні ў вас?

16. Музыка ж адказаў: пяюць на Каляды, на запускі, на Вялікдзень, на Тройцу, на Яна Купалы, у Пятроўкі, на зажынках і дажынках.

17. Пяюць на радзінах і на хрэсьбінах, пяюць, дзіцё калыхаючы, і самі дзеці пяюць гуляючы; пяюць на ігрышчах і вечарынках, і на вяселлях, і на хаўтурах, і ў бяседзе, і ў працы, і ў маскалі йдучы, і ўва ўсякай іншай прыгодзе. Так скрозь увесь год пяюць.

18. І прамовіў Хрыстос Пятру: ты, шкадуючы долі галодных людзей, асудзіў песню, але галодныя людзі не асудзілі яе. Жыва яшчэ душа ў народзе гэтым.

19. Тады ізноў сказаў Пётра: але няхай жа ў песнях будуць думкі добрыя і паўчаючыя, каб, апрыч красы, меўся ў іх і спажытак чалавеку.

20. І адказаў яму Хрыстос: няма красы без спажытку, бо *сама краса і ёсць той спажытак дзеля душы.*

21. І, навучаючы іх, прамовіў: агляніцеся навокал! Ці ж не ніва калыхаецца каля нас?

22. Цяжка працаваў ля яе гаспадар і вось бачыць: паміж збожжа ўзраслі васількі.

23. І сказаў ён у сэрцы сваім: хлеб адбіраюць у мяне гэтыя сінія кветкі; бо поўныя вагі каласы маглі бы ўзрасці на месцы васількоў.

24. Але яшчэ з маленства краса іх прыйшлася мне да душы. Таму я не

вырву з каранём іх, як усякае благое зелле. Няхай растуць і радуюць, як у маленстве, сэрца маё.

25. Так казаў гаспадар у сэрцы сваім і думках сваіх. І не падняў ён рукі на васількі.

26. Я ж гавару вам: добра быць коласам; але шчасліў той, каму давялося быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?

27. І, кажучы так, пачуў Ён песню жнеек, і прамовіў: слухайце, што кажуць словы гэтай песні. Яе складалі людзі, каторыя ведаюць, чаго варты хлеб.

28. Яны ж пачулі, што словы тэй песні кажуць: няма лепш цвяточка ад васілёчка...»

Такім мастацкім абразом высказаў Багдановіч свой погляд на пытанне аб карысці ад КРАСЫ.

Ясна, што, маючы задачай быць «СПАЖЫТКАМ ДЗЕЛЯ ДУШЫ», даваць ЭСТЭТЫЧНУЮ ЭМОЦЫЮ і гэтым выклікаць у нас РОСТ ДУШЫ, – КРАСА НЕ МОЖА СЛУЖЫЦЬ ІНШЫМ БАГАМ. І мастаку зусім усё роўна, хто будзе карыстацца яго творам і заклятай у ім КРАСОЙ. Дык добра кажа Багдановіч вуснамі знаёмага ўжо нам залатара АНТОНА КАРЖА: «...я, хрысцянін не згоршы ад іншых, рэчы свае выробляючы, адно толькі красу формы пільную ды не думаю аб тым, на што нанізкі залатыя мае пойдуць: ці то на аздобленне фігуры Маткі Боскай, або піяка і распуснік які на пакрасу сваю ўжываць іх будзе».

Як жа – мо хто спытаецца – пагадзіць гэтае выключнае служэнне КРАСЕ з тым, што ў творах Багдановіча сустракаем і вельмі яркія грамадскія – адраджэнскія матывы? – Ды вельмі проста: бо ж мастацтва як спосаб САМАВЫЯЎЛЕННЯ МАСТАКА выяўляе і ўсе ягоныя ІМКНЕННІ, ПАРЫВАННІ, ІДЭАЛЫ. Грамадскія матывы, заклікі, ідэалы могуць складаць ЗМЕСТ мастацкага творства, могуць служыць магутным ПАБУДЖЭННЕМ да тварэння, але *не могуць дыктаваць сваіх законаў КРАСЕ.* І мастацтва, якое – маючы перад сабой тыя ці іншыя грамадскія мэты – забылася бы хоць на адзін момант аб тым, што істотай яго з'яўляецца буджэнне ЭСТЭТЫЧНАЕ ЭМОЦЫІ, такое мастацтва ўтраціла бы адразу і ўвесь свой сэнс, і сваю чарадзейскую сілу, што прымушае мацней біцца сэрцы людскія, і сваю ўладу над душамі.

* * *

ЧЫСТАЙ КРАСЕ, нікому і нічому не пакараючайся, з поўнай свядомасцяй служыў Максім Багдановіч. І за тое, што праз усё сваё жыццё верным СЛУЖКАЮ ЯЕ аставаўся, чэсць і хвала светлай памяці яго!

*Яўхім КАРСКІ*

# М. А. БАГДАНОВІЧ. БЕЛАРУСКІ ПАЭТА ЧЫСТАГА МАСТАЦТВА

Сын вядомага ў беларускай этнаграфічнай літаратуры бадача, Максім Багдановіч бліснуў светлай зоркай на небасхіле беларускай літаратуры і знікнуў назаўсёды, падточаны сухотамі 12 мая 1917 г., маючы ўсяго 26 год. Хаця радзіўся ён на Беларусі (у Горадзенск. губерні), але яшчэ вельмі малым трапіў з бацькамі ў глыб Велікарусіі (Ніжні Ноўгарад) і злажыў свае сумуючыя косці ў процівалеглым, але не менш далёкім ад радзімай зямлі краі – у Ялце. Але, атрыманае ў спадчыну ад бацькоў, беларускае сэрца назаўсёды звязала яго з бацькаўшчынай, якой ён служыў сваім словам у працягу 8 год.[1]

Распачаў ён сваю паэтыцкую творчасць вершамі ў «Нашай Ніве», з якіх большасць пасля была перадрукованая ў томіку «Вянок. Кніжка выбраных вершаў» (Вільня, 1913, $16^0$, 117).

Апрача вершаў, надрукованых у «Вянку», а гэтаксама змешчаных у розных беларускіх выданнях і пасля[2], яго пяру належаць яшчэ і празаічныя творы, напр. легенда ў «Каляднай пісанцы»; ёсць у яго

[1] Гл. некралог, напісаны З. Бядулем у “Вольнай Беларусі” № 1 за 1917 год.

[2] Санет («НН», 1914, № 4), Эміграцкая песня (Ib., № 17), Ты доўга сядзела за сталом (Ib., 21-22), Ой лясы-боры, ды лугі-разлогі («НН», 1915, № 3), Цёмнай ноччу лучына дагарала (Ib., 3), Я хацеў бы спаткацца з вамі на вуліцы (Ib., 7), Мушка-зелянушка і камарык-насаты тварык. Вельмі жаласная гісторыя, выкладзеная згодна з праўдай беларускім вершам (Ib., 18), Мяжы (Ib., 28), Сярод вуліцы у нас карагод (Ib., 29-30), Як Базыль у паходзе канаў (Ib., 31), Пагоня (Вольная Беларусь, 1917, № 32), надрукована ўжо па смерці аўтара, Максім і Магдалена (Вольная Беларусь, 1918, № 3), Народ, беларускі народ (Беларускае жыццё, 1919, № 2), Варажба (Ib., № 3), Просценькі вершык (Ib., № 4).

і крытычныя допісы, якія напісаны літаратурнай расійскай мовай у розных журналах аб беларускім руху; ён пісаў і ў «Украинской Жизни» аб рытміцы розных украінскіх паэтаў.

Беларускія творы, якія нас цікавяць, вельмі разнастайныя па свайму зместу. Тут, раней усяго, разгледзім вершы, якія маюць біяграфічны характар (стр. 78).

Даўно ўжо целам я хварэю,
І хвор душой, –
І толькі на цябе надзея,
Край родны мой!
У родным краю ёсць крыніца
Жывой вады.
Там толькі я змагу пазбыцца
Сваёй нуды.
Калі ж у ім умру-загіну, –
Не жалюсь я!
Не будзеш цяжкая ты сыну
Свайму, зямля…

Прадчуванні паэты споўніліся, але толькі прыняла яго чужая зямля. Сумныя думкі аб смерці прабіваюцца ў другіх яго вершах, напр., у гэтым (89):

Шмат у нашым жыцці ёсць дарог,
А вядуць яны ўсе да магілы.

Паэта сумуе тут, што мы ў жыцці дарэмна трацім нашы сілы, часта апошнія, дарэмна спяшаемся, усё роўна:

Калі ціха паўзучы чарвяк
Ўсё ж дагнаў нас ля самай магілы.

Ёсць вершы, што характарызуюць погляд паэты на адзнакі вершаў. Зместам яны павінны быць нават ядавітымі, калі гэтым спосабам можна ўхіліць недахваты (82):

Я думы, путамі не скутыя,
Тут перад вамі вываджу,
А проці ганення кажу:
Хваробы лечаць і атрутамі.

Формаю вершы павінны быць гібкія, але цвёрдыя, як сталь (81):

Ведай, брат малады, што ў грудзях у людзей
Сэрцы цвёрдыя, быццам з камення.
Разаб’ецца аб іх слабы верш заўсягды,
Не збудзіўшы святога сумлення.
Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба з цярпеннем.
Як ударыш ты ім – ён, як звон, зазвініць,
Брызнуць іскры з халодных каменняў.

Па зместу паэзія М. Багдановіча надта разнародная. Сярод яго вершаў мы маем і гэткія, што зближаюць яго з іншымі беларускімі паэтамі. Тут назавём тыя з іх, у якіх выражаецца сумнае пачуццё, гора і жальба з прычыны беднай беларускай прыроды, цяжкага становішча беларусаў. Сюды належаць, напр., «Краю мой родны» (62).

Краю мой родны! Як выкляты Богам –
Сколькі ты зносіш нядолі.
Хмары, балоты… Над збожжам убогім
Вецер гуляе на волі.
Поруч раскідаліс родныя вёскі.
Жалем сціскаюцца грудзі! –
Бедныя хаткі, таполі, бярозкі,
Ўсюды панурыя людзі…
Кінь толькі вокам да гэтага люду –
Сціснецца сэрца ад болю:
Столькі пабачыш ты гора усюды,
Столькі нуды без патолі…

Гэтыя слёзы і гора не пакідаюць паэту нідзе. І васеннія кветкі здаюцца яму пранятыя (24):

Тугою, горам, слязінкамі лета.

Бачыць ён гора і ў душах тых, хто схаваны ад нас у падзямельныя норы (85):

К тым, каго жыццё заціснула глыбока
Ўніз, у норы падзямельныя пад Вамі,
Вы, панове, хоць і бачыце далёка,
Загляніце ў душы – студні са слязамі.

Дзякуючы цяжкім акалічнасцям, якія абкружаюць паэту, ён і ў сваім жыцці не бачыць пэўнай цэлі для працы (87).

Ў душы гарыць агонь нуды, – пануры, чорны.
Ці мне крыніцай слёз сваіх яго заліць
І плугам цяжкага мучэння сэрца ўзрыць? –
Мо ўзойдуць там надзеі зёрны!..
Куды ж ісці і што рабіць?

Аднак жа паэта не даходзіць да поўнай роспачы (22):

Кіньма жа думкі аб долі гаротнай,
Хоць бы на момант спачынем душой!

Злучае Багдановіча з другімі беларускімі пісьменнікамі і падбор абразоў з беларускае прыроды і жыцця. Гэтак, хочучы выразіць сваё пачуццё, выкліканае разлівам вады ўвясною, ён уяўляе сабе беларускія рэкі (80):

Прыпадыме бацька-Нёман
На хрыбце магутным лёд.

Дзеля апісання ўражанняў места ён спыняецца на Вільні (51-52). Беларуская простая песня хапае яго за сэрца (40):

І снуюцца сумна ў сэрцы,
Ўюцца адгалоскі
Горкай песні, простай песні
Беларускай вёскі...

Беларускія забабоны і легенды знайшлі адбітак у яго вершы «Змяіны цар» (13).

Надта цікавыя п’есы, злучаныя пад загалоўкам «Старая Беларусь» (41-45), надрукаваныя яшчэ раней у зб. «Нашае Нівы» № 2. Пачынаюцца гэтыя вершы з апісання летапісца, надта добра (але толькі па замыслу) пераймаючага пушкінскага Пімена – летапісца ў «Барысе Гадунове». Вось яго пачатак (22):

Душой стаміўшыся ў жыццёвых цяжкіх бурах,
Свой век канчаю я у манастырскіх мурах
І пільна летапісь другі ўжо год пішу:
Старанна літары малыя вываджу
І спісваю усё ад слова і да слова
З даўнейшых граматак пра долю Магілёва...

Цэль яго пісання:

Хай тыя ведаюць, што з'явяцца па нас,
Ўсю праўду пра жыццё у наш і пройшлы час,
Пра войтаў, лаўнікаў, і райцаў, і паспольства,

Пра розных каралёў, і бітвы, і пасольства,
Што тут чынілася ў даўнія гады,
Што думалі, чаго жадалі мы тады,
За што змагаліся, як баранілі веру…

Заместа Грыгора выведзен перапісчык, які, перапісваючы летапісь, аздабляе яе ўсялякімі застаўкамі і канцоўкамі дзіўна-прыгожага стылю. Канчаецца сцэна гэтаксама, як і ў Пушкіна (24):

…нячутна дзень праходзіць;
Ўжо хутка будзе ноч, і першая гвязда
Благаславіць канец прыгожага труда.

У анталагічным стылі верш «Слуцкія ткачыхі», які пераносіць нас у часы прыгону, калі паны набіралі ў двары дзяўчат з вёскі:

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.

Хаця ім прыходзілася вышываць і персідскія ўзоры, усё ж такі –

І тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж персідскага узора,
Цвяток радзімы васілька.

Тут жа і эпіграма на рукапіс псалтыру 1600 г., перапісаны ў Ваўкавыску дзякам Гапонам.

Але паэзія М. Багдановіча не абмяжоўваецца толькі тым, што ёсць у беларускім жыцці, і ўся пранята сумным тонам: ён разглядаў і агульналюдскія матывы і рысаваў іх як паэта сапраўднага мастацтва для мастацтва. Праўда, гэтыя творы невялікія, але іх даволі многа, надта прыгожыя формай, надта разнавідныя сваім размерам і зместам. Як відаць, Багдановіч лёгка ўладаў вершам і быў сапраўдным паэтам. Гэтыя маленькія яго п’есы могуць смела насіць назву анталагічных вершаў. Яны, быццам пахучыя кветкі цудоўнага вянка, які аўтар пакінуў на памятку патомству. Сам ён раўнуе іх з лісткамі вянка (5):

Засушыў я на паперы
Краскі, свежыя калісьці,
Думак шчырых і чуцця.

Асабліва шмат гэткіх вершаў у аддзеле «У зачарованым царстве». Вось прыклад (9):

Чуеш гул? – Гэта сумны, маркотны лясун
Пачынае няголасна граць:
Пад рукамі яго, навяваючы сум,
Быццам тысячы крэпка нацягнутых струн,
Тонкаствольныя сосны звіняць.
Ці казаць, ад чаго пацямнела рака,
Зашамрэлі мацней каласы
І аб чым шэпча ім галасок вецярка,
Што зіяе-дрыжыць на лісцёх лазняка:
Кроплі слёз ці халоднай расы?

Або вось як рысуецца бура:

Панурая, вялізная жывёла
Па шыры неба ў даль марудна праплывае.
Ўсё сціхла. Але вось паветра рассякае
Агністы меч і зіхаціць вясёла.
Ударыў ён – і грукат пракаціўся;
Мігае грозны меч, удары не сціхаюць.
І ўніз халодныя бічы крыві сцякаюць,
А людзі кажуць: гэта дождж праліўся.

Гэткі самы прыгожы верш без назвы аб мыльных булбатках (56), гэткі ж верш без назвы аб Анакрэоне, – бацьку падобнага гатунку твораў, які мае ўплыў на нашага аўтара (75).

Бледны, хілы, ўсё ж люблю я
Твой і мудры і кіпучы верш, Анакрэон!
Ён у жылах кроў хвалюе,
Ў ім жыццё струёю плешча, вее хмелем ён.
Верш такі – як дар прыроды,
Вінаграднае, густое, цёмнае віно:
Дні ідуць, праходзяць годы, –
Але ўсё крапчэй, хмяльнее робіцца яно.

Верш М. Багдановіча надта багаты формамі, добра апрацаваны і прымерны. У яго можна знайсці прыклады ўсякіх размераў, – такіх складаных, як гекзаметры з пентаметрамі. Вось прыклад (90):

З нізкага берагу дно акіяна вачам недаступна, –
Глуха укрыла яго сіняя цемень вады.
Але ўзбярыся ўгару на вяршыну прыбрэжнай страмніны, –
Кожны каменьчык на дне, пэўна, пабачыш ты стуль.

У яго ёсць і прыгожыя санеты (92, 93), трыялеты (94, 95), рандо (96), актавы (97), тэрцыны (98). Вершы яго можна спяваць як раманс.

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прывяла…
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла…

І празаічныя артыкулікі Багдановіча ідэёвыя. Гэтак у «Музыку» («Н.Н.» 1907, № 24) выводзіць ён дзіўнага музыку-паэту: калі ён заіграе, «плача скрыпка, льюць людзі слёзы… і балела сэрца, і падступалі к вачам слёзы: так і ўдарыўся б грудзьмі аб зямлю, ды ўсё слухаў бы музыку, усё плакаў бы па сваёй долі». Прабавалі іграць і другія, але не маглі гэтак іграць, бо ён усю душу сваю ўкладаў у ігру: «душа яго знала ўсё тое гора, што бачыў ён па людзях; гэта гора грала на скрыпцы, гэта яно вадзіла смыкам па струнах, і ніводзін сыты не мог так іграць, як грала народнае гора».

Што тычыцца мовы М. Багдановіча, дык гэта чыстая, жывая мова. У гэтым яго сапраўднае хараство. Няма ў яго мове штучна прыдуманых слоў, няма ў ёй і надзвычайных слоў, калі не лічыць гэткімі ўзятыя з дзіцячае гутаркі «бомы»[3] (гэтае ж слова ёсць у Міцкевіча-Коласа), «бомамі» (27, 28 і др. замест «званкі»). Паэтычнае пачуццё відаць і ў тым, што М. Багдановіч не ўжывае надмеру акання, ад каторага мова робіцца расцяглая і ўтомна аднолькавая.

De mortius aut bene aut nihil… Але аб М. Багдановіча можна зусім праўдзіва сказаць, што, калі б яго жыццё прадоўжылася, мы мелі б у ім першага значэння паэту з філасофскім светапаглядам.

[3] Бома – рычаг, кол, якім падважваюць калоды ці што іншае, вельмі цяжкае. (Заўв. рэдакцыі.)

*Міхайла ПІЯТУХОВІЧ*

# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ ЯК ПАЭТА ІМПРЭСІЯНІСТЫ

Максім Багдановіч, 6 гадоў таму назад без пары пагасшы пад блакітным небам прыгожага, але далёкага Крыма, – гэты малады і шмат абяцаўшы талент займае ў гісторыі беларускага пісьменства асобнае месца, якое перш ад усяго азначаецца яго пахаджэннем і асаблівымі абставінамі яго жыцця.

Песняры Беларусі ў большай сваёй частцы паходзяць з класа сялянскага альбо пралетарскага; наш паэта па свайму пахаджэнню належыць да паміжкласавай групы працоўнай інтэлігенцыі (бацька яго быў настаўнікам гімназіі). Далей большая частка паэтаў Беларусі набывала развіццё шляхам самаадукацыі; крыніцамі іх натхнення служыла блізкасць да народнай глебы; ад дотыку да гэтай глебы яны атрымоўвалі сваю моц і сілу. Жывучы на ўлонні прыроды, першыя свае песні яны складалі ў унісон з завываннем глухога беларускага бору, укалыханыя ціхім шопатам родных ніў, зачараваныя сумнымі, хапляючымі за душу мелодыямі родных песняў… Зусім інакш склаўся жыццёвы лёс М. Багдановіча. Ён атрымоўвае сістэматычную адукацыю, набывае веду амаль што ўсіх еўрапейскіх моваў, грунтоўна знаёміцца з творамі карыфеяў сусветнай літаратуры. У якасці эпіграфаў да сваіх твораў наш паэта часта прыводзіць у арыгінале выпіскі з Дантэ, Hugo, Верлена, Гейнэ, Пушкіна, Брусава і інш. Гэтак шырок быў літаратурны кругавід М. Багдановіча.

Зусім іншыя, чым у большасці беларускіх паэтаў, былі і надворныя ўмовы яго жыцця. Лёс надта рана, яшчэ ў дзіцячыя гады, адрывае яго ад роднай глебы Гарадзеншчыны і ставіць яго ў абстаноўку гарадскога жыцця. М. Багдановіч выхоўваецца спачатку ў Ніжнім Ноўгарадзе, а потым у Яраслаўлі. Замест сталага, вякамі ўтворанага быту беларускай вёскі,

з якой звязана муза большасці беларускіх паэтаў, песняра акружае пстрыкаты быт буйных гандлёвых цэнтраў Паволжа; замест аднастайных уражанняў вясковага жыцця ён з маленства ўспрымае, праймаецца ўражаннямі кіпучага жыцця горада з яго нервовасцю, шматкалёрнасцю, рухавасцю… У вёсцы, дзе выхоўваліся Янка Купала, Якуб Колас і іншыя песняры Беларусі, жыццё цячэ павольна, адліўшыся ў пэўныя формы, закасцянеўшы ў рамках традыцыі вякамі складаўшагася быту. Як на паверхні соннага ляснога возера ледзь заметны хвалі гэтага жыцця, ад усяго тут вее супакоем і цішшу, усё нахіляе тут да ціхай задуманасці, разважанасці. Атмасфера места зусім іншая. З кінематаграфічнай хуткасцю тут адны праявы змяняюцца другімі, бурляць і пеняцца тут хвалі жыцця, душа не паспявае тут перарабляць усіх надворных уражанняў, яны коўзаюцца на яе паверхні, адны ўступаючы месца другім. У гэткай атмасферы жыў М. Багдановіч, асабліва ў Ніжнім Ноўгарадзе. Перад ім не адзін раз прайшоў шумны Ніжагародскі кірмаш з яго нервовасцю і кіпучасцю. Першыя паэтычныя замыслы ў душы М. Багдановіча спелі не пад салодкія пералівы беларускага салаўя, а пад аглушаючы шум трамваю, пад штучным святлом газу і электрычнасці замест бледнага беларускага месяца.

Рознасць умоваў жыцця парадзіла ў Максіма Багдановіча і асобнасць яго літаратурнага кірунку ў параўнанні з іншымі беларускімі паэтамі.

Пануючы напрамак у беларускай літаратуры – гэта рэалізм. Беларускія пісьменнікі і паэты шырокаю кісцю малююць родную прыроду, жыццё роднай вёскі. Ад гэтых малюнкаў вее араматам скошанай сенажаці, яны дышуць супакоем той векавой ідыліі, якую яны адбіваюць сабой. Іншы характар мае муза М. Багдановіча. Гэта – нервовая муза горада, яна не ведае супакою і цішы, яна ўся – рух і зменчывасць. У той час, калі беларускія паэты-народнікі шырока абхапляюць жыццё; у той час, калі іх малюнкі паходзяць на шырокія палотны Рэмбрандта, – Максім Багдановіч дае толькі бягучыя накіды рэчавітасці, адбівае асобныя яе мігі, змяняючыяся і ўступаючыя сваё месца іншым мігам і ўражанням. Там статыка жыцця, тут – яго дынаміка. Там – рэалізм, тут, у М. Багдановіча – імпрэсіянізм, фіксаванне асобных мімалётных мігаў і ўражанняў.

У зборніку вершаў М. Багдановіча ёсць асобны аддзел, азаглаўлены – «Нізка вершаў… Места». Тут паэта рысуе праявы гарадскога жыцця, але тут няма шырокіх малюнкаў гэтага жыцця – дадзены толькі лятучыя мазкі кісці.

Ліхтарняў свет у сіняй вышыне…
Вітрынамі зіяючыя крамы,
Кавярні, мора вывесак, як плямы,
Анонсы і плакаты на сцяне.

Кіпіць натоўп на жорсткім вулак дне!
Снуюць хлапцы, суюшчыя рэкламы…
Разносчыкі крычаць ля кожнай брамы…
Грук, гоман, гул, – усё ракой імкне.
А дальш – за радам кас, ламбардаў, банкаў
Агні вакзала… Павадка фурманкаў…
Віры людзей… Сіпяшчы паравоз…
Зялёны семафор… пакгауз… склады…
Заводаў коміны пад цьмой нябёс…
О, горада чароўныя прынады!

Альбо вось, напрыклад, другі шэраг гарадскіх уражанняў:

Ад спёкі пышуць дахі і асфальт,
На вулцы ўецца пыл, і грукаціць фурманка;
«Каробушку» пяе дзіцячы альт,
І надрываецца абрыдлая шарманка.
Хаця бы крышку часу адпачыць!
Мо на бульвар пайсці, сесць на далёкай лаўцы,
Здрамнуць, газету свежую купіць
І прачытаць усё да імені выдаўцы?

Гэты прыём фіксаваць мімалётныя ўражанні мясцовага жыцця нагадвае ўсім вядомую манеру Бадлера, Верхарна і інш.

Але не толькі як апісальнік гарадскога жыцця М. Багдановіч выступае прад намі ў якасці паэты імпрэсіяністага. Гэта манера творчасці ў яго з'яўляецца пануючай, яна вытрымана ў яго амаль што ўсюды.

Калі наш паэта кідае свой погляд на гістарычнае мінулае айчыны, то ён ніколі не дае нам шырокіх малюнкаў гэтага мінулага. Мы не знойдзем у яго ніводнага твора, які бы хоць здалёку напамінаў нам купалаўскае «Над Нёманам», дзе дадзена шырокая панарама гістарычнай беларускай прошласці, ахопленай з многіх бакоў. М. Багдановіч і ў гэтай вобласці застаецца пэўным сабе. У яго абрысоўцы малюнак мінулага Беларусі разбіваецца на цэлы шэраг асобных дробных кавалачкаў, ён дае нам асобныя мініяцюры, узятыя з гэтай прошласці.

Вось, напрыклад, наш паэта рысуе нам вобраз летапісца-чарняца, які, зачыніўшыся ў манастырскіх мурах, другі год ужо працуе над складаннем летапіса. Адзіная мэта яго жыцця – перадаць патомкам праз паперу аб роднай зямлі:

Што тут чынілася у даўнія гады,
Што думалі, чаго бажалі мы тады,
За што змагаліся…

Думкі аб значэнні летапісаў для патомкаў разгарняюцца тут у суб'ектыўны сімвалічны вобраз: летапіс падобны той вестцы, якую ўтапаючыя ў моры людзі шлюць аб сабе ў лісце, апушчаным у бутэльку. І вось –

Рыбалкі вылавяць бутэльку, разаб'юць,
І, як трапляецца, быць мо у ёй знайдуць
Ліста…
І людзі зведаюць аб прадзедах сваіх,
Аб горы, радасцях і аб прыгодах іх,
Каму маліліся, чаго яны шукалі,
Дзе на глыбокім дне іх крыюць мора хвалі.

Трэба сказаць, гэты сімвал напамінае нам аналагічны вобраз французскага рамантыка Альфрэда дэ Віны, які ў творы «La bouteille a la mer» развівае параўнанне чалавечай думкі з бутэлькай, кінутай у мора.

У тым жа аддзеле вершаў пад назвай «Старая Беларусь» паэта даў і іншыя беглыя накіды мінулага Беларусі. Вось прад намі абрысоўваецца фігура перапісчыка, які ноч і дзень заняты сваёй працай:

На чыстым аркушы, прад вузенькім вакном,
Прыгожа літары выводзіць ён пяром,
Ўстаўляючы паміж іх чорнымі радамі
Чырвоную страку; усякімі цвятамі,
Рознакалёрнымі галоўкамі звяроў
І птах нявіданых, спляценнем завіткоў
Ён пакрашае скрозь – даволі ёсць знароўкі –
Свае шматфарбныя застаўкі і канцоўкі.
І загалоўкі ўсе – няма куды спяшыць!

Перапісчык-мастак надта захоплены працэсам сваёй працы; ён не заўважае нічога, што робіцца навакол яго, ён не прымячае, што з увасходам сонца ўся прырода ажывае:

Светла сонца
Стаўпамі падае праз вузкае аконца,
І круціца у іх прыгожы, лёгкі пыл;
Як сіняваты дым нявідзімых кадзіл,
Рой хмарачак плыве; шырокімі кругамі
У небе ластаўкі шыбаюць над крыжамі,
Як жар гарашчымі, а тут, каля акна,
Малінаўка пяе, і стукае жаўна.
І зноў ён схіліцца, застаўку зноў выводзіць

Нияркім серабром; нячутна дзень праходзіць;
Ўжо хутка будзе ноч, і першая гвязда
Благаславіць канец прыгожага труда.

Вобразы летапісца і перапісчыка змяняюцца вобразам слуцкіх ткалляў… Яны адарваны ад родных ніў, ад роднай хаты і ўзяты на панскі двор, дзе пад прымусам займаюцца тканнем паясоў на персідскі лад. За цяжкай аднастайнай працай успамінаецца ім родная абстаноўка. У іх памяці ўсплывае радзімая ніва, хвалі срэбранай рэчкі, цямнеючы бор. Успаміны ўзварушваюць душу паднявольных працаўніц, і паэта схапляе самы жаласны і драматычны момант, калі ў іх

Тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж персідскага узора,
Цвяток радзімы васілька.

Беларускі пясняр, такім чынам, выяўляе здольнасць інтуіцыйна схапіць і мастацка прадставіць нам унутраны бок людзей прошлага: яму даступны перажыванні старажытнага летапісца і перапісчыка, ён умее заглянуць у душу невядомых слуцкіх ткалляў і ў гэтай душы заўважыць бессвядомыя смутак і журбу па родным і далёкім.

Як апісальнік прыроды, М. Багдановіч гэтаксама не дае нам шырокіх пейзажаў; ён зарысоўвае толькі асобныя штрыхі і галоўным чынам іх суб'ектыўнае праламленне ва ўласнай душы.

Паэта падслухоўвае гул танкаствольных соснаў у лесе, яму здаецца, што «гэта сумны, маркотны лясун пачынае няголасна граць», і пясняр спяшаецца ў пекным вершы падзяліцца з намі сваім уражаннем… Адзінокае возера, якое калісь акружаў глухі бор, наводзіць паэту на думку, што гэта след лесуна, які знік разам з зніштажэннем бору, але пакінуў сваё люстэрка-возера, хаваючае ў сваёй глыбіні ўсё, што згінула даўно.

Сонная рэчка, на беразе якой над вадой «ціха спіць асока, ды лаза зялёная жаліцца-шуміць», сваёй цішынёй навявае ўражанне, быццам тут на дне між цінай спіць вадзянік – і зноў усяго ў дзвюх строфах паэта адбівае сваё суб'ектыўнае ўспрыманне.

Гэтак з кінематаграфічнай хуткасцю ў паэты адны ўражанні прыроды змяняюцца другімі і, пратварыўшыся ў суб'ектыўныя яго адчуванні, ствараюць ілюзію, што мы сапраўды знаходзімся ў зачараваным царстве. Апраўдваецца назва, якую паэта дае нізцы вершаў, пасвячоных беларускай прыродзе.

Уся дзейнасць, гэткім чынам, у вачох паэты раскладаецца на шэраг асобных момантаў, мігаў, якія ён, як сапраўдны імпрэсіяніст, і зарысоўвае ў сваіх мініяцюрах.

Але ўражанні і адчуванні рэчавістасці наогул вызначаюцца сваім багаццем, шматкалёрнасцю, пералівам фарбаў, усе тонкія адценкі каторых наша слова часта бывае бяссільна абрысаваць. Адсюль вынікла для імпрэсіянісцкай паэзіі патрэба карыстацца сродкамі суседніх мастацтваў – музыкі і малярства.

М. Багдановіч з захапленнем цытуе выраз Верлена «de la musique avant toute chose», і ў сваёй творчасці ён пацвярджае гэты лозунг. У беларускага песняра часта злучэнне гукаў, самы рытм перадае настрой, тэму верша. У гэтых адносінах сапраўдны дыямент мастацтва ўяўляе яго «Завіруха».

У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе.
І спеў ліецца ўсё мацней, –
Гулянку справіў пан Падвей.
У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе.
Ўскіпела снежнае віно,
І белай пенай мкне яно.
У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе.
Па вулках вее дзікі хмель,
Гудзіць сп'янелая мяцель.
У бубны дахаў вецер б'е.
Грыміць па ім, звініць, пяе.

Тут самыя гукі і рытм перадаюць тэмп завірухі. Гэты прыём музыкальнай лірыкі збліжае нашага паэту з Верленам, Верхарнам і, асабліва, з Бальмонтам, які надта часта ўжывае ў вершах сродкі музыкі.

З другога боку, шмат вершаў Багдановіча вызначаецца такой пластычнасцю і канкрэтнасцю вобразаў, якая радніць іх з малярствам.

Туман, падымаючыся над возерам, гэта не туман, а срэбраныя сецi, якія цягне ў вышыню «белы заплаканы» месяц і ў якіх русалкі заблуталі свае косы. Дождж – гэта павуціна, якую снуюць жывучыя ў хмарах павукі, і самая хмара фантазіяй паэты ўвасабляецца ў вобразе панурай вялізнай жывёлы, якая марудна па шыры неба праплывае ў дом. Маланка – гэта агністы меч, гром – удары гэтага мяча па жывёле, а дождж не што іншае, як халодныя бічы крыві, сцякаючыя ўніз.

Няцяжка заўважыць, што гэты і ім падобныя вершы М. Багдановіча ў аснове сваёй прадстаўляюць міфы. Гэты дар міфатворчасці ў некаторых адносінах нагадвае прыём Віктара Гюго, якога цытуе ў адным эпіграфе наш паэта і аб якім Лансон кажа: «Le mythe est la forme essentiele de son intelligence… Toute sensation tend a devenir symbole tout symbole a se developper en mythe»[1].

[1] Lanson. Historie de la literature frankaus. Paris, 1909, p. 1055

Нарэшце, па самому складу сваёй думкі, па сваёй філасофіі М. Багдановіч з'яўляецца тыповым прадстаўнікам імпрэсіянізму. Як вядома, кожны літаратурны кірунак мае сваёй падставай тую ці іншую філасофскую сістэму, беручы ў сваю аснову яе тэзісы і галоўныя метады. Французскі класіцызм звязан, напрыклад, з філасофіяй Дэкарта, вялікія сістэмы Шэлінга і Фіхтэ стварылі сабою філасофскі грунт рамантызму, развіццё рэалізму ў літаратуры супадае з пазітывізмам у філасофіі.

Філасофскай асновай імпрэсіянізму, як даводзіць гэта Оскар Вальцэль[2], служыць тэорыя рэлятывізму, якая асабліва была развіта аўстрыйскім фізікам Эрнстам Махам. Для абодвух кірункаў – літаратурнага імпрэсіянізму і філасофскага рэлятывізму – сталым з'яўляецца толькі ўражанне, толькі адбітак так званых рэчаў у нашых адчуваннях. Рэлятывізм і імпрэсіянізм імкнуцца як мага дакладней фіксаваць гэты адбітак – надворныя ўражанні, бо імі для гэтых кірункаў вычэрпваецца ўсё існуючае, ніякіх «рэчаў у сабе» пазадзі з'явішчаў няма, як няма ніякіх адвечных ісцінаў.

Мы ўжо бачылі, якую пераважную ролю ў паэзіі М. Багдановіча граюць адчуванні зроку і слыху – але, проч таго, у сваёй паэзіі ён адводзіць месца нават адчуванням ніжэйшых пачуццяў. У гэтых адносінах мы знаходзім у яго надта характэрны верш «Дзве смерці». Тут рысуецца смерць патрыцыя, адчыніўшага сабе жылы, і смерць нейкай Івановай, атруціўшайся сінільным квасам. Два такіх розных па абстаноўцы факты злучаюцца тут у адзін малюнак з прычыны таго, што пылкаму выабражэнню паэты і ў тым, і ў другім выпадку прадстаўляецца мігдаловы горкі пах, як дадатковы аксесуар самагубства. На гэтым адчуванні грунтуецца тут асацыяцыя прадстаўленняў.

Асноўваючыся выключна на адчуваннях у сваёй паэзіі, М. Багдановіч і ў сваёй філасофіі з'яўляецца тыповым рэлятывістам. Не адвечнага шукае, не да адвечнага імкнецца яго душа. Вышэй усяго ён ставіць міг яркага і моцнага ўражання. У сваім вершы Палуяну ён гаворыць:

Так свабодна, так ярка пражыць –
Лепшай долі няма на зямлі.
Ўсё кругом на мамент асвяціць
І пагаснуць у цёмнай імгле.

У другім месцы ён дае настаўленне.

Жывеш не вечна, чалавек, –
Пражыві ж у момант век!

[2] Импрессионизм и экспрессионизм. Петербург, 1922.

Але нязбежным спадарожнікам адсутнасці пэўнага філасофскага грунту з'яўляецца скептыцызм і песімізм. Скептыкам і песімістам выступае перад намі і Максім Багдановіч. Парой ён нават сумняваецца ў каштоўнасці моцных мігаў і ўражанняў, якія часам ён так высока ставіць. Тады з яго грудзёў вырываецца скарга: усё знікае, праходзіць, як дым.

Уся трагедыя чалавечага жыцця для яго – гэта пагоня за мыльнымі пузырамі: здалёка яны павабны, вабяць вока, але пасля іх у руцэ застаецца толькі адна слата. Спыняючыся на ростанках жыцця, паэта безнадзейна ставіць пытанне: «Куды ж ісці і што рабіць?». Ён, праўда, любіў свой родны край, сваю Беларусь. У яго мы знаходзім прызнанне:

І толькі на цябе надзея,
Край родны мой!
У родным краю ёсць крыніца
Жывой вады.
Там толькі я змагу пазбыцца
Сваёй нуды.

Але з другога боку, ён бачыў, што

Сціснула гора дыханне ў народзе,
Гора усюды пануе.

Малюнкі, надта частыя ў беларускай літаратуры. Гора народнае часта рысуюць і Я. Колас, і Янка Купала. Але ў Янкі Купалы гэтыя малюнкі не падаўляюць веры ў лепшую будучыню. Яны абуджаюць у ім настроі змагання, барацьбы.

Матываў барацьбы няма зусім у М. Багдановіча. Гора народнае падаўляе яго сваім цяжарам і вырывае з яго грудзёў енк:

Брацця! Ці зможам грамадскае гора!?
Брацця! Ці хваце нам сілы?!

У другім вершы М. Багдановіч з думкай аб роднай краіне злучае мысль аб смерці. Ён цешыць сябе марай:

Не будзеш цяжкая ты сыну
Свайму, зямля.
Там хоць у гліне, хоць у брудзе,
Там, пад зямлёй,
Найдуць мае слабыя грудзі
Сабе пакой.

Гэтак нават з думкай аб каханай айчыне злучаецца ў М. Багдановіча філасофія нірваны, небыцця.

Мысль аб смерці асабліва часта ахапляе хворага целам і, па яго ўласнаму прызнанню, хворага душой беларускага паэты.

У адносінах да смерці магчымы тры становішчы: мажліва філасофскае прымірэнне з ёю, супакоенне ў думцы, што хоць усё індывідуальнае гіне, але прырода і жыццё адвечны. Такія адносіны да смерці мы находзім, напрыклад, у Пушкіна. Яму належаць вядомыя словы:

Всё благо: бдение и сна
Приходит час определенный,
Благословен и день забот,
Благословен и тьмы приход.

З другога боку, у сувязі з думкай аб смерці магчыма філасофская трывога духу, паколькі смерць уносіць дысананс у агульную гармонію светабудовы. Гэткую філасофскую трывогу духу мы знаходзім, напрыклад, у Альфрэда дэ Мюсэ, з грудзёў каторага вырваўся хваравіты крык: «O Dieu juste, pourquoi la mort?». І нарэшце смерць можа параджаць ціхі смутак, ціхую журбу, паколькі яна пагражае нашаму індывідуальнаму існаванню. Гэты ціхі смутак і журбу мы знаходзім у М. Багдановіча; ён гаворыць:

Не кувай ты, шэрая зязюля,
Сумным гукам у бары;
Мо і скажаш, што я жыці буду,
Але лепш не гавары.
Бо не тое сведчыць маё сэрца,
Грудзі хворыя мае;
Боль у іх мне душу агартае,
Думцы голас падае.
Кажа, што нядоўга пажыву я,
Што загіну без пары…
Пыляці ж тады ты на магілу,
Закувай, як у бары.

Але ў душы паэты быў куток, над якім нават смерць не мела ўлады. Гэты куток – пакланенне хараству. М. Багдановіч – прыхільнік чыстага мастацтва, мастацтва дзеля мастацтва. Ён пераканаиы, што «няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсць той спажытак дзеля душы», што «добра быць коласам, але шчасліў той, каму давялося быць васільком».

Менск
15 мая 1923 г.

*Уладыслаў ДЗЯРЖЫНСКІ*

# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ ЯК СТЫЛІЗАТАР БЕЛАРУСКАГА ВЕРША

*Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,*
*Абрабіць яго трэба з цярпеннем.*
*Як ударыш ты ім, – ён, як звон, зазвініць,*
*Брызнуць іскры з халодных каменняў.*
*(М. Багдановіч «Песняру»)*

## I

Пераважная частка прыгожага пісьменства наогул ёсць замкнёна ў рамкі верша. Найвялікшыя сусветныя пісьменнікі аздобілі свае творы вершаванай формай. І чым больш раннія старонкі гісторыі сусветнага прыгожага пісьменства мы расчынім, тым большае панаванне верша там сустрэнем. Старажытная Грэцыя бадай што не ведала прыгожага пісьменства па-за рамкамі верша.

Нягледзячы аднак на гэтае беспадзельнае панаванне верша ў старажытнасці і гэтак выдатнае яго месца ў сучаснасці, нельга лішне падымаць вартасці яго як пэўнай літаратурнай формы. Справа ў тым, што разам з златабляскам славы і велічы, якая агартае верш, можна заўважыць і пэўныя недахваты, злучаныя з ім: вершам часта прыкрываецца брак запраўднага мастацтва, брак запраўднага таленту, – вершам часта прыкрываецца пустое месца.

Апрача гэтага, з гісторыі развіцця прыгожага пісьменства мы ведаем, што вершаваная форма заўсёды паяўляецца раней за празаічную і гэткім чынам характарызуе сабою ніжэйшую ступень у поступе літаратурнага мастацтва. Празаічная, або, лепш кажучы, невершаваная форма паяўля-

ецца толькі ў той момант, калі данае пісьменства становіцца на пэўны і трывалы грунт, калі ў ім літаратурныя таленты перастаюць з'яўляцца нечымсь цалкам прыпадковым і надзвычайным, а з'яўляюцца простым вынікам яго поступу, вынікам, арганічна звязаным з гэтым поступам.

Гэткім чынам, на шляху развіцця прыгожага пісьменства побач з вершам паяўляецца і проза як літаратурная форма, якая адмаўляецца ад музычнага элемента ў літаратурным мастацтве, каб мець магчымасць свабадней, глыбей і паўней адбіваць праявы прыроды наогул і людскога жыцця – паасобку.

Беларускае прыгожае пісьменства ў сучасны момант перажывае тую стадыю свайго развіцця, калі яно бадай што вычэрпваецца вершаванай формай. Праўда, у нас ужо маецца і проза, але яна губляецца паміж вершаў, быццам аазісы ў пустыні. Беспадзельна пануе пакуль што ў нас верш, не чуючы сабе знікуль небяспекі, ні пагрозы. І гэтая яго ўпэўненасць у сваю моц і трываласць часта йдзе яму ж на шкоду: беларускі верш часта дазваляе сабе такія «вольнасці», якіх не можа дазволіць сабе верш там, дзе побач з ім стаіць моцная проза. І характэрна тое, што гэтыя «вольнасці» ў нашым вершы з'яўляюцца якраз на рахунак самай сутнасці верша, якраз на рахунак яго вершаванай формы: метрыкі, рытму, рыфмы і г. д. І «вольнасці» гэтыя праходзяць для яго зусім бяскарна.

Свядомае беларускае грамадзянства дагэтуль захоплена яшчэ навізною нашага пісьменства, дагэтуль яшчэ не мае адвагі крытычна падысці да яго, не мае адвагі правесці раўналежную з іншымі літаратурамі, яно быццам баіцца, каб ад шорсткага дотыку крытыкі не страціла нашае пісьменства таго златабляску, якім свядома акружае яго кожны беларусін-адраджэнец. Беларускае грамадзянства дагэтуль яшчэ цікавіцца выключна адным зместам нашага пісьменства, не звяртаючы ўвагі на тыя формы, у якіх падносяць гэты змест яму беларускія пісьменнікі.

Літаратурная крытыка знаходзіцца ў нас яшчэ толькі ў стане свайго зараджэння. Ёй не было ні часу, ні магчымасці займацца формай, калі валяліся і дагэтуль яшчэ валяюцца горы неразабранага і непрыведзенага ў пэўны парадак і сістэму зместу, замкнёнага ў беларускім пісьменстве. Дый сама наша літаратурная крытыка мела мэтай не разгляд твораў з боку іх літаратурнай вартасці, а старалася падчыркнуць і ўвыдатніць толькі тыя мамэнты і матывы ў нашым пісьменстве, якія па свайму зместу адпавядалі патрэбам дня, якія маглі быць непасрэдна карыснымі для змагання за нашы адраджэнскія ідэалы. І дзякуючы гэтаму ў нашай крытыцы знаходзілі сабе пахвалу амаль што выключна творы з грамадзянскімі матывамі. Усё іншае заставалася як бы ў цені.

А беларускія пісьменнікі, бачачы, як мала значэння прыдаецца форме іх твораў, гэтаксама не звярталі на яе асаблівае ўвагі. Хаця яны ў большасці і карыстаюцца формай верша, але іх мала цікавіць верш як гэткі, іх мала цікавіць пытанне, якія ёсць магчымасці перад беларускім вершам, у якія шаты яго было б найлепш прыаздобіць. Мала гэтага, яны часта не прытрымліваюцца самых элементарных вымаганняў паэтыкі, яны часта выпушчаюць у свет проста неабчасаныя, быццам з-пад сякеры, вершы. І дзякуючы вышэйазначаным акалічнасцям ім гэта праходзіць бяскарна. Праўда, ёсць і такія, якія не дазваляюць сабе гэткіх «вольнасцяў». На чале іх, безумоўна, стаіць Я. Купала. Аднак, хаця яго верш заўсёды вельмі эластычны і гладкі, але не заўсёды ён, я б сказаў, хмельны, не заўсёды ён пеніцца і іскрыцца. А тлумачыцца гэта тым, што спецыяльна вершам як гэткім і Я. Купала не цікавіўся. Для яго форма ўсё-ткі на другім месцы.

Можа цяпер паўстаць перад намі пытанне, ці не залішне вялікую ўвагу хочам ужо мы звярнуць на літаратурную форму, ці не зашмат значэння мы хочам ёй надаць?

На гэта можа быць толькі гэткі адказ: там, дзе прыгожае пісьменства найчасцей замыкаецца ў форму кароткага верша, як гэта ёсць у нас, – там, безумоўна, форма не можа быць на другім месцы; там яна стаіць, прынамсі, нараўне са зместам, а часта і вышэй за яго. Кароткі верш можа прывабіць нас да сябе толькі сваёй формай, толькі сваім чыста надворным хараством, можа заваражыць нас толькі сваёй музыкай, ачараваць нас сваімі вобразамі, сваімі метафарамі, будоваю і г. д. І толькі ўжо пасля мы затрымаем нашу ўвагу на самым змесце. І нашы адносіны да гэтага зместу будуць у залежнасці ад таго ўражання, якое зрабіла на нас яго форма. Іншая справа з творамі даўжэйшымі, дзе змест мае даволі часу, каб захапіць нашу ўвагу. Там форма мае ўжо меншае значэнне.

Першым спаміж беларускіх паэтаў і ядыным, хто спецыяльна заняўся беларускім вершам як гэткім, яго стылізацыяй, гэта знача, вышуканнем тых паэтычных нормаў, якія ўласцівы і могуць быць застасаваны ў беларускім вершы, з'яўляецца М. Багдановіч. У яго форма верша – гэта не ёсць нешта прыпадковае, нешта ўторазначнае. Не! Верш павінен, як «звон звінець, а біць павінен з такім імпэтам і моцай», «каб аж іскры брызгалі з халодных каменняў». – Вось якія заданні ставіць М. Багдановіч перад вершам. А што ж трэба рабіць, каб набраўся ён такой сілы, такога імпэту?

Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба з цярпеннем.

Гэтак глядзіць М. Багдановіч на форму. І не толькі глядзіць, але ва ўсёй сваёй літаратурнай творчасці сцісла прытрымліваецца гэтага погля-

ду. У кожным з яго вершаў чуецца тое цярпенне, з якім каваў і гартаваў ён гэты верш. Затое ж чутна ў ём і сіла звону, затое ж і б'е ён, што аж іскры брызгаюць з халодных каменняў.

Зборнік вершаў М. Багдановіча «Вянок» – гэта ёсць не што іншае, як студыя над формай беларускага верша. Гэта кузня, у якой паэта прабаваў каваць і гартаваць наш верш, прабаваў уліваць яго ў розныя формы, каб бачыць гібкасць беларускае мовы, каб бачыць багацце гукаў у беларускім слове. Разгарнеце «Вянок», і перад вашымі вачыма заззяе беларускі верш разнастайнымі фарбамі, загаворыць да вас разнастайнымі тонамі…

І глыбокі смутак агорне вашу душу, што сышоў у магілу так рана першы свядомы каваль нашага верша, які безумоўна выявіў бы нам шмат скарбаў, якія і па сённяшні дзень ад нас захаваны.

Мэтай гэтага нарыса будзе заглянуць у тую кузню, дзе каваўся беларускі верш, пазнаёміцца з тэхнікай вершавання, уласцівай М. Багдановічу. Пры гэтым мы будзем старацца звяртаць увагу больш на тыя поспехі, якія зрабіў ён у кірунку стылізацыі беларускага верша. Недахваты ў яго вершах вельмі рэдкі і з'яўляюцца як бы выключэннем; на іх мы затрымлівацца не будзем.

II

Асноўным і найбольш важным элементам вершаванай формы з'яўляецца метрыка, або мера, верша і яго рытм, бо ад іх галоўным чынам залежыць музычнасць верша. Рыфма займае тут утаразначнае месца. А што датыча іншых уласцівасцей паэтыкі, як, напр., метафары, алітарацыі, сінекдахі і інш., то яны ўжываюцца не толькі ў вершаванай мове, але і ў празаічнай.

Маючы гэта на ўвазе, мы й распачнем агледзіны верша М. Багдановіча з боку яго метрыкі і рытму. Першай характэрнай адзнакай яго вершаў з'яўляецца незвычайная разнастайнасць і багацце іх метрыкі і рытму. Гэтай уласцівасцю М. Багдановіч, безумоўна, карысна для сябе выдзяляецца з ліку беларускіх паэтаў. Амаль не на кожнай старонцы «Вянка» сустракаем мы новую метрыку, амаль не з кожнага верша чуем мы музыку новага рытму. На ста з лішнім старонках «Вянка» мы налічваем больш за 30 тыповых, строга стылістычных, адменнікаў метрыкі. А аб прыпадковых і казаць не прыходзіцца.

Ужо адно гэта пацвярджае нашу думку, якую мы вылажылі раней, а менавіта, што М. Багдановіч незвычайна цікавіўся беларускім вершам як гэткім, цікавіўся тымі магчымасцямі, якіх можна чакаць ад маладога яшчэ беларускага верша, і з вялікім замілаваннем працаваў над яго стылізацыяй. Для яго ў даным выпадку не столькі быў важны змест верша, як форма, якая адна павінна і можа надаць моц і сілу самому зместу.

І вось М. Багдановіч прабуе гібкасць і эластычнасць беларускае мовы, даследуе музычнасць беларускага слова, нацягваючы іх на формы розных вяршовых размераў і рытмаў.

Не заўсёды, праўда, гэтыя спробы і доследы былі ўдачны: часамі чуецца пэўная шорсткасць у яго вершы з погляду якраз іх метрыкі і рытму; але нягледзячы на гэткія, да слова кажучы, вельмі рэдкія недахваты, можна з пэўнасцю сказаць, што ў «Вянку» заложаны незвычайна багаты матар'ял для будучай стылістыкі беларускае мовы наогул, і для беларускага верша паасобку.

Вернемся цяпер да рытмікі яго вершаў. Першае па ліку месца на старонках «Вянка» займаюць вершы, напісаныя ямбам. (Гэтым размерам найбольш карыстаўся ў сваёй творчасці, як вядома, Пушкін). А спаміж ямбічных вершаў найчасцей сустракаюцца чатырохмерныя. Дасканалым узорам гэтага віда вершаў могуць служыць наступныя звароткі:

Удар, цыклон, удар на мора,
Цалуй яго ў глухое дно!
Ўсплясні ваду – і перлаў горы
На бераг выкіне яно.
*(«Вянок», стр. 69).*

Або:

Як мары, белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць.
У небе зоркі ад марозу
Пахаладзеўшыя дрыжаць.
*(«Вянок», стр. 29).*

Вось узоры, я б сказаў, крыштальнага чатырохмернага ямба. Прачытаўшы аднак уважна гэтыя дзве звароткі, мы не можам не прыметціць тут пэўнай асаблівасці. Справа ў тым, што, як мы бачым, метрыка верша ў абедзвюх зваротках тая самая, а тымчасам вуха наша чуе вялікую розніцу ў іх музыцы. Ад музыкі першай звароткі вее нейкая асаблівая цвёрдасць і моц, нейкая ўрачыстая павольнасць, нешта стыхійнае. Кожнае слова як бы выліта з медзі, кожнае з іх быццам замкнёна само ў сабе і стаіць як бы паасобку, за кожным з іх можа быць зроблена пэўная паўза. І калі мы цяпер звернем увагу на самы змест гэтай звароткі, то пераканаемся, што для гэтага зместу нельга і прыдумаць лепшае музыкі; магутная сіла цыклону чуецца ў гэтым чатырохмерным ямбе, дзе на кожнае слова падае рытмічны націск.

Зусім іншая справа з другой звароткай. Тут малюецца абраз чароўнай зімовай ночы, лёгкія і празрыстыя, як мары, бярозы, якія быццам плава-

юць у ночным блакіце. Гэты малюнак таксама паложаны на чатырохмерны ямб. Але ў той час, як у першым выпадку чулася пэўная цвёрдасць, пэўная павольнасць рытму, тут мы бачым лёгкую павеўнасць, нейкую далікатнасць і пераліўнасць музыкі. Асабліва чуецца гэта ў апошнім радку: «Пахаладзеўшыя дрыжаць».

Чым жа вытлумачыць гэтую розніцу ў музыцы пры аднолькавай метрыцы верша? Рытмічнымі націскамі. Чым большая колькасць рытмічных націскаў падае на верш, тым большая цвёрдасць, а разам з гэтым большая павольнасць чуецца нашаму вуху. І, наадварот, чым менш рытмічных націскаў, тым чуецца большая парыўчасць вершу, большая жывасць і гуллівасць музыкі. Над трыма радкамі першае звароткі паложана па чатыры рытмічных націскі, на кожным слове па націску, і дзеля гэтага атрымалася такая цвёрда-панурая мелодыя. А над першымі трыма раздзеламі другое звароткі паложана па тры рытмічных націскі, у дабавак да якіх далучаны чацвёрты радок – *Пахаладзеўшыя дрыжаць* – з двума рытмічнымі націскамі. Гэтым і тлумачыцца такая павеўнасць і эластычнасць другой звароткі ў параўнанні з першай. М. Багдановіч, як добры знаўца законаў і нормаў паэтыкі, безумоўна, свядома выкарыстаў гэтыя ўласцівасці чатрохмернага ямба ў стасунку да беларускага верша. І, як мы бачым, спроба гэта яму вельмі ўдалася. Дзве даныя звароткі, безумоўна, з погляду метрыкі і рытму можна лічыць дасканалымі, і яны маюць поўнае права заняць месца ў будучай беларускай стылістыцы як узоры беларускага чатырохмернага ямбічнага верша.

Другое па ліку месца споміж ямбічных вершаў М. Багдановіча займаюць шасцімерныя. Вось характэрны ўзор гэткага верша:

Хай тыя ведаюць, што з’яўяцца па нас,
Ўсю праўду пра жыццё у наш і пройшлы час,
Пра войтаў, лаўнікаў, і райцаў, і паспольства,
Пра розных каралёў, і бітвы, і пасольства…
*(«Вянок», стр. 41)*

У гэтым размеры чуецца нешта ўзнёсла-спакойнае і строга-паважнае. Так і вее ад яго нейкай страсветчынай, так і чуецца з яго рытму спакойна-ўрачысты шэлест летапісных паргамантаў.

І М. Багдановіч добра ведаў і разумеў гэтыя ўласцівасці шасцімернага ямба. Нельга і прыдумаць для гэтага размеру лепшага зместу, як той, які мы бачым у аддзеле «Вянка» пад загалоўкам «Старая Беларусь». Тут такія вершы, як «Летапісец», «Перапісчык», «Кніга» і інш., напісаны якраз шасцімерным ямбам.

Апрача двох вышэй памянёных размераў, у вершах М. Багдановіча спатыкаецца яшчэ пяцімерны ямб, на якім затрымаемся, калі будзе гу-

тарка аб санетах у яго паэзіі, і розныя змешана-мерныя ямбічныя формы, а менавіта вершы, у якіх пераплятаюцца паміж сабой пяці- і шасцімерны, чатырох- і трохмерны, чатырох- і двохмерны ямбы. На іх супыняцца не будзем, апрача апошняй формы, узор якой наступны:

А к ночы свой чырвоны веер
У небе сонца развярне,
І разварушаны ім вецер
У даль памкне.

*(«Вянок», стр. 17)*

Гэтая зваротка з'яўляецца проста перлай паэтыкі і мае класічны характар з погляду будаўніцтва вершаў. У першым радку мы чуем чатыры рытмічных націскі, у другім – тры, у трэцім – два, а ў чацвертым ужо маем проста двохмерны ямб. Дзякуючы такому паступоваму ўбыванню рытмічных націскаў, скорасць і лёгкасць верша ўсё нарастае і ў апошнім радку дасягае найвышэйшага пункту. Звярнуўшы цяпер увагу на самы змест данай зваароткі, мы прымецім, што ён пачынаецца паважна-ўрачыстым і цвёрда-павольным апісаннем – *А к ночы свой чырвоны веер,* – у другім радку чуецца ўжо больш жывы рух – *У небе сонца развярне,* – каб у трэцім і чацвёртым радкох – памкнуцца ў даль ветрам. З гэтага відаць, што і ў змесце гэтая жывасць і парыўчасць нарастае побач з парыўчасцю мелодыі верша.

Вось больш-менш і ўсё, што можна характэрнага для ямбічнага верша М. Багдановіча сказаць.

Пераходзім цяпер да другога размеру, які ў яго вершах пасля ямба найчасцей сустракаецца, а менавіта да харэя.

Па ліку мер харэічныя вершы М. Багдановіча больш разнастайныя, чымся ямбічныя. Тут мы спатыкаем і трохмерныя, і чатырохмерныя, і пяцімерныя, і шасцімерныя, і сямімерныя, а нават і васьмімерныя, а гэтаксама розныя змешана-мерныя, як то: чатырох- і трохмерныя, пяці- і чатырохмерныя, чатырох- і сямімерныя і васьмі- і трохмерныя вершы. Спаміж іх найчасцей спатыкаюцца чатырохмерныя; узоры іх наступныя:

Ў чарцы цёмнай і глыбокай
Плешча, пеніцца віно;
Хмелем светлым і халодным
Калыхаецца яно.

*(«Вянок», стр. 16)*

Або яшчэ зваротка іншага верша:

І пад птушы крык і гоман,
Даўшы хвалям вольны ход,
Прыпадыме бацька Нёман
На хрыбце магутным лёд.
*(«Вянок», стр. 30)*

Гэты размер, як і чатырохмерны ямб, характэрны не толькі для М. Багдановіча, але і для іншых беларускіх паэтаў, і яго вельмі часта можна спаткаць у беларускай паэзіі.

З іншых харэічных вершаў затрымаемся на вельмі рэдкім узоры сямімернага харэя, які спатыкаецца ў М. Багдановіча толькі ў двох вершах. Напрыклад:

Свечка свеціць, свечка ззяе, свечка дагарае,
І ў панурай цеснай хаце хлопец памірае.
Ой, не век жа свечцы тонкай зіхацець, гарэці, –
Дагарыць яна і знікне, як і ўсё на свеце.
*(«Вянок», стр. 38)*

Апрача гэтага сямімернага харэя ў «Вянку» мы спатыкаем яшчэ адзін узор вельмі цікавы для будаўніцтва верша, а побач з гэтым і можна сказаць, што ядыны ў беларускай паэзіі, а менавіта васьмімерны харэй пераплецены з трохмерным, што прыдае вершу пэўную станоўчасць ўводзіць у яго як бы прыпеўку. Напрыклад:

Так здаецца ў змроку ночы цёмным і народ мой родны,
Бедны і няшчасны;
Але, як устане сонца, ўраз прачнецца дух народны
І засвеціць ясна!
*(«Вянок», стр. 70)*

У першым і ў трэцім радкох гэтага верша чуецца пэўнае нарастанне настрою і як бы нейкая цяжкаватасць рытму, а ў другім і чацвертым радкох гэтая прыпаднятасць і напружанасць знаходзіць сабе як бы развязку, нейкае заспакаенне.

На чарзе нашых агледзін цяпер знаходзяцца трохскладовыя размеры, або трохдольнікі: дактыль, амфібрахі і анапест. Усім ім М. Багдановіч аддаў належную даніну, усе яны знайшлі сабе адбітак на старонках «Вянка». Спаміж іх першае па ліку месца прыналежыць анапесту. Характэрнай уласцівасцю гэтага размеру з’яўляецца парыўчасць і лёгкасць. Напісаны паводлуг яго верш безупынна парываецца ўсё скарэй і скарэй наперад, як бы імкнецца ў нязведаныя далі. М. Багдановіч добра разумеў гэтую ўласцівасць анапеста і падбіраў для гэтага размеру змест, як мы зараз пабачым, вельмі ўмела. Напрыклад:

Падымі угару сваё вока
І ты будзеш ізноў, як дзіця,
І адыйдуць-адплынуць далёка
Ўсе трывогі зямнога жыцця.
*(«Вянок», стр. 31).*

Або вось яшчэ зваротка іншага верша:

Поле нікне у срэбным тумане,
Снег блішчыць, як халодная сталь,
І лятуць мае лёгкія сані,
Унашуся я ў сінюю даль.
*(«Вянок», стр. 28).*

Гэты размер як нельга лепш падыходзіць да самога зместу паданых зваротак. Асабліва чуецца гэта ў апошняй зваротцы, дзе парыўчы, імпэтны рытм зліваецца з лётам лёгкіх саняў і абодвы яны арлінымі ўзмахамі ўносяцца ў сінюю даль. Гэтыя ўзоры трохмернага анапеста, безумоўна, мала маюць сабе па дасканаласці роўных у беларускай паэзіі. Тут злучыліся з аднаго боку чыстае мастацтва, запраўдны талент, а з другога боку – глыбокае знанне тэхнікі вершавання, а вынікам гэтага злучэння паявілася запраўдная паэтычная перла. Трохмерны анапест спатыкаецца найчасцей спаміж анапестычных вершаў М. Багдановіча. За ім ідзе чатырохмерны анапест. Вось узор гэткага размеру:

Але месяц правёў праз раку светлы шлях.
І развеяўся з сэрца дрыжачага жах.
Зіхацела яна – серабра пуціна,
Увадзіла ў той край, дзе пануе вясна.
*(«Вянок», стр.23)*

Апрача гэтых размераў анапеста ў «Вянку» мы бачым яшчэ два вершы, напісаныя змешана-мерным анапестам, а менавіта чатырох- і трохмерным. На іх мы супыняцца не будзем.

Другое пасля анапеста месца прыналежыць дактылю. Гэты размер якраз супрацьлеглы анапесту. Замест парывання наперад, у ім чуецца нейкая прыцішанасць, пэўная павольнасць і задумлёная элегічнасць. Дасканалыя ўзоры, якія ўвыдатняюць гэтую ўласцівасць дактыля, мы знаходзім у паэзіі М. Багдановіча. Напрыклад:

Плакала лета, зямлю пакідаючы;
Ціха ліліся слязінкі на поле.
Але прыгожаю восенню яснаю
Там, дзе упалі яны, выраслі

Кветкі асеннія, кветкі, ўспаёныя
Тугаю, горам, слязінкамі лета.
*(«Вянок», стр. 24)*

Або наступныя радкі з іншага верша:

Сумна плыве маладзік бледна-сіні
Ў небе вячэрнім, зялёным, як лёд…
*(«Вянок», стр. 22)*

Прыцішаны рытм гэтых зваротак цалкам адпавядае іх зместу. Ад мелодыі іх так і вее плачам і слёзамі лета пры расставанні з зямлёй. Тут мы бачым чатырохмерны дактыль. Апрача яго ў «Вянку» спатыкаецца і шасцімерны дактыль, які застасаваны ў пентаметрах, а гэтаксама змешана-мерны. А менавіта чатырох- і трохмерны дактыль.

Засталося нам яшчэ на хвіліну затрымацца на размеры, які найрадзей спатыкаецца ў вершах М. Багдановіча, а менавіта на амфібрахім. Усяго некалькі ўзораў гэтага размеру налічваецца ў яго вершах. Вось прыклад:

За дахамі места памеркла нябёс пазалота;
Паветра напоена ціха гусцеючым змрокам;
Ўжо відна, як іскры злятаюць з трамвайнага дрота,
Як зоркі гарaць і зрываюцца ў небе далёкім.
*(«Вянок», стр. 53)*

Гэта пяцімерны амфібрахі. Апрача яго, пару вершаў напісана чатырохмерным, адзін трохмерным і адзін змешанамерным амфібрахім.

На гэтым лічым магчымым і спыніць нашы агледзіны метрык і рытмаў, якія спатыкаюцца ў вершах М. Багдановіча. Як мы бачылі, найбольшы лік яго вершаў паложаны на ямбічны размер, у якім першае месца займае чатырохмерны ямб; затым ідуць харэічныя вершы, спаміж якіх найчасцей спатыкаецца гэтаксама чатырохмерны харэй. Спаміж трохдольнікаў на першым месцы стаіць анапест, затым дактыль і нарэшце толькі што разгледжаны амфібрахі.

Характэрным з гэтага боку для М. Багдановіча з’яўляецца тое, што ён свядома падбіраў той ці іншы размер у стасунку да зместу, замкнёнага ў тых ці іншых вершах. З гэтага погляду ён як бы асобна стаіць ад іншых нашых паэтаў, у якіх метрыка і рытміка найчасцей з’яўляюцца нечымсь прыпадковым.

III

Слова складаецца з гукаў, або, інакш кажучы, слова ёсць гармонія паасобных гукаў, злучаных у адно тым агульным зместам, які надае яму чалавек. Пры гэтым адны з слоў багацейшыя гэтымі гукамі, а другія – бядней-

шыя; адны з іх больш гарманічны, а другія – менш. А калі ўмела звязаць паміж сабой цэлы шэраг слоў, то можна атрымаць пэўную мелодыю гукаў, пры дапамозе якой можна больш увыдатніць змест даных слоў.

Літаратурнае мастацтва стараецца выкарыстаць гэтую ўласцівасць людскога слова. Яно падбірае найбольш мілагучныя словы, яно звяртае вялікую ўвагу на кампазіцыю слоўных гукаў, яно стараецца даць нам побач з пластычнымі і чыста гукавыя вобразы.

На гэтым грунце і паявіўся шэраг элементаў паэтыкі, якія маюць на мэце якраз гукавы бок чалавечага слова. З гэтых элементаў мы маем на ўвазе рыфму, алітарацыю ў сціслым значэнні і асанансы. Затрымаемся найперш на рыфме, уласцівай вершам М. Багдановіча.

Амаль што ўсе яго вершы рыфмованы. Аграмадная большасць з іх пераплецены дзвюма рыфмамі – мужчынскай і жаночай – і маюць гэткім чынам рыфму змешаную. Аднак у «Вянку» налічваем вершаў выключна з аднэй жаночай рыфмай 19, і з аднэй мужчынскай рыфмай 12. *Дактылічная рыфма ў вершах М. Багдановіча вельмі рэдка спатыкаецца* – усяго ў трох вершах, і гэта можа быць для яго характэрнай адзнакай спаміж іншых беларускіх паэтаў, як Ясакара, Купалы, у якіх такая рыфма спатыкаецца даволі часта.

Цяпер заглянем у самую сутнасць яго рыфмы, паспрабуем выявіць яе багацце. Як вядома, пры ацэнцы рыфмы вялікае значэнне мае тое, якімі часцінамі мовы яна выражана. Паэтыка вучыць, што з гэтага погляду найбольшую вартасць маюць рыфмы, выражаныя рознымі часцінамі мовы, і асабліва багаты рыфмы, выражаныя іменем назоўным з дзеясловам, напр. – *ніці – засніце*. Спаміж рыфм, выражаных аднэй часцінай мовы, найбольшую вартасць маюць тыя, якія выражаны іменем назоўным, а найменшую вартасць маюць дзеяслоўныя рыфмы, бо іх найлягчэй падбіраць. З гэтага якраз погляду і паспрабуем разгледзець рыфму М. Багдановіча. Усяго ў зборніку яго вершаў «Вянок» налічваецца каля 540 рыфмаў. З іх выражаны: іменем назоўным – 255 рыфмаў, дзеясловам – 104, імем прыметным – 10, займеннем – 5 і прыслоўем– 5; гэта з погляду часцін мовы чыстыя рыфмы, бо яны выражаны аднэй і тэй самай часцінай мовы, напр.: *хаты–латы, зайшло–правяло* і г. д.

Звернемся цяпер да рыфмаў, выражаных рознымі часцінамі мовы. Іх у вершах М. Багдановіча стасункова вельмі многа, блізка што трэцяя частка. Найбольшы з іх лік выпадае на долю назоўна-дзеяслоўных, а менавіта – 50. Вось прыклад гэтае рыфмы:

Ледзьве чутна варуша-*калыша*,
Міла бомы смяюцца у *цішы*.

Наступнае па ліку месца займаюць назоўна-займенныя рыфмы. Іх налічваецца 38; прыклад:

Пэўна, ўжо доля такая у *нас*,
Але расстацца нам *час*.

Назоўна-прыслоўных рыфмаў спатыкаем 29; прыклад:

Над вадой ля берага ціха спіць *асока*,
Хвалі ціха коцяцца і бягуць *далёка*.

Назоўна-прыметных – 24; прыклад:

Стаяў калісь тут бор *стары*.
І жыў Лясун у тым *бары*.

Дзеслоўна-займенных – 10; прыклад:

Ён іх болі ужо не *пяе*
І струёй лынуць вершы з *яе*.

Дзеяслоўна-прыметных – 9; прыклад:

Але расстацца нам час *наступае*
Моцна кахаў я цябе, *дарагая.*

Прыметна-прыслоўных – 4; прыклад:

Бедны і *няшчасны*
І засвеціць *ясна*

Прыметна-займенных – 10; прыклад:

Няўжо жа цёмнай ноччу *ты*
Ў люстэрка – месяц *залаты.*

Займенна-прыслоўных – 5; прыклад:

А як разыйшліся – пакінулі *нас*
Заходы і думкі высокія *ўраз*.

Дзеяслоўна-прыслоўных – 3; прыклад:

Для птушанят гняздо *зрабіла*
Аж паглядзець прыемна-*міла.*

Гэтак выглядае статыстыка рыфмы ў вершах М. Багдановіча з погляду часцін мовы, якімі карыстаюцца яго рыфмы. Як мы бачым, гэтыя рыфмы вельмі разнастайныя. Праўда, на першы погляд выдаецца, быццам за вялікі працэнт маецца дзеяслоўных рыфмаў. Але калі вы перагледзіце яго вершы, то заўважыце, што некалькі з іх пабудавана бадай што цалкам на дзеяслоўных рыфмах, дзякуючы чаму ў рэшце вершаў яны спатыкаюцца

даволі рэдка і проста губляюцца паміж іншых рыфмаў. Прыметных рыфмаў вельмі мала, затое шмат выражана іменем прыметным у злучэнні з іншымі часцінамі мовы. Далей, як мы бачылі, маецца многа дзеяслоўна-назоўных рыфмаў, якія цэняцца вельмі высока і г. д. Значыць з погляду разнастайнасці часцін мовы рыфмы М. Багдановіча трэба лічыць безумоўна багатымі.

Звернем цяпер увагу на іншы бок яго рыфмы, а менавіта на яе мілагучнасць. Паэтыка зноў вучыць, што найбольш багатымі з погляду мілагучнасці лічацца тыя рыфмы, якія гукамі найбольш да сябе блізкі, найбольш да сябе падобны. І з гэтага погляду ў вершах М. Багдановіча можна знайсці шмат запраўдных узораў высока дасканалай рыфмы. Каб не быць галаслоўнымі, мы і падаем тут некалькі гэткіх узораў:

Месяц белы заплаканы *свеціць*
Цягне з возера белыя *сеці.*

Або:

Рвуць і блытаюць срэбныя *ніці*
Ноч шапоча русалкам: *засніце.*

Або:

Здалеюць яркі блеск і *цень*
І зніклы *дзень.*

Або:

Не ўстае стаўпом пыл светлы ўздоўж *дарог*
Ў небе месяца прагляну бледны *рог.*

Або:

Ціха срэбрам грукае *крыніца*
Добрай ночы зара-*заранiца.*

Або:

Іскрацца зорак сняжынкі *маркотна*
Кіньма жа думкі аб долі *гаротнай.*

Або:

Ўюцца змейкай срабрыстай *дарожкі*
І маркотныя месяца *рожкі.*

Або:

Ўзрывайце ж іх санямі, *коні*
Вакол лятуць бары і *гоні.*

Або:

Бо вярнулася *вясна*
Ўстрапянецца ада *сна.*

Або:

Хутка ўжо зоркі зірнуць *сіняватыя*
Досі ўжо! З вамі вярнуся *дахаты я.*

Або:

Ой, ішла дарога долам, ды ішла і *горкай*
Не схавалася дзяўчына ад тэй долі *горкай.*

Або:

Пра войтаў, лаўнікаў і райцаў і *паспольства*
Пра розных каралёў і бітвы, і *пасольства.*

Або:

Дачка каменняў, места *мне*
І верш аб месце з сэрца *мкне.*

Або:

Ўзрываючы халодны *снег*
Дзе чутна разам стогн і *смех.*

Або:

За кропляй кропля, як *раса*
Табе ахвяра ён, *краса.*

Або:

Усё ж такі жыццёвая іх *сіла*
Збудзілася і буйна *ўскаласіла.*

Гэтыя рыфмы з усіх поглядаў з’яўляюцца безумоўна дасканалымі. І яны не адзінокі. Па ўсім «Вянку», нібы перлы, рассыпана яшчэ шмат іншых, не менш дасканалых.

Цяпер мы ўжо маем поўнае права сказаць, што вершы М. Багдановіча з погляду іх рыфмы трэба ў аграмаднай іх большасці прызнаць дасканалымі. З гэтага пагляду «Вянок» хоць малы па колькасці старонак, аднак па каштоўнасці замкнёных у ім скарбаў займае адно з першых месц у беларускім пісьменстве.

Алітарацыя і асанансы, хаця зрэдку і спатыкаюцца ў вершах М. Багдановіча, але нічога характэрнага і асаблівага з сябе не выяўляюць, і дзеля гэтага на іх спыняцца не будзем.

IV

Знаёмячыся з М. Багдановічам як з стылізатарам беларускага верша, мы не можам абмінуць яшчэ аднаго пытання. Маем тут на ўвазе тыя надворныя мастацкія формы, якія першы ён застасаваў да беларускага верша, а менавіта: санеты, актавы, рандо, трыялеты, тэрцыны, пентаметры і гекзаметры. Праўда, санеты можна спаткаць і ў іншых беларускіх паэтаў, як Купалы, Ясакара. Затое іншыя з гэтых форм бадай што нідзе больш у беларускай паэзіі не спатыкаюцца.

Усяго па аднаму або па два ўзоры на гэтыя формы знаходзім мы ў «Вянку». Але тым больш каштоўнымі з’яўляюцца яны ў беларускай паэзіі. Па сваёй дасканаласці яны не ўступаюць класічным узорам гэтых форм у іншых літаратурах. У раздзеле «Вянка» пад загалоўкам «Старая Спадчына» сабраны гэтыя формы. На першым месцы мы бачым некалькі вершаў пад загалоўкам «Пентаметры». Вось першы з іх:

Чыстыя слёзы з вачэй пакаціліся нізкай парванай,
Але, упаўшы у пыл, брудам зрабіліся там.

Ці ж не вее ад гэтых двух радкоў анталагічнасцю? Ці ж знойдзецца ў іх нейкі, хаця б самы нязначны недахват! А форма гэтая не з’яўляецца лёгкай для пісання. У два радкі трэба ўлажыць сцісла закончаны, крыштальна выразны змест. Першы радок напісаны шасцімерным дактылем і прадстаўляе з сябе ўзор гекзаметра. Другі радок напісаны пяцімерным дактылем і прадстаўляе з сябе пентаметр. Цэзуры на месцах. Характар яго паважна-спакойны.

Спаміж іншых формаў лічым патрэбным спыніцца на санетах М. Багдановіча. Іх у «Вянку» ўсяго тры: «У Вільні», «Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі» і «На цёмнай гладзі сонных луж балота». Першы і трэці з гэтых санетаў маюць меншую вартасць дзякуючы русіцызмам, якія

ў іх спатыкаюцца. Затое другі санет мае поўнае права быць узорам гэтае формы ў беларускай паэзіі наогул. Падаем яго тут цалкам:

Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі,
Над хвалямі сінеючага Ніла
Ўжо колькі тысяч год стаіць магіла:
Ў гаршчку насення жменю там знайшлі;
Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё ж такі жыццёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясенняй збожжа на раллі.

Вось сімвал твой, забыты краю родны!
Зварушаны нарэшце дух народны,
Я верую, бясплодна не засне,
А ўперад рынецца, маўляў крыніца,
Каторая магутна, гучна мкне,
Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца.

Як вядома, кожны санет павінен задавальняць наступным вымаганням: санет павінен замыкаць у сабе адну ідэю; яго 14 вершаў сплятаюцца, як вянок, дзеля выяўлення аднэй ідэі; ідэя, уложаная ў форму санета, павінна выражацца ў сціслых, звязаных паміж сабой вобразах; а дзеля таго, што рамкі яго вельмі абмежаваны – усяго толькі 14 вершаў, то санет павінен імкнуцца к таму, каб з малога пабудаваць цэлую будыніну, вобразнасць яго павінна адзначацца ўзнёслым характарам, ніякай збітасці і паспалітасці там месца быць не павінна; неабходнай умовай санета з’яўляецца яго яснасць і зразумеласць; мова яго павінна вызначацца лёгкасцю, чыстатою і свабодаю рыфмаў.

Застасаваўшы ўсе гэтыя вымаганні да данага санета, мы пераканаемся, што ён запраўды варты гэтае назовы. Яго ідэя – а менавіта – што народ беларускі мусіць адрадзіцца, выражана зусім ясна. Вобразы, узятыя дзеля выяўлення гэтае ідэі, вызначаюцца сваёй узнёсласцю. Абраз, замкнёны ў трох першых радкох, адразу надае паважны, урачыстатаямнічы тон усяму санету. Ад магілы, што стаіць ужо тысячы год над хвалямі Ніла паміж пяскоў Егіпецкай зямлі, так і вее нейкай смяртэльнай цішынёй, у якой чуецца як бы затаёная трывога. І вось, на ўзлонні гэтай цішыні, знаходзяцца зярняты збожжа, якія тояць у сабе вялікую моц, магутную жыццёвую сілу. Цяпер даецца другі абраз, цалкам адменны ад першага: ніва, пакрытая буйна ўскаласелым збожжам. Гэтыя два абразы з’яўляюцца сімваламі, як кажа паэта, і нашага краю: яго сучаснасці і будучыні. Беларусь агорнута яшчэ смяротнай цішынёй, яна яшчэ падоб-

на да магілы, што тысячы год стаіць сярод пясчаных пустэчаў. Але на яе ўзлонні знаходзяцца зярняты «народнага духу». Цяпер гэты народны дух яшчэ не праяўляе жаднага жыцця, як тыя высахшыя зярняты. Але паэта верыць, што нарэшце настане час, калі гэты дух народны зварушыцца, прабудзіцца з гэтага летаргу да новага жыцця. І тут дае трэці і апошні абраз, які дапамагае нам прадставіць сабе тую моц, з якой рынецца наперад гэты разбуджаны дух беларускага народа:

А ўперад рынецца, маўляў крыніца,
Каторая магутна, гучна мкне,
Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца.

Гэтак выглядае даны санет з погляду яго ідэі і вобразнасці. Будова яго таксама дасканалая. Пяцімерны ямб праходзіць праз усе 14 радкоў. Тры рыфмы вызначаюцца сваім багаццем: *сіла – ўскаласіла*, *родны – народны*, *крыніца – прабіцца*; іншыя рыфмы гладкія і лёгкія, апрача адной, даволі ўбогай рыфмы *засне – мкне*. Ні адно слова ва ўсім санеце не мае паўтарэння. Ад усяго санета вее свежасцю і самавітасцю. Гэты санет, як казаў Буало, варты не менш, чымся доўгая паэма. А для беларусіна ён з’яўляецца цэлай эпапеяй.

На гэтым можна б было і закончыць наш кароткі і беглы нарыс. Аднак нам хочацца звярнуць увагу яшчэ на адну акалічнасць, якая ўжо з’яўляецца недахватам у паэзіі М. Багдановіча; маю тут на думцы русіцызмы і небеларускія звароты цэлых сказаў, якія спатыкаюцца ў яго вершах. Напрыклад, «снуюць хлапцы, суюшчыя рэкламы» («Вянок», стр. 52), або «срэдзь васенняй нахмуранай ночы» («Вянок», стр. 53), або наступная рыфма:

І ўмёрлі яны. Але тут як на смех
Паднялася сонца, цалуючы ўсіх.

Яна, безумоўна, напісана пад уплывам расейскага слова «всех», якое добра рыфмуе к слову «смех». Апрача гэтага, М. Багдановіч часта ўжывае дзеяслоўныя прыметы, якіх беларуская мова надта не любіць. Усё гэта з’яўляецца прыкрым дысанансам у паэзіі М. Багдановіча. Але тут ужо віна самога лёсу, які адарваў нашага песняра ад роднае глебы і прымусіў яго ўзгадавацца і жыць на чужыне, дзе не было магчымасці чуць жывога беларускага слова.

*5/6 – 1922*

*Аляксандр ВАЗНЯСЕНСКІ*

# ПАЭТЫКА МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

## I

Сярод пісьменнікаў крыўскай (беларускай) літаратуры М. Багдановіч займае адно з першых месц. Гэты варунак прымушае даследчыка вывучыць яго творчасць у першы чарод і перш за ўсё разгледзець асноўныя моманты яго паэтыкі. З твораў М. Багдановіча, якія акрэслююць галоўныя шляхі яго творчасці, з'яўляюцца тыповымі тыя лірычныя вершы, каторыя складаюць змест зборніка «Вянок» (Вільня, 1913 г.) і выяўляюць сабой нізкі вершаў: «У зачарованым царстве», «Згукі Бацькаўшчыны», «Старая Беларусь», «Места», «Думы», «Вольныя думы», «Старая Спадчына». Гэтыя вершы і будуць служыць нам аб'ектам нашага доследу.

Пры будаванні паэтыкі кожнага мастака ў першы чарод узнікае вельмі важнае метадалагічнае пытанне аб тым, як пачаць канструктаванне. У складзе паэтыкі намячаецца[1] кампазіцыя траякай адмены: фанетычная, стылістычная і сюжэтная, якая ва ўмоўнай адарванасці ўтварае асобныя элементы мастацкага твора, з якіх і паўстае мастацкі твор, але каторая (кампазіцыя) яшчэ не акрэсляе наперад самога працэсу будовы паэтычнага твора, а знача – і ходу доследу яго. Калі на першым месцы пастаўлена кампазіцыя фанетычная, на другім – стылістычная, а ўрэшце – сюжэтная, то гэта групоўка яшчэ не азначае, што і мастак у гэтым жа парадку будуе свой твор, г. зн., – спачатку аперуе матэрыялам фанетычнага парадку, потым – стылістычнага і, урэшце, – паасобнымі кампазіцыйнымі фармаваннямі.

Як можна бачыць з доследаў цэлага шэрагу сведчань паасобных пісьменнікаў, а такжа з іх чарнавых запісак, – творчасць мастака пачынаецца з тэмы апрацоўванага твора, яго матываў і сюжэтнага пабудавання.

[1] Падробна аб метадалагічных асновах паэтыкі і яе тлумачэнні гл. другую нашу работу (якая знаходзіцца ў друку): «Заданні беларускай гісторыка-літаратурнай навукі».

Элементы кампазіцыі фанетычнай і стылістычнай уваходзяць паступова, як матэрыял і прыклады ў склад тэматычных вытвараў, якія маюць у свой чарод свае акрэсленыя лагічныя формы. Гэты варунак да некаторай меры акрэсляе наперад і самы працэс будавання паэтыкі таго ці іншага мастака. Гэтак і пры разгляданні творчасці М. Багдановіча ў доследзе сцвярджаючага парадку мы павінны выходзіць ад сюжэтнай кампазіцыі і ў межах яе разглядаць праявы стылістычнай і фанетычнай кампазіцыі.

Агляд складных часцей сюжэтнай кампазіцыі, г. зн. – *тэм і матываў*, вымагае папярэдняга растлумачання вядомага разумення гэтых названняў. Выходзячы з шэрагу маючыхся ўжо на гэта поглядаў, паняцце *тэмы* можна акрэсліць як прасцейшую статычную адзінку сюжэтаскладу, якая выражае самы сэнс, ідэйны момант сюжэтнай кампазіцыі. Тэма, як і матыў, – толькі спосаб думання, лагічная адвалочнасць ад акрэсленых стылістычных і кампазіцыйных часцей твора. Тэма маецца і ў змесце тых часцей, з якіх складаецца матыў, а такжа – і з тых, што ствараюць сюжэт. Як будзе паказана ніжэй, матыў у яго прасцейшым выглядзе са стараны фармальнай прадстаўляе сабой *апавядальную* адзінку двухчэлеснага складу. Кожны з такіх чэлесаў матыву мае сваю тэму. У больш вузкім сэнсе тэмы могуць быць і славеснымі, г. зн., – могуць выражацца асобнымі словамі, з'яўляючыся вынікам гэтага, памочнікамі ўжо стылістычнага парадку. Побач з тэмамі славеснымі і матыўнымі могуць быць і сюжэтныя. Ужо акадэмік А. М. Весялоўскі, даючы формулу сюжэту, акрэсляў яго як «тэму, у каторай снуюцца розныя асновы матыву». У гэтым сэнсе тэмай можа быць і самы агаловак твора, як прыкладам, – «Магіла льва», «Новая зямля», «Раскіданае гняздо» і г. д.

З тэмай, як відаць ужо з папярэдняга, цесна звязана і паняцце матыву, якое акрэсляецца як «прасцейшая дынамічная адзінка, якая характарызуецца звычайна дзеясловам або яго эквівалентам». У гэтым выпадку матыў як праява дынамічнага характару складаецца з статычных велічынь – тэм і з'яўляецца момантам сэнсоўнага, ідэйнага парадку, які мае разам з гэтым і свае лагічныя формы. Злучнасць тэм і матываў складае фабулу, якая такім парадкам ужываецца для абазначання тэматычных элементаў сюжэту. Фабула зводзіцца да апісання падзей і з'яўляецца «толькі матэрыялам для сюжэтнага афармавання». Знача, сюжэт або «сюжэтная будова» складае кампазіцыйную старану твора, у якім сюжэт развіваецца пры помачы разнароднага камбінавання тэм і матываў.

У стасунку да лірычнай творчасці, якая з'яўляецца аб'ектам і нашага доследу, трэба яшчэ адзначыць некаторыя асобнасці ў разуменні паняццяў, падлягаючых нашаму разбору. У творчасці апавядальнай – эпічнай і драматычнай – кожны чэлес матыву мае нахіл да чэлесавання, прыцягваючы да сябе блізкія па змесце тэмы і матывы. У лірыцы ж мы маем матыў, першая часць якога аказваецца непарушнай і выяўляе сабой творчае «я» мастака,

які ператварае «кастырны асяродак у свет лірычных барвістых абразоў». Знача, кожны лірычны верш можа быць зведзены да схемы «я і свет», у каторай першая часць яе, як ужо адзначана, аказваецца нязменнай, а другая, дзякуючы паўтараемасці знешніх стасункаў, мае нахіл да чэлесавання.

Пераходзячы да канкрэтнага разглядання сюжэтнай кампазіцыі ў творчасці М. Багдановіча ў паказаных намі рамках, спынімся на першым пытанні, г. зн. – *тэмах* яго вершаў. З гэтай стараны творчасць мастака, узятая нават няпоўна, кажа аб вялікай разнароднасці тэматычных пытанняў, закранутых М. Багдановічам, а знача – і аб яго шырокім умысловым кругазоры, а такжа і аб многастароннасці яго творчасці. Падзяляючы гэтыя тэмы па зместу, мы атрымаем такія групы: 1) тэмы сацыяльныя, 2) бытавыя, 3) тэмы прыроды, 4) псіхалагічныя, 5) філасафічныя, 6) літаратурныя. Кожная з гэтых груп мае свае пададдзелы, якія датычаць розных рэчаў, уваходзячых у круг паказаных агульных паняццяў.

Тэмы першага раду не чысленныя, аднак яны адзначаюць найбольш істотныя моманты ў сацыяльных стасунках крыўскага (беларускага) народа. Сюды адносяцца тэмы: 1) аб «духу народу» і яго ўласцівасцях («Кінь вечны плач свой аб старонцы...», 65, «Не блішчыць у час змяркання...», 70; «Санет», 92); 2) тэмы народнага гора і нядолі («Краю мой родны! Як выкляты Богам», 62; «Зразаюць галіны таполі...», 66); 3) тэма аб крыўскай (беларускай) работніцы, вырванай з яе роднага асяродку («Слуцкія ткачыхі», 45); 4) далей, тэма смерці дзвюх сацыяльна розных асоб («Дзве смерці», 57); 5) урэшце, – покліч паэты да сацыяльнага змагання за вызваленне («Ўстань, навальніца...», 69).

Больш абшырны круг складаюць тэмы бытавога характару, якія часам блізка сутыкаюцца з папярэднімі тэмамі. Сярод іх рэзка выдзяляюцца тэмы, якія рысуюць з адной стараны вёску, а з другой – горад. Тэмы другой катэгорыі ў значнай меры пераважаюць у параўнанні з першым радам. Да тэм вясковага жыцця адносяцца: 1) нягоды беднага селяніна на яго ніве («Па ляду, у глухім бары», 49); 2) забабонныя погляды народу («Безнадзейнасць», 46; «Ціхі вечар, знікнула спякота...», 47); 3) акружэнне смерці селяніна («Ян і маці», 38).

Тэмы горада абыймаюць сабою цэлую серыю вершаў, якія аб'ядноўваюцца назовам «Места». Да гэтых належаць: горад Вільня вечарам («Вулкі Вільні…», 5; «У Вільні», 52); горад наогул (без назвы) вечарам («За дахамі места…», 53); ноччу («На глухіх вулках – ноч глухая…», 54); горад у спёку («Ад спёкі пышуць дахі і асфальт…», 57).

Трэці рад тэм самы значны; гэта – тэмы прыроды. Яны пануюць у творчасці М. Багдановіча і ў гэтай часці яго паэтыкі пераважаюць. Тэмы прыроды абыймаюць самыя разнародныя праявы акружаючага нас свету. Паэта некалькі разоў затрымліваецца на тэмах блакітнага неба («Падымі

угару сваё вока…», 31); і яго розных прыналежнасцяў: зор («Упалі з грудзей Пана Бога…», 61; «Грамада зорак Карона», 99); месяца («Самнамбул», 23); навальнічных хмар («У небе ля хмары грымотнай…», 15); дажджу («Плакала лета, зямлю пакідаючы…», 24; «Напілося сонца са крыніц сцюдзёных…», 71); буры, ветру, мяцеліцы («Бура», 14; «Ноч. Газніца гарыць, чырванее…», 27; «Завіруха», 55; «Непагодаю маёвай», 91). Сюды ж прыткаюць і такія тэмы, якія рысуюць розны стан гэтага неба ў часы дня і года: вечар («Цёплы вечар, ціхі вецер…», 18; «Вечар на захадзе ў попеле тушыць…», 22; «Вечар» 40); ноч («Блішчыць у небе зор пасеў…», 18; «Добрай ночы, зара-заранiца…», 20; «Ціха па мяккай траве…», 21); зіма («Зімовая дарога», 28; «Зімой», 29); вясна («Перад паводкай», 30; «Па-над белым пухам вішняў…», 32).

Есць у паэты тэмы, звязаныя з блізкаю, акружаючаю нас прыродаю, гэта – з «прыродаю зямлі», гэтак – тэмы возера («Возера», 10; «Над возерам», 11; «Возера», 16); лесавіка («Чуеш гул?..», 9); вадзяніка («Вадзянік», 12); аб змеях («Змяіны цар», 13).

Да тэм псіхалагічных, якія выражаюць духовае «я» мастака, належаць розныя варыяцыі аднаго пануючага пачуцця паэты – яго тугі; гэта тэма часцей другіх затрымлівае на сабе мастацкую ўвагу М. Багдановіча («Сумна мне…», 36; «Не кувай ты, шэрая зязюля…», 37; «Сэрца ные…», 39; «Ой, чаму я стаў паэтам…», 72; «Была калісь пара…», 87; «З Крымскага», 100). Мерай тугі і безнадзейнасці прасычаны і тэмы аб такім светлым пачуцці, як любоў («Раманс», 33; «Уся ў слязах дзяўчына…», 35).

Пытанні філасафічнага характару абыймаюць тэмы: 1) аб пачатку жыцця і яго сэнсе («Прывет табе, жыццё на волі!..», 17; «С. Е. Палуяну», 59; «Жывеш не вечна, чалавек…», 76; «Санет», 93), і аб нікчэмнасці яго («Сеў хлопчык з шкляначкай…», 96); аб шляхах яго («Досі ўжо працы…», 34; «Шмат у нашым жыцці ёсць дарог…», 89; «З Чарняўскага», 10); аб раўнадушшы і нават жорсткасці прыроды («Свяча бліскуча ззяе…», 80; «Мы доўга плылі ў бурным моры», 86; «Астры», 103); аб змаганні за жыццё («Рушымся, брацця», 67; «Нашых дзедаў душылі абшары лясоў…», 68).

Урэшце, – тэмы літаратурнай свомасці, якія датычуць мастака, яго твораў, мовы паэзіі; 1) нараджэнне мастацкага твору («Калі ў ракавіну…», 79; «Трыялет», 94; «Як птушка…»); полымя натхнення, агонь паэзіі («Каганцу», 60; «Халоднай ноччу я ў шырокім, цёмным полі…», 64; «З Олеся», 102), аб свомасцях і формах паэзіі («Бледны, хілы, ўсё ж люблю я твой і мудры і кіпучы верш…», 75; «Дзе вы, лясоў, палёў цвяты?..» 78; «Песняру», 81; «Тэрцыны», 98; «Ёсць чары ў забытым…»; аб мове паэзіі («Мудрай прамовы…», 77); аб долі паэты, аднолькавай са ўсімі людзьмі («Даўно ўжо целам я хварэю…», 73).

Сярод разгляданых тэматычных груп дамінуючае палажэнне займаюць тэмы прыроды, затым ідуць, у парадку іх лічбавай перавагі ў твор-

часці М. Багдановіча, – бытавыя, сацыяльныя, літаратурныя, псіхалагічныя, філасафічныя.

Паказаныя катэгорыі тэм складаюць тыя асноўныя пытанні, пры помачы якіх пісьменнік выражае свой стасунак да акружаючага яго свету. Такім парадкам, тасоўна да наступаючага моманту той жа сюжэтнай кампазіцыі – матываў, асабістае «я» мастака складае першую часць іх, нязменную і непарушную, а ўсе тэмы, толькі што пералічаныя, – іх другую часць, якая распадаецца на цэлы рад больш дробных «гатунковых» тэм, аб'яднаных, аднак, адпаведнымі агульнымі азнакамі ў іх радавым паняцці.

Цяпер на чародзе – разгляданне *матываў* у творчасці М. Багдановіча, спачатку – іх *сацыяльнай* свомасці. Першым матывам гэтага роду з'яўляецца сам народ у яго духовай істоце, якая напару знаходзіцца ў сонным стане, але, з пункту погляду аўтара, аказуецца непагаснай, несмяротнай. Дух народу прачнецца як толькі ўзойдзе сонца – сімвал вышэйшага духатворчага захаплення:

…Сонца гляне,
Усіх падыме ада сна,
Ён, гэты дзень, яшчэ настане, –
І «ачуняе старана»! *(65).*

Тое ж і ў другім вершы:

…Як устане сонца, ўраз прачнецца дух народны
І засвеціць ясна! *(70)*[2].

Сам аўтар – гэта ўжо першая часць матыву – нязменна верыць у гэтае адраджэнне народу:

Зварушаны нарэшце дух народны,
Я верую, бясплодна не засне. *(92)*,

або:

… гэты дзень яшчэ настане, –
І «ачуняе старана»!
Я пад яе зімовай маскай –
Пад снегам – бачу твар вясны,
І вее верш мой дзіўнай казкай
І ясны ён, як зорак сны *(65).*

Але цяпер народ жыве ў глыбокім горы і цяжкай нядолі, каторая, як мора, залівае ўсё яго жыццё, таўро тугі і нядолі ляжыць на ўсіх рэчах і праявах акружаючых яго варункаў; сама прырода змушае народ да мук і цяжкай працы:

---

[2] Тое ж і ў вершы “Санет”, 92.

Краю мой родны! Як выкляты Богам –
Столькі ты зносіш нядолі.
Хмары, балоты… Над збожжам убогім
Вецер гуляе на волі.

Поруч раскідаліс родныя вёскі.
Жалем сціскаюцца грудзі! –
Бедныя хаткі, таполі, бярозкі,
Ўсюды панурыя людзі…

Шмат што зрабілі іх чорныя рукі,
Вынеслі моцныя спіны;
Шмат іх прымусілі выцерпець мукі
Пушчы, разлогі, нізіны…

. . . . . . . . . . . . . . . . .
Сціснула гора дыханне ў народзе,
Гора усюды пануе.
Хваляй шырокай разлілась, як мора,
Родны наш край затапіла… *(62-63).*

Бачучы гэтае цяжкае гора свайго народу, сам мастак спакволчыва і балюча адчувае яго:

«Жалем сціскаюцца грудзі!» – гавора паэта, кідаючы свой погляд на родныя вёскі;

або:

Кінь толькі вокам да гэтага люду –
сціснецца сэрца ад болю:
Столькі пабачыш ты гора усюды,
столькі нуды без патолі *(62).*

Гора так вялікае, яно так шырока абхоплюе народ, што паэта повен трывогі і сумневу:

Брацця! Ці зможам грамадскае гора?!
Брацця! Ці хваце нам сілы?! *(63).*

або ў другім месцы:

Таварышы – брацця! Калі наша родзіна-маць
Ў змаганні з нядоляй патраціць апошнія сілы, –
Ці хваце нам духу ў час гэты жыццё ей аддаць,
Без скаргі палеч у магілы?! *(66).*

Штучна і сілком адарваныя «ад родных ніў, ад роднай хаты» і ўзятыя на «панскі двор», каб «на лад персідскі» ткаць «залатыя паясы», прадстаўніцы абяздоленага народу – «слуцкія ткачыхі», аднак, не могуць зрадніцца з новым жыццём; яны моцна знітаваны з абшарам родных палёў і глыбока адчуваюць прыгажство сваей вясковай прыроды. У крозах аб родных месцах

…тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж персідскага узора,
Цвяток радзімы васілька *(45).*

Гэтымі словамі паэта падкрэсляе і сваё адношанне да персанажаў свайго верша; ён процістаўляе іх памешчыцкаму стану і фігуральна пратэстуе супраць прымусовага абяртання працоўных сялян у рабочых фабрычна-заводскага тыпу. Слуцкія ткачыхі надта цесна звязаны з прыродаю сваіх родных месцаў.

Нядоля і гора праследуць народ да самай смерці, якая пры сваім, здавалася б, раўнапраўным адношанні да людзей, прымае, аднак, неаднолькавыя формы ў стасунку да патрыцыя, прадстаўніка арыстакратычнай класы; і да жанчыны з больш нізкіх слаёў грамадзянства – з Мяшчанскай вул. № 17. Смерць першага наступае ў варунках вяселля, музыкі і перарафінаванай культуры:

Калі патрыцый смерць з прыветам спатыкаў,
Прабіўшы жылы на руках,
Дрыжэлі спевы флейт, дзень ясны дагараў,
А праз вакно струёю вецер павяваў
І… мігдаловы горкі пах.

Смерць абяздоленай сучаснай гарадской дзяўчыны – зусім іншага парадку:

Ты, грозны жэрабій, учора ўзяты зноў:
На строга сціснутых губах
Не мгліцца люстра гладзь; застыгла ў жылах кроў;
Скрозь вее цяжкі дым ад спаленых лістоў
І… мігдаловы горкі пах.

Адзінае збаўленне ад зла жыцця – гэта паўстанне супраць яго, якое толькі адно можа прынесці «перлаў горы»; і гэту думку паэта сімвалічна развівае такім чынам:

Ўстань, навальніца, мкні нанова,
Ўзвый, вецер, з ёю заадно!
У віхры уляціць палова,
Пакіне чыстае зярно.

Удар, цыклон, удар на мора,
Цалуй яго ў глухое дно,
Ўсплясні ваду – і перлаў горы
на бераг выкіне яно *(69)*.

Мы ўстанавілі сацыяльныя матывы ў вершах М. Багдановіча. Мы адзначылі, з адной стараны, тэматычны змест тых унутраных настрояў, якія носіць у сваім «я» сам мастак; гэтым самым мы акрэслілі і ідэйны склад першай часці матываў гэтага роду. З другой стараны, пералічыўшы разнародныя праявы сацыяльнага жыцця, выабражаныя паэтам, мы адзначылі змест і другіх часцей гэтых матываў. Мы ўстанавілі такжа і ўзаемны стасунак між гэтымі часцямі матыву, акрэслілі тое, што ў ім з'яўляецца момантам дынамічнага характару, тое, што адзначае рух між часцямі матыва. Мы бачылі, што ва ўсіх здарэннях асабістыя перажыванні мастака паралельны тым настроям, якімі забарвлены розныя праявы выабражанага сацыяльнага асяродку, і з'яўляюцца адбіццём цяжкіх і сумных настрояў. Такім чынам, у гэтым здарэнні матывы яго творчасці абаперты на ідэйным паралелізме іх складовых часцей.

Далей – у парадку выкладу – матывы *жыццёвага* характару; з іх спачатку спынімся на нязначнай групе матываў вясковага жыцця; сярод іх – стары матыў аб тых жа нягодах вяскоўца, але ўжо прымацаванага да акрэсленых жыццёвых варункаў; глухія лясы «Старой Беларусі» з іх многімі звярамі аказуюцца прычынай непамыснасцяў на нівах селяніна; старац у палатнянай світцы ідзе па палёх і з зацікаўленнем разглядае свае засевы:

«А каб ты здох! Бач, па расе
Хтось трапіў к збожжу ад крыніцы;
Ды вось і вузкі след капытца:
Алені тут былі ў аўсе»…
. . . . . . . . . . . . . . . . .
«Звядуць, звядуць людзей бары»… *(49)*,

– заўважае той жа селянін.

Забіты непераможным горам і цяжкай нядоляй, пазбаўлены святла культуры, ён перапоўнены забабоннымі поглядамі на жыццё, ён не знае заваяванняў цывілізацыі: ён залечвае сваю тугу ў старога знахара («Ціхі вечар, знікнула спякота…», 47), а свае фізічныя недамаганні ў «доктара лекарскіх навук» Скарыны, які ўдатна адтварае тып сярэднявечнага доктара-астролага; ён

У доўгай вопратцы на вежы сочыць зоры *(46)*.

І жыццё хлапца Яна, пазбаўленае культурнай помачы, дагарае, як свечка, паступова і няўхільна:

Свечка свеціць, свечка ззяе, свечка дагарае.
І ў панурай, цеснай хаце хлопец памірае.
Ой, не век жа свечцы тонкай зіхацець, гарэці, –
Дагарыць яна і знікне, як і ўсё на свеце… *(38).*

Паэта сам усёй душой прымае ўдзел у гэтым панурым моманце, глыбока смуціцца і, імкнучыся хоць як-колечы аблягчыць мукі паміраючага Яна і гора яго маці, кажа:

Ты стамілася, змарнела, слёз праліла рэчку.
Што ж, пастаў прад абразамі, запаліўшы, свечку:
Мо паможа Яну гэты свет і пацер словы… *(38).*

Другую групу тых жа жыццёвых матываў складаюць матывы горада, якія раскрываюцца мастаком у зусім іншых колерах. Калі матывы папярэдніх груп выбражаюцца панурым рэцытацыйным тэмпам, то цяпер пяро мастака, які рысуе рух і сталоку горада, аказуецца больш нервовым, скочным. Ужо ў «уступе» ён падкрэсляе адмену тэматычнай стараны гарадскіх матываў, іх шпаркасць і імклівасць:

Звярнуў калісь Пегас на вулкі
З прывольных, палявых дарог, –
І пракаціўся топат гулкі,
І іскры сыпнулі з-пад ног *(50).*

Гэтая дынаміка гарадскога жыцця з'яўляецца прычынай таго, што і вершы паэты бягуць шпарка, а не ідуць маруднай ступой, як гэта было ў папярэдніх строфах:

Пачую я тэй іскры жала, –
І верш аб месце з сэрца мкне *(50).*

Горад у творчасці М. Багдановіча аднастайны; ён рухлівы, сутарлівы, палыскуючы:

Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць!
Вір людскі скрозь заліў паясы тратуараў,
Блішчаць вокны, ліхтарні ўгары зіхацяць,
Коні мчацца, трамваі трывожна звіняць…
І гарацъ аганьком вочы змучаных твараў! *(51).*

або:

Ліхтарняў свет у сіняй вышыне…
Вітрынамі зіяючыя крамы,

Кавярні, мора вывесак, як плямы,
Анонсы і плакаты на сцяне.
Кіпіць натоўп на жорсткім вулак дне!
Снуюць хлапцы, суюшчыя рэкламы…
Разносчыкі крычаць ля кожнай брамы…
Грук, гоман, гул, – усё ракой імкне *(52)*,

толькі на гарадскіх слабодах у цесных і крывых завулках урачысты спакой:

Ціша тут. Маўчаліва усталі – і сняць
Ў небе купалы, брамы, байніцы і шпіцы;
Грук хады адзінокай здалёку чуваць,
Часам мерныя ўдары звана задрыжаць
І замоўкнуць, памкнуўшы ад старай званіцы *(51)*.

Мяняе свой выгляд горад у час спёкі, якая спыняе энергію яго руху і сутарлівасці, але і на гэты раз захоўваюцца некаторыя азнакі дынамізму:

Ад спёкі пышуць дахі і асфальт,
На вулцы ўецца пыл і грукаціць фурманка;
«Каробушку» пяе дзіцячы альт,
І надрываецца абрыдлая шарманка *(57)*.

Далей, у глухую ноч горад такжа не траціць звычайных азнак свайго руху; толькі на гэты раз – іншы суб’ект руху: замест людскога патоку – буйныя сілы прыроды; у такую ноч

…места, дзе няма прастора
Дзеля прыроды буйных сіл,
Прабіла сцежку мору гора
Палёў, лясоў, капцоў, магіл.
Палёў, дзе круціць завіруха,
Ўзрываючы халодны снег,
Палёў, дзе ўсё бушуе глуха,
Дзе чутны разам стогн і смех! *(54)*.

Матывы горада навяваюць на паэту настроі, якія дысануюць з агульнай эмацыянальнай барвай яго вершаў на гэтыя тэмы. Або абраз горада наводзіць яго на ўспаміны аб даўно мінуўшых часах:

Ўспамяні, маё сэрца, даўнейшыя дні!
Па загаду бурмістра усе, як належа,
Зачынілі ўжо вокны; загасілі агні…
Варта вулкай прайшла… І не спім мы адны –
Я ды чорны кажан, што шнуруе ля вежы *(51)*.

Ці ізноў туга аб няспоўненых высокіх імкненнях-крозах:

І ўспомініў я час: срэдзь асенняй нахмуранай ночы
Музыка зайграла, агні ў вышыне запалалі,
І дыхалі грудзі шырока, свяціліся вочы…
Мы к светлу ўзляцелі… і шкло ўкруг яго напаткалі *(53)*.

Або, урэшце, горад гняце мастака; дынамізм горада морыць хворага паэту:

І вось той гул мне ў душу ўліўся.
Гудзі, гудзі, дрыжачы дрот!
Ўвесь бледны, млосны прыхіліўся
Я ля ліхтарні да варот (54).

Або ў другім месцы:

Хаця бы крышку часу адпачыць!
Мо на бульвар пайсці, сесць на далёкай лаўцы,
Здрамнуць, газету свежую купіць
І прачытаць усё да імені выдаўцы? (57)

Такім чынам, лагічная форма матываў бытавога характару, у параўнанні з першым радам іх, іншага зместу. Там матывы апіраліся на ўнутраным ідэйным паралелізме. Тут, у другім радзе, тую ж форму паралелізму мае толькі першая група матываў, якія выабражаюць быт беларускай вёскі. Матывы ж горада, як відаць з папярэдняга, пабудаваны на падставе ўнутранага кантрасту, каторы ў часці, датыкаючай асабістага «я» мастака, прымае рознаякі змест.

Наступную групу складаюць матывы *прыроды*. Як ужо адзначалася, гэтыя матывы выражаны ў паэты многімі прыкладамі. Яны былі асабліва блізкі мастацкай інтуіцыі паэты; настроі прыроды так цесна пераплataліся з перажываннямі самога мастака, што часам трудна адкрэсліць і адлучыць адны ад другіх. У іх ён знаходзіць адзіную крыніцу ўцехі і духовага спакою. З гэтай стараны асабліва характэрны яго верш «Падымі угару сваё вока» (31), які можа служыць уступам да яго твораў гэтага роду:

Падымі угару сваё вока,
І ты будзеш ізноў, як дзіця,
І адыйдуць-адплынуць далёка
Ўсе трывогі зямнога жыцця.
Ціха тучу блакіт закалыша,
У душы адрасце пара крыл, –
Узляціць яна ў сінюю вышу
І ў струях яе змые свой пыл.

Там не трэба ні шчасця, ні ласкі,
Там няма ні нуды, ні клапот,
Ты – царэвіч цудоўнае казкі,
Гэта хмара – дыван-самалёт! (31).

Паэта датыкае і паасобных часцей нябеснага блакіту. Ён гаворыць аб зорах; яго асабліва прыцягае момант іх паяўлення на небе, калі яны быццам рассяваюцца па нябесным абшары:

Яны раскаціліся ў небе,
Усыпалі сіні прастор… (61)

або:

Ў светлым паветры яна пралятае; агнямі малымі
Робяцца ў ёй на ляту ўсе каменні каштоўныя… (99).

Месік, як і ў народнай творчасці, аказуецца ў выабражэнні паэты крыніцай няшчасцяў чалавека; ён вядзе чалавека прыгожым бліскучым шляхам, які пракладае сваім посветам цераз раку:

І пайшоў ён па шляху, пайшоў аж да дна:
Агарнула яго цішыня, глыбіня (23).

У такой праяве прыроды, як дождж, паэту цікавіць такжа момант яго запачаткавання:

Напілося сонца са крыніц сцюдзёных,
Усцягнула ў вышу з іх ваду, як пар;
І, ўзляцеўшы шпарка па праменнях тонкіх,
Пар зрабіўся слічнай чарадою хмар (71).

Ён рысуе і сам дождж, выабражаючы яго як зварот яго на лона свае маці-ракі, адкуль ён падняўся ў форме імглы;

Загрымелі ў хмарах гулка прывітанні
І далёка буйны вецер іх разнёс.
Рынуліся хмары да ракі радзімай
І зліліся з ёю ліўнем кропель-слёз (71).

Або ён выабражае дождж як сустрэчу дзвюх хмар:

Дробным дажджом над зямлёй, як слязамі, адна праліласяя;
Гулкім раскатам грымотаў другая ў адказ азвалася.
І паасобку загінулі хмары бяздольныя тыя,
Чуючы ў небе, як вецер над смерцю іх радасна вые (15).

Або дажджавая хмара для паэты – «панурая вялізная жывёла», з якой пры гуках грому і бляску свігавіцы, згодна з паэтычнымі перажыткамі народу:

…ўніз халодныя бічы крыві сцякаюць,
А людзі кажуць: гэта дождж праліўся (14).

Дождж у вачах паэты з'яўляецца дабрачыннай праявай прыроды; з слёз яго нават восеньскіх, як гэта прыгожа малюе мастак, вырастаюць кветкі – праўда, недаўгавечныя, але асабліва мілыя для знябытkаванай душы:

Плакала лета, зямлю пакідаючы;
Ціха ліліся слязінкі на поле.
Але прыгожаю восенню яснаю
Там, дзе упалі яны, выраслі
Кветкі асеннія, кветкі, ўспаённыя
Тугаю, горам, слязінкамі лета.
Кветкі асеннія, родныя, бледныя!
Выраслі вы, каб ураз жа і згінуць.
Можа, таму-та душа надарваная
Гэтак любоўна вянок з вас сплятае (24).

Нават у гуках «пяючай» мяцеліцы, якую ён так уяўна рысуе ў выглядзе хмельнага, п'янага віна («Завіруха», 55), і якая з'яўляецца тым жа даждэжом, але толькі ў зімовую пару, – паэта хоча бачыць сімвал звольнення прыроды ад цяжкіх зімовых аковаў:

За сцяной запявае завея,
Сумна бомамі ў полі звініць.
З краю ў край яе гул аддаецца,
І чагось усё думаю я,
Што з няволі зімовай там рвецца
Крэпка скутая снегам зямля:
Грудзі моцныя цяжка ўздымае,
Ветрам вее, як дыхаць пачне,
Снег халодны ў палёх калыхае,
І вось-вось свае путы страхне (27).

Пара дня і года дае змест групе вершаў М. Багдановіча. Больш за ўсё яму блізкі і мілы вечар. Ен малюе гэту пару содняў блізка заўсёды аднымі і тымі ж барвамі; варыянты не значныя: звычайныя прыналежнасці вечара –«бледны рог луны» (19); або «маладзік бледна-сіні» (22); або прос-

та – «месяц круглы» (40); «расквітанне зор» (19); або «зорак сняжынкі маркотна» (22); «цішына» (19); «ціха ўсё» (22); «шэрая раса на руні пасеваў» (22); «блізкі сэрцу, мілы палёт маёвага жука» (40), родная крыўская (беларуская) песня аб няшчасным каханні, якая разлягаецца на палёх і гучна адклікаецца ў лесе (40).

Вечар з'яўляецца для паэты крыніцай пачуцця надзвычайнай інтымнай блізасці яго да прыроды; вечарам ён забываецца аб горкай жыццёвай долі:

Кіньма жа думкі аб долі гаротнай,
Хоць бы на момант спачынем душой! (22).

Вечарам паэта зліваецца з прыродай:

Заварожаны вячэрняй цішынёй,
Я не цямлю, дзе рука, дзе галава;
Бачу я, з прыродай зліўшыся душой,
Як дрыжаць ад ветру зоркі нада мной,
Чую ў цішы, як расце трава (19).

Праўда, гукі вячэрняй песні аб безузаемнай любові навяваюць цяжкія думкі:

І снуюцца сумна ў сэрцы,
Ўюцца адгалоскі
Горкай песні, простай песні
Беларускай вёскі… (40).

Але гэта песня – яна ж прыпадковы, часовы атрыбут вечара; гэта часць дня ў яе звычайных і тыповых барвах адхіляе паэту ад горкага жыцця і разлівае яго ў прыродзе.

Вечар незаўважна пераходзіць у ноч. Паэта малюе яе таксама ў аднаякіх рысах: разнаякасць іх невялікая. Складовыя часці такія: імгла «чорнай рызай усё пакрывае» (20), або цемрыва (18), або рэдкі празрысты хомар, які сцелецца, як сiняваты цім'янны дым з кадзіла (21); «пасеў» зор (18) або «пыл» зор на небасхіле (20), або «зорак дрыжачых вянкі» (21); скірчэнне конікаў (18, 21); белы месік (18), лятучая мыш (18), ледзь шалесцячы ветрык і ціха джурчачая крынічка (20), поблеск цёмнай люстранай ракі, выпаўшая раса, «пацеркі мілых жоўта-чырвоных агнёў» (21) і інш.

Ноч, у параўнанні з вечарам, змушае паэту перажываць іншыя настроі; у гэты час мастак сумуе аб бескарысна пражытым часе:

Час, калі трэба журыцца
Душою на свежых магілах
Пуста пранёсшыхся днёў (21).

Наадварот, пачуццё фізічнай крэзвасці паэта адчувае а той жа пары дня вечарам і ноччу, але ўжо ўзімку. Ен выабражае гэтыя часці дня ў тых жа, знаёмых нам, барвах: тут ізноў «маркотныя месяца рожкі» (28), або «вільготны месяц» (23); дрыжачыя ад холаду зоры (23); бліскучасць серабрыстай дарожкі (28) і г. д.

Пачуццё жыццёвай сілы, якое перажывае мастак, ясна выяўляецца ў прывітальнай задорнасці першых радкоў

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі снег! (29)

і прабіваецца ў прыспешаным рытме яго даканчальных радкоў у тым жа вершы:

Узрывайце ж іх санямі, коні!
Звіні, вясёлых бомаў медзь!
Вакол лятуць бары і гоні,
Ў грудзях пачала кроў кіпець (29).

Тое ж і ў яго «Зімовай дарозе» (28).

Вясна, толькі што замяніўшая зіму, выабражаецца са стараны яе рухаў:

І пад птушы крык і гоман,
Даўшы хвалям вольны ход,
Прыпадыме бацька-Нёман
На хрыбце магутным лёд.
Зазвіняць жалобна крыгі,
І бурлівая вада
Снег, размоклы ў час адлігі,
Змые з луга без сляда (30).

Паэта чакае, што вясновы разліў Нёмана амые і яго душу:

Дык разлійся жа раздольна,
Ў чыстым полі і гаю,
І красой паводкі вольнай
Душу выпрастай маю! (30).

У абразе позняй вясны М. Багдановіч заўважае ўжо больш кволкія, ледзь дабачныя і мала відочныя рысы яе: увагу яго прыцягае ледзь пачовісты лёт сінякрылага матыля над «белым пухам» красуючых вішняў; паэта прыслухваецца да ціхага і яснага гімну вясны, які

Ці не сэрца напявае,
Навявае яго мне?

Ці не вецер гэта звонкі
Ў тонкіх зёлках шапаціць?
Або мо сухі, высокі
Ля ракі чарот шуміць?
Ды ніхто не зразумее музыкі гэтай песні:
Але хто яе пачуе?
Можа, толькі сам паэт (32),

каторы адзін толькі, як гэта відаць з папярэдняга, інтымна зліваецца з прыродаю і ўлаўлівае кволкія і скрытыя тайны яе.

З матываў больш блізкай нам прыроды што да адлегласці, паэту цікавіць возера і «дзікая» рака з іх баечнымі міфічнымі жыхарамі: вадзянікамі, лесавікамі, русалкамі і інш.; не дарма і ўся серыя вершаў на гэтыя матывы называецца «У зачарованым царстве». Фантастыка ў іх пераплятаецца з жывымі рэальнымі абразамі прыроды.

Быў час, калі лесавік жыў у бары; ігра яго чулася ў звоне тонкіх і высокіх хвой; да іх прыслухваліся ўціхшая рака, спакойныя каласы палёў і г. д. («Чуеш гул?.. », 9).

Але цяпер, калі старыя лясы ўжо высечаны, лесавік знік; асталося толькі яго люстэрка-возера, якое адбівае ў сваей цёмнай глыбежы «ўсё, што згінула даўно» («Возера», 10).

Пабрацім лесавіка – вадзянік цяпер спіць у ціне на дне ракі:

Твар травой аблутана, быццам павуцінай,
Засыпаюць грудзі мне жоўтыя пяскі (12).

Усё «зачарованае царства» ўжо знікла, але, як і раней,

…хістаецца асока,
і шуміць высокі бор,
А ў душы не замаўкае,
Струн вясёлых перабор
*(«Возера»16, таксама «Вадзянік», 12).*

Знікаючая казка прыроды не выклікае шкадавання паэты, ён, як і раней, у канкрэтных праявах яе знаходзіць сабе светлыя настроі.

Як відаць з папярэдняга, тасунак паміж мастаком і прыродаю апіраецца на глыбокім унутраным паралелізме, які асабліва ярка вызначаецца пры выабражанні светлых і спакойных старон прыроды. Рысуючы якраз гэткія праявы яе, паэта перажывае такія ж светлыя і радасныя настроі, валвуючыя яго. У гэтых выпадках ідэйны паралелізм будуецца на аднастайным унутраным змесце. Той жа паралелізм маецца наўзвоч і тады, калі мастак рысуе грозныя і цёмныя праявы прыроды. Адпаведна гэтаму такі ж характар прымаюць і асабістыя перажыванні мастака: яны становяцца панурымі і часам

цяжкімі. Такім чынам, і на гэты раз злітнасць і паразуменне паміж паэтам і прыродай поўнае.

Матывы псіхалагічнай адмены, як гэта было заўважана, перш адзначаюцца аднастайным эмацыянальным настроем. Паэта выдзяляе паміж завілых праяў сваёй душы толькі пачуццё нуды, тугі і безнадзейнасці. Ён неаднакрот падкрэсляе гэты настрой:

Сумна мне, а ў сэрцы смутак ціха запявае (36),

або:

Сэрца ные, сэрца кроіцца ад болю (39),

такжа:

Ў душы гарыць агонь нуды, – пануры, чорны (87).

Тое ж і ў вершах «Не кувай ты, шэрая зязюля...» (37); «Ой, чаму я стаў паэтам...» (72); «З Крымскага» (100).

Рысуючы так упорчыва і часта гэты настрой, паэта адзначае і яго прычыны. Адна з іх метафізічнага характару:

Кажуць людзі, быццам, творачы мужчыну,
Бог зрасіў вадою высахшую гліну.
Але чорт падкраўся: выціснуўшы воду,
Падмяшаў ён слёзы ў нашую прыроду.
Нудзяць нас праз тое цягам смуткі, жалі… (100).

Другая прычына – фізічнае няўздолле самога паэты:

Грудзі ныюць, цела вяне (72),

або:

Грудзі хворыя мае;
Боль у іх мне душу агартае,
Думцы голас падае.
Кажа, што нядоўга пажыву я,
Што загіну без пары… (37).

Выхаду і ўцехі мастак шукае або ў прыродзе:

Сэрца ные, сэрца кроіцца ад болю, –
Ой, пайду я з цеснай хаты ў тое поле.
Ў чыстым полі вецер вее, павявае, –
Ты пакінь мяне, нуда мая нямая!
Я тады б у песні звонкай, салаўінай
Выліў тугу і на вецер буйны кінуў,
І развеяў бы яе ён па раздоллі,
Каб не ўбачыць мне ніколі ўжо нядолі (39),

або – у сваіх слёзах:

Ў душы гарыць агонь нуды, – пануры, чорны.
Ці мне крыніцай слёз сваіх яго заліць
І плугам цяжкага мучэння сэрца ўзрыць? (87).

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Выплакаць іх шчыра, голасна ці ціха,
Каб з слязамі разам вылілася ліха (100).

Ці ізноў любоў да бацькаўшчыны можа ўліць крэзвасць і сілу ў змучаную душу:

Паломаны жыццём, чакаючы магілы,
Радзімая зямля, прынікнуў я к табе,
І бодрасць ты ўліла ў слабеючыя жылы,
Зварушыла маёй душы драмаўшай сілы,
І месца ў ёй з тых пор няма ўжо больш жальбе (74).

Пачуццё тугі настолькі шырокае і ўсёахапляючае, што надае барву і другім вышэйшым эмоцыям у душы чалавека; каханне ў паэты выабражаецца ў лучнасці з слязьмі («Ўся ў слязах, дзяўчына...», 35) або затоенай у разлуцы нудзе:

Моцна кахаў я цябе, дарагая,
Але расстацца нам час.
Буду ў далёкім краю я нудзіцца,
Ў сэрцы любоў затаіўшы сваю… (33).

У матывах філасафічнага парадку паэта дакранаецца розных пытанняў. Ен гаворыць аб агульнай крыніцы ўсяго існуючага. Паводле паэты, усё паходзіць ад зямлі, вады і сонца. Гэта – тры крыніцы жыцця прыроды і яе хараства:

На цёмнай гладзі сонных луж балота,
За снег нябёснай вышыні бялей,
Кругом паўсталі чашачкі лілей
Між пачарнеўшых каранёў чарота,
Ўкруг плесня, бруд, – разводзіць гніль спякота,
А краскі ўсё ж не робяцца гразней
Хоць там плыве парою слізкі змей
І ржаўчына ляжыць, як пазалота.
Цяпер давольна топкае багно;
Гніль сотні год збіраючы, яно
Смуроднай жыжкаю узгадавала
Цвятоў расістых чыстую красу (93).

Сэнс чалавечага жыцця паэта бачыць, па-першае, у яго свабодзе і блізасці да простай бязвычурнай прыроды:

Прывет табе, жыццё на волі!
Над галавой – дубоў павець,
Віднеюць неба, горы, поле (17),

па-другое, – у цэльнасці, шыраце і яркасці яго:

Жыві і цэльнасці шукай,
Аб шыраце духоўнай дбай (76).
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Так свабодна, так ярка пражыць –
Лепшай долі няма на зямлі.
Ўсё кругом на мамент асвяціць
і пагаснуць у цёмнай імглі.
Ўсё знікае, праходзіць, як дым,
Светлы ж след будзе вечна жывым (59).

Дарогі жыцця спачатку, пры ўступленні людзей у яго, здаюцца для ўсіх аднолькавымі:

Мы ўсе пакляліся, маўляў жаніхі,
Да смерці ядынае меці каханне (101);

але потым яны разыходзяцца і прыводзяць да аднаго сумнага канца:

А як разышліся – пакінулі нас
Заходы і думкі высокія ўраз:
На іншыя сцежкі жыццё нас звяртае,
Па-своему кожны свой век пражывае,
У кожнага неба і сонца свае… (101).

Шмат у нашым жыцці ёсць дарог,
А вядуць яны ўсе да магілы (89).

Але жыццё, каторае прыводзіць усіх да магілы – у «край невядомы» (89), для ўсіх, паводле паэты, не мае разумнай тэлеалогіі, паасобныя праявы жыцця так створаны, што адны з іх аказваюцца прычынай пагібелі для другіх, і пагібелі напару жорсткай і неўнікнёнай. Вось матыль знаходзіць сваю смерць у полымі свечкі, імкнучыся да яе з цемры як да светлага і добрага мігака:

Свяча бліскучая зіяе,
Каб расступілася імгла;
Ў яе агню – краса жывая,
Яна прыгожа і святла.

Ўблізі матыль дрыжыць ад болю,
Прываблены з імглы агнём,
Ен рынуўся туды без волі
і смерць сваю спаткаў у ём.
Свяча гарыць. З яе ліецца
За кропляй кропля, як раса,
А матылёк ужо не б'ецца:
Табе ахвяра ён, краса! (80).

Або от астры, толькі што закрасаваўшыя; яны крозяць у надзеях-мроях сваіх сярод шэрай восені аб прыгожай вясне; але ў гэтых летуценнях іх забівае халодны восенны дождж:

У поўначы астры ў саду расцвілі,
Убраліся ў росы, вянкі заплялі
І сталі ружовага ранку чакаць,
Ў вясёлку калёраў жыццё убіраць.
І марылі астры ў цудоўнаму сне
Аб зёлках шаўкоўных, аб сонечным дне,
І казачны край падымаўся з іх сна,
Дзе кветы не вянуць, дзе вечна вясна…
Так марылі ў шэрую восень яны,
Так марылі астры і ждалі вясны.
А ранак спаткаў іх халодным дажджом,
І вецер стагнаў у саду за кустом.
І ўбачылі астры, што ўкруг іх – турма,
Убачылі астры, што жыць ім – дарма.
І ўмерлі яны. Але тут, як на смех,
Паднялася сонца, цалуючы ўсіх (103).

Ці, урэшце, карабель, які імчыцца да пажаданай зямлі; дарогу яму паказуюць зоры, якія прыводзяць яго ў цёмным моры да скалы, дзе ён і разбіваецца:

Прывет, жаданая зямля!
І бестрывожна бачаць зоры,
Як тонуць людзі з карабля (86).

Але зброі складаць не трэба. Жыццё цяжкое, часамі жорсткае, але, каб яго заваяваць і паняволіць сабе, – патрэбна змаганне. Паэта двойчы падкрэслюе абавязковасць, неўнікнёнасць гэтага змагання, адзначаючы гэтым і свой стасунак да гэтага жыцця:

Не хіліцца з бяды, не пужацца агня,
Бо мы толькі тады дачакаемся дня,
Калі нас не здалее змаганне злякаць (68).

Рушымся, брацця, хутчэй
Ў бой з жыццём, пакідаючы жах,
Крыкі пужлівых людзей
Не стрымаюць хай бітвы размах… (67).

У дзедзіне матываў апошніх двох радоў – псіхалагічнага і філасафічнага – іх складныя элементы, як паказуе іх тэматычны змест, аб'ядноўваюцца на аснове таго ж унутранага паралелізму, забарвленага ў кожным паасобным здарэнні адпаведнымі колерамі – светлымі або сумнымі. Толькі адна група матываў філасафічнага парадку, – а ўласне матывы аб бязмэтнасці прыроды, а часам і яе бессэнсоўнай жорсткасці, – пабудаваны на супрацьлеглых стасунках. Паэта, не гаворачы адкрыта, укладае скрыты пратэст супроць тых жорсткасцяў прыроды, якія не маюць мэтаадпаведнасці. Зрэшты, паэта і адкрыта заклінае да змагання з жыццём і яго няпраўдамі.

Сярод матываў *літаратурнага* зместу М. Багдановіч разглядае такія праблемы, якія з'яўляюцца ў агульным сваім складзе адным суцэльным замкнутым кругам. На першым месцы сярод гэтых пытанняў стаіць тэма аб тым, як зараджаецца мастацкі твор паэты. У яго прадстаўленні гэты момант рысуецца як мімалётны, хуткі, але выпадковы залёт у яго душу лёгкай думы або кавалачка грубага жыцця, у выніку чаго і з'яўляецца твор:

Як птушка ў гібкіх трасніках,
Стралою думка мільганула
І ўраз жа знікла, патанула,
Як птушка ў гібкіх трасніках.
Ды ўсё ж душа яе пачула
І ўжо пяе ў такіх славах:
«Як птушка ў гібкіх трасніках,
Стралою думка мільганула» (94).

Або ў другім месцы:

Калі ў дух мой западзе і заварушыцца
Там кавалак грубага жыцця, –
Ў жомчуг звернецца ён сілай пачуцця! (79).

Апошні адрывак заслугоўвае асаблівай увагі, бо ў ім паэта падкрэсляе глыбокую розніцу між рэальнай істотнасцю і паэтычнай, або інакш – эстэтычнай і знеэстэтычанай. Рэальнасць першага парадку расцэніваецца паэтам як «кавалак грубага жыцця», які, трапіўшы ў сферу чыннасці мастацкага пачуцця, ператвараецца ў перлы («жомчуг») – у рэальнасць эстэтычнага зместу.

Мастацкае натхненне паэты бесперастанку дзеіць у ім, але часамі яно пакрываецца лёдам яго душы, каб затым зноў хлынуць патокам вершаў:

Змоўк пясняр, затаіў свае шчырыя песні,
Ён іх болей ужо не пяе.
Але рвуцца яны, і калісь на прадвесні
Лёд халодны ў душы пад напорам іх трэсне,
І струёй лынуць вершы з яе (60).

Або яно хаваецца пад попелам нудных, тужлівых і шэрых дзён жыцця:

Хай чарада гадзін панурых, нудных, шэрых,
Як попел, на душу мне клалася ўвесь час,
Хаваючы сабой агонь гарачы веры, –
Хай не відаць яго… а ўсё ж ткі ён не згас! (64).

Але ў мінуты творчасці гэта імпрэсія мастака трымае яго ў напружаным стане і апаляе яго душу агнём:

Думка! Калі я цябе выліваю
Ў слова халоднае, ў песню сваю,
Гэткае ж пекла ў душы сваей маю.
Паліць яна мне душу ўсю маю (102).

Гаворачы аб формах паэтычных твораў і аб агульных іх мастацкіх свомасцях, паэта падкрэсляе два моманты: першае – канечнасць вырафінаванага, гнуткага, выкаванага верша:

Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба з цярпеннем.
Як ударыш ты ім, – ён, як звон, зазвініць,
Брызнуць іскры з халодных каменняў (81).

Дзеля гэтага ён так любіць мудры і кіпучы верш Анакрэона:

Бледны, хілы, ўсё ж люблю я
Твой і мудры і кіпучы верш, Анакрэон!
Ен у жылах кроў хвалюе,
Ў ім жыццё струёю плешча, вее хмелем ён.
Верш такі – як дар прыроды,
Вінаграднае, густое, цёмнае віно:
Дні ідуць, праходзяць годы, –
Але ўсё крапчэй, хмяльнее робіцца яно (75).

Дзеля гэтага ж імкнення да сільнага і вырафінаванага верша, паэта дае першаўвагу формам мінулай паэзіі;

Таму вярнуўся я к рандо, санетам,
І бліснуў ярка верш пануры мой:
Як месяц зіхаціць адбітым светам, –
Так вершы ззяюць даўняю красой! (98).

Роўным чынам і мова паэтыкі павінна абладаць адпаведнымі азнакамі:

Мудрай прамовы
Мёд залацісты,
Поўныя соты
Мне да спадобы;
Але не меней
Сэрцу панадны
Мёд сваім хмелем
Светлым і тонкім (77).

Але доля паэты, не глядзя на яго боскае прызванне, не глядзя на яго высокую гатунковасць у параўнанні да другіх людзей, аднолькава з доляй апошніх; ён такжа сыдзе ў магілу і знойдзе спакой у лоне роднай зямлі:

Даўно ўжо целам я хварэю,
І хвор душой, –
І толькі на цябе надзея,
Край родны мой!
У родным краю ёсць крыніца
Жывой вады.
Там толькі я змагу пазбыцца
Сваей нуды.
Калі ж у ім умру-загіну, –
Не жалюсь я!
Не будзеш цяжкая ты сыну
Свайму, зямля.
Там хоць у гліне, хоць у брудзе,
Там пад зямлёй,
Найдуць мае слабыя грудзі
Сабе пакой (73).

Разгляданне тэм і матываў, гэта знача, ідэйнай стараны твораў М. Багдановіча, у вядомых лагічных рамках прыводзіць даследчыка да наступных высноваў. Яны з'яўляюцца сюжэтнай кампазіцыяй у паэтыцы мастака, абымаюць сабой шырачэзны круг паасобных старон акружаючага жыцця. Як ужо адзначалася, ён закранае пытанні сацыяльныя, бытавыя, прыроды, псіхалагічныя, філасафічныя і літаратурныя. У межах кожнага з іх ён творыць розныя тэмы, якія ўходзяць у яго змест. Паўтарэнні тэм надта рэдкі. Больш часты яны ў матывах

прыроды і быту, дзе маюцца паўторныя тэмы горада, вечара, ночы, зімы, вясны, возера. Хоць і ў гэтых здарэннях ён часта рысуе кожную з блізкіх тэм з розных старон, такім спосабам надаючы ўсякай з іх індывідуальную адмену. З боку лагічнага зместу тэмы і матывы творчасці М. Багдановіча ў большасці сваёй носяць акрэслены характар. Яны датычаць зазвычай цяжкіх, цёмных, адоймных старон жыцця. З усіх яго матываў толькі нямногія закранаюць светлыя дадатныя праявы. Ласне, матывы прыроды з яе светлымі старонамі прабуджаюць адназгучныя настроі ў душы мастака. Тасунак самога аўтара да выабражаных праяў акружаючага яго свету, як было ўжо адзначана, дваякага гатунку; у большасці здарэнняў ён думае і адчувае ў поўнай гармоніі з тым эмацыянальным настроем, якім прасычаны яго творы, і ў гэтых здарэннях тасунак між двума чэлесамі матыву – паміж асобаю паэты і знешнім светам – пабудаваны на тэматычным паралелізме. Іншы раз, наадварот, яго настрой аказуецца супрацьлеглым таму, каторы ён укладае ў свае вершы, і тады гэты тасунак часцяў матыву апіраецца на антытэзе. Гаворачы аб асабістых перажываннях паэты, трэба ўспомніць, што ён не заўсёды выражае іх у адкрытай форме, чарадуючы выабражанне іх з абрысоўкай адпаведных тэм з знешняга свету. Часта ён не высказуецца проста, а ўкладае свой светагляд у тыя барвы сваіх паэтычных абразоў, каторыя ясна адбіваюць асобу паэты і яго настроі. І яшчэ адна рыса мімавольна кідаецца ў вочы. Па характару зместу матывы ў творчасці М. Багдановіча маюць у сабе матэрыял падвойнай якасці: з адной стараны – рэальны, канкрэтны, пластычны (матывы сацыяльныя, бытавыя, прыроды), а з другой – эмацыянальны, псіхалагічны, адвалочны (матывы псіхалагічныя, філасафічныя, літаратурныя). Гэта змушае бачыць у яго творчасці дзве стыхіі: адна пераважаючая – стыхія канкрэтнага, а другая меншага спамеру – стыхія духовага свету.

## II

Асобнасці тэматычнай стараны твораў М. Багдановіча акрэсляюць наперад і характар тых праяў, якія ўваходзяць у змест кампазіцыі стылістычнай і фанетычнай. Дзеля гэтага цяпер, уласна, будзе дарэчы устанавіць у закрэсе тых жа тэматычных вытвараў часці мастацкага стылю і паэтычнай фанетыкі.

У рамках стылістычнай кампазіцыі мы спынімся перш за ўсё на эпітэтах, каторыя, як гэта акрэсляе гісторыка-літаратурная мысль, маюць вялікае стылістычнае значэнне ў мастацкай творчасці і займаюць сярод паэтычных спосабаў па сваей мастацкай вартасці адно з першых месц. У творчасці М. Багдановіча яны такжа належаць да ліку асабліва характэрных праяў яго стылю.

Агульная рыса эпітэтаў разгляданага намі паэты, якая асабліва кідаецца ў вочы, – гэта іх канкрэтнасць. Яны ўзяты аўтарам з рэальных праяў нашага жыцця, якія заўсёды знаходзяцца перад нашымі вачыма. Гэта рыса ў значнай меры акрэсляе і агульную свомасць яго твораў – іх канкрэтнасць, яркасць і пластычнасць. Адвалочныя эпітэты маюцца ў значна меншым ліку. Ось прыклады іх: *добрай* ночы (20), сэрца *беднае* (26), паводкі *вольнай* (30), *цудоўнае* казкі (31), *светлыя* згадкі (33), *няшчаснае* каханне (40), птах *нявіданых* (43), *чароўныя* прынады (52), *вечны* плач (65), *праўдзівым* жыццём (68), блеск *цудоўны* (70), ракі *радзімай* (71), крыніца *жывой* вады (73), *мудрай* прамовы (77), краса *жывая* (80), *святога* сумлення, (81) *нябесным* агнём (84), *ясных* надзей (89), думкі *высокія* (101) і іншыя. Ужыванне іх тараўнальна нячастае, і яны не выдзяляюцца сярод масы другіх эпітэтаў, зліваючыся з эпітэтамі эмацыянальнымі, псіхалагічнымі.

У рамках эпітэтаў канкрэтных акрэслена вылучаюцца, як дзве дамінуючыя групы іх, эпітэты зрочныя і псіхалагічныя.

Першыя складаюць самую многалічэбную групу іх, дасягаючы 70% агульнага ліку. Зрочныя эпітэты перадаюць матэрыяльныя свомасці рэчаў, усю паўнату колераў і барваў, якімі паэта рысуе акружаючы яго свет. Гэта асобнасць творчасці М. Багдановіча вынікае з таго, што пераважаючымі матывамі яго творчасці з'яўляюцца, ласне, матывы прыроды, якія і служаць для яго крыніцай зрочных абразоў. Гэта ж асобнасць гаворыць і аб пластычным, ярка рэалістычным характары яго вершаў. Спаміж іх у першы чарод вылучаюцца сваім лікам зрочныя эпітэты прасцейшага тыпу, якія выражаюць агульныя свомасці барваў і колераў, пры помачы каторых мастак малюе свет; сюды належаць: *цёмнай* глыбіны (10), *срэбныя* сеці (11), *жоўтыя* пяскі (12), *сіняватых* зорак (13), *залатыя* рожкі месяца (13), *дробным* дажджом (15), *чырвоны* веер (17), *белы* лунь (18), пыл *светлы* (19), *чорнай* рызай (20), *цёмную* даль (23), *сінюю* вышу (31), зоркі *сіняватыя* (34), месяц *круглы* (40), вужакі *шэрыя* (47), *белай* пенай (55), *чорныя* рукі (62), месяц *залаты* (65), *срэбная* рака (71), лёд *залацісты* (77), вадзе *люстранай* (85), *сінеючага* Ніла (92) і іншыя.

Другое месца займаюць зрочныя эпітэты, якія выражаюць розныя адмены колераў, барваў і гукаў. У творчасці М. Багдановіча яны малалічэбны і выражаюцца або эпітэтамі *сінтэтычнымі,* такімі, як: *тонкаствольныя* сосны (9), *сіняватая* ноч (21), *жоўта-чырвоных* агнёў (21), маладзік *бледна-сіні* (22), месяц *чырвона-жоўты* (40), *рознакалёрнымі* галоўкамі (43), *шматфарбныя* застаўкі (43), *шматфарбнаю* красою (56), або *лічэбнасцю* зрочных эпітэтаў: чарцы *цёмнай* і *глыбокай* (16), *празрысты, светлы* стоўп месяца (29), *шырокім, цёмным* полі (64).

Другую групу эпітэтаў, такжа даволі многалічэбных у творчасці М. Багдановіча становяць эпітэты *псіхалагічныя,* такія, як *сумны, мар-*

*котны* лясун (9), хмары *грымотнай* (15), струн *вясёлых* перабор (16), *заснуўшых* палян (21), *змрочнай заснуўшай* зямлёй (23), *халодная* кроў (25), *маркотныя* месяца рожкі (28), *ціхім* каханнем (33), *сумным* гукам (37), вецер *буйны* (48), *панурыя* людзі (62), *пужлівых* людзей (67), *драмаўшай* сілы (74), *халодным* вершам (78), *змрочным* моры (86), вецер *халодны* (91), слова *халоднае* (102) і інш. Яны характарызуюць ужо другую азнаку яго твораў, ласне, – іх эмацыянальнасць. Гэтая азнака пераплятаецца з пластычнасцю іх або складае самаістую велічыню, якая надае барву ўсяму твору. Пры гэтым, калі зрочныя эпітэты з'яўляюцца сродкам для выабражання знешняга свету – другой часці матыву, то псіхалагічныя эпітэты ўжываюцца для выабражання асабітых унутраных і наагул духовых перажыванняў, г. зн, – першага чэлесу таго ж матыву. Дзеля ілюстрацыі таго, як размяшчаюцца эпітэты той і другой групы, мы разгледзім такі верш М. Багдановіча, які мае ў сабе, з адной стараны, выабражэнне таго ці іншага матыву з акружаючага асяродку, а з другой – і асабісты тасунак паэты да яго. Возьмем верш «Сэрца ные, сэрца кроіцца ад болю…» (39), у якім азначаныя моманты – «я» мастака і знешні свет – маюцца. У гэтым вершы падкрэслім гэткія эпітэты: *цеснай* хаты; *чыстым* полі; нуда *нямая*, песні *звонкай*, салаўінай; вецер *буйны*. З іх першыя два – зрочныя; «нуда *нямая*» – эмацыянальны і ўсе апошнія – акустычныя, гукавыя. Эпітэты эмацыянальныя, як відаць з прыведзенага прыкладу пры слове «нуда», ужываюцца для выражэння асабістых настрояў паэты. Між тым як эпітэты другога гатунку – зрочныя і гукавыя – ужываюцца пры рэчах знешняга свету ў адносінах да мастака: хата, поле, песня, вецер.

Такім чынам, і ў краіне праяў стылістычнай кампазыцыі, а ласне, у сферы ўжывання эпітэтаў, даследчыку прыходзіцца канстатаваць наўзвочнасць дзвюх стыхій, ужо адзначаных намі, гэта – рэальна-канкрэтнай і эмацыянальнай.

Акром ужывання эмацыянальных эпітэтаў пры словах, якія выражаюць індывідуальныя перажыванні паэты, эпітэты гэтага гатунку іншы раз бяруцца мастаком і для рэчаў знешняга свету. Асабліва цікава ўжыванне іх пры нежывых аб'ектах. У гэтых здарэннях мастак псіхалагізуе іх, надаючы ім рысы жывых рэчаў. Гэткія эпітэты: *халоднай* расы (9), *заснуўшых* палян (21), *прыгожаю* восенню (24), *маркотныя* месяца рожкі (28), хрыбце *магутным* (30), ноч *глухая* (54), *сп'янелая* мяцель (55), гадзін *панурых, нудных, шэрых* (64), *халодным* вершам (78), *халодных* каменняў (81), *змрочным* моры (86), *сонных* луж балота (93) і інш.

Эпітэты зрочныя, прыдаваныя пераважна да назваў з рэальнага, акружаючага нас асяродку, больш выразна і рэзка падкрэслююць яркасць і выпукласць паэтычных аб'ектаў. Такія паняцці, ужываныя паэтам, як «песні, лаза, зоры, дождж, дым, цені, зязюля, поле» і інш., самі па сабе

з'яўляюцца такімі рэчамі, якія выклікаюць у нас акрэслены канкрэтны абраз, прыстасаваны, аднак, толькі да нашых *агульных* прадстаўленняў аб іх, да тых прадстаўленняў, якія выносяцца намі з жыццёвай практыкі і канкрэтнага азнаёмлення. Калі ж гэтыя паняцці лучацца з эпітэтамі *жоўтыя* пяскі (12), лаза *зялёная* (12), *сіняватых* зорак (13) або зоркі *сіняватыя* (34), *дробным* дажджом (15), дым *сіняваты* (21), *цёмныя* цені (22), *шэрая* зязюля (37), *чыстым* полі (39); то тыя ж прадстаўленні атрымліваюць больш прыватную канкрэтызацыю і, дзеля гэтага, большую прыгожасць і пластычнасць, бо нашае прадстаўленне, прыкладам, аб пяску, што да яго колеру, без акрэслення яго пры помачы адпаведнага эпітэта, не мае поўнай выразістасці; яно зліваецца з прадстаўленнем аб іншых свомасцях пяску. Між тым ужыццё патрэбнага эпітэта ўносіць у нашае агульнае прадстаўленне аб колеры пяску выразны характар.

Побач з азначанымі групамі значную ролю ў творчасці М. Багдановіча маюць і эпітэты гукавыя, акустычныя. Сюды належаць: *гулкім* раскатам (15), марозны, *звонкі* вечар (29), *скрыпучы* снег (29), *бурлівая* вада (30), песні *звонкай,* салаўінай (39), вецер *буйны* (39, 71). Большасць эпітэтаў гэтага ладу мастак ужывае для рэчаў, якія маюць гукавы рух: раскат, вада, песні і інш., павялічваючы імі акустычную і паруховую старану гэтых паняццяў. Ужыванне ж іх пры словах, не выражаючых гэтага значэння, пераводзіць названыя эпітэты ў аддзел метафарычных, якія пераносяць на тыя словы свомасці праяў іншага парадку: *звонкі* вечар (29), вецер *буйны* (39, 71) і інш.

Сярод эпітэтаў разгледжаных груп вылучаецца яшчэ адна катэгорыя, якую прынята называць *таўталагічнымі,* іх нязначны лік: снег *халодны* (27, 54), *цёмнай* імглы (59), лёд *халодны* (60), *чырвоны* жар (64), *белым* днём (70), *чорную* гразь (91). Кожная з гэтых назваў сама па сабе, у сваім унутраным змесце, ужо намячае тыя асобнасці, якія выражаюцца пастаўленымі пры іх эпітэтамі: снег заўсёды бывае толькі халодным, роўна ж як і жар – чырвоным. Ужыванне такіх эпітэтаў выклікаецца або вымаганнямі вершавальнага памеру, жаданнем даць поўны верш, або паэта, карыстаючы імі, паднаўляе назоўнае значэнне слоў, якія кіруюць эпітэтамі, і гэтым павелічае іх эмацыянальную выразістасць.

Звяртае такжа ўвагу даследчыка і лік эпітэтаў, надаваных тым ці іншым паняццям. У адных здарэннях мнагаслоўныя эпітэты змяшчаюць у сабе эмацыянальныя азнакі разнароднага зместу: зрочнага, гукавога, паруховага і г. д. Гэтае камбінаванае ўжыванне іх мае на мэце, з аднаго стараны, кандэнсацыю эмацыянальных азнак у эпітэтах, а з другой – і разнароднасць, вядомую барвістасць у агульным размяшчэнні іх навакол аб'екту, які знаходзіцца ў акружанні эпітэтаў.

У дапаўненне да тых прыкладаў, якія даваліся для ілюстрацыі аднаслоўных эпітэтаў эмацыянальна-зрочных, гукавых і інш., з мнагаслоўных можна адзначыць такія: *сумны, маркотны* лясун (9), чарцы *цёмнай* і *глыбокай* (16), хмелем *светлым* і *халодным* (16), *празрысты, светлы* стоўп месяца (29), *шпаркі, лёгкі, сінякрылы* матылёк (32), *мудры* і *кіпучы* верш Анакрэона (75), *вінаграднае, густое, цёмнае* віно (75), хмелем *светлым* і *тонкім* (77).

У другіх здарэннях сярод мнагаслоўных маюцца прыклады своеаблічнай спробы злучэння двох эпітэтаў розных катэгорый: эпітэтаў матэрыяльных і эмацыянальных. Сюды належаць такія прыклады: месяц *белы, заплаканы* (11)*, панурая, вялізная* жывёла (14), *марозны, звонкі* вечар (29), песні *звонкай, салаўінай* (39), *маленькіх, мілых* зор (97). Паказаныя прыклады двохслоўных эпітэтаў з'яўляюцца, з адной стараны, злучэннем эпітэта, які раскрывае адну з матэрыяльных азнак акрэслянага аб'екту: месяц *белы* (11), *вялізная* жывёла (14), *марозны* вечар (29), песні *салаўінай* (19), *маленькіх* зор (97), а з другой – эпітэта, які выражае і падкрэсляе эмацыянальную старану тых жа рэчаў: месяц *заплаканы* (11), *панурая* жывёла (14), *звонкі* вечар (29), песні *звонкай* (39), *мілых* зор (97).

Разгляд эпітэталогіі ў творчасці М. Багдановіча прыводзіць да таго выснаўку, што тыя дзве стыхіі, якія ўжо адзначыліся ў папярэднім выкладзе, цяпер атрымалі больш ясныя контуры. Іх узаемнае палажэнне ў дзедзіне эпітэтаў такое, што, па-першае, яны йдуць у творах паэты паўзбежна, як самаістыя стылістычныя велічыні; па-другое, яны пераплятаюцца адна з другой, творачы ўмеркавана сплеценую слоўную стугу.

Пасля эпітэтаў значную стылістычную ролю ў творчасці М. Багдановіча маюць *метафары,* г. зн., такія праявы стылю, якія з'яўляюцца паэтычным тлумачучым выбражаннем вядомай тэмы пры помачы паняццяў, каторыя знаходзяцца з гэтай *тэмай* у сэнсавай блізасці, ступень блізасці якіх можа быць рознай. Па ліку метафары займаюць наступнае за эпітэтамі месца. Між разгледжанымі групамі матываў яны распадзяляюцца няроўна. 1х сапраўднае паэтычнае поле дзейнасці – матывы прыроды. Тут яны многалічэбны і яркі. Наадварот, у матывах іншага зместу іх амаль зусім няма; падчас выступаюць яны толькі там, дзе матывы прыроды ўваходзяць як складныя часці, якія выконваюць тыя ці іншыя мастацкія заданні. Метафарычныя выразы абрысоўваюць у творчасці М. Багдановіча тэмы акрэсленага кругу. Сюды належаць тэмы прыроды, якія разгаліняюцца на цэлы шэраг дробных тэм; далей тэмы псіхалагічнага характару, якія выбражаюць лірычны настрой самога мастака, і, урэшце, – тэмы «паэтычнага» парадку, якія датычаць істоты паэзіі і яе асобнасцяў. З гэтых трох груп тэмы першага раду пераважаюць у значнай меры над іншымі, якія займаюць у адношанні лічэбнасці ўжо другое (лірычныя тэмы) і трэцяе («паэтычныя» тэмы) месца.

З тэм прыроды, выабражаных у метафарычных колерах, найбольшую ўвагу паэты прыцягваюць зоры; ён аддае ім усе свае мастацкія сімпатыі і на іх спыняе свой закаханы і кунежлівы спогляд. Паэту часцей за ўсё забаўляе іх *распаложанне* на блакітным небасхіле; яно здаецца яму то ў выглядзе карагодаў зор (13), то пасеву іх на небе (18), то пылу («пылам зор небасхіл абсявае», 20), то красавання («ў небе ціха зоркі расцвілі», 19), або вянка («зорак дрыжачыя вянкі», 21), або кароны («Бог Апалон з галавы зняў карону і кінуў у неба», 29).

Разам з метафарамі тапаграфічнага характару ён ужывае і больш складаныя, у якіх, нараўне з іх тапаграфіяй, адзначаюцца і свомасці святла; сюды належаць: «заззяе серабром іголак зор грамада» (17), «іскрацца зорак сняжынкі маркотна» (22); часамі гэтыя метафары расшыраюцца ў цэлы твор; гэтак, верш «Упалі з грудзей Пана Бога» (61) прадстаўляе з сябе адну метафару, у якой і рысуюцца два моманты ў іх існаванні – тапаграфічны і светлавы:

Упалі з грудзей Пана Бога,
Парваўшыся, пацеркі зор.
Яны раскаціліся ў небе,
Усыпалі сіні прастор
І стуль так маркотна і пільна
На край наш нядольны глядзяць…

Калі скіраваць увагу на самыя абразы метафары, дык заўважым, як яны вылучаюцца сваёю яркасцю і блізка фізічнай чоўкасцю. Такія абразы, акрэсляючы тапаграфію зор на небе, іх распалажэнне там як зорны карагод, пыл змораў, пасеў, вянок, карона, пацеркі і г. д., – такія абразы ў прадстаўленні чытача рысуюць жывыя, рухлівыя, блізка пачовістыя для канкрэтнага адчування малюнкі. У кожным паасобным здарэнні метафара выражае зусім канкрэтны, пластычны, выпуклы абраз, які рысуе тут, на зямлі, малюнак нябеснай праявы. Роўным чынам святло і бляск іх перадаюцца настолькі ж выразнымі і канкрэтнымі зямнымі абразамі, як срэбра іголак, як іскры сняжынак і інш.

Метафары, якія выабражаюць месяц, перадаюць яго знешнюю абрысоўку то ў выглядзе «залатога сярпа» (13), або «сумных ражкоў месяца» (28).

Паэту больш цікавяць пералівы месікавага святла, дзеля гэтага большасць метафар адводзіцца гэтай, ласне, тэме. Святло месяца рысуецца ў выглядзе срэбных сетак, якія цягне месяц з возера:

Месяц белы заплаканы свеціць,
Аглядае бахматыя зоркі,
Цягне з возера срэбныя сеці.

Ў іх русалкі заблуталі косы, –
Рвуць і блутаюць срэбныя ніці… (11).

Або проста праменні месіка праяўляюцца ў выглядзе дарогі, праведзенай цераз раку:

Але месяц правёў праз раку светлы шлях (23),

або – стаўпа і срэбнай рызы, каторай ён пакрывае зямлю:

Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, светлы стоўп спусціў
І рызай срэбнаю раздолле
Снягоў сінеючых пакрыў (29);

або – палатна:

Месяц пакрые паля палатном (134).

Блізка прылягаюць да разгледжаных гатункаў метафары вечара і ночы; яны па свайму зместу надта блізкі да папярэдніх. Вечар, у момант пераходу яго ў ноч, паэта выабражае малюнкам пагасання вугалёў:

Вечар на захадзе ў попеле тушыць
Кучу чырвоных кавалкаў вугля (22).

Ноч прадстаўляецца паэту ў выглядзе жывой істоты, якая пакрывае ўсё чорнаю вопраткай:

Ўжо імгла над зямлёю лажыцца,
Чорнай рызай усё пакрывае (20),

або – яна – сінявокая ходзіць па мяккай траве:

Ціха па мяккай траве
Сінявокая ноч прахадзіла (21).

Некалькі метафар рысуюць і розныя палажэнні хмар на небе. Іх палёт метафарызуецца паэтам як «дыван-самалёт» (31) або ў выглядзе «панурай, вялізнай жывёлы» (14), якая

Па шыры неба ў даль марудна праплывае (14).

Хмары ў часе навальніцы або «чырванеюць ад жару» (15), або грымяць «гулам прывету» (71).

Дождж, які падае з хмар, перадаецца метафарай:

…халодныя бічы крыві сцякаюць,
А людзі кажуць: гэта дождж праліўся (14);

або метафара з тэмай аб дажджы расшыраецца ў цэлы верш:

Дзесь у хмарах жывуць павукі,
Што снуюць павучыну дажджа.
Кожны тлусты і мяккі такі,
Скура слізкая, як у вужа;
Ў целе стыгне халодная кроў,
Злосць бясцэльная ў мутных вачах...
Чу! Чуваць шорах ног павукоў
Аплятаючых сцены і дах (25).

Пададзеныя метафары малююць ценявыя староны прыроды; яны складаюць значную большасць метафарычных выразаў паэты. Тэмы светлых праяў прыроды, выражаныя метафарамі, надта малалічэбны. Яны датычуць тэмы сонца; пры захадзе яно ў паэты «скочваецца з горкі»:

Сонца ціха скацілася з горкі (11),

або – «распускае свой чырвоны веер»:

А к ночы свой чырвоны веер
У небе сонца развярне (17),

або – «праводзіць чырвоныя баразны на небе»:

Ярка-чырвоныя, жоўтыя, бурыя
Боразны ў небе яно правяло (34).

У метафарычных, але сумных колерах паэта рысуе і такое харäство прыроды, як краскі; яны прадстаўляюцца ім вырасшымі з слёз і таму борзда гінучымі; гэта метафара разрастаецца ў цэлы верш:

Плакала лета, зямлю пакідаючы;
Ціха ліліся слязінкі на поле.
Але прыгожаю восенню яснаю
Там, дзе упалі яны, выраслі
Кветкі асеннія, кветкі, ўспаённыя
Тугаю, горам, слязінкамі лета.
Кветкі асеннія, родныя, бледныя!
Выраслі вы, каб ураз жа і згінуць.
Можа таму-то душа надарваная
Гэтак любоўна вянок з вас сплятае (24).

Такая ж тэма метафары, расшыраная ў цэлы твор, змяшчаецца і ў вершы «Астры» (103).

У абразох разгледжаных метафар мы зноў бачым, як гэта было адзначана і раней тасоўна да «зорных» метафар, што паэта імкнецца звесці неба на зямлю; ён і на гэты раз праявы і рэчы нябеснай сферы імкнецца перадаць у земскіх абразох, выразных, жывых і блізкіх нам. Разам з гэтым ярка вылучаецца і дынамічны характар гэтых абразоў; святло месяца перадаецца ў выглядзе срэбраных сетак, якія *цягнуцца* з возера; або вечар выабражаецца як *тушэнне* ў попеле кучы чырвоных вугалёў; або ноч выабражаецца сінявокай, якая *праходзіць* па мяккай траве і г. д. Гэты метафарызм абразоў яшчэ больш павялічвае ўжо адзначаныя свомасці метафараў М. Багдановіча, ласне, – іх яркасць і пластычнасць.

Блізка на адной лічбавай роўні ў творчасці М. Багдановіча знаходзяцца і *параўнанні,* якія, паводле акад. А. Н. Весялоўскага, – тыя ж метафары, толькі больш расшыраныя пры помачы свядомасці і разважання.

Сярод іх у М. Багдановіча вылучаюцца як дзве розныя групы – параўнанні скрытыя, сэнсоўныя і параўнанні яўныя, выражаныя акрэсленымі, характэрнымі для іх, граматычнымі формамі.

Першая катэгорыя параўнанняў сэнсоўных, па свайму знешняму складу, мае блізкае адношанне да так званых паралелізмаў народнай творчасці, каторыя, як ведама, будуюцца на «параўнанні» чалавечага жыцця з прыродаю ў іх агульных азнаках чыну і руху. Аднак скрытыя параўнанні М. Багдановіча, захоўваючы ў сабе прынцып «супастаўлення», як прынцып фармальны, у стасунку да зместу не заўсёды засноўваюцца на паралелізме прыроды і жыцця чалавека. Можна думаць, што яны займаюць сярэдняе палажэнне між паралелізмамі народнай паэзіі і параўнаннем наагул. Ад першых яны адрозніваюцца неаднолькавасцю зместу, а ад другіх – няменнем фармальных граматычных азнак, свомных звычайным параўнанням. Апроч таго, паводле сваіх памераў яны звычайна распашыраюцца на ўсе творы, захапляючы іх змест цалком. Дзеля гэтага мы і надаём ім назоў скрытых, сэнсовых параўнанняў.

З прычыны таго, што параўнанні гэтага гатунку, тасоўна да свайго знешняга граматычнага выгляду, не маюць акрэсленай формы, якая адзначала б, ласне, момант супастаўлення двох розных абразоў, – тлумачнае значэнне гэтых параўнанняў з’яўляецца малаважным. Гэта трэба падкрэсліць дзеля той акалічнасці, што пераважная большасць сэнсовых параўнанняў мае чыста эмацыянальны характар. У іх абраз змяшчаецца на першым месцы, а аб’ект параўнання – на другім. Іх эмацыянальнасць, іх лірычнасць падкрэсляецца яшчэ і той акалічнасцю, што малюнкі параўнальных абразоў часта прымаюць у паэты так вя-

лікія памеры, што ператвараюцца ў эпічныя апавяданні, якія засланяюць сабой самую тэму параўнання. Дзякуючы гэтаму тлумачны характар параўнання зводзіцца блізка да нуля. Гэтым тлумачыцца і тое, што паэта, упоруч з сэнсоўным параўнаннем, ужывае і другое – яўнае параўнанне – для тлумачання той жа мыслі, якая змяшчаецца ў першым. Так, у вершы «Санет» (92), у яго першай страфе, М. Багдановіч рысуе цэлы малюнак таго, як жменька засохшага насення, якое праляжала «колькі тысяч год паміж пяскоў Егіпецкай зямлі, над хвалямі сінеючага Ніла», захоўвае свае жыццёвыя сілы:

...жыццёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясенняй збожжа на раллі.
У другой страфе таго ж верша ён кажа:
Вось сімвал твой, забыты краю родны!

Паэта верыць, што і дух народны, падобна да зярнят, не засне бясплодна, але «ўперад рынецца», г. зн., па аналогіі з папярэднім абразом, ён таксама прачнецца і буйна закаласуе, як і тыя зярняты. Але паэта адчувае недахват тлумачных азнак першага абраза і звяртаецца да другога параўнання, каб выразіць тую ж мысль аб прабуджэнні й буйным росце народнага духу, але бярэ гэтае параўнанне ў граматычна-яўным выглядзе; ён гавора:

...уперад рынецца, маўляў крыніца,
Каторая магутна, гучна мкне,
Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца (92).

На аснове сэнсовых параўнанняў пабудаваны цэлы рад вершаў М. Багдановіча, якія і складаюцца спосабам супастаўлення двох розных абразоў. Тэмы, якія мастак развівае пры помачы сэнсавых параўнанняў, featureрознага зместу. Часцей за ўсё паэта звяртаецца да гэтага спосабу, калі гаворыць аб паэзіі, аб матывах сацыяльнага ладу, аб прыродзе і г. д.

У тэмах аб паэзіі аўтар, ужываючы скрытае параўнанне, спыняецца больш за ўсё на агульных азнаках паэтычнай творчасці як мастацтва, імкнучыся акрэсліць і вытлумачыць яго істотныя рысы. Паэзія прадстаўляецца М. Багдановічу то ў выглядзе «вінаграднага густога цёмнага віна», якое чым далей ідзе час, тым робіцца ўсё мацнейшым; такім хмелем характарызуецца і паэзія Анакрэона, каторую асабліва любіць паэта:

Бледны, хілы, ўсё ж люблю я
Твой і мудры і кіпучы верш, Анакрэон!
Ен у жылах кроў хвалюе,
Ў ім жыццё струёю плешча, вее хмелем ён.

Верш такі – як дар прыроды,
Вінаграднае, густое, цёмнае віно:
Дні ідуць, праходзяць годы, –
Але ўсё крапчэй, хмяльнее робіцца яно (75).

Тая ж мысль аб п'янасці і хмельнасці паэзіі падкрэсляецца спосабам параўнання «мудрай прамовы» з «мёдам залацістым» у вершы:

Мудрай прамовы
Мёд залацісты,
Поўныя соты
Мне да спадобы;

Але не меней
Сэрцу панадны
Мёд сваім хмелем
Светлым і тонкім.

Але хмель віна і мёду выклікае ўнутраны агонь, дзеля гэтага і паэтычная дума, калі яна адзяваецца ў мастацкія абразы, адчуваецца паэтам як агонь маланкі:

Пекла было тут у тую часіну:
Гром звар'яцеўшы стагнаў і равеў,
Білі вакол перуны без упыну,
Ўвесь небасхіл то пылаў, то чарнеў.
Думка! Калі я цябе выліваю
Ў слова халоднае, ў песню сваю,
Гэткае ж пекла ў душы сваёй маю,
Паліць яна мне душу ўсю маю (102).

Гэты характар пазіі – яе хмельнасць і п'янасць – прадстаўляюць сабою такія праявы, якія ў аснове сваёй маюць дынамічныя свомасці: існасць іх – рух. Дзеля гэтага і паэзія, як мастацтва, параўнаная з імі, мае тыя ж паруховыя асобнасці. Затым, і, зразумела, яе гон, падобны да крыніцы, што прабіваецпа з-пад зямлі:

Змоўк пясняр, затаіў свае песні,
Ён іх болей ужо не пяе.
Але рвуцца яны, і калісь на прадвесні
Лёд халодны ў душы пад напорам іх трэсне,
І струёй лынуць вершы з яе.
Гэтак часам уходзіць у землю крыніца,
Дзесь у нетрах таемна бяжыць,

Але мусіць урэшце на волю прабіцца,
Шмат яшчэ па зямлі будзе ліцца-каціцца
І радзімаму краю служыць (60).

Наагул мастацкае пачуццё паэты з’яўляецца ў яго вачох цудоўнай сілай, каторая ператтварае «кавалкі грубага жыцця» ў перлы паэзіі:

Калі ў ракавіну цёмную жамчужніцы
Упадзе пясчынка хоць адна, –
Жомчугам патроху робіцца яна!
Калі ў дух мой западзе і заварушыцца
Там кавалак грубага жыцця, –
Ў жомчуг звернецца ён сілай пачуцця! (79).

Рад тэм сацыяльнага ладу, тэм, якія датычаць перспектыў адраджэння беларускага (крывічанскага) народа і патрэбы змагання за яго, такжа выабражаецца паэтам на аснове сэнсавых параўнанняў. У частцы, зварот паэты да сваіх спаўграмадзян з запытаннем, ці здолеюць яны аддаць сваё жыццё за бацькаўшчыну-матку, калі яна будзе пераживаць цяжкія хвіліны, – будуецца на тым жа спосабе сэнсавага параўнання:

Зразаюць галіны таполі адну за адной...
Без скаргі яны на зямлю чарадою лажацца,
Бо смерць іх патрэбна, каб дзерава новай вясной
Магло бы хутчэй развівацца.
Таварышы-брацця! Калі наша родзіна-маць
Ў змаганні з нядоляй патраціць апошнія сілы,–
Ці хваце нам духу ў час гэты жыццё ей аддаць,
Без скаргі палеч у магілы?! (66).

Заклік мастака да змагання з жыццём такжа адзяваецца ў форму сэнсавага параўнання:

Рушымся, брацця, хутчэй
Ў бой з жыццём, пакідаючы жах,
Крыкі пужлівых людзей
Не стрымаюць хай бітвы размах...
Проці цячэння вады
Зможа толькі жывое паплыць,
Хвалі ж ракі заўсягды
Тое цягнуць, што скончыла жыць (67).

Прыкладам, асмяляючым беларускі (крывічанскі) народ у яго змаганні за лепшае жыццё, могуць служыць «нашы дзеды», якія доўга і ўпорна

змагаліся, расчышчаючы агнём душыўшыя іх разлогі лясоў і імкнучыся да «светлага» і «прасторнага» жыцця:

З гэтых дзедаў суворых прыклад нам бы ўзяць, –
Не хіліцца з бяды, не пужацца агня,
Бо мы толькі тады дачакаема дня,
Калі нас не здалее змаганне злякаць (68).

Дух народны гэта – ў вачох паэты – каштоўны брыльянт, каторы не блішчыць «у час змяркання і ў глыбокай цемні ночы»; але як толькі ўпадуць на яго праменні сонца-свабоды – ён пачынае рассыпаць яркія, палыскуючыя іскры:

Так здаецца ў змроку ночы цёмным і народ мой родны,
Бедны і нешчасны;
Але, як устане сонца, ўраз прачнецца дух народны
І засвеціць ясна! *(70)*.

Душа народу заўсёды тоіць у сабе невычэрпныя жыццёвыя сілы, якія, пры адпаведных акалічнасцях, даюць багатую рунь. Сімвалам гэтай сілы з'яўляецца жменька высахшых зярнят, пралежаўшых «колькі тысяч год паміж пяскоў Егіпецкай зямлі, над хвалямі сінеючага Ніла»; кінутыя ў тучную глебу, яны праснуліся і буйна закаласіліся:

Вось сімвал твой, забыты краю родны!
Зварушаны нарэшце дух народны,
Я верую, бясплодна не засне,
А ўперад рынецца... (92)

Ёсць некалькі прыкладаў сэнсавых параўнанняў на тэмы філасафічнага характару, а також ў матывах прыроды.

Жыццё ў разумным выглядзе пакідае, у прадстаўленні паэты, такі ж яркі след, які бывае на цёмным небе ад пралятаючай гвязды. На параўнанні двох абразоў – бляску гвязды і жыцця – і пабудавана «дума» паэты пад назовай «С. Е. Палуяну» (59).

Пачуццё веры, у выабражэнні мастака, жыве ў чалавеку ў такім жа скрытым стане, як тоіцца агонь пад шэрым попелам пагасшага вогнішча. Гэтае параўнанне дае змест вершу «Халоднай ноччу я ў шырокім, цёмным полі» (64).

Выабражаючы зімовую завею, паэта раўняе яе з сялянскім банкетам з яго п'яным звонам і хмелем; на такім супастаўленні асноўваецца яго верш «Завіруха» (55).

Як відаць з пададзенага агляду, сэнсавыя параўнанні, пабудаваныя ў большасці выпадкаў на выабражанні малюнку ў пачатку параўнання,

а яго аб’екта – на канцы, маюць ярка эмацыянальны характар. Бо, як ужо адзначалася, абраз, пастаўлены раней самога аб’екта, дзеля каторага ён выкліканы да жыцця, мае на ўвазе, ласне, мэты мастацка-эмацыянальнага характару. І гэта тым больш ачавіста, што аб’екты сэнсавых параўнанняў, самі ў сабе так канкрэтны, што не вымагаюць у істоце ўспаможых стылістычных сродкаў, у даным здарэнні – параўнанняў, якія б тлумачылі іх сэнс і значэнне. Мы ўжо адзначылі, што тэмы сэнсавых параўнанняў галоўным чынам датычаць матываў сацыяльных, бытавых, літаратурных, канкрэтнасць якіх падкрэсляецца ўжо самым іх назовам. Мастацкае значэнне іх можа быць павышана толькі праз усіленне іх эмацыянальных уражань. Гэта мастак і робіць, ужываючы сэнсовыя параўнанні.

Другая група – *параўнанні яўныя,* выражаныя характэрнымі для іх граматычнымі формамі. Сярод іх разрозніваюцца дзве катэгорыі – параўнанні, выражаныя творным склонам, бяззлучныя, і параўнанні злучныя, г. зн., якія маюць тыя ці іншыя злучныя выразы.

Бяззлучныя параўнанні ў творчасці М. Багдановіча малалічэбны. Як і сэнсавыя, у працэсе супастаўлення яны такжа пазбаўлены выразістасці і яснасці; іх тлумачнае значэнне малое. Між іншым, гэтыя свомасці іх можна бачыць з таго, што мастак іншы раз ужывае адначасна два параўнанні, якія стаяць побач, з якіх адно – склоннае, а другое – злучнае. У вершы «Краю мой родны! Як выкляты Богам» паэта гаворыць аб народным горы, якое

Хваляй шырокай разлілась, як мора,
Родны наш край затапіла…

Першае параўнанне з тэмай аб тым, як шырока разлілося народнае гора, выражаецца ў форме творнага склону: «хваляй шырокай разлілась». Другое параўнанне, якое змяшчае ў сабе тую ж тэму, ужыта ўжо ў злучнай форме (са злучам «як»): «як мора». Гэта форма, аднак, больш рэзка падкрэсляе момант параўнання. Тое ж можна бачыць і ў параўнаннях:

Як птушка ў гібкіх трасніках,
*Стралою* думка мільганула (94).

Дзякуючы сваёй эмацыянальнасці і нязначнай часці тлумачнага элемента, гэтыя параўнанні блізка вымыкаюць з-пад увагі чытача. У творчасці М. Багдановіча яны ўжываюцца для выражэння псіхалагічных тэм і запазычаюць свае абразы з рэальнай прыроды; сюды належаць: «узляцеў між імі марай белы лунь» (18), «сэрца білася рыбкай у сеці тады» (23), «і разрытаю магілай вее сумна на мяне» (26). Адно параўнанне су-

пастаўляе бляск рачных хваляў з халодным срэбрам: «халодным срэбрам ззяюць хвалі» (45).

Другую катэгорыю прадстаўляюць *параўнанні злучныя,* якія ўтвараюцца пры помачы злучаў: быццам, як, так, маўляў і г. д.

Сярод іх адна група параўнанняў эмацыянальных, другая – тлумачных; першыя змяшчаюць абраз на першым месцы, а аб'ект параўнання на другім; другія наадварот: тэмы параўнання ставяць на першым плане, а тлумачны абраз – на другім. Прычым большасць параўнанняў гэтай групы належыць да тлумачных.

У свой чарод тлумачныя параўнанні распадзяляюцца на больш дробныя групы; *зрочныя*: «твар травой аблутана, быццам павуцінай» (12); «у небе вячэрнім, зялёным, як лёд» (22); «скура слізкая, як у вужа» (25); «снег блішчыць, як халодная сталь» (28); «месяц... ўвесь чырвона-жоўты, быццам пугачова вока» (40); «пільна летапіс другі ўжо год пішу... з даўнейшых граматак пра долю Магілёва... і добрыя яго, і кепскія дзяла апавядаю тут. Так рупная пчала умее ў соты мёд сабраць і з горкіх кветак» (41); «у небе ластаўкі шыбаюць над крыжамі, як жар гарашчымі» (43); «з чупрынай белай, як лунь» (49); «з свячы ліецца за кропляй кропля, як раса» (80); «сэрцы цвёрдыя, быццам з камення» (81); (на балоце) «ржаўчына ляжыць, як пазалота» (93); параўнанні *паруховыя:* «дробным дажджом над зямлёй, як слязамі, адна праліласся» (15); «напілося сонца са крыніц сцюдзёных, усцягнула ў вышу з іх ваду, як пар» (71); «ўкруг тоўстага шкла яна (машкара) ўецца, як лёгкая хмарка» (53); «калі зваліў дужы Геракл у пыл Антэя, як вецер валіць поўны колас да раллі» (71); параўнанні *слыхавыя:* «як ударыш ты ім (вершам) – ён, як звон, зазвініць, брызнуць іскры з халодных каменняў» (81). Маецца некалькі параўнанняў гэтай жа тлумачнай групы, у каторых абраз супастаўлення ўзяты са сферы адвалочных паняццяў; гэтак: «падымі угару сваё вока і ты будзеш ізноў, як дзіця» (31); «дагарыць яна (свечка) і знікне, як і ўсё на свеце» (38); «і ясны ён (верш), як зорак сны» (65); «мы ўсе пакляліся, маўляў жаніхі» (101).

Як ужо адзначалася, тлумачныя параўнанні служаць для тлумачання пластычнасці паўзятага аб'екту. Дзеля гэтага, у агульным падрахаванні параўнанні гэтай групы выконваюць мастацкія функцыі, скіраваныя ў старану выразнага і пластычнага выбражання тых ці іншых аб'ектаў і праяў, якія ўваходзяць у змест паэзіі М. Багдановіча. Характар яркасці і пластычнасці параўнанняў, як канкрэтнага выражэння іх паэтычнай тэлеалогіі, мяняецца ў залежнасці ад асобнасцяў тых абразоў, каторыя складаюць параўнанні, і з'яўляюцца або зрочнымі, або паруховымі, або слыхавымі, гледзячы на тое, якія, ласне, параўнанні ўжывае мастак. Пластычнасць выбражання павелічаецца яшчэ і тым, што паміж аб'ектам параўнання і яго абразом існуе ў большасці здарэн-

няў поўная эквівалентнасць, г. зн., той і другі прыналежаць да праяваў або зрочнага, або паруховага, або слыхавога характару. Дзякуючы гэтаму, павелічаецца агульная сума азнак і прымет або зрочнага, або паруховага, або слыхавога характару ў залежнасці ад таго, да якой групы параўнанне належыць, а гэты варунак у свой чарод павелічае пластычнасць стылю, яго канкрэтнасць і выпукласць. Так, у параўнаннях першай групы і аб'екты іх, як і абразы, зрочныя і нерухомыя: травой (12), у небе зялёным (25), снег (28), месяц (40) і г. д. Роўным чынам, у другой групе (паруховай) аб'екты параўнання такжа паруховыя: дробным дажджом (15), ваду (71), машкара (53) і інш. У параўнанні з слыхавым аб'ект яго – верш – прадстаўляецца як аб'ект, назначаны для слухання, г. зн. як аб'ект слыхавога характару. Такім парадкам і тут паралелізм паміж дзвюма часцямі параўнання – наўзвоч. Параўнанні адвалочныя такжа пабудаваны на аснове супастаўлення паміж аб'ектамі і іх абразамі. Аснова іх: «падымі угару сваё вока» (31), «свечка знікне» (38), «верш ясны» (65), «мы пакляліся» (101) – адвалочнага характару. Але гэтыя параўнанні не даюць выразістасці і яркасці, якая прыналежыць папярэднім супастаўленням. Наадварот, яны зліваюць матэрыяльны абраз з паняццямі метафарычнага парадку. Толькі ў творчасці М. Багдановіча параўнанні гэтага гатунку вельмі малалічэбныя; сярод іншых спосабаў яго творчасці, каторыя, у значнай большасці сваёй, выражаюць, ласне, пластычны характар паэзіі мастака, яны не перашкаджаюць адзінству асноўных азнак яго творчасці.

Параўнанні *эмацыянальныя,* г. зн., якія маюць абраз на першым месцы, такжа не аднолькавы па сваёй лагічнай форме. Сярод іх маюцца параўнанні *зрочныя,* прыкладам: «быццам сіні аганёк, б'ецца, ўецца шпаркі, лёгкі сінякрылы матылёк» (32), «як сіняваты дым нявідзімых кадзіл, рой хмарачак плыве» (43), «як той алень шукае крыніцы чыстай, так шукаю Бога я» (44), «як са дна ключу ўжо не падняцца, так і гэтым словам не мінацца» (48), «як круглае вока савы, цыферблат – пільны сведка мінулых учынкаў» (51), «як плямы, анонсы і плакаты на сцяне» (52), «як месяц зіхаціць адбітым светам, так вершы ззяюць даўных форм красой!» (98), «быццам карона жа між на каленях стаячага Нікса і паміж Цмока яна, затрымаўшыся, блешча на месцы» (99); *слыхавыя:* «быццам тысячы крэпка нацягнутых струн, тонкаствольныя сосны звіняць» (9); *адвалочныя:* «як мары, белыя бярозы» (29).

Эмацыянальныя параўнанні ў сваіх мастацкіх функцыях аднолькавы з параўнаннямі сэнсоўнымі. Толькі маштаб іх эмацыянальных уражань больш вузкі, чым у першых. Так, у сэнсавых параўнаннях перад чытачом праходзяць цэлыя мастацкія малюнкі, якія прадстаўляюць сабой гарманічнае злучэнне раду паэтычных абразоў. Тут жа, у злучных эмацыянальных

параўнаннях, рамкі эмацыянальных настрояў абмяжуюцца толькі паасобнымі абразамі, каторыя, у залежнасці ад характару іх, выклікаюць эмоцыі рознага зместу – зрочныя, паруховыя, слухавыя і г. д.

З усіх праяў стылістычнай кампазіцыі, як відаць з папярэдняга выкладу, параўнанні маюць у сабе найбольшае багацце азнак эмацыянальнага стылю.

Побач з імі ёсць і яшчэ славесныя асобнасці, характэрныя для таго ж стылю і даволі частыя ў творчасці М. Багдановіча. Гэта – *запытанні* і *выклікі*. Гэтыя спосабы ўжываюцца паэтам галоўным чынам для выражэння яго асабістых настрояў, г. зн., прытасоўна да фармальнай схемы матыву, належаць да першай яго часці – да асабістага «я» паэты і яго *адношання* да праяў знешняга свету, які складае другую палавіну кожнага матыву.

Пытальныя сказы ў вершах паэты выконваюць функцыі эмацыянальнага характару, розныя па свайму зместу. У адных здарэннях паэта, парушаючы «эпічнасць» у выабражанні рэчаў знешняга асяродку, звяртаецца да чытача з запытаннем, якое атрымлівае і развязанне ў наступным выкладзе. Пры такім спосабе выабражання мы маем два моманты ў дзедзіне твораў лірычнага характару; спярша – асабістае «я» мастака, выражанае, між іншым, у запытальных сказах, звернутых да чытача або да самога сябе і якія ствараюць, ласне, лірычны момант верша; затым – апісанне абраза малюнка тэмы са знешняга свету, што складае ўжо «эпічныя» азнакі твору. Прыкладам, верш, які змешчаны на 9 бал., пачынаецца лірычным запытаннем паэты:

Чуеш гул?

і далей ідзе «эпічны» малюнак рэальнага свету:

....... Гэта сумны, маркотны лясун
Пачынае няголасна граць.

У гэтым вершы лірычнае запытанне з’яўляецца пачаткам; ім жа верш і канчаецца:

Што зіяе, дрыжыць на лісцёх лазняка:
Кроплі слёз ці халоднай расы?

«Эпічныя» малюнкі тут апавіты лірычнымі.

Але тое ж чарадаванне можа мець і крыху іншы характар. Спачатку – «эпічная» часць верша:

Па-над белым пухам вішняў,
Быццам сіні аганёк,

Б’ецца, ўецца шпаркі, лёгкі
Сінякрылы матылёк і г. д. (32).

Сказаўшы аб тым, што хваляй ліецца гімн вясне, ён перарывае сваё «спакойнае» апавяданне запытаннем:

Ці не сэрца напявае,
Навявае яго мне?
Ці не вецер гэта звонкі
Ў тонкіх зёлках шапаціць?
Або мо сухі, высокі
Ля ракі чарот шуміць? (32).

У тых ці іншых камбінацыях падобныя чарадаванні знаходзім і ў другіх вершах («Уся ў слязах дзяўчына», 35; «На глухіх вулках ноч глухая…», 54; «Ой, чаму я стаў паэтам?..», 72; «Дзе вы, лясоў, палёў цвяты?...», 78; «Была калісь пара…», 87; «Шмат у нашым жыцці ёсць дарог…», 89; «Пекла было тут у тую часіну…», 102).

Выклічныя сказы, як спосабы эмацыянальнага выабражання, больш часты ў М. Багдановіча, чым запытальныя. Самым звычайным тыпам іх з’яўляюцца такія, у якіх паэта вылучае, спосабам эмацыянальнага выкліку, найбольш важныя моманты ў тэматычным складзе твору. Гэтым спосабам ён прыдае выабражанаму павышаную ўражлівасць у параўнанні з «эпікай» верша. Твор «Досі ўжо працы» (34) мастак пачынае выклікам, падкрэсляючы яго асноўныя тэматычныя моманты:

Гэй, варушыцеся, коні панурыя,
Досі ўжо працы, бо сонца зайшло!

Далей менш істотнае і больш дзеля гэтага спакойнае апавяданне:

Ярка-чырвоныя, жоўтыя, бурыя
Баразны ў небе яно правяло (34).

Такі ж спосаб і ў другіх вершах, прычым магчымы і іншыя палажэнні ў сэнсе месца гэтых выклікаў («У Вільні», 52; «Ўстань, навальніца…», 59; «Бледны, хілы, ўсё ж люблю я…», 75; «Жывеш не вечна, чалавек…», 76 і інш.).

Выклікі падкрэсляюць часам і асабістыя настроі аўтара, якія, дзякуючы гэтаму, вылучаюцца з агульнага зместу твора і атрымліваюць значэнне дамінуючага ў ім абраза. У вершы «Кніга» (44), «эпічным» па зместу, паэта, падаючы словы «псальмы слічнай»,

як той алень шукае
Крыніцы чыстай, так шукаю Бога я –

беспасярэдна ўсклікае:

Як вее свежасцю яе краса жывая!
Як радасна далей спяшыць душа мая!

Гэты двуверш на агульнай «эпічнай» асноведзі верша з'яўляецца агульным лірычным, які, дзякуючы, ласне, спосабу ўсклікання, набывае большую эмацыянальную выразістасць і дзеля гэтага займае, у параўнанні з другімі, дамінуючае палажэнне ва ўсім вершы.[3]

Ёсць прыклады сумеснасці гэтых спосабаў – выкліку і запытання – у адным і тым жа творы. Асабліва гэта ярка заўважаецца ў тых вершах, якія датычаць сацыяльных матываў. У гэтых здарэннях паэта, можна думаць, не будучы ў стане стрымаць валвуючыя яго пачуцці, прыбягае для іх выражэння, між іншым, і да паказаных спосабаў стылю, злучаючы іх разам. Творы гэтага гатунку найбольш эмацыянальны ў параўнанні са ўсімі іншымі. Гэта азнака іх павелічаецца яшчэ і другім стылістычным спосабам, ласне, – фігурай *замаўчання,* якое ў гэтых здарэннях мае эмацыянальнае значэнне, выражаючы сабой ўзрушанне мастака з прычыны ўплыву на яго адназгучных абразоў. У вершы «Краю мой родны! Як выкляты Богам» (62-63) маем наўзвоч усе адзначаныя спосабы; запытанні, выклікі, замаўчанні:

Краю мой родны! Як выкляты Богам –
Столькі ты зносіш нядолі.
Хмары, балоты... Над збожжам убогім
Вецер гуляе на волі.
Поруч раскідаліся родныя вёскі.
Жалем сціскаюцца грудзі! –
Бедныя хаткі, таполі, бярозкі,
Ўсюды панурыя людзі... (62)

Далей «эпічная» часць верша, але ў закончанні зноў эмацыянальнасць – рэзка напружаная:

Гора усюды пануе.
Хваляй шырокай разлілась, як мора,
Родны наш край затапіла...
Брацця! Ці зможам грамадскае гора?!
Брацця! Ці хваце нам сілы?! (62-63)[4]

---

[3] Тое ж і ў вершы «Актава» (97).

[4] Таксама: «Кінь вечны плач свой аб старонцы», 65, «Зразаюць галіны таполі адну за адной...», 66 і інш.

Тая ж фігура замаўчання ўжываецца ў М. Багдановіча і ў іншых здарэннях, толькі тады яна выконвае іншыя мастацкія функцыі. Калі ў папярэднім умаўчанне служыла сродкам для выражэння індывідуальнага духовага ўздойму аўтара, яго адносiння да свету, то цяпер прызначэнне гэтай фігуры іншае: умаўчанне выклікаецца тым, што абразы, якія паэта стварае, адзначаюцца большай эмоцыяй, шпаркасцю, дзеля чаго мастак не ў стане зафіксаваць іх на славесным палатне. Атрымліваюцца мімавольныя пропускі, замаўчанні. Гэта рэзка кідаецца ў вочы ў бытавых матывах, якія рысуюць нікчэмнасць сучаснага прамысловага горада. «Спакойнасць» паэты, якая ішла перш паўзбежна са «спакойнасцю» яго абразоў, узятых з акружання вясковага быту, заўсёды кансерватыўнага і блізка нерухомага, цяпер змяняецца нервовасцю і разгонам, не адстаецца ад тэмпу гарадскога жыцця. У гэтым адношанні асабліва характэрны верш «У Вільні» (52), які ўвесь пабудаваны на фігуры замаўчання:

Ліхтарняў свет у сіняй вышыне...
Вітрынамі зіяючыя крамы,
Кавярні, мора вывесак, як плямы,
Анонсы і плакаты на сцяне.
Кіпіць натоўп на жорсткім вулак дне!
<…>

Агні вакзала... павадка фурманкаў...
Віры людзей... сіпяшчы паравоз...
Зялёны семафор... пакгауз... склады...
Заводаў коміны пад цьмой нябёс...
О, горада чароўныя прынады! (52).

Другія вершы з тымі ж матывамі ў той ці іншай меры такжа змяшчаюць у сабе паказаныя спосабы («Вулкі Вільні зіяюць…», 57; «За дахамі места памеркла нябёс пазалота…», 53 і інш.) і выражаюць тыя ж мастацкія функцыі.

З доследу разгледжаных спосабаў стылістычнай кампазіцыі выплывае, што паэта карыстаецца ў сваёй творчасці аднachасна спосабамі стылю рэалістычнага (класічнага) і эмацыянальнага (рамантычнага). Лічбавая перавага, аднак, належыць спосабам першага гатунку, дзеля чаго пераважае і агульнае падрахаванне пластычных колераў, якія ўжывае мастак у сваіх творах.

## III

Перавага рэальнасці ў выбражанні адбіваецца і на характары кампазіцыі *фанетычнай.* У працілегласць паэзіі сімвалічнай, узбагачанай

эмацыянальнымі гукавымі эфектамі, творчасць М. Багдановіча ў вельмі нязначнай ступені змяшчае ў сабе праявы гэтага характару. *Асанаючага* гукараскладу зусім няма; прынамсі, нам не ўдалося знайсці прыкладаў яго. *Алітарацыйны* гукарасклад мае ўсяго некалькі прыкладаў; сюды належаць:

(Пад рукамі яго), *р*азва*ж*аю*ч*ы *сум*,
Бы*цц*ам ты*с*я*ч*ы к*р*эпка *н*а*ц*яг*н*утых *стр*у*н*,
Та*н*каство*льн*ыя *с*осны *зві*ня*ць* (9).

Злучэнне свісцячых гукаў *з*, *с* і асабліва *ц (т')* з сіпячымі *ж, ч* стварае эмацыянальнае адбіццё тых гукаў, якія выабражаюць шумячыя хвойкі; больш вылучаецца гук *т'* або *ц*, каторы сваёй адарванасцю і свістам перадае трумканне струн; плыўкія *м, н, р* і *л* ствараюць агульную акампанійную асноведзь бесперестаннага гучэння аднолькавых тонаў, на якой (асноведзі) гукі струн з іх *ц* выступаюць асабліва выразна.

Значна вылучаюцца такія алітэруючыя гукі ў наступаючым адрыўку, які перадае шалясценне раскалыханай ветрам грушы:

Ве*ц*ярок прыдаро*ж*ную гру*ш*у
Ледзьве *ч*утна вару*ш*а-калы*ш*а (20).

Сіпячыя гукі *ж, ч, ш* і прыдадзеныя да іх свісцячыя перадаюць эмацыянальнае адбіццё шуму злёгку раскалыханай грушы.

Верш «Завіруха» (55):

У *бубн*ы дахаў *вецер б*'е,
Г*рыміць па* і*м*, *звініць*, *пя*е.
І *спе*ў *лі*е*цц*а ўсё ма*ц*ней, –
Гу*лянку* с*п*раві*ў пан П*адвей.
У *бубн*ы дахаў вецер *б*'е,
Г*рыміць па* і*м*, *звініць*, *пя*е.
Ў*скіпела снежна*е віно,
І *белай пенай мкне яно*.
У *бубн*ы дахаў вецер *б*'е,
Г*рыміць па* і*м*, *звініць*, *пя*е.
*П*а *вулках вее дзікі* х*мель*,
Гу*дзіць сп*'*янелая мяцель*.
У *бубн*ы дахаў вецер *б*'е,
Г*рыміць па* і*м*, *звініць*, *пя*е.

пабудаваны на алітэразаванні плыўкіх *м* і *н*, якія перадаюць неперарыўнае выццё зімовай завірухі. Гэта неперарыўнасць падтрымліваецца паўтарэннямі дзвюх першых строф:

У бубны дахаў вецер б’е,
Грыміць па ім, звініць, пяе.

пасля кожнага асноўнага двуверша. Такіх асноўных двувершаў у пададзеным вершы тры, тады як паўторных – чатыры. Што да гукаў, то плыўкія маюцца ў аднолькавай меры ў адной і другой групе двувершаў. Злучаныя з плыўкімі свісцячыя, асабліва мяккае *т’ (ц)*, адбіваюць рэзкія і маментальныя гукі ветру, які б’е ў дах. Гэту рэзкасць паасобных udараў ветру падкрэсляюць і вусныя *б* і *п* і часцю вусна-зубны *в*, якія чарадуюцца з рытмічным памерам у паўтараючыхся вершах.

Немень ярка выражанай эмацыянальнасці і, наадварот, наўзвочнасць пластычных абразоў падкрэсляецца і *рытмічна-метрычнымі* ўласцівасцямі вершаў М. Багдановіча. Значная большасць іх (54 вершы) напісана памерам рэцытацыйным – ямбічным або харэічным, – у якім націскі раўнамерна чарадуюцца цераз адзін ненаціснуты склад.

Ямбічныя памеры:

◡ – ◡ – ◡ – ◡ –
Блішчыць у небе зор пасеў;

або:

◡ – ◡ – ◡ – ◡ –
У полі рунь, і ў небе – рунь (18);
◡ – ◡ – ◡ – ◡ –
Калісь глядзеў на сонца я,
◡ – ◡ – ◡ – ◡ – ◡
Мне сонца асляпіла вочы (95).

Харэічныя:

– ◡ – ◡ – ◡ – ◡
Па-над белым пухам вішняў,
– ◡ – ◡ – ◡ –
Быццам сіні аганёк,
– ◡ – ◡ – ◡ – ◡
Б’ецца, ўецца шпаркі, лёгкі
– ◡ – ◡ – ◡ –
Сінякрылы матылёк (32);

– ◡ – ◡ – ◡ – ◡
Ой, чаму я стаў паэтам
– ◡ – ◡ – ◡ –
Ў нашай беднай старане? (72).

Пададзеныя адрыўкі маюць памеры чатырохстопнага ямба і харэя, якія з рэцытацыйнай плыўкасцю і раўнамерным спакоем перадаюць

*апавядальнасць* разнародных матываў: сацыяльных, бытавых, прыродных, псіхалагічных і г. д. Гэта – памер «апавядальнага» вершавання, у каторым асабістае «я» мастака не вылучаецца ў рэзкай форме, якая б заўсёды кідалася ў вочы. Нават у тых здарэннях, калі спосабам выклічных сказаў і зваротаў у форме клічных склонаў пісьменнік імкнецца вылучыць сваё аблічча, той жа рэцытатыў чатырох-шасцістопнага ямбу або харэю скрадае лішнюю эмацыянальнасць гэтых спосабаў творчасці. Напрыклад, гэта акрэслена заўважаецца ў такіх адрыўках:

◡ – ◡ – ◡ – ◡ – ◡
Прывет табе, жыццё на волі! (17);
◡ – ◡ – ◡ – ◡ – ◡
Добрай ночы, зара-зарніца! (20);

◡ – ◡ – ◡ – ◡ – ◡
Здароў, марозны, звонкі вечар!
◡ – ◡ – ◡ – ◡ –
Здароў, скрыпучы, мяккі снег! (29).

Рэцытацыйнасць ямбічнага або харэічнага вершавання адбіваецца і на лагічным змесце тэксту, стрымліваючы яго эмацыянальную выразістасць.

У вершы «Возера» першая страфа:

Ў чарцы цёмнай і глыбокай
Плешча, пеніцца віно;
Хмелем светлым і халодным
Калыхаецца яно (16)

– змяшчае мысль аб пенным, якое пераліваецца цераз край, хмельным віне; у звязку з гэтым эмацыянальная яркасць павінна адпавядаць унутранай лагічнай істоце зместу страфы. Між тым, дзеля ямбічнай плыўкасці, хмельнасць і пеннасць унутранай ідэйнасці ў значнай ступені скарочваецца.

Памер пяці-, шасці- і сямістопнага ямба або харэя, праведзены цераз увесь верш, яшчэ больш павелічае рэцытацыйнасць, ствараючы «апавядальны» характар верша;

◡ – ◡ – ◡ – ◡ –◡ –◡ – ◡
Была калісь пара: гучэла завіруха
◡ – ◡ – ◡– ◡– ◡ – ◡ –
І замяла маёй мінуўшчыны сляды. (87);

– ◡ –◡ –◡ – ◡ – ◡ –
Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог,
–◡ –◡ – ◡ – ◡ – ◡ –
Улажылі спаць мяне вы на зямлі (19).

Але іншы раз паэта парушае рэцытацыйнасць памеру і «апавядальнасць» складу рознымі камбінаванымі спосабамі ў карыстанні тымі ці іншымі метрамі, уносячы гэтым большую лірычнасць і рытмічную валвістасць у сваё апавяданне. Так, у вершы «Змяіны цар» (13) паэта карыстаецца, напрыклад, для першых двух радкоў страфы ямбічным памерам, а ў двух апошніх–харэічным; пры гэтым шасцістопны ямб, роўна ж як і сямістопны харэй, ён разбівае на два вершы – у першым 4½ стапы і ў другім 3–3½ стапы.[5] У выніку страфа мае такі выгляд:

– ◡ – ◡ –◡ – ◡
Ў цёмным небе – хараводы
– ◡ – ◡ – ◡
Сіняватых зорак,
– ◡ –◡ –◡ – ◡
Ў цёмным небе свеціць месяц
– ◡ – ◡ –
Залатым сярпом...
– ◡ – ◡ – ◡ – ◡
Мы ўжо выйшлі з цесных, душных
– ◡ – ◡ – ◡
Падзямельных норак,
– ◡ – ◡ – ◡ – ◡
На зімовы цёплы вырай
– ◡ – ◡ –
Цягнемся-паўзём (13).

Часта паэта карыстаецца скарочанымі радкамі, змяшчаючы іх у канцы страфы, або заканчваючы імі перыяды страфы. Прыкладам, у вершы:

Прывет табе, жыццё на волі!
Над галавой – дубоў павець,
Віднеюць неба, горы, поле
Праз лісцяў сецьь (17)

– чатырохстопны ямб першых трох радкоў страфы заканчваецца радком з дзвюх стоп таго ж памеру.

Наадварот, у вершы:

Не блішчыць у час змяркання і ў глыбокай цемні ночы
Дыямент каштоўны,
Але белым днём красою нам чаруе, вабіць вочы
Блеск яго цудоўны (70)

– васьмістопны харэй мае ў заканчэнні кожнага перыяда трохстопны метр той жа формы.

[5] Той жа спосаб распадзялення сямістопнага харэя на чатыры (першы радок перыяда) і тры (другі радок) і ў вершы «Вечар» (40).

Наагул строфы з уцятымі радкамі маюць разнародны выгляд. У вершы «Дзве смерці» (58) першы, трэці і чацверты радок маюць шасцістопны ямб. Або ў вершы «Даўно ўжо целам я хварэю…» (73) чатырохстопны ямб чарадуецца з двухстопным у страфе з чатырох радкоў і г. д.

Усе іншыя метры (39 вершаў) у творчасці М. Багдановіча трохскладныя – дактылічныя, анапестычныя і амфібрахічныя, ужываныя або ў чыстым выглядзе, або ў злучэнні з двухскладнымі памерамі – ямбам і харэем, ствараючы так званыя – лагаэды, г. зн., змяшаныя метры. У адношанні да тэматычнага матэрыялу ўсе памеры гэтага гатунку знаходзяцца ў «безразрозлівым стане», г. зн., тэмы аднаго і таго ж характару выабражаюцца пры помачы розных метраў з ліку вышэй названых. Эмацыянальная залежнасць між ідэйнасцю твора і тым або іншым метрам у яе паасобных выразах не паддаецца падрахаванню. Агульнае даследаванне ў гэтым кірунку можа быць зведзена толькі да паказання на тое, што трохскладныя памеры адпавядаюць характару матываў у паэзіі М. Багдановіча, прасякнутай, як гэта відаць з папярэдняга, у агульных рысах, песімістычным настроем. Звычайным тыпам трохскладных памераў з'яўляецца метр трохстопны і чатырохстопны. Значна радзей – шасцістопны.

Як у двухскладных метрах паэта ўжывае ўцятых радкоў для надання большай разнароднасці памеру, так гэта ж самае ён робіць і ў трохскладных мэтрах. Але прыклады адпаведна ўсечаных радкоў сустракаюцца параўнальна рэдка. Больш часты мяшаныя памеры, г. зн., злучэнне трохскладнага метра з двухскладным, прычым апошні і можна разглядаць, як вядомы спосаб уцяцця радка. Напрыклад,

Зразаюць галіны таполі адну за адной...
Без скаргі яны на зямлю чарадою лажацца,
Бо смерць іх патрэбна, каб дзерава новай вясной
Магло бы хутчэй развівацца (66).

Вытрыманы пяцістопны амфібрахій тут маецца толькі ў другім радку. Першы і трэці маюць чатырохстопны поўны і пяты ўсечаны, г. зн., ямб. Чацвёрты радок укарочаны да памеру поўных трох стоп амфібрахія.

Вынікам такога, ласне, «чарадавання» і камбінавання метру і з'яўляецца яго жывасць, пераліўнасць, выпукласць, пластычнасць. Калі рэцытацыйныя памеры можна параўнаць з цячэннем ракі па роўнаму лугавому ручву з цячэннем спакойным і ціхім, то памеры перарывістыя хутчэй сімвалізуюць горскую раку, якая цячэ па камянёх з голасным дзурчэннем, часам пераліваючыся з вялікім клыгатаннем цераз каменныя перагародкі. Гэтыя гукі пераліваў, каторыя паўтараюцца з вядомай размеранасцю, і адзначаюць больш выразна рытмічнае цячэнне верша. Гэткая і метрыка М. Багдановіча.

*Рыфмічны* лад паэзіі М. Багдановіча некалькі зыходзіцца з тымі спосабамі, якія былі адзначаны ў яго метрыцы. Характэрнай для мастака

рыфмаю з’яўляецца пярокрыжная, якая ў адносінах эмацыянальным такжа аказуецца рэцытацыйнай і аднароднай. Гэта тым больш прыходзіцца сказаць, што паэта ўжывае рыфму гэтага гатунку ў страфе чатырохрадковага складу, ствараючы гэтым яшчэ большую размеранасць, але адначасна – і манатоннасць. У данным здарэнні мы бачым тое ж самае, што і ў яго чатырохстопных ямбах і харэях. Аднак, як там, так і тут – у пытаннях рыфмічнага ладу – мастак ужывае і цэлага раду спосабаў камбінаванага характару. Ён карыстаецца часам і пяцірадковай страфой, у якой паўтарае лішні раз рыфму першага радка:

Чуеш гул? – Гэта сумны, маркотны лясун
Пачынае няголасна граць:
Пад рукамі яго, навяваючы сум,
Быццам тысячы крэпка нацягнутых струн,
Тонкаствольныя сосны звіняць (9).[6]

Часты здарэнні ўжывання рыфмы і цераз нерыфмаваны радок:

Па-над белым пухам вішняў,
Быццам сіні аганёк,
Б’ецца, ўецца шпаркі, лёгкі
Сінякрылы матылёк (32).[7]

Такія спосабы рыфмавання тлумачацца тым, што паэта ў двухрадковай рыфмаванай страфе:

Па-над белым пухам вішняў, быццам сіні аганёк,
Б’ецца, ўецца шпаркі, лёгкі сінякрылы матылёк (32),

– разразае кожны радок на дзве часці і стварае страфу з чатырох радкоў, з якіх аб’ядноўваюцца рыфмаю толькі першапачатныя радкі; занова створаныя астаюцца без рыфмоўкі.

Ёсць здарэнні і яшчэ больш своеаблічнай рыфмоўкі, якая збліжаецца да рыфмічнай згучнасці тэрцын. Так, у вершы «Разрытая магіла» (26) кожная страфа пабудавана ў рыфмічным адносінах такім парадкам:

Дробны дождж сячэ, ліецца;
Вецер злосна ў хату рвецца,
Ў полі стогнам аддаецца,
Стукне ў дзверы і акно –
Сэрца беднае заб’ецца,
І адразу ў ім прачнецца,
І адразу скалыхнецца
Ўсё што, згінула даўно... (26).

[6] Тое ж і ў другіх здарэннях: «Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог…»,19; «Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць!..», 51 (з другой страфы), «Дзве смерці», 58; «Каганцу», 60; «Калі зваліў дужы Геракл…», 74 і інш.

[7] Таксама: «Змяіны цар», 13; «Возера», 16.

Першыя два радкі звязуюцца адною рыфмаю; далей ідуць аднародныя ў рыфмічным адношанні трэці, пяты, шосты і сёмы радкі; чацвёрты і восьмы маюць сваю рыфму.[8]

Усе іншыя тыпы рыфмаў, ужываныя М. Багдановічам, сумежныя або ахапляючыя. Ёсць, урэшце, і некалькі прыкладаў камбінавання розных тыпаў рыфмоўкі ў адным і тым жа вершы. Адны строфы аб'ядноўваюцца пярокрыжнымі рыфмамі, а другія сумежнымі (Параўнай вершы: «З Чарняўскага», 101; «З Олеся», 102).

Што да сугучнасці, пераважаючая большасць рыфмаў точных: лясун – сум, каласы – расы (9); стары – бары, згінуў – пакінуў, адбівае – хавае (10); горкі – зоркі, косы – росы (11) і інш. Гэта ўласцівасць знаходзіцца ў звязку з агульным характарам яго паэзіі – яе яркасцю і пластычнасцю. Точныя рыфмы сваёй рэзкаю акрэсленасцю і выразным зыходжаннем рыфмаваных між сабой гукаў прыдаюць, ласне, выпукласці паэтычным абразом. Гэтая выпукласць абразоў у творах М. Багдановіча падкрэсляецца яшчэ і тым, што большасць рыфмаў прыпадае на галоўныя часці сказа: часта – на дзейнік («Засыпаюць грудзі мне жоўтыя *пяскі*», «Над вадой ля берага ціха спіць *асока*» (12); «У небе месяца праглянуў бледны *рог*», «Чую ў цішы, як расце *трава*» (19); «Дзесь у хмарах жывуць *павукі*», «Ў целе стыгне халодная *кроў*» (25); «Крэпка скутая снегам *зямля*» (27) і г. д.), асабліва часта – на сказнік («Зрубалі бор, – лясун *загінуў*, Сваё люстэрка ён *пакінуў*»; «Жыццё сабою *адбівае*» (10); «Па шыры неба ўдоль марудна *праплывае*, Але вось паветра *рассякае*;  А людзі кажуць: гэта дождж *праліўся*» (14) і г. д.), радчэй – на простае дапаўненне («Цягне з возера срэбныя *сеці*; У іх русалкі заблуталі *косы*» (11); «Але месяц правёў праз рэкі светлы *шлях*» (23) і інш.)

Рыфмы прыблізныя, глыбокія, якія характарызуюць галоўным чынам эмацыянальны лад твора, у творчасці М. Багдановіча займаюць вельмі нязначнае палажэнне. Лік іх невялікі: перад – я – мая (13), залатых – ў іх (32), сіняватыя – да хаты я (34), ізумруд – з болем тут (46). Гэтая акалічнасць паказуе на малалічэбнасць эмацыянальных азнак у сферы фанетычных уласцівасцей яго паэзіі.

Разгледжаныя ўласцівасці кампазіцыі стылістычнай і фанетычнай характарызуюць акрэсленым спосабам і элементы кампазіцыі сюжэтнай – яе тэмы і матывы, ствараючы з імі вядомыя тэлеалагічныя сувязі з ёй. Цяпер на чародзе разгляд таго, якім парадкам гэтыя часці, даследаваныя намі ў агульных рысах, аб'ядноўваюцца паміж сабою, ствараючы суцэльны мастацкі твор. Інакш кажучы, мы павінны цяпер апісаць і сюжэтную пабудову. У папярэднім выкладзе, разглядаючы ў мэтах канстатавання розныя ўласцівасці тэматычнага характару – стылістычныя і фанетычныя, мы

[8] Параўнай также падобнага гатунку разрэзы ў 7 вершах: «Не кувай ты, шэрая зязюля...», 37; «Вечар», 40; «Упалі з грудзей Пана Бога...», 61; «Напілося сонца…», 71; «Песняру», 81; Некалькі іншыя разрэзы ў вершы «Ціха па мяккай траве…», 21.

ў значнай меры ўстанавілі і тыя мастацкія заданні, якія кожная з іх выконвае. Цяпер трэба, у рамках кампазіцыі сюжэтнай, разгледзіць злучнае дзеянне паказаных трох фактараў мастацкай творчасці – тэматыкі, стылю і фанетыкі, іх мастацкую ролю ў цэльных творах.

На першым месцы – уласцівасці тэматычнага характару і іх кампазіцыйнае значэнне ў вершах М. Багдановіча. Раней было паказана, што сферу ідэйнай стараны творчасці паэты выражаюць тэмы і матывы, якія, пры помачы акрэсленых спосабаў, злучаюцца разам і ў выніку даюць закончаны твор. Гэты працэс іх злучэння і складае змест першага пытання ў рамках сюжэтнай кампазіцыі.

Разглядаючы творчасць М. Багдановіча з гэтай, ласне, стараны, мы можам устанавіць некатарыя гатункі тэматычнай кампазіцыі, характэрныя для паэты. Найбольш пашыраным у яго спосабам распалажэння тэматычнага матэрыялу аказваецца разцяцце яго ў вершы на дзве часці, прычым звычайнай схемай у такіх здарэннях з'яўляецца наступная: у першай часці верша – тэмы і матывы знешняга свету, у другой – настроі ўнутранага псіхалагічнага зместу. Такі план распалажэння тэматычнага матэрыялу пераважае ў творчасці М. Багдановіча, пашыраючыся на большасць яго вершаў. Калі прасачыць гэты падыход прытасоўна да яго тэм і матываў, то на першым месцы акажуцца вершы з матывамі прыроды, затым – сацыяльнымі, далей – бытавымі. У меншай меры можна адзначыць гэты падыход у творах з матывамі філасафічнымі і літаратурнымі. Істота кампазіцыйнага чэлесавання па гэтай схеме зводзіцца, у яго звычайным і найбольш частым выглядзе, да таго, што ў першай часці твора, аб'яднанага тым або іншым лікам строф, выкладаецца «эпічная» часць матыву, тыя або іншыя малюнкі свету, а ў другой, такжа страфічна звязанай, – змяшчаецца часць «лірычная», якая складае асабістыя настроі мастака. Так, у вершы:

Вечар на захадзе ў попеле тушыць
Кучу чырвоных кавалкаў вугля;
Ціха ўсё; вецер лістка не зварушыць,
Не скалыхнуцца ні траўкай паля;
Цёмныя цені даўжэй у лагчыне,
Птушкі прыстаўшай марудней палёт;
Сумна плыве маладзік бледна-сіні
Ў небе вячэрнім, зялёным, як лёд;
Іскрацца зорак сняжынкі маркотна,
Збожжа пакрылася шызай расой...
Кіньма жа думкі аб долі гаротнай,
Хоць бы на момант спачынем душой! (22)

– мы не маем наўзвочнага дзялення на строфы. Між тым, не гаворачы аб азнаках стылістычнага і фанетычнага характару, ужо з тэматыч-

нага пункту гледжання можна зусім акрэслена бачыць яго тэматычныя разрэзы. Першыя дзесяць радкоў даюць малюнак прыроды; апошнія два маюць псіхалагічны змест. Калі прыняць апошнія два радкі «іншага» зместу за страфу, то такімі ж будуць і другія, якія складаюць увесь верш. Гэткае дзяленне не пярэчыць азнакам стылістычнай уласцівасці, якія зводзяцца ў варунках сюжэтнай кампазіцыі да праяў мастацкага сінтаксісу. Аднак, доследы ў фанетычнай сферы паказваюць, што дадзеныя разрэзы з'яўляюцца толькі перыядам, але не страфой. Уласціва, рыфмічны лад тут будуецца пярокрыжнымі сугучнасцямі, захапляючымі чатыры радкі. Такім чынам, даны верш складаецца з чатырох строф: дзве страфы і адзін перыяд складаюць абразы прыроды, другі перыяд апошняй трэцяй страфы – настрой паэты.

У прыведзеным прыкладзе пераважаючай аказваецца «эпічная» часць, а аканчальнай – лірычная. Але сярод вершаў М. Багдановіча маюцца і такія, у якіх мастацкі матэрыял падзяляецца ў абразным парадку, г. зн., матывы знешняга асяродку ўрэзаны і з'яўляюцца толькі ўступам, зачаткам вершу, а тэмы настрояў запаўняюць усе іншыя часці твору. Так, у вершы «Разрытая магіла»:

Дробны дождж сячэ, ліецца;
Вецер злосна ў хату рвецца,
Ў полі стогнам аддаецца,
Стукне ў дзверы і акно –
Сэрца беднае заб'ецца,
І адразу ў ім прачнецца,
І адразу скалыхнецца
Ўсё, што згінуло даўно.
Ўспомніць сэрца, што любіла,
Ўспомніць моладасць і сілу,
Ўсё, што знікла і уплыла,
Ўсё успомніць, як у сне.
Бачу: сэрца не забыла,
Што жыццё ў ім загубіла...
І разрытаю магілай
Вее сумна на мяне. (26)

– апісанне прыроды займае толькі адзін перыяд васьміраздковай страфы; другі перыяд той жа страфы, а такжа ўся другая страфа запоўнены матэрыялам псіхалагічнага зместу.

Такое распалажэнне матэрыялу ў вершах М. Багдановіча аказваецца тыповым. Яно праводзіцца нават у кананізаваных формах паэзіі, такіх, як санеты, тэрцыны, пентаметры і інш. Большасць іх і пабудавана па такой, ласне, кампазіцыйнай схеме, прычым «памеры» тэматычнага матэрыялу першага і другога гатунку аказваюцца рознымі і ахапляюць у кожным паа-

собным творы розны лік строф і перыядаў. Аднак, агульны прынцып падзелу ўсяго тэматычнага матэрыялу на дзве часці – абразы знешняга свету і тэмы асабістых перажыванняў мастака – захоўваюцца.[9]

Разнастайнасцю гэтай жа кампазіцыйнай схемы з'яўляецца некалькі іначшае распалажэнне мастацкага матэрыялу таго ж ідэйнага зместу. У папярэдніх прыкладах чарадаванне тэм і матываў заўважалася ў закрэсе суцэльнага верша. У М. Багдановіча маецца шэраг твораў, у якіх такое ж чарадаванне ўжываецца ў рамках асобнай страфы. Гэтак пабудаваны, прыкладам, верш «Зімовая дарога» (28), у каторым першая і трэцяя строфы прадстаўляюць сабой злучэнне тэм дваякага характару – з закрэсу прыроды і звязаных з ёю ўнутраных настрояў:

Шпарка коні імчацца у полі,
Сумна бомы гудзяць пад дугой,
Запяваюць аб долі і волі,
Навяваюць у сэрцы спакой. […]
Поле нікне у срэбным тумане,
Снег блішчыць, як халодная сталь,
І лятуць мае лёгкія сані,
Унашуся я ў сінюю даль (28).[10]

Урэшце, карыстаецца такім падыходам падзелу мастацкага матэрыялу па строфах, пры якім эмацыянальныя перажыванні аўтара займаюць пачатныя і канчальныя перыяды і строфы верша; значыць, у такіх здарэннях абразы гэтага роду твораць сабою запачаткаванне верша і яго вывад. Прыкладам, верш «Зімой» (29) пабудаваны па такой ласне схеме:

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі снег!

[9] Такая схема тэматычнай кампазіцыі вытрымліваецца ў гэткіх вершах: «Возера», 16; «Прывет табе, жыццё на волі!..», 17; «Блішчыць у небе зор пасеў…», 18; «Цёплы вечар…», 19; «Ціха па мяккай траве…», 21; «Плакала лета…», 24; «Дзесь у хмарах жывуць павукі…», 25; «Перад паводкай», 30; «Раманс», 33; «Ўся ў слязах дзяўчына…», 35; «Вечар», 40; «Кніга», 44; «Уступ», 50; «Вулкі Вільні», 51; «У Вільні», 52; «За далямі места…», 53; «На глухіх вулках…», 54; «Ад спёкі пышуць дахі…», 57; «С. Е. Палуяну», 59; «Упалі з грудзей Пана Бога…», 61; «Краю мой родны!..», 62-63; «Зразаюць галіны таполі адну за адной...», 66; «Нашых дзедаў душылі абшары лясоў…», 68; «Не блішчыць у час змяркання…», 70; «Калі зваліў дужы Геракл…», 74; «Дзе вы, лясоў, палёў цвяты?..», 78; «Калі ў ракавіну цёмную жамчужніцы...», 79; «Свяча бліскучая зіяе…», 80; «Гутарка з паненкамі», 83; «Была калісь пара…», 87; «Пентаметры», 90; «Непагодай маёвай», 91; «Санет», 92-93; «Актава», 97; «Тэрцыны», «З Крымскага», 100; «З Алеся», 102.

[10] Па гэтаму прыкладу з тымі ці іншымі камбінацыямі ў строфах пабудаваны вершы на балонах 23, 27, 28, 31, 33, 38, 39, 75, 88.

Мяцель не вее, сціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег.
Як мары, белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць.
У небе зоркі ад марозу
Пахаладзеўшыя дрыжаць.
Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, светлы стоўп спусціў
І рызай срэбнаю раздолле
Снягоў сінеючых пакрыў.
Ўзрывайце ж іх санямі, коні!
Звіні, вясёлых бомаў медзь!
Вакол лятуць бары і гоні,
Ў грудзях пачала кроў кіпець (29).

Пачатны перыяд першай страфы, які перадае эмацыянальныя адносіны мастака і выражаны выклічнымі сказамі, з'яўляецца запачаткаваннем верша, яго ўступам. Апошняя чацвёртая страфа з яе выклічнымі сказамі такжа эмацыянальна-псіхалагічнага зместу і творыць сабой заканчэнне вершу, яго эмацыянальны вывад.[11]

Побач з гэтым спосабам кампазіцыйнага падзелу тэматычнага матэрыялу ў М. Багдановіча можна адзначыць і другі, які, аднак, ахоплівае значна меншы лік яго твораў. Гэтая другая кампазіцыйная манера заключаецца ў тым, што паэта запаўняе свае творы або цалкам «эпічным» зместам, г. зн., выбражаннем свету знешняга, або – выключна лірычным, які рысуе тэмы ўнутранага свету. Ілюстрацыяй гэтага способу з «эпічным» зместам можа служыць верш «Возера» (10):

Стаяў калісь тут бор стары,
І жыў лясун у тым бары.
Зрубалі бор – лясун загінуў,
Во след яго ад той пары:
Сваё люстэрка ён пакінуў.
Маўляў, у іншы свет акно,
Ляжыць, халоднае, яно,
Жыццё сабою адбівае
І ўсё, што згінуло даўно,
У цёмнай глыбіні хавае (10).[12]

[11] Таксама складзены верш на бал.: 9, 20, 34, 37, 69, 95.

[12] Да гэтай жа групы належаць вершы на бал.: 11, 12, 13, 14, 15, 41-42, 43, 45, 47, 48, 49, 55, 56, 58, 60, 71, 76, 77, 79, 80, 81, 94, 96, 99, 103.

Прыкладам «лірычнай» ідэйнасці з'яўляецца верш:

Ой, чаму я стаў паэтам
Ў нашай беднай старане?
Грудзі ныюць, цела вяне,
А спачыць не можна мне:
 Думкі з розуму ліюцца,
 Пачуццё з душы бяжыць...
 Мо за імі кроў палыне,
 І тады ўжо досі жыць! (72).[13]

Спосабы тэматычнай кампазіцыі знаходзяцца ў цеснай сувязі з манерай стылістычнага кампанавання твораў. Вядома, што ў змест паняцця аб стылі ўходзіць цэлы рад паасобных праяў, якія характарызуюць у агульным злучэнні стылістычную старану твору. Але раней яны разглядаліся паасобна, як самаістыя актыўнасці, каторыя маюць акрэслены змест і форму, і выконваюць тое або іншае тэлеалагічнае заданне. У варунках кампазіцыі цэльнага твора гэтыя разрозненыя стылістычныя часці аб'ядноўваюцца і выконваюць свае мастацкія заданні як адзінае арганізаванае цэлае. Такое аб'яднанне стылістычных актыўнасцяў выражаецца ў мастацкім сінтаксісе, які ў гэтым здарэнні з'яўляецца другім фактарам кампазыційнага пабудавання твора. У канкрэтным выглядзе кампазіцыйная роля сінтаксісу выяўляецца ў такіх спосабах, як інверсія і паўтарэнні.

Першай з паказаных уласцівасцяў мастацкага сінтаксісу ў даны момант, калі крыўская (беларуская) літаратурная і народная мова не мае сваёй навуковай граматыкі, разглядзець у поўнай меры не прадстаўляецца магчымым. Данныя мастацкай інверсіі, як спосабу распарадку паасобных часцей, што складаюць сказ, у творчасці таго ці іншага мастака устанаўліваюцца з пункту гледжання дагматычна-акрэсленых норм распакладу сінтаксічнага цэлага, г. зн., сказу; між тым крыўская літаратурная мова яшчэ не мае ў закрэсе сінтаксісу устаноўленых норм, дзеля чаго інверсія, як мастацкі спосаб, астаецца без разгляду.

Другі спосаб мастацкага сінтаксісу – паўтарэнні, якія з'яўляюцца прыналежнасцю эмацыянальна-рытарычнага стылю рамантычнай паэзіі. М. Багдановіч, як паказаў аналіз стылістычных і фанетычных асобнасцяў яго твораў, з'яўляецца пераважна прадстаўніком рэальнай, пластычнай паэзіі. Спосабы творчасці, характэрныя для эмацыянальнай лірыкі маюцца, як відаць з доследу, у меншым ліку. Тая ж уласцівасць заўважаецца і ў закрэсе ўжывання паўтарэнняў, як аднаго са спосабаў эмацыянальнай мовы. З розных гатункаў паўтарэнняў, часцей ужываных, звяртае ўвагу паўтарэнне эпаналепсічнае або

[13] Такія ж самыя і вершы на бал.: 64, 65, 67, 73, 82, 84, 85, 89, 101.

кругавое. У вершах М. Багдановіча яно апаясвае ўвесь твор паўтарэннем аднаго радка ў пачатку і ў канцы; гэткае паўтарэнне ў вершы:

*Добрай ночы, зара-зараніца!*
Ўжо імгла над зямлёю лажыцца,
Чорнай рызай усё пакрывае,
Пылам зор небасхіл абсявае.
Цішыня агартае мне душу.
Вецярок прыдарожную грушу
Ледзьве чутнаваруша-калыша,
Міла бомы смяюцца ў цішы,
Ціха срэбрам грукае крыніца,
*Добрай ночы, зара-зараніца*! (20).

Тут першы і апошні радок («Добрай ночы, зара-зараніца!»), які выражае ў выклічным сказе эмацыянальнае адношанне мастака, кальцом апаясуе «эпічную» часць верша, якая змяшчае ў сабе апісанне малюнку ночы. Паміма сувязі тэматычнай, якая ствapae тэматычны паралелізм, між паўторнымі радкамі і асноўным зместам верша маецца і сувязь фанетычнага характару. Першы радок звязуецца з наступным адной сумежнай рыфмай: зарніца – лажыцца. Роўным чынам апошні радок аб'ядноўваецца з папярэднім такжа сумежнай рыфмай, зусім аднаістай з першым радком: крыніца – зарніца:

Некаторую разнароднасць паказанага гатунку паўтарэнняў прадстаўляе сабой такое здарэнне, калі радок, які пачынае твор, паўтараецца ў канцы яго ў некалькі змененым выглядзе. Гэта мы бачым у вершы:

*Сумна мне, а ў сэрцы смутак ціха запявае:*
«Сцежка ў полі пралягае, траўкай зарастае.
Каля сцежкі пахіліўся явар да каліны, –
Там кахаліся калісь-то хлопец і дзяўчына.
Ой, ішла дарога долам, ды ішла і горкай, –
Не схавалася дзяўчына ад той долі горкай:
Во ляжыць яе дарожка, траўкай зарастае;
*Сумна глянуць, цяжка бачыць, жаль душу праймае*» (36).

Тэматычная істота паўтораных радкоў сінанімічная, але кожны з іх выражаецца рознымі словамі. Акром тэматычнага паралелізму, сувязь іх аднаго з другім падтрымліваецца анафарычным «сумна», а такжа і аднолькавым рыфмічным аб'яднаннем: 1) запявае – зарастае, 2) зарастае – праймае.

У вершы:

*Не кувай ты, шэрая зязюля,*
Сумным гукам у бары (37),

– мы бачым кальцавое пабудаванне ў новай адменнасці. Першы радок мае ў сабе сказ адкідаючага характару, які ў аканчальным радку:

Прыляці ж тады ты на магілу,
*Закувай, «як у бары»,*

– прымае форму «палажыцельнай» просьбы паэты. У абодвух здарэннях істотная часць сказа выражана аднолькавай формай – загадным ладам. Такім чынам, паўтарэнне будуецца на своеаблічным тэматычным паралелізме і на некаторай сінтаксічнай роднасці.

Кальцавое паўтарэнне іншы раз апаясуе ў М. Багдановіча не толькі верш у яго суцэльным складзе, але і паасобныя яго строфы, прычым паўторныя радкі – аднаго і таго ж зместу і формы. Верш «Завіруха»:

*У бубны дахаў вецер б'е,*
*Грыміць па ім, звініць, пяе.*
І спеў ліецца ўсё мацней, –
Гулянку справіў пан Падвей.
*У бубны дахаў вецер б'е.*
*Грыміць па ім, звініць, пяе.*
Ўскіпела снежнае віно,
І белай пенай мкне яно.
*У бубны дахаў вецер б'е,*
*Грыміць па ім, звініць, пяе.*
Па вулках вее дзікі хмель,
Гудзіць сп'янелая мяцель.
*У бубны дахаў вецер б'е,*
*Грыміць па ім, звініць, пяе.*

– мае двухрадковы зачын, які потым паўтараецца пасля кожных двух радкоў, ствараючы разам з імі страфу з чатырох радкоў. Два радкі, якія паўтараюцца, звязаны са зместам усяго верша тэматычнай еднасцю. Паўтарэнне развівае больш канкрэтна асноўную тэму твора – малюнак завірухі. У працілегласць папярэдняму прыкладу, фанетычнай сувязі ў сэнсе рытмічнага аб'яднання ў даным здарэнні не маецца. Апроч таго, у метрычным і сінтаксічным адносінах радкі, якія паўтараюцца, прадстаўляюць закончанае самаістае цэлае. Гэтыя азнакі збліжаюць паўтарэнне да рэфрэнаў, якія адлучаюцца ад асноўнага зместу верша самаістасцю тэмы, метру і сінтаксісу. У пададзеным намі прыкладзе паўтарэнне звязуецца тэматычным паралелізмам і гэтым розніцца ад рэфрэну, уласцівага, галоўным чынам, народнай песні.

У пададзеным прыкладзе паўтарэнне аказуецца аднолькавым на працягу ўсяго верша. Але ёсць і такія вершы, у якіх для кожнай страфы маецца асобнае апаясуючае кальцо. Гэткі гатунак паўтарэння маецца ў М. Багдано-

віча ў яго «Рамансе» (33), які з'яўляецца свайго роду кананізаванай формай што да зместу, звычайна маючага ў сабе фабулу любоўнага характару:

*Зорка Венера ўзышла над зямлёю,*
Светлыя згадкі з сабой прывяла…
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
*Зорка Венера ўзышла.*
*З гэтай пары я пачаў* углядацца
Ў неба начное і зорку шукаў.
Ціхім каханнем к табе разгарацца
*З гэтай пары я пачаў.*
*Але расстацца нам час* наступае;
Пэўна, ўжо доля такая у нас.
Моцна кахаў я цябе, дарагая,
*Але расстацца нам час.*
*Буду ў далёкім краю* я нудзіцца,
Ў сэрцы любоў затаіўшы сваю;
Кожную ночку на зорку дзівіцца
*Буду ў далёкім краю.*
*Глянь іншы раз на яе,* – у расстанні,
Там з ёй зліём мы пагляды свае...
Каб хоць на міг уваскрэсла каханне,
*Глянь іншы раз на яе...* (33)

У пададзеным прыкладзе «кальцо» страфы мае асобны выгляд; паўторны радок у канцы страфы ўцяты: у ім адкінуты апошнія словы першых радкоў яго. У тэматычным стасунку паўтарэнні знаходзяцца ў цеснай сувязі з агульным зместам верша, складаючы з ім адно ідэйнае цэлае, але ў кожным паасобным здарэнні паўторны радок не толькі павелічае эмацыянальны настрой верша, але і раскрывае ў закрэсе зместу новыя даныя лагічнага характару. Гэтак, калі мы возьмем першую страфу верша, то ў ім першы радок звязаны з другім, творачы з ім адно тэматычнае цэлае, выражанае лішнім сказам:

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прывяла.

Чацвёрты радок той жа страфы належыць да трэцяга, які знаходзіцца з ім у тэматычнай і сінтаксічнай сувязі:

Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла.

Тая ж кампазіцыйная схема праводзіцца і ва ўсіх іншых строфах верша.

Асобны гатунак кальцавога паўтарэння прадстаўляе сабою тое здарэнне, калі кожная страфа апаясуецца славесным радам, які з'яўляецца

*часцю* радка першай страфы. Такое «кальцо» мы маем у вершы «Непагодаю маёвай» (91):

*Падаюць вішняў цвяты,* і разносіць іх вецер халодны;
Снегам у чорную гразь *падаюць вішняў цвяты.*
*Плачце, галіны, лісты!* Загубілі вятры цвет ваш родны, –
Не к чаму болей вам жыць. *Плачце, галіны, лісты!*

Схема кальцавога паўтарэння ў своеаблічнай яго камбінацыі паўтараецца і ў трыялетах (94, 95) М. Багдановіча, пабудаваных па плану, кананічнаму для гэтага гатунку лірычнай творчасці. Як ілюстрацыю, возьмем яго першы «Трыялет» (94):

*Як птушка ў гібкіх трасніках,*
Стралою думка мільганула
І ўраз жа знікла, патанула,
*Як птушка ў гібкіх трасніках.*
Ды ўсё ж душа яе пачула
І ўжо пяе ў такіх славах:
*«Як птушка ў гібкіх трасніках,*
Стралою думка мільганула».

Як ведама, схема трыялета апіраецца на лічбе «тры», адкуль і паходзіць сама яго назова. 1) Першы яго радок паўтараецца тры разы; 2) тры непаўторных радкі: 3, 5 і 6; 3) тры паўторных радкі: 4, 7 і 8; 4) тры аднолькавых рытмы ў сярэдзіне трыялету ў радкох: 3, 4 і 5. Гэткі звычайны канон, устаноўлены для трыялета. Першыя тры азнакі маюцца і ў пададзеным трыялеце М. Багдановіча. Чацвёртая азнака не вытрымана ў ім. Паэта будуе свае трыялеты (94, 95) на аснове апаясуючых рыфмаў. Гэта з'яўляецца вядомым адступленнем ад канона. Са стараны свае ідэйнасці трыялеты М. Багдановіча таксама не вытрыманы ў стылі цвёрдай устаноўленай формы для гэтага гатунку лірычнай творчасці. Як гавораць звычайныя паэтыкі, трыялеты прадстаўляюць сабой «забаўку» ў вершаванні, якая дае «выабражанне кволкай або вострай мыслі». М. Багдановіч укладае ў абодва трыялеты глыбока філасафічныя мыслі. У першым, вышэйпададзеным, ён рысуе цэлы складны працэс мастацкай творчасці. Дума стралою мільгае ў душы мастака і выходзіць з яе ў форме паэтычнай песні. У другім трыялеце паэта таксама праводзіць філасафічную мысль аб тым, што чалавек, раз пазнаўшы «святло сонца», не можа баяцца «ценяў вечнай ночы».

Форму рэфрэна напамінае верш «Дзве смерці» (58):

Калі патрыцый смерць з прыветам спатыкаў,
Прабіўшы жылы на руках,
Дрыжэлі спевы флейт, дзень ясны дагараў,
А праз вакно струёю вецер павяваў
*І... мігдаловы горкі пах.*
Ты, грозны жэрабій, учора ўзяты зноў;
На срога сціснутых губах
Не мгліцца люстра гладзь; застыгла ў жылах кроў;
Скрозь вее цяжкі дым ад спаленых лістоў
*І... мігдаловы горкі пах.*

– аканчальны радок кождай страфы. У кампазіцыйным адношанні тут маем т. зв. эпіфару ці канцоўку. Кожная з пададзеных строф рысуе абраз смерці зусім розных па сацыяльнаму палажэнню асоб і часаў; у першай страфе памірае патрыцый, у другой, як зазначана ў эпіграфе верша, – смерць І. І. Івановай з Мяшчанскай вул., д. №17. Акружанне смерці кожнага з іх рознае да поўнай процілегласці. Такім чынам, сувязь паміж строфамі толькі ідэйная, тэматычная, аднак яна падтрымліваецца аднолькавым метрычным пабудаваннем (рыфмы па схеме: 1-2-1-1-2) кожнай страфы, зусім адасобненай адна ад другой, і паўтораным пасля кожнай з іх пятым радком.

Паўторны радок у канцоўцы іншы раз падпарадкуецца вядомым варыяцыям, захоўваючы ў пачатным выглядзе толькі часць паўтарэння і змяняючы змест другой яго часці. Гэткая, прыкладам, канцоўка ў вершы «Была калісь пара: гучэла завіруха…» (87), якая мае ў першай страфе такі выгляд:

Куды цяпер ісці? Куды?,

а ў другой:

Куды ж ісці і што рабіць?

Са стараны метрыкі гэта канцоўка звязуецца з папярэднімі радкамі, а з тэматычнай – прадстаўляе сабою эмацыянальна-лірычны вывад паэты з папярэдняга зместу строф:

Была калісь пара: гучэла завіруха
І замяла маёй мінуўшчыны сляды.
Усціхла ўжо яна... Плывуць у даль гады,
А ўсё не б’юцца скрыдлы духа:
    Куды цяпер ісці? Куды?
Ў душы гарыць агонь нуды, – пануры, чорны.
Ці мне крыніцай слёз сваіх яго заліць

І плугам цяжкага мучэння сэрца ўзрыць? –
Мо ўзойдуць там надзеі зёрны!..
Куды ж ісці і што рабіць?

Такім парадкам ствараецца своеаблічны тэматычны паралелізм. Некаторае адношанне да эпіфарнага паўтарэння мае адна з нанізаваных форм паэзіі; гэта – рандо. У лірыцы М. Багдановіча ёсць адзін прыклад гэтага гатунку творчасці з такім жа назовам «Рандо» (96):

Узор прыгожы пекных зор
Гарыць у цемні небасхіла;
Вада балот, стаўкоў, азёр
Яго ў глыбі сваёй адбіла.
І гімн спявае жабаў хор
Красе, каторую з'явіла
Гразь луж; напоўніць мгла прастор,
І ўстане з іх гарашчы міла
Узор.
І сонца дальш клянуць, што скрыла
Луж зоры днём. І чуе бор,
І чуе поле крэхат хілы,
Ды жаб не ўчуць вышэй ад гор,
Там, дзе чыясь рука зрабіла
Узор.

Схема пабудавання гэтага гатунку верша заключаецца, як вядома, у тым, што кожная страфа яго мае прыпеў-рэфрэн, які прадстаўляе сабою паўтарэнне часці першага радка. У пададзеным прыкладзе рэфрэнам з'яўляецца слова «узор», з якога пачынаецца і самы верш. Рыфмаў у рандо толькі дзве. Гэта ўласцівасць захоўваецца і ў нашага паэты; рыфмічны лад у яго ства раецца сугучнасцямі: ор (ёр) – ор і іла (ыло, ілы) – іла. Прыпеў звязуецца з асноўнай часцю верша рыфмічнаю сувяззю (прастор – узор, гор – узор), але яго метрыка асобнага гатунку значна ўкарочаная ў параўнанні з іншымі радкамі.

На аснове страфічнага канона, як ведама, будуецца і рад іншых гатункаў лірычнай паэзіі. З іх у М. Багдановіча мы маем, апроч ужо разгледжаных, яшчэ – тэрцыны і санеты.

Першы гатунак – тэрцыны – ствараецца на разрэзе верша на строфы або стансы па тры радкі ў кожнай. Лік гэтых строф акрэслена не нармаваны. Паміма кананічнасці ў закрэсе страфічнага падзелу, для тэрцыны былі выпрацаваны вядомыя цвёрдыя формы і для рыфмічных сагучна-

сцяў іх. Звычайнай формай, што да рыфмоўкі, з’яўляецца гэткая: першы радок пачатнай тэрцыны рыфмуецца з трэцім, другі – з першым і трэцім наступнай другой тэрцыны і г. д. Апошні радок, адзінока вылучаны і які не ўваходзіць у склад тэрцыны, звычайна рыфмуецца з другім – апошняй страфы. Дзеля таго, што з рыфмічнай стараны кожная тэрцына не з’яўляецца закончанай, ізаляванай велічынёй, а звязуецца з наступаючай рыфмічнай тасоўкай, то з гэтай прычыны і са стараны тэматычнай кожная з тэрцын звычайна не дае закончанай мыслі, а прадоўжуе яе ў наступным стансе. Дзякуючы гэтаму тэматычная і сінтаксічная кампазіцыя маюць некалькі адмен. Метр тэрцыны – заўсёды пяцістопны ямб. М. Багдановіч даў адзін прыклад «Тэрцыны» (98), пабудаванай паводле паказанай схемы:

Ёсць чары у забытым, старадаўным;
Прыемна нам сталеццяў пыл страхнуць
І жыць мінулым – гэткім мудрым, слаўным, –

Мы любім час далёкі ўспамянуць.
Мы сквапна цягнемся к старым паэтам,
Каб хоць душой у прошлым патануць.
Таму вярнуўся я к рандо, санетам,
І бліснуў ярка верш пануры мой:
Як месяц зіхаціць адбітым светам, –

Так вершы ззяюць даўняю красой!

– з тэматычнай і сінтаксічнай стараны пададзеныя тэрцыны прадстаўляюць сабой такое аб’яднанне, у якім першая тэрцына звязана з першым радком другой, а трэцяя – з апошнім адзінокім радком.

На аснове тых жа прынцыпаў кампазіцыі, толькі ў іншай форме, будуецца і такая кананізаваная форма лірычнай творчасці, як санет. У ім звычайна 14 радкоў. Яго метр – шасцістопны ці пяцістопны ямб. Санет распадзяляецца на чатыры страфы, з якіх дзве першыя – чатырохрадкі, а дзве наступныя – трохрадкі. Асноўнай рыфмай для першых дзвёх строф санета з’яўляецца рыфма апаясуючая; маюцца і іншыя формы рыфмавання. Для трохрадкаў класічнай формай рыфмы з’яўляецца аб’яднанне аднолькавай рыфмай трэцяга радка першай трохрадкі з другім радком апошняй трохрадкі. Усе іншыя рыфмы будуюцца паводле тыпу: *аав ава.* Наш мастак дае тры прыклады санета. З іх толькі два санеты (92, 93) пабудаваны па адзначанаму намі плану, як найбольш характэрнаму і тыповаму для гэтага жанру. Усе фармальныя вымаганні для санета тут выпаўнены. Для прыкладу падаём «Санет» (92):

Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі,
Над хвалямі сінеючага Ніла,
Ўжо колькі тысяч год стаіць магіла:
Ў гаршчку насення жменю там знайшлі.
Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё ж такі жыццёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясенняй збожжа на раллі.

Вось сімвал твой, забыты краю родны!
Зварушаны нарэшце дух народны,
Я верую, бясплодна не засне,
А ўперад рынецца, маўляў крыніца,
Каторая магутна, гучна мкне,
Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца.

Трэці санет («У Вільні», 52) не вытрыманы ў першай сваёй часці; замест чатырохрадкі ў пачатку мы бачым трохрадку: усяго, такім чынам, маем 13 радкоў. Ва ўсім іншым – тая ж схема.

На аснове галоўным чынам рыфмічнага канона будуецца актава. Яе звычайны выгляд – памер пяці- або шасцістопнага ямба. Складаецца яна з васьмі радкоў. Тыповае распадзяленне рыфмаў такое: *абабабее*. У М. Багдановіча маецца адзіны прыклад «Актавы» (97), вытрыманы ў духу цвёрдай нормы:

Як моцны рэактыў, каторы выклікае
Між строк ліста, маўляў нябожчыкаў з магіл,
Рад раньш нявідных слоў, – так цемень залівае
Зялёны, быццам лёд, халодны небасхіл,
І праз імглу яго патроху праступае
Маленькіх, мілых зор дрыжачы, срэбны пыл.
Здароў, радзімыя! Мацней, ясней гарыце
І сэрцу аб красе прыроды гаварыце!

Урэшце, трэба адзначыць яшчэ адзін кананізаваны гатунак лірычнай творчасці. Гэта – пентаметры. Паказчык яго маецца ў нашага мастака пад назовам «Пентаметры» (90):

З нізкага берагу дно акіяна вачам недаступна, –
Глуха укрыла яго сіняя цемень вады.
Але ўзбярыся ў гару на вяршыну прыбрэжнай страмніны, –
Кожны каменьчык на дне, пэўна, пабачыш ты стуль.

Істота пентаметра, як відаць з самога назову яго, заключаецца ў тым, што ён будуецца з пяці стопічных адзінак. Першая, другая, чацвёртая і пятая стопы – дактылічныя (–), а трэцяя і шостая – аднанацісковыя стопы (–), якія ўмоўна аб'ядноўваюцца ў адну і атрымліваюць выгляд спандэя ().

Дзякуючы такому падрахунку і атрымліваецца пяцістопны разрэз. Трэцяя аднанацісковая стопа служыць пастаяннай цэзурай і дзеліць увесь радок на дзве роўныя часці. Але пентаметр, як акрэсленая цвёрдая форма, у самаістай ролі не ўжываецца. Звычайна ён злучаецца з гекзаметрам, які знаходзіцца ў першым радку кожнай страфы, а пентаметр – у другім. Гэткую ж камбінавальную форму маюць і пададзеныя «Пентаметры» М. Багдановіча.

Усе іншыя вершы М. Багдановіча з кампазіцыйнай стараны будуюцца на звычайных спосабах распалажэння славеснага матэрыялу па строфах, тэматычна і метрычна аб'яднаных між сабою. Кожная страфа развівае асобную часць агульнай тэмы верша і будуецца на аднародных метрах і рыфмах. Акром таго, кожная страфа прадстаўляе сабою з сінтаксічнай стараны закончанае суцэльнае, не звязанае з другімі строфамі.

Мы апісалі ў агульных рысах паасобныя часці лірычных вершаў М. Багдановіча і распаклалі іх дваследаванне ў парадку вядомай лагічнай класіфікацыі. Цяпер трэба тыя ж мастацкія актыўнасці ў паэзіі дваследаванага аўтара пазнаць у храналагічным парадку іх паступовага ўжытку. Гэта канечна патрэбна для ўстанаўлення таго, як развіваўся, з адной стараны, ідэйны светагляд мастака, а з другой – яго паэтычная манера. Аднак гэтай класіфікацыі ў даны момант даць немагчыма, бо мы не маем патрэбных ведамак аб тым, у якім храналагічным парадку складаліся паэтам разгледжаныя намі вершы. Гэта часць паэтыкі зысціцца пасля таго, як беларуская (крывічанская) навука аб літаратуры будзе мець навукова выданы тэкст яго вершаў.

Апошняя класіфікацыя паэтычных актыўнасцяў – гатунковая, г. зн., такая, якая распадзяляе іх па асобных гатунках лірычнай творчасці. У гэтым аглядзе на першае месца трэба паставіць кананізаваныя формы лірыкі, як санет, трыялет, тэрцыны і інш., якія былі адзначаны вышэй. Гэтыя гатункі, як ужо азначалася, будуюцца на акрэсленых, цвёрда ўстаноўленых формах. Аднак паэта уносіць некаторыя свае асобнасці, парушаючы цвёрдыя формы гэтых гатункаў, толькі ж не шкодзячы мастацкасці іх. Усе іншыя творы М. Багдановіча не даюць матэрыялу, які паказуе што да тых ці іншых паэтычных спосабаў, характэрных для таго ці іншага верша і акрэсляе яго гатунковую фізіяномію. Усе апісаныя паэтычныя актыўнасці распадзяляюцца між імі больш-менш раўнастайна.

Пытанне аб выдзяленні паэтычнай дамінанты ў вершах М. Багдановіча также натыкаецца на вялікія труднасці. Ужо адзначана, што спаціканні ў закрэсе паэтыкі даюць дваследчыку права лічыць, што творчасць паэты складаецца пад уплывам мастацкага рэалізму старой паэтычнай школы 19 ст. з аднэй стараны і сімволіка-рамантычных настрояў 20 ст.

з другой. У залежнасці ад гэтага, з'яўляецца надта трудным акрэсленне дамінуючых актыўнасцяў у рамках той стыхіі, якая пераходзіць у сферы першага кірунку, паскольркі ў ім мы звычайна стыкаемся з тым жа раўнамерным распадзелам тых або іншых паэтычных спосабаў творчасці. Што датыча другога ручва – менш шырокага, чым першае, то ў закрэсе яго ўстанаўленне дамінанты такжа затруднена, паскольркі яна ў творчасці М. Багдановіча толькі яшчэ зачыналася, не ўсцігла развіцца і прыняць выгляд закончанага літаратурнага цячэння. Толькі як прыклад можна адзначыць, што такі спосаб, як паўтарэнні, выступае ў яго вершах і ў большай ступені адбівае ў сабе рысы сімвалічнай паэзіі. Затым, у тых жа творах выдзяляецца як дамінуючы спосаб метафара, якая, аднак, распашыраецца і на другія вершы М. Багдановіча. Гэта метафарычнасць, можна лічыць, з'яўляецца такім спосабам, які наагул характарызуе яго паэзію і выдзяляецца як яго тыповая асобнасць. У закрэсе ідэйнага багацця мастака пераважаючая ўвага яго, як было паказана, звярталася ў сторану тэм і матываў прыроды, каторыя ў яго творчасці маюць або самаістае месца, або дапаможнае значэнне ў шэрагу тэматычных вытвараў іншага зместу. У старану, уласціва, гэтых матываў прыроды накіроўвалі мастака абодва літаратурныя цячэнні – рэалістычнае і рамантычнае, бо зацікаўленасць да прыроды аказуецца свомнай у аднолькавай меры як першаму, так і другому. Адначасны ўплыў паказаных двух стыляў і меў сваім вынікам павялічаную падвойную зацікаўленасць М. Багдановіча да прыроды і яе хараства.

Такім парадкам, бясспрэчным і ачавістым астаецца бытнасць двух кірункаў у творчасці М. Багдановіча – класічнага і рамантычнага. Гэта паказвае, што паэта ішоў дарогай сінтэзу, імкнучыся аб'яднаць у адно мастацкае суцэльнае найбольш высокія цэннасці гэтых кірункаў і стыляў. У свой чарод гэты вывад сведчыць аб тым, што М. Багдановіч быў вялікі мастацкі талент, які таіў у сабе шырокія паэтычныя магчымасці, каторым, на жаль, не суджана было выліцца ў закончаныя формы. Перадчасная смерць сарвала кветку, якая яшчэ не закрасавала...

*Дзмітрый Савановіч*

# «СТАРАЯ БЕЛАРУСЬ» М. БАГДАНОВІЧА

Невялікі  цыкл вершаў у зборніку «Вянок», верш «Агата» ды дватры празаічныя ўрыўкі вычэрпваюць сабою тэму гістарычнага мінулага Беларусі ў творчасці М. Багдановіча. Але невялікая спадчына яго ў гэтай галіне надзвычай ярка адзначана рысамі непаўторнасці і своеасаблівасці і займае віднае месца як у сістэме яго творчасці, так і ў гісторыі ўсёй беларускай літаратуры.

Гістарычны цыкл М. Багдановіча, як і ўся яго творчасць, адпавядае пастаўленай ім задачы рэабілітацыі ў беларусе чалавека, сцвярджэння ў беларускім народзе ўнутранай чалавечай годнасці, якую ў ім вякамі стараліся задушыць.

Барацьба М. Багдановіча супроць паклёпу на беларускі народ ішла двума шляхамі. Свае асабістыя перажыванні, звязаныя з пытаннямі чалавечай псіхалогіі, любві, працы, смерці, М. Багдановіч увасабляў у мастацка дасканалую форму і тым самым даказваў, што беларуская мова здольная перадаваць самыя душэўныя рухі. Другі шлях заключаўся ў раскрыцці эстэтычнай цэннасці беларускага фальклору і самабытнага характару старажытнай беларускай пісьменнасці. У сваім падыходзе да фальклору М. Багдановіч быў гістарычным: ён вылучаў у ім элементы, якія маглі б характарызаваць псіхалогію беларуса ў яго мінулым, – у гістарычнай перспектыве перад ім ярчэй раскрывалася і эстэтычная цэннасць фальклору. Так, М. Багдановіч рэабілітуе жанр замовы, у якой яго бацька бачыў толькі грубы фетышызм. М. Багдановіч улавіў у замове паэтычны бок, ён зразумеў, што жанр гэты хавае ў сабе бездань чалавечых страсцей, пакут, надзей, з’яўляецца формай іх выражэння ў старажытнасці. У вершах

«Агата» і «Ціхі вечар, знікнула спякота…» замова выступае ў мастацкай функцыі раскрыцця псіхалогіі страсці старажытнай беларускай жанчыны. Безнадзейнасць, роспач, што нарадзіліся ў душы Агаты, страціўшай надзею зноў сустрэць мільгануўшы перад ёю вобраз незнаёмага конніка, які абудзіў у ёй страсць, выклікае ў ёй наступнае рашэнне:

Ах, чаму я, на што змарнавала
Так свае маладыя гады, –
Ах, чаму я, чаму не спытала,
Хто ён гэткі, і едзе куды!
Толькі б зведаць – і з воску фігуру
Я найменнем яго ахрышчу,
Выйду ноччу на поле у буру
І закляцце сваё нашапчу.
І праз свіст, праз гудзенне вятрыска,
Цераз шум прыдарожных ракіт
Я пачую так блізка, так блізка
Гул знаёмы ад конскіх капыт.
Не забыць мне, што спасенне трачу,
Што душу варажбою гублю,
Але знаю – яго я пабачу
І нарэшце скажу, як люблю.

Мастацкі такт падказаў М. Багдановічу неабходнасць раскрыць паэтычную форму замовы, варажбы ў сувязі з псіхалогіяй сярэдневякоўя, калі вера была больш непасрэднай і жывой. М. Багдановіч мог абапірацца на прыклад «Слова аб палку Ігаравым», дзе замова-малітва ў вуснах Яраслаўны сагрэта жывым дыханнем чалавечых перажыванняў. Глыбіня страсці Агаты, сіла яе асобы гавораць аб складанай душэўнай арганізацыі, уласцівай беларускаму народу. Агульначалавечую тэму М. Багдановіч падначаліў нацыянальна-вызваленчым задачам: для яго важна, што так моцна і глыбока магла перажываць іменна беларуская жанчына.

Тым жа сэнсам сцвярджэння духоўнай чалавечай годнасці беларускай жанчыны прыгоннай эпохі прасякнуты і «Слуцкія ткачыхі»: паднявольная праца ў панскім двары не забіла ў іх пачуцця і эстэтычных пабуджэнняў. Яркая псіхалагічная дэталь – «цвяток радзімы васілька», вытканы сярод персідскіх узораў, – сведчыць аб сіле тых перажыванняў, якімі былі ахоплены сялянкі, адарваныя ад усяго роднага. «Слуцкія ткачыхі» нясуць у сабе велізарную сілу абагульнення: яны сімвалізуюць лёс беларускага народа, які пад ярмом рабства, пад іншаземным уплывам пранёс праз вякі сваю мову і сваю нацыянальную творчасць.

У «Летапісцы», «Перапісчыку», «Кнізе» праблема культуры асобы беларускага чалавека выступае з новага боку. М. Багдановіч уваходзіць у псіхалогію старажытнага кніжніка, летапісца, перапісчыка. Ён з цеплынёй перадае значнасць жыццёвага подзвігу гэтых людзей, самаахвярна аддаваўшых сябе цяжкай у той час справе асветы, працаваўшых на карысць сваёй радзіме і патомкаў і знаходзіўшых высокую духоўную асалоду ў сваёй працы.

Вельмі характэрна, што ў гістарычным мінулым М. Багдановіча цікавіць не адмоўны бок, не ўласна гісторыя, а перш за ўсё чалавек, яго лёс, яго псіхалогія. М. Багдановічу ўласцівы пафас пранікнення ў душу чалавека мінулай гістарычнай эпохі, яго цікавіць форма пачуццяў, характар перажыванняў. На фоне передрэвалюцыйнай беларускай літаратуры яго вершы на гістарычныя тэмы здзіўляюць, на першы погляд, сваім аб'ектывізмам, бесстароннасцю, эстэтызмам. На гістарычным матэрыяле М. Багдановіч распрацоўвае тэмы нейтральныя, агульначалавечыя: каханне, смерць, працу. У яго мы не знойдзем таго гістарычнага рамантызму, які ўласцівы ўсякаму нацыянальна-вызваленчаму руху, які сказваецца ў ідэалізацыі пэўных гістарычных эпох, герояў. Адзнакі такога рамантызму былі ў беларускай літаратуры, яны сказаліся ў ідэалізацыі Вялікага Княства Літоўскага, у пошуках «залатога веку» беларускай культуры ў мінулым. Нельга сказаць, каб М. Багдановіч быў зусім чужы гэтаму веянню: ён аддаў яму даніну ў «Пагоні», але ў цэлым ён стрыманы ў сваёй ацэнцы мінулага Беларусі.

У М. Багдановіча мы не знойдзем слядоў ідэалізацыі эпохі, а толькі рэабілітацыю на матэрыяле мінулага нацыянальнага аблічча беларускага народа. У гэтым сказалася своеасаблівасць М. Багдановіча як паэта, асобы шлях, якім ён прыйшоў у беларускую літаратуру. Своеасаблівасць гэтага заключаецца ў тым, што ён тэму чалавека, асобы, народжанаю індывідуалістычнымі шуканнямі інтэлігенцыі эпохі крызісу буржуазнай культуры, спалучыў з наспеўшай патрэбнасцю сцвярджэння беларускім народам права «людзьмі звацца» (Купала). Тым самым ён напоўніў гэту тэму новым зместам, ідэйна ўзбагаціў яе ў эпоху заняпаду буржуазнай культуры пасля рэвалюцыі 1905 года. Хваляваўшыя М. Багдановіча праблемы выходзілі за межы вузка нацыянальных інтарэсаў, але М. Багдановічу прынцыпова важна было распрацоўваць іх на беларускім матэрыяле.

М. Багдановіч выступіў як паэт у жудасную эпоху рэакцыі, якая наступіла за рэвалюцыйным патрасеннем 1905 года. У тон эпосе М. Багдановіч адчуў сябе хворым «бесскрыдлатым паэтам». Ад гэтых матываў песімізму і заняпаду недалёка да дэкадэнцтва, безыдэйнай паэзіі, эротыкі, якая пагражала моладзі тых год духоўнай і маральнай гібеллю і знаходзіла спрыяючую глебу ў тым сярэднім культурным інтэлігенцкім асяроддзі, да якога належаў і М. Багдановіч. Але ў бытнасці яго гімназі-

стам, а затым студэнтам у Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўлі далёкая радзіма з'явілася тым звяном, якое выратавала яго ад духоўнага і маральнага заняпаду; яна напоўніла яго жыццё багатым унутраным зместам: вывучыць народную мову і родны народ, стаць для яго карысным – зрабілася мэтай яго жыцця. Пачалося ўпартае і доўгае вывучэнне беларускага краю і народу, – філалагічнае, гістарычнае. Гэтая мэтанакіраванасць, з аднаго боку, і ўважлівасць да народа і яго творчасці, з другога, прывялі М. Багдановіча да высокай ацэнкі чалавечай годнасці, што сказалася ў матывах працы, любві і наогул поглядах на жыццё, якія ставяць М. Багдановіча па-за заняпадам літаратуры эпохі імперыялізму.

Тая акалічнасць, што тэма чалавека была цэнтральнай у М. Багдановіча, растлумачвае і той факт, што і ў гістарычным мінулым яго перш за ўсё цікавіць псіхалогія страсці, працы, смерці («Безнадзейнасць»), а не афіцыйны бок гісторыі; а тое, што М. Багдановіч дакументальна, навукова вывучае мінулае, утрымлівае яго ад празмернай ідэалізацыі гэтага мінулага. Аднак ёсць у яго вершах рыса, якая сведчыць аб наяўнасці некаторай рамантыкі ў адносінах да мінулага, але не сведчыць аб ідэалізацыі яго, аб проціпастаўленні мінулага сучаснаму, хоць і можа быць змешана з такой ідэалізацыяй.

У «Гарадку», у апісанні старажытнай невялікай вёскі, М. Багдановіч настолькі захапляецца нарысаванай ім карцінай, настолькі пранікаецца духам адлюстраванага, што мімаволі падпадае пад ачараванне старажытнасці. Гэта асаблівасць знаходзіць псіхалагічнае тлумачэнне: перад намі хваляванне кніжніка, вучонага, які пранікае праз старынныя фаліянты, праз асколкі старажытнасці пры дапамозе карпатлівай працы ў духу эпохі, спасцігае яе настрой. Гэты від лірычнага хвалявання ўласцівы М. Багдановічу, ён прыкметна выступае ў «Кнізе»:

Псалтыр, пакрытую няжорсткай бурай кожай,
Я ўзяў і срэбныя засцёжкі адамкнуў,
Перачытаў радкі кірыліцы прыгожай
І воску з ладанам прыемны пах пачуў.
Вось псальма слічная: «Як той алень шукае
Крыніцы чыстай, так шукаю Бога я!».
Як вее свежасцю яе краса жывая!
Як радасна далей спяшыць душа мая!

Вывучэнне дакументаў эпохі, рэстаўрацыя старажытнасці на матэрыяле фальклору – вось метад работы М. Багдановіча. Гэта прыводзіць да яркай каларытнасці яго рэчаў, адзначаных яркімі дэталямі эпохі. У «Агаце» два-тры штрыхі ствараюць каларыт сярэдневяковага горада: спальванне «ведзьмакоў» у ратушы, прамільгнуўшы коннік у залатым шаломе, у «Безнадзейнасці» – астралагічныя назіранні Скарыны.

У сваім паказе мінулага, у паказе псіхалогіі старажытнага чалавека і акружаючай яго абстаноўкі М. Багдановіч у многім следаваў вопыту рускай літаратуры. У прыватнасці, рэстаўрацыя старажытнасці на матэрыяле фальклору, старажытных помнікаў пісьменнасці, адпаведнасць псіхалогіі героя з акружаючай яго абстаноўкай – усе гэтыя прыёмы гістарычнага пісьма знайшлі яркае выражэнне ў Пушкіна. Прыкладам можа з'яўляцца яго славутая «Песня аб вешчым Алегу». Вобраз летапісца ў М. Багдановіча быў створаны пад непасрэдным уплывам вобраза Пімена-летапісца з «Барыса Гадунова». Але разам з тым летапісец М. Багдановіча не паўтарае Пімена-летапісца, у ім раскрываецца своеасаблівая рыса характару. У «Барысе Гадунове» Пімен – выразіцель народнай думкі, ён выносіць свой прыгавор над афіцыйнай гісторыяй. Летапісец М. Багдановіча больш скромны ў сваім значэнні і псіхалагічна бліжэй да самога М. Багдановіча: яму ў значнай меры ўласцівы пафас пранікнення ў гісторыю як пэўная псіхалагічная патрэбнасць, ён арыенціруе на гэтую ж патрэбнасць і сваіх патомкаў:

Што тут чынілася ў даўнія гады,
Што думалі, чаго жадалі мы тады,
За што змагаліся, як баранілі веру, –
Хай зведаюць усе патомкі праз паперу!
Яно забудзецца, умрэ, з вадой сплыве, –
І вось у спомінах устане, ажыве,
Калі знайдуць маё няхітрае пісанне
Пра гэтае жыццё, падзеі, справаванне…

Ранняя смерць перашкодзіла М. Багдановічу паглыбіць і пашырыць рамкі свайго гістарычнага метаду. Тое, што пакінута ім, не сведчыць аб цэльным і акрэсленым разуменні гістарычнага працэсу. М. Багдановіч не пакінуў нам шырокіх карцін гістарычнага мінулага, ён не падняўся яшчэ да паказу руху мас у гісторыі, да паказу адзінства чалавечага і сацыяльнага на матэрыяле гістарычным. Але створанае ім адказала на патрабаванне часу і выканала пачэсную ролю ў заяве беларусамі свайго права «людзьмі звацца».

*Дзітрый Савановіч*

# ФАЛЬКЛОР У ТВОРЧАСЦІ М. БАГДАНОВІЧА

У творчай спадчыне Багдановіча апрацоўцы фальклору належыць адно з першых месц. Вывучэнне беларускага фальклору адыграла важнейшую ролю ў прабуджэнні яго зацікаўленасці да роднай Беларусі. Гэтаму спрыялі сямейныя справы паэта: вядомыя этнаграфічныя работы бацькі яго, які вывучаў перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў і займаўся збіраннем фалькору. Аднак нельга перавялічаць памеры хатняга ўплыву на Багдановіча ў гэтым напрамку. Уплыў гэты, трэба меркаваць, быў пераважна вонкавым: ён сказаўся ў тым, што Багдановіч меў магчымасць рана пазнаёміцца ў бібліятэцы свайго бацькі са зборнікамі беларускай народнай творчасці; адначасова з гэтым ён мог знаёміцца з ёю і шляхам вусных гутарак з бацькам і сваякамі.

Звяртае на сябе ўвагу падбор жанраў фальклору, над якімі працуе Багдановіч: гэта жанр жартаўлівай песні, танца («Лявоніха», «Скірпуся», «Мушка-зелянушка і камарык-насаты тварык»), жанр любоўнай і сямейнай песні («Ой лясы-бары ды лугі-разлогі!..», «Цёмнай ноччу лучына дагарала…», «Сярод вуліцы ў нас карагод…», «Максім і Магдалена» і інш.), жанр загавору («Ціхі вечар, знікнула спякота…»). Усе гэтыя жанры, пераважна лірычныя, каштоўныя для Багдановіча тым, што ў іх ярчэй, чым у якіх іншых жанрах, раскрываецца асоба беларуса, характар яго пачуццяў, асабістая і калектыўная псіхалогія. Па сваёй ідэйна-мастацкай ролі ў творчасці Багдановіча фальклорныя матывы могуць быць разбіты на тры групы. У першай з іх вобразы, народжаныя фантазіяй народу, уключаюцца ў іншую ідэйна-вобразную сістэму, падначальваюцца іншым ідэйна-мастацкім заданням, іх эмацыянальнасць, дзякуючы гэ-

таму, траціць непасрэднасць фальклорнага тэксту. Сюды адносяцца вобразы лесуна, вадзяніка, русалак, срэбных змей. Гэтая, так званая малодшая, міфалогія пад пяром Багдановіча ператвараецца ў сродак стварэння імпрэсіяністычнага пейзажу ў стылі мадэрнізму. Рамантычны пейзаж вырастае са спалучэння фантастыкі настрою з фантастыкай глядзельных успрыняццяў, народжаных з своеасаблівасці мяняючыхся фарбаў, руху ліній у прыродзе, падначаленых руху святла і ценю.

Багдановіч асабліва любіць вобраз лесуна, які выступае ў яго ў розных відах: гул у бары ў месячную ноч нараджае ў яго фантазіі вобраз лесуна, які гойдаецца на вершалінах велізарных дрэваў («Хрэсьбіны лесуна»); адчуванне ночы, навальніцы выклікае вобраз дзікага, магутнага лесуна, які нішчыць усё («Пугач»); від лесу, спаленага спякотай, і лесу восеньскага, паміраючага, звязан з вобразам стомленага, зняможанага лесуна; усюды ён сімвалізіруе сабою агульны тон пейзажу:

Брыдзець, пахіліўшысь панура,
Лясун на раздоллі дарог.
Абшарпана старая скура,
Зламаўся аб дзерава рог.
Дарога ўся ў лужах. Размыта
Дажджом праліўным каляя.
Гразь чаўкаець жадна капыта,
Шуршыць, упаўзая, змяя.
Касматая шэрсць перамокла,
Стаміўся ён, стары, прадрог;
Лёд тонкі і востры, як сцёкла,
Капыта царапаець ног.
Спяшыць ён дайсці да трасіны:
Там – мяккія, цёплыя мхі,
А тут толькі плачуць асіны
Ды б'юцца галіны альхі.

Спалучэнне імпрэсіяністычных прыёмаў з вобразамі, створанымі фантазіяй народа, робіць пейзажы Багдановіча яркімі і непаўторна своеасаблівымі. Прырода ў вершах Багдановіча, дзякуючы гэтай асаблівасці, раскрылася арыгінальна, зусім па-новаму, як не раскрывалася яна ў рускай, ды, бадай, і ва ўсёй еўрапейскай літаратуры. Знешне цыкл «У зачарованым царстве» прымыкае да паэзіі сімвалістаў, але для яго знаходзіцца некаторая аналогія і ў беларускай літаратуры – у рамантычных вершах Купалы («Хохлік», «Горны бог»). Але аналогія гэта вельмі ўмоўная. У той час, калі ў рускіх сімвалістаў, і нават у Купалы, фальклорныя вобразы займаюць акрэсленае месца ў сістэме сімвалаў, раскры-

ваючых пэўны светапогляд, лесуны, срэбныя змеі і русалкі Багдановіча пазбаўлены гэтай функцыі. За ўсімі гэтымі вобразамі ў Багдановіча не адчуваецца наяўнасці схаванай ідэі, прысутнасці невыразімай і таямнічай рэчаіснасці. Фантастыка Багдановіча не пранікае за межы бачымага, адчуваемага свету – гэта фантастыка зрокавых і слыхавых адчуванняў рэальнай прыроды, прайшоўшая праз паэтычныя вобразы народных уяўленняў аб прыродзе. Яго лясун зліваецца з відам моху, жаўцізной дрэваў, яго русалкі, срэбныя змеі зліваюцца з выглядам хваляў, асветленых месяцам. Некаторай аналогіяй да вершаў Багдановіча могуць служыць карціны Врубеля «Пан», «Марская царэўна» і інш., такія ж фантастычныя, як і абмежаваныя ў сваёй фантастыцы.

Рамантычны пейзаж Багдановіча поўны неаформіўшыхся настрояў, няясных перажыванняў, поўны нейкай трывогі, неакрэсленых імкненняў. Гэта трывожнае ўспрыняцце прыроды, гэта чаканне ад яе адказу на свае настроі было звязана з шуканнямі Багдановіча свайго месца ў жыцці; яно характэрна для ранняга этапу яго творчасці, ахопліваючага 1908 – 1912 гады, калі паэту быў яшчэ няясны яго ўласны шлях.

Другую групу вершаў Багдановіча па характару выкарыстання ў іх фальклору складаюць тыя рэчы, у якія фальклорная эмацыянальнасць, не падначальваючы сябе кампазіцыі верша, служыць разам з тым сродкам выяўлення яго лірычнай тэмы. Матыў народнай лірычнай песні ўводзіцца як акорд, які адцяняе ярчэй змест і сэнс настрою, які пануе ў даным вершы:

Непагодны вечар. Сумна, дружа, мусі?
Каб разважыць смутак, ціха запяваю:
– Ой, ляцелі гусі ды з-пад Белай Русі,
Скалацілі воду ціхага Дунаю.
Ёсць любоў на свеце, здрада і расстанне,
Шмат яшчэ чаго нам прыйдзецца зазнаці…
Ўсё мацней пяю я аб чыймсь каханні,
І тугі у спеве болей не схаваці.

Выкарыстоўваючы лірычныя шэдэўры беларускай народнай песні, Багдановіч знаходзіць у іх сілу пачуцця, што нясе ў сабе абагульненне душэўнага вопыту народных мас у межах іх асабістага, інтымнага жыцця, і ў мастацкіх формах, адлюстроўваючых гэты вопыт, шукае ён падтрымкі для выражэння і сваіх інтымных настрояў: гэткі сэнс вершаў яго ў гэтым напрамку.

Нарэшце, трэцюю, не менш значную і яркую, групу складаюць яго вершы, пабудаванаыя выключна на фальклорнай эмацыянальнасці.

Сюды адносяцца: «Мушка-зелянушка…», «Максім і Магдалена», «Ой, лясы-бары ды лугі-разлогі!..», «У мясцечку Церасцечку…», «Лявоніха» і многія іншыя. Выяўленчыя сродкі, кампазіцыйныя прыёмы не выходзяць тут за межы тых умоў, якія даюць фальклорныя ўзоры. Многія паэтычныя формулы, звароты непасрэдна паўтараюць фальклорны тэкст, для іх няцяжка падабраць адпаведныя паралелі са зборнікаў Чачота, Шэйна, Раманава. Але мэтанакіраванасць паэта складзе адбітак індывідуальнасці на апрацоўваемы матэрыял: Багдановіч раскрывае мастацкі сэнс акамянеўшых паэтычных формул, унутраная мэтазгоднасць якіх у фальклорным тэксце не заўсёды ясна, якія часта ператвараюцца ў ім у малазразумелы механічны прыдатак, які па трыдыцыі перадаецца з пакалення ў пакаленне. Багдановіч не толькі ачышчае фальклорны тэкст ад механічнага баласту: ён раскрывае сутнасць таго, што крыецца ў зародкавым стане ў гэтай фальклорнай форме, развівае схаваныя ў ёй магчымасці. Так, псіхалагічны паралелізм народнай песні ў той форме, у якой ён прысутнічае ў ёй у цяперашні час, з'яўляецца формай выяўлення душэўнага жыцця, але формай умоўнай, нераспрацаванай. Толькі ў паэзіі рамантыкаў мастацкая роля псіхалагічнага паралелізму разгарнулася ў сваёй поўнай і пераканаўчай форме. Дасканалую ступень развіцця форма псіхалагічнага паралелізму, як сродак паказу псіхалагічных перажыванняў, атрымала ў творчасці Гейне, Лермантава, Цютчава, Льва Талстога. Багдановіч у сваіх адносінах да гэтай формы ідзе па шляху, паказаным гэтымі паэтамі і пісьменнікамі, але ён робіць нешта новае ў параўнанні з імі: ён паглыбляе мастацкую функцыю псіхалагічнага паралелізму на матэрыяле самой жа народнай песні. Так, напрыклад, у народных песнях звычайным з'яўляецца прыём супастаўлення расставання са скончыўшайся сцежкай, з зарослай сцежкай, супастаўленне разлукі, няўдалага кахання з завянуўшымі кветкамі, высахлымі рэчкамі і г. д. У адным з сваіх вершаў Багдановіч выходзіць з гэтага прыёму:

Ой, лясы-бары ды лугі-разлогі!
Цераз вас ідуць пуцінкі-дарогі.
Калі хлопца я шчыра любіла, –
Да яго сцяжынку пралажыла.
Йшла сцяжынка – дайшла да расстання:
Тут і скончылася нашае каханне.
Я вазьму – і зноў па ёй пахаджу,
Я ізноў на сцяжынку пагляджу.
А на ёй ўжо трава-мурава;
Ўсцяж крушыннік разрастаецца,
Над дарогай галлём навісаецца:

Ні праходу, ні праезду няма.
З-пад крушынніка крынічка цячэ,
І гняздзечка зыбаецца ў ім.
Ад таго і зыбаецца,
Што там птушка-пяюшка заліваецца:
«Ты не будзеш, крынічанька,
Ад разводдзя свайго ў вясну паўней;
І палюбіш, дзяўчынанька,
Ды не так, як любіла ты даўней!»

Не цяжка заўважыць, што Багдановіч ідзе па шляху паглыблена-га раскрыцця псіхалагічнага паралелізму, што неўласціва народнай песні: зарослая сцежка сімвалізуе ў яго непаўторнасць першага кахання, непаўторнасць мінулага, непаўторнасць дарагіх для сэрца ўспамінаў.

У кароткім артыкуле няма магчымасці прасачыць усе прыёмы работы Багдановіча над фальклорам, вычарпаць змест данай тэмы. Пытанне аб адносінах Багдановіча да фальклору чакае свайго даследчыка. Можна толькі сказаць, што і ў галіне работы над фальклорам Багдановіч быў арыгінальным, зусім самастойным, што сваёй работай ён упісаў новую старонку ў беларускую літаратуру.

*Григорий ЖЕЛЕЗНЯК*

# ПОЭЗИЯ М. А. БОГДАНОВИЧА

## *Глава I*

### БЕЛОРУССКАЯ ПОЭЗИЯ 1908–1911 гг.

Формирование новой белорусской литературы относится к самому началу XX века, точнее, к 1905–1906 и последующим годам. Подготовка и сам период революции 1905–1906 гг. были не только временем подъема общественно-политического движения в Белоруссии – «Северо-Западном крае», как его тогда называли, но и временем подъема национальной литературы. Революционная эпоха привела в движение широкие массы народа, подняла их на борьбу с самодержавием. Происходит интенсивный подъем национально-политического самосознания масс белорусского народа. Это выразилось, в частности, в том, что трудящиеся массы выдвинули своих художников. Начался процесс формирования новой белорусской литературы. Но процесс этот возник не внезапно, его подготовило все предшествующее развитие белорусской литературы. Уже во второй половине XIX века появляются писатели, которые своим творчеством предвещают позднейшее «белорусское движение». В произведениях этих писателей созрели основные идеи «белорусского возрождения», которые были развиты и углублены в нашенивский период белорусской литературы. Этими писателями были В. Дунин-Мартинкевич, Ив. Неслуховский (Я. Лучина) и, главным образом, Ф. Богушевич.

В. Дунин-Мартинкевич (1807–1884) вошел в литературу как крупнейший представитель белорусского сентиментализма и как первый собственно белорусский писатель.

В кратком обзоре предшественников новой белорусской литературы я себе, конечно, не ставлю целью дать всесторонний анализ их творчества. Меня в данном случае интересуют лишь те стороны в творчестве этих писателей, которые так или иначе связаны с последующей белорусской литературой. Позднейшие белорусские писатели прекрасно осознавали свою связь с предшественниками и неоднократно об этом говорили. Я. Купала в 1910 году следующим образом оценивал творчество Дунина-Мартинкевича:

І песню за песняй парадкам
Пусціў як ў жывую крыніцу;
Пасыпаліcь проста, як з неба,
«Дажынкі», «Гапон», «Вечарніцы»[1].
Як сторож, стаў смела на варце
Радзімых запушчанных гоняў,
Стаў сеяць па-свойску ўсё тое,
Што мы далей сеем сягоння.[1]

В предисловии к своему сборнику «Скрипка белорусская» А. Пашкевич (Цётка) пишет: «долго я гадал и думал, как себя назвать, или поляком, или литовцем, ибо слово «тутэйшы» мне как-то не нравилось. И так несколько лет я колебался то в ту, то в другую сторону пока не попала в мои руки «Дудка» Матея Бурачка (Ф. Богушевича. – Г. Ж.); она-то мне сказала, что кто говорит по-«тутэйшаму» (по-мужицки), значит он говорит по-белорусски, а кто говорит по-белорусски, тот белорус. Прочитав эту «Дудку», я сказал: «Спасибо тебе, М. Бурачок. Честь и слава твоему слову».

Главным фактором, связующим творчество Дунина-Мартинкевича с последующей белорусской литературой, является постановка в нем (правда, еще очень поверхностно) одной из основных тем – темы человеческого достоинства белорусского крестьянина.

В статье «Белорусское возрождение» М. Богданович писал о Мартинкевиче: «Заслуги Мартинкевича перед белорусской литературой лежат… не в области художественных достижений, а в области чисто исторической. Они в том демократизме, который веял от сентиментально-народнических поэм Мартинкевича, в той гуманизаторской тенденции, которая явственно проступает из каждой их строки и которая была по своему времени очень не лишней…»

Мартинкевич впервые заговорил о белорусском крестьянине, забитом и угнетенном, как о полноценной человеческой личности. Развитию и обоснованию этого тезиса посвятили лучшие свои произведения Богу-

[1] «Наша Ніва», 1910, № 48;

шевич, Неслуховский и позднейшие писатели. Для Я. Купалы же тема высокого человеческого достоинства и красоты белорусского крестьянина и белорусского народа в целом является основной. Тема человеческой индивидуальности является одной из основных в творчестве Богдановича.

Самым замечательным из предшественников новых белорусских писателей является Франциск Богушевич (1840–1900). Можно со всей определенностью сказать, что все идеи позднейшего белорусского возрождения даны уже в творчестве этого писателя. Образованнейший человек (учился в Петербургском университете на физико-математическом факультете, окончил Нежинский юридический лицей), участник польского восстания 1863 года, Богушевич поставил целью своей жизни пробудить в белорусском народе чувство собственного достоинства, укрепить в нем веру в себя и в свое лучшее будущее. Идея национального возрождения Белоруссии – центральная идея творчества Богушевича. Свои взгляды он изложил в предисловии к сборнику стихов «Дудка белорусская» (1891). Главный признак народа – его язык. В языке народа выражены все его особенности. Белорусский язык, который все считают подлым, «мужицким», на самом деле является равноправном среди других европейских языков: «язык наш есть такой же человеческий и панский язык, как французский или какой-нибудь другой»… Не может существовать и развиваться народ, который стыдится и отрекается от своего языка. «Много было таких народов, которые утратили сперва свой язык, как иной человек перед смертью, у которого отнимает язык, а потом и совсем умерли. Не оставляйте ж языка своего белорусского, чтоб не умереть»… Белорусы не должны стыдиться своего языка, потому что несколько столетий тому назад белорусский язык был государственным языком великого Литовско-Белорусского княжества.

Идеализация Богушевичем белорусского средневековья, апелляция к былому могуществу и прошлой славе Белоруссии, призыв возродить белорусский язык и всю культуру, – основные принципы «белорусского возрождения». «Наша Нива» из номера в номер будет развивать эти идеи Богушевича, поэты (Купала, Богданович) будут их поэтически оформлять и защищать.

М. Богданович отмечает, что «в предисловиях к своим книжкам Богушевич едва ли не первый явился проповедником всестороннего национального возрождения белорусов, доказывая, что они представляют отдельный самостоятельный народ». Из этой основной идеи Богушевича вытекают все особенности его творчества. Первый из белорусских писателей он рисует замечательные реалистические картины угнетенной и подавленной Белоруссии, нищего и эксплуатируемого ее народа. Тема судьбы-доли крестьянина, создающего все богатства, кормящего господ, но который сам нищенствует и голодает, проходит красной нитью через всю поэзию Богушевича.

Глядзі! Горы паразрыты, а чыгункай свет абвіты:
усё з мужыцкай цяжкай працы, усе едуць у палацы,
Ў мужыка ж няма білета. Ці ж не дурань мужык гэта.
Дык крычэце ж, біце ў звона – дурны мужык, як варона.
……………………………………………………………
Ці-ж не дурань мужык гэта: гарэ, сее ўсё лета,
А як прыдуцца дажынкі, няма збожжа ні асмінкі,
А даждаўшы на каляды, мужыкі асмінцы рады.

Эта тема в дальнейшем будет продолжена и углублена Я. Купалой. В стихотворении «Песня» (1908) он пишет:

На палац, на пакой
На спіне на худой
З дня на дзень, з года ў год
Бэлькі носіць народ.
А за гэта за ўсё
Што здабыў за жыццё.
Гэй, го-го! Гэй, го-го!
Мы жывем і пяём.
Дом мы ставім людзям,
Самі мрэм пад вуглом.

Крестьянин у Я. Купалы это не только фигура пассивная и безропотная, как у Богушевича, это человек вполне осознавший свою силу и свою правду. Нищий и голодный, он находит в себе внутреннюю силу и с величайшей гордостью заявляет:

Я багач, я магнат…
………………………
А як з сошкай пайду,
Увесь свет пракармлю.

Образ родины – Белоруссии – проходит почти через все произведения Богушевича. Это образ убогой и забытой земли, неуютной и холодной. Родной край символизируется через образ полусгнившей, курной крестьянской избы.

Бедная ж мая хатка, расселася з краю, –
Між пяскоў, каменняў, ля самага гаю,
кепска ж мая хатка: падваліна згніла,
І дымна і зімна, а мне яна міла.

Но этот край дорог поэту, он ему дороже любого другого – более богатого и благоустроенного. Любовь к родной Белоруссии, и ее природе, своеобразной и трогательной – постоянный мотив поэзии Богушевича.

Я не кіну хаты, хоць вы мяне рэжце,
Не пайду да вас я, хіба ў арэшце.
А хоць сілай нават адарвалі б з дому,
Калісьці вярнуўся б, як мядзведзь да лому;
Заваліцца хата, зарастуць пакосы –
Усё б я вярнуўся, хоць голы ды босы.

Подобные же чувства любви к Белоруссии – бедной и неуютной, но зато «своей», выражает и другой поэт, современник Богушевича – Иван Неслуховский (1851–1897), писавший под псевдонимом Янка Лучина:

Усё ў табе бедна. Часта заплача
Мужык-араты, дзеля злой долі,
Цяжка працуючы. Ён жа аднача
З табою растацца не жджэ ніколі.
І непрыглядную хату з пажыткамі,
І поле скупое, выган без пашы
Мы, апрануўшыся старымі світкамі,
Любім і цэнім, бо яны нашы.

Эта идеализация и даже некоторое любование бедностью и убогостью своей родины, выдвижение их как ее отличительного признака, заметное в творчестве Богушевича и Неслуховского, будет потом воспринято массовой белорусской литературой.

Величайшее возмущение вызывают у Богушевича те белорусы, которые изменили своему родному краю и своему народу, которые пошли служить «чужинцам» или стали угнетателями своих же братьев. Тема ренегатства как одной из причин отсталости Белоруссии, которая с такой остротой будет ставиться на страницах «Нашей Нивы» и в творчестве Купалы и Богдановича, эта тема впервые появляется у Богушевича («Ахвяра», «Не цурайся», «Калыханка»). Типичным в этом отношении является стихотворение «Ахвяра», в котором выступление против ренегатов сочетается с горячими декларациями о любви к родине, о желании трудиться только для своего края.

Маліся ж, бабулька, да Бога,
Каб я панам ніколі не быў:
Не жадаў бы ніколі чужога,
Сваё дзела, як трэба рабіў…

Каб за край быў умерці гатоў,
Каб не прагнуў айчызны чужых,
Каб я Бога свайго не акпіў,
Каб не здрадзіў за грошы свой люд…

Введение анафор, характерных для Богушевича, придает всему стихотворению сильное эмоциональное напряжение, сближая его с распространенными в белорусском народном творчестве заговорами-заклятиями. Неожиданно появляющийся тут мотив продажности поэта за деньги в дальнейшем непосредственно приведет к «Пророку» Я. Купалы.

Необходимо, наконец, остановиться и на поэтических декларациях Богушевича. Они явились основой для всех последующих подобных выступлений белорусских поэтов. Стихотворение «Мая дудка», которым открывается первый сборник Богушевича «Дудка белорусская», дает тон всему сборнику и вообще всему творчеству поэта. Идеи же, заложенные в этом стихотворении, определили дальнейшее развитие белорусской поэзии. Поэт выражает желание петь жизнерадостно и, обращаясь к своей музе – дудке, просит ее:

Зайграй так вясёла,
Каб усе ўкола,
Узяўшыся ў бокі,
Ды пайшлі ў скокі,
Як віхор у полі.

Но муза непокорна поэту, она поет совсем на другой лад:

Енчыш без умоўку,
Не, не будзе толку.

Вместо радостных, она поет печальные и горестные песни. Но эти песни ближе к сердцу самого поэта. Он берет другую дудку – «ад жалю, ад смутку», которая так играет:

Каб зямля стагнала,
От каб як зайграла:
Каб слязьмі прабрала,
Каб аж было жутка,
От-то мая дудка.

Оказывается, что эти песни дудки-музы – это песни самого поэта.

Ну, дык грай жа, грай жа,
Усё ўспамінай жа…

Штодзень і штоночы
Плач, як мае вочы,
Над народу доляй,
І плач штораз болей.

Образ поэта-печальника, певца народного горя вырисовывается из стихотворения Богушевича. Песни его – это песни-стоны обездоленного и несчастного народа.

Плач так да астатку,
Галасі, як матка,
Хаваючы дзеці –
Дзень, другі і трэці.

Поэт определяет тон своих песен как «слезный тон»:

І грай слёзным тонам
Над народа сконам…
Кінь наўкола вокам,
Ды крывавым сокам –
Не слязой заплачаш,
Як усё ўбачыш.

Этот «слезный тон» станет тоном всех последующих поэтов, наследников Богушевича. Он был оправдан самой жизнью, тем угнетенным социальным и национальным положением, в котором находилась Белоруссия. Но будучи воспринят массой поэтов-однодневок, появившихся вокруг «Нашей Нивы», он потерял ту художественную силу и эмоцию, которые он имел у крупных писателей, и превратился в штамп, который накладывался на традиционную тему.

Интересна и поэтическая декларация Неслуховского, в которой он признается в кровном родстве его творчества с народом:

Не я пяю, народ Божы
Даў мне ў песні лад прыгожы,
Бо на сэрцы маю путы
І з народам імі скуты.
З ім я зліўся з добрай волі,
Чы-то ў долі, чы ў нядолі…

С творчеством Богушевича белорусская литература вступает в XX век. В самом начале нашего века вступает в литературу Цётка (А. Пашкевич). Будучи связана, как было уже сказано выше, с традицией Богушевича,

Цётка явилась вместе с тем и одним из тех поэтов, которым новая белорусская литература многим обязана в своем формировании.

В самый разгар революционных событий, в 1905 г. вышел сборник ее стихов «Крест на свободу». В мужественных, полных гнева к убийцам стихах поэтесса давала анализ событий и призывала народ к упорной революционной борьбе за свержение самодержавия:

Чую яшчэ голас з неба,
Што цара павесіць трэба.

В стихотворении «Добрыя весці» Цётка показывает, как революционные события захватывают все более и более широкие массы и воспитывают в народе дух мужества и самоотверженности:

Ўсіх злучыла чароўнае слова;
Жалезны вобруч скуў нам далонь.
І матка сына даць нам гатова,
І жонка мужа вышле ў агонь.
І дзед старэнькі бяжыць у дружыну,
І ўнучка следам дзеда спяшыць.
Хлапец, абняўшы любу дзяўчыну,
На барыкадах смела стаіць.

Замечательное стихотворение «Мора» дает картину народной революции в образе разбушевавшейся морской стихии:

Не такое цяпер мора,
Не такі у хвалях шум:
Цяпер бурна, страшна мора,
Хваля поўна дзікіх дум.
Мора вуглем цяпер стала,
Мора з дна цяпер гарыць,
Мора скалы пазрывала,
Мора хоча гора змыць.
Мора злуе, крэпнуць хвалі,
З дзікім шумам бераг рвуць,
Гром грыміць кругом у мілі,
З мора брызгі ў неба б’юць…

Поражение революции воспринимается Цёткой как личное горе, вызывает стихи полные неподдельной и искренней печали («Небывалыя часы»). Торжество реакции не заставляет Цётку, как это было со многими писателями, разуверится в деле революции. Она и после поражения

революции продолжает большую революционную работу, за что подвергается преследованиям царской охранки и высылается из России. Цётка явилась одной из самых деятельных сотрудников первой радикальной белорусской газеты «Наша Доля». Ее рассказом «Прысяга над крывавымі разорамі» открылся первый номер этой газеты. В этом рассказе в иносказательной форме была намечена тема, которая затем станет основной в дореволюционной белорусской литературе: протест обездоленного белорусского крестьянства против порабощения и эксплуатации.

* * *

Как консолидация всякой литературы, процесс формирования белорусской литературы в определенный художественный организм был сложным и противоречивым процессом. Литература создавалась разными людьми и разными путями. Подлинными зачинателями и основоположниками новой белорусской литературы явились Я. Купала и Я. Колас.

Уже в первом стихотворении, с которым Я. Купала в 1905 г. выступил в печати (стихотворение «Мужык»), он подхватывает основную тему своих предшественников – тему человеческого достоинства мужика-белоруса:

Ніколі, братцы, не забуду,
Што чалавек я, хоць мужык.

Революционная эпоха, пробудившая к сознательной политической жизни огромные массы народа, с необычайной остротой выдвинула вопрос о личности, о человеческой индивидуальности. Революционная эпоха и специфические условия национальной окраины, в которой социальные и национальные вопросы были не разделимы, обусловили ту остроту и глубину, с которой тема человеческой индивидуальности была поставлена Я. Купалой и другими белорусскими поэтами. Знаменитое стихотворение «А хто там ідзе», переведенное на русский язык А. М. Горьким, как нельзя лучше передает пафос революционного времени в условиях Белоруссии, пробуждение к сознательной жизни многомилионного народа, появление у него человеческой гордости и стремления быть равноправными и свободными.

… А хто гэта іх, не адзін мільён,
Крыўду несць наўчыў, разбудзіў іх сон?
– Бяда, гора.
А чаго ж, чаго захацелася ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
– Людзьмі звацца.

С этим стихотворением Купалы перекликается и другое его замечательное стихотворение – «Хто ты гэткі» («Наша Нива», 1908, № 3). Половинчатость и нерешительность Богушевича, народническая сентиментальность Мартинкевича и Неслуховского исчезли. Тема была поставлена и разрешена так, как подобает подлинному революционно-демократическому писателю. Мужик-белорус утверждался как труженик, создающий все материальные ценности, обладающий высокими моральными качествами, которых нет у господ – сила, выносливость, честность и благородство. И если современный социально-политический строй подавляет и угнетает такую личность, то нужно решительно бороться с этим строем, нужно его уничтожить революционным путем. От имени белорусского мужика, которого не хотели считать человеком, Купала гордо заявляет:

Душой я вольны чалавек
І гэткім буду цэлы век.

Стихотворение, из которого взяты эти строки, было помещено в первом сборнике поэта «Жалейка» (1908) и знаменательно называлось «Песня вольнага чалавека».

Таково было новое слово, сказанное Я. Купалой в белорусской литературе. Тема личности, наряду с его основной темой родины Белоруссии, ее исторической судьбы, современного состояния и будущности, группирует вокруг себя и другие произвольные темы (крестьянский труд, быт и др.).

Одновременно с Купалой выступает и Я. Колас. Он разрабатывает те же темы, хотя отдает большую дань природоописательной лирике. Колас выступает как поэт печали, основной тон поэзии которого – жалобы на тяжелую судьбу страны и ее народа. Первый сборник его стихов так и назывался «Песні-жальбы» (1910). Этот сборник типичен не только для дореволюционного Коласа, но и для всей белорусской поэзии того времени. Сама жизнь, безрадостные картины крестьянской жизни, свидетелем которой был поэт, определили основной тон поэзии Коласа. Характерно, что для Коласа этого периода поэзия народного горя и «горестная поэзия» тождественны. В этом отношении интересно его программное стихотворение «Пясняр» – ответ на обвинение его в тематической односторонности:

Кажуць людзі: «Што ты смутны?
Што спяваеш усё пра гора?
Тваe песні – стогн пакуты,
Слёзы ветру на прасторы.
Ты злажы нам песню волі,
Песняй шчасця залівайся,
Ціхім спевам нівы ў полі

Ў струнах сэрца адклікайся».
………………………………
– Ой вы, людзі Няма ж волі:
Скуты мыслі ланцугамі,
Пусты нівы нашы ў полі,
Злосны віхар дзьме над намі!
Ці ж я сэрцам не балею?
Ці ж мне смутак лёгка даўся…
Я спяваю, як умею,
Я пра радасць пець не здаўся…

Принципиальное признание здесь Я. Коласом необходимости только «пакутных песен» очень характерно. Оно показательно для всей тогдашней белорусской поэзии. Пройдет немного времени, и на страницах «Нашей Нивы» развернется дискуссия о тоне белорусской поэзии, о ее характере и задачах писателя.

Жалобы, стоны окрашивают большинство ранних стихов Коласа и Купалы, в особенности первого. Но было бы неправильно считать эти мотивы ведущими в их творчестве. И в этот – наиболее мрачный и тяжелый период в истории освободительного движения в Белоруссии – период реакции, последовавший за революционными событиями 1905 г., в творчестве этих поэтов звучат мотивы бодрости, уверенности в лучшем будущем своего народа. В стихотворении «Ворагам Беларушчыны» Я. Купала пишет:

К свабодзе, роўнасці і знанню
Мы працярэбім сабе след.
І будзе ўнукаў панаванне,
Там, дзе сягоння плача дзед.

Стихотворение «Вялікдзень» полно оптимизма. Купала здесь специально поднимает вопрос о тоне поэзии:

Глянь смела, глянь вольна, шчасліў, нешчаслівы.
І далей к жыццю з паніжэння і сна!
……………………………………………
Дагэтуль мы плачам, дагэтуль мы стогнем,
Адвечных не можам пазбыціся слёз…
Наперад па шчасце! Хай злое ўсё дрогне,
Вясна ўжо на свеце…

Эти же мотивы проходят и через такие стихи Купалы, как «За праўду, за шчасце, за лепшую долю» (1908), «Пара» (1910), перевод стихотворения М. Конопницкой и др. В поэзии Коласа мотивы бодрости и уверенности также часты:

Грошы здабыў У. Фальскі, альбо ў Тат'янінскім К[амітэ]це, які тады яшчэ даў апошнюю дапамогу на прытулак, або ў «Саюзе Гарадоў», адкуль час ад часу ўдавалася дастаць на К[амітэ]т Т[аварыст]ва пом[ачы] ахв[ярам] вайны.

Але і сам Максім без грошы не быў. Працаваў больш 4 месяц[аў]. Тады стаўкі былі прызваітыя, а Ён жа амаль нічога не купляў. Не помню, як разлічаўся ў сталоўцы за снеданні і вячэры, а за абеды плаціў, як і ўсе «камітэцкія», са зніжкай – усяго 10 р[у]б[лёў] у месяц. Нармальная цана была 15 р[у]б[лёў] у месяц. Еў тое, што і ўсе сталаўнікі. На ніякія дадатковыя або здаравейшыя для Яго стравы не згаджаўся. У сталоўцы кухарка была добрая (расейка), а Маці мая вельмі дбала аб якасць страваў. Былі нават сталаўнікі па асобнай «дыеце». Нат бел[арускі] архітэктар Лявон Дубейкоўскі як вэгетар'янец дставаў толькі малочнае, з маслам і г. д. А нейкі чыгуначнік з цяжкахворым страўнікам атрымліваў абеды паводле рэцэпту доктара. Так што магчымасці былі і былі прапановы, але Максім не згаджаўся на ніякае «падкармліванне»: «Як усе!»

Нехта недзе напісаў, што «моладзь наладзіла развітальную вечарыну». Не, нічога такога не было. Мо якраз быў чародны «суботнік»? – а з гэтага зрабілі «развітальную вечарыну»? А развіталіся ў «Бел[арускай] Хатцы»-сталоўцы. Як бачу, пасярод пакою стаіць Максім… Прыйшлі: Смоліч, Галубок, Фальскі, Ядвігін Ш, жанчын 2 – мая Мама і я.

Ніякіх шумных прамоваў, ціха… у ўсіх сціснула горла, у ўсіх слёзы ў вачох. Мая Мама абняла Максіма, пацалавала ў галаву. Ён сказаў маме (гэта замест мне беспасярэдна): «Хацеў бы сказаць шмат мілых слоў. Але панна Людвіка дрэнна чуе, а я не магу голасна гаварыць… Напішу».

Цягнік адыходзіў сярод дня. Гэта быў люты, дзень кароткі, а ў часе развітання ў пакоі было ясна, лямпа не гарэла. Адводзіў, безумоўна, А. Смоліч… можа, яшчэ Фальскі, або Галубок, можа, Яны абодва? У кожным выпадку ніхто больш, хоць праектвалі пайсці грамадой. Але Максім не хацеў. Ніякай дэманстрацыі.

Ехаў зразумела у вагоне 2 кл[асы].

На дарогу прыгатавалі ежу. Бутэрброды, фрукты. Прыйшло мне ў галаву (гэта ўсё ў бяссонную ноч!), што Вам можа цікава было б пазнаёміцца з асобай Смоліча, з яго біяграфіяй, лістамі… Маю і біяграфію, і спісак яго друкаваных працаў (геаграфічных) і з 20-ць лістоў. Лісты вельмі цікавыя. Максім са Смолічам былі ў вялікай прыязні.

А. Смоліч са сваей чуткай, добрай душой не мог не прывязацца да Максіма і наадварот.

У чэсць Максіма Смоліч свайго сына назваў Максімам. На жаль, жонка Смоліча, забраўшыся з малымі дзяцьмі у Омск, не выгадавала іх на беларусаў. Гаварыла з дзяцьмі па-расейску… Я гэтага ніяк не магу зра-

зумець. Сама па-беларуску добра гаварыла, пісала, рвалася ў Беларусь. А калі была нейкі час у Сына ў Чэрэпаўцы, то нават да мяне – калі пісала адкрытку – па-расейску…

А вось сп. Ванда Лёсікава да апошняй мінуты свайго жыцця гаварыла са сваімі дзяцьмі па-беларуску. Ці помніць што з мовы Маткі Сын і малодшая Дачка, не ведаю, але старшая Алеся вось і цяпер прыслала паштоўку з навагоднімі пажаданнямі – па-беларуску…

Толькі доўгі ліст, то па-расейску – не мае адвагі. Як пісала: «баіцца вялікай колькасці памылак».

Прыслала мне ліст з рысункам, які атрымала ад свайго Унука – гэта прапраўнука Ядвігіна.

Хлопчык маленькі – піша друкаванымі літэрамі (па-расейску…) і называе бабку «Баба Алеся» – што мяне сапраўды ўзрушыла – бо Смолічыха ў сваей сям'і перакінулася ў Шуру.

Думаючы аб Смолічы, Яго лістах і г. д. – пастанавіла запрапанаваць Вам прыехаць неяк да нас.

Недалёка – можна і на адзін дзень, а калі б час пазволіў, то і на пару. Затрымацца можна – калі цёпла – у нас (бо ў тым гасцінным пакоі пакуль што няма печкі) – а калі зімна, то ў маей Дачкі. У Яе 3 пакоі і гасцям заўсёды рады. Падумайце і напішыце.

Прыйдзецца Вам набрацца цярплівасці чытаючы мой ліст – гэтак намазана. Апанаваў радыкуліт, моцна баліць.

Усяго Вам найлепшага.<br>За пажаданні дзякуем.<br>Л. Войцікава

Мае шлюць Вам прывітанні.

БДАМЛМ, ф. 323, воп.1, спр. 191, арк. 1-2адв.

**№ 8**

12/II.76.<br>Вільня

Паважаны Аляксандр Мікалаевіч.

Дзякую за спагадлівасць, за добрыя словы. Добрыя людзі разумеюць мой боль, пішуць, пацешаюць. Але мне ад гэтага не лягчэй. Нічым, нічым не можна сцішыць гора і болю.

Кніжкі не прысылайце… Ужо мне яе прыслалі. Яшчэ адзін гаркі, гаркі глыток…

Я не дамагалася, каб адкінуць г. зв. успаміны Бядулі, а друкаваць мае… а зусім лагічна прасіла – калі Бядулю, то маіх не. Трэба ж верыць некаму аднаму, а не валіць усё ў адну кучу, праўду і брахню.

Не ведаю, ці гэта поўная адсутнасць крытыцызму ці проста вельмі злая воля?

Вось Вы мне паверылі. Спаміж іншых фактаў падалі, што «М. Б[агдановіч] сядзеў падоўга ў канцылярыіі Камітэта». Толькі памыліліся: Ён не працаваў, а адпачываў пацёмку, без лямпы… Значыцца, паверылі (дзяўчынкі, я іх сцішала і г. д.), што мы жылі там – у «Бел[арускай] Хатцы. Захараўская 18». Бядуля піша – жылі ў Яго. То ў канцы канцоў не маглі мы жыць у 2 мейсцах адначасна? І далей у Бяд[улі] – адна мана…

Калі хочаце (напішыце), па пунктах вытлумачу – разумеецца, калі мне верыце.

Н. Ватацы не лічыла магчымым звярнуцца проста да мяне. Пыталася то А. Смолічыху, то Ю. Бібіла. Ні адна, ні другая ў Менску тады не былі… Яны зварочываліся да мяне… Так і хадзілі «кругом да около». Я Юліі Б[ібіла] тлумачыла, як магла, у чым няпраўда ў Бядулі… Нават не беручы пад увагу, як подла зрабіў Ён з маёй с[ветлае] п[амяці] Маткі нейкую цёмную, злую бабу без сэрца і сумлення (а тым самым і мяне, бо, паводле яго, і я там была), то ўсё, што ён так распісвае, няпраўда – не было і не магло быць. Каму ж бы прыйшло ў галаву, а таксама і самому Максіму – памясціць Яго ў вузенькі цесны праходны пакой?

Я магла памыліцца пішучы, што М. Б[агдановіч] працаваў у Магістраце – пішуць, што ў земстве – зусім магчыма… Але ў тым, дзе жыў М[аксім], а дзе жылі мы, памыліцца не магла. Паміж іншым, адна з маіх сваячак, з тых дзяўчатак, якія былі з намі, – жыве. Жыве ў Варшаве. Мы перапісваемся, і яна кватэру Бел[арускай] Хаткі добра помніць.

Што зроблена – не адробіцца. І гэта трэба выцерпець. Мо і добра, што мой с[ветлае] п[амяці] Сын гэтага не бачыў? Ён вельмі быў чуткі… Ненавідзеў ману…

І Вы, і А. Мальдзіс дамагаецеся, каб я канчала ўспаміны… Не! Больш пісаць не буду. Бо нашто? Мне ж не вераць, карысці няма… То каму яны патрэбныя? Усяго Вам добрага.

Л. Войцікава

А вось Лявон Заяц коратка напісаў, але праўдзіва… Колер студэнцкай курткі Максіма – у нас не згаджаецца… Па-мойму, яна была чорная.

*БДАМЛМ, ф. 323, воп.1, спр. 191, арк. 3-3адв.*

## № 9

18.III.76.
Вільня

Паважаны Аляксандр Мікалаевіч.

Ніяк не магла сабрацца напісаць Вам. Але трэба нарэшці скончыць з гэтымі «бядулінымі» справамі. Сапраўды, трэба мецъ вялікі мастацкі талент і багатую фантазію, каб гэтакага навыдумываць! Звычайны смяротны аніяк бы гэтага не змог…

Уразіла мяне, што Вы лічыце, як бы ў стасунку да маей с[ветлае] п[амяці] Маткі Бядуля «пакрывіў душой». А рэшта ўсё, па-Вашаму, праўда?

Мне і за Максіма крыўдна… Што ж гэта выходзіць? Максім – з яго цяжкай, у апошняй стадыі, «заразнай хваробай», згаджаўся жыць у адным пакоі са здаровым чалавекам? Згаджаўся… заразіць яго?

Кім жа Ён тады быў? Эгаістам, бяздумным, безадказным чалавекам? А ці ж гэта так? Падумайце!

Ды яшчэ і «плявацельніцу» паставіў…

А гэтыя страшныя прыступы кашлю…

Што ж яны якраз з'яўляліся ў прысутнасці Бядулі? А як жа на рабоце, на вуліцы, у сталоўцы і г. д.? І як у такім стане (пасля прыступаў) Ён мог хадзіць на работу? А хадзіў да апошняга дня, да выезду! Вось справа ў тым, што такіх прыступаў не было. Як я пісала ў сваіх успамінах, М[аксім] кашляў зусім мала, рэдка і ніколі не пляваў! У яго і не было чым пляваць… Усё гэта Б[ядуля] пісаў «для краснага слаўца». Каб паказаць сябе героем.

Вось Л. Заяц піша: «гаварыў мала, ціха…». Праўда. А ў Б[ядулі] Ён выступаў з рэфератамі, дэкламацыямі… Няпраўда. Ні з рэфератамі, ні з вершамі ні разу не выступаў.

Чаму ж я помню, як выступаў Ядвігін Ш., У. Галубок, як чытала (на памяць) творы Бацькі Ванда – чытала «Важная фіга», а Максіма бы не помніла? Паміж іншым, Бядуля ні разу на суботніках не быў, так, як ні разу не быў у «Беларускай Хатцы»… Цікава, чаму гэта суботнікі былі «нелегальныя»? Т[аварыст]ва пом[ачы] ахв[ярам] вайны было легальнае, і ў яго памяшканнях збіраліся калі хацелі і хто хацеў… Грошы збіралі на скарбоначных зборах заўсёды з дазволу губернатара. Я сама па гэтыя дазволы хадзіла.

У канцы скуль узяўся Скірмунт? Пры чым тут Ён? Таварыст[вам] пом[ачы] ахв[ярам] Вайны Скірмунт ніколі не цікавіўся, і мы тады Яго і ў вочы не бачылі. (Палякі мелі сваё падобнае Т[аварыст]ва, шмат багацейшае і шмат актыўнае).

Толькі як стварыліся палітычныя арганізацыі пасля З'езду – «Цэнтральная рада Бел[арускіх] арг[анізацый]» – пасля Нацыянальны К[амітэ]т, тады час ад часу з'яўляўся Скірмунт… І трэба катэгарычна адзначыць, што ніякай матэр'яльнай сувязі з Ім ніколі не было… Наагул з'яўляўся рэдка і ў ніякія дыспуты не ўмешваўся. Прыходзіў так прыходзіў – і ўвагі не зварачвалі… Проста ніяк не разумею, як Б[ядулю] хапіла нагласці ўсё гэта выдумываць. Ды ўсе гэтыя «забавы» з Яго сёстрамі… Максім быў вясёлы… Проста «бред сумасш[едшего]». Для прыгожасці і сцэны з «паэтычнымі» бацькамі (Рэня-Геня – і сястру перахрысціў). У лістах да мяне ў 60 гадох Ванда Л[ёсік] і Алеся Смоліч увесь час пішуць Чэрня… А яны абедзве былі ў Менску даўжэй за мяне, і аб змене імені напэўна б ведалі… А[леся] Смол[іч] нават прыслала мне адрас Чэрні і сама да яе пісала… Шмат яшчэ можна выясняць. Але хопіць. І так ці паверыце?

Мо заўтра вышлю яшчэ адзін ліст на Вашае імя, з планам кватэры Бядулі і некалькімі славамі да гр. Н. Ватацы. Калі ласка, аддайце Ёй. Добра было б і з гэтым лістом Яе пазнаёміць.

Усяго Вам найлепшага. Ці грыпа Вас мінула? У мяне нешта падобнае да грыпы – усё цягнецца.

Наагул – цяжка і в[ельмі] сумна. Пішыце.

Л. Войцікава

*БДАМЛМ, ф. 323, воп.1, спр. 191, арк. 4-4адв.*

**№ 10**

25/XI.77.
Вільня.

Паважаны Аляксандр Мікалаевіч.

[…] Максімам Б[агдановічам] варта яшчэ заняцца і галоўнае – пратэставаць проці ўсялякіх фантазіяў, якія пазваляюць сабе людзі падаваць у друк і расказваць.

У газеце «Вячэрні Мінск» (прыслаў мне яе С. М. Новік-Пяюн) ёсць вельмі добры здымак дома на вул. Мала-Георгіеўскай, дзе жыў Максім праз 5 мес[яцаў] Свайго побыту ў Мінску, у кватэры З. Бядулі. Пасля Максіма зіму 1917-18 гг. я там жыла (у тым самым пакоі) з сваей Маткай. А раней, у восені 1915 г., у гэтай кватэры была бясплатная кашэрная сталоўка, якая належала да Бел. Т[аварыст]ва помачы ахвярам вайны. Аўтар артыкула нейкі Н. Лапідус (хоць і «кандыдат філал[агічных] навук») робіць шмат памылак.

Ён піша: «М. Б[агданові]ч працуе над літаратур[най] хрэстаматыяй для старэйшых кл[асаў] пачатковай школы… склаў канспект і паспеў напісаць некалькі нарысаў…» Што не ўспамінаецца, што чытанку складаў не Ён сам, а мы ў 3-х: Максім, Аркадзь Смоліч і я, то гэта зразумела, нас, а асабліва Смоліча – ўспамінаць нельга.

Але ніякіх нарысаў М[аксім] пісаць не мог, бо праца была падзеленая так, што Максіму дасталася толькі паэзія! Яго ўласныя творы і пераклады. А. См[олі]чу – геаграфічныя тэмы і інш., г.зн. проза разам з перакладамі з рускай мовы.

Мне – прыродазнаўства і перакл[ады] з польскага.

[…]Той артыкул, што друкаваў Б[агданові]ч аб прытулку і які друкаваўся ўжо пасля Яго смерці, я чытала і падумала, што там нехта, відаць, прылажыў сваю руку, бо напр[ыклад] напісана, што маніліся прыняць 500 дзяцей – а ў нас было не больш 30!

І не магло быць больш – не было ані грошы, ані мейсца. Далей прыводзяцца словы З. Бядулі і «за шэсць месяцаў супольнага жыцця… быў хоць хвіліну без справы». Перадусім М. Б[агданові]ч у Менску быў 5 мес[яцаў], а не шэсць, па-другое, Ён кажны дзень пару гадзін пасля абеду аставаўся ў сталоўцы (Бел[арускай] Хатцы) і сядзеў у пакоі-канцыл[ярыі] К[амітэ]ту без святла. Відаць, хацеў адпачыць ад атмасферы Бядулінай кватэры…

Л. Войцікава

*БДАМЛМ, ф. 323, воп.1, спр. 191, арк. 9-10*

**№ 11**

[1977]

Паважаны Аляксандр Мікалаевіч.

Шчыра дзякую Вам за «Багдановіча» – цікава мець яго вершы з часу, як Яму было 17, 18 гадоў… А ці Вам не здаралася бачыць Яго верша (па-расейску) «Калыханка». Ён мне казаў, што быў надрукаваны ў расейскай газеце (якой не ведаю) пад псеўданімам. І ўсе думалі, што гэта пісала жанчына… Столькі было пачуцця…

Ці хутка ідзеце ў адпачынак?

Зычу Вам яго выкарыстаць як найлепш і то ў добрым здароўі.

Усяго найлепшага.

Л. В.

Ад маіх прывітанне.

*БДАМЛМ, ф. 323, воп.1, спр. 191, арк. 12*

**№ 12**

20/X.78.
Вільня

Паважаны Аляксандр Мікалаевіч.

Сардэчна дзякую за падрабязны адказ. Яшчэ я той выкладчыцы не пісала, усё хачу адшукаць той артыкул.

Ведаеце, гэта мог быць якраз артыкул Нісневіча, але ў чым ён і ў якім годзе: ах, праўда, Вы пішаце, што на 80-годдзе Максіма? Ды дзе ж ён у мяне дзеўся?

А я не кажу, што гэта былі ўспаміны – напісаныя Бядулянкай малодшай (мы іх абедзве называлі Бядулянкамі).

Толькі аўтар гэтага артыкула мусіў карыстацца ўспамінамі Чэрні. А мо пісаў да Яе? Бо, калі я не мыляюся і гэта той артыкул, то там гаворыцца аб тым, як збіралася моладзь сумысля таму каб пяяць. І – напісана, што «М. Б[агданові]ч таксама пяяў». Гэта то ўжо сапраўдная выдумка. Магчыма, што пару разоў сабраліся, не помню, але Максім у ніякім выпадку не мог «пяяць». Ён жа ледзь гаварыў… ціха, ціха. Дзе Яму было пяяць.

Не ўяўляеце, як я добра помню час, праведзены ў Менску і ўсё, што звязана з асобай Максіма…

Ды не толькі. Бо помню і ўсю працу, у «Камітэце помачы ахвярам вайны».

Часам сама дзіўлюся, што, скончыўшы 86 год, памяці не трачу.

Добра, што Вы пішаце. Шкадую, што новай кніжкі ўжо не пабачу – задоўга чакаць.

Усяго Вам найлепшага!

Добрага здароўя і паспехаў у творчасці.

Л. В.

*БДАМЛМ, ф. 323, воп.1, спр. 191, арк. 17-17адв.*

**№ 13**

13/12.81.
Вільня

Паважаны Алесь Мікалаевіч.

Дзякую за ліст.

З прыемнасцю выясню Вам справы дзіцячага прытулку нашага Камітэту. Тым больш, што часта ў друку спатыкаюцца недарэчнасці і

пішуць, што: «у Ратамцы быў беларускі прытулак» – а гэта не так. Вось яго гісторыя:

Вясной 1916 г. быў арганізаваны прытулак для дзяцей бежанцаў (часткова сірот) у Менску па вул. Маскоўскай №1.

Дапамогу на ўтрыманне прытулку мы атрымоўвалі ад г. зв. Тат'янінскага камітэту. Гэта была дзяржаўная ўстанова, якая займалася бежанцамі. У палове ліпня мы пастанавілі вывезці дзяцей на лета ў Карпілаўку, дзе дзеці мелі б свежае паветра, больш свабоды, ягады, грыбы і г. д. Дзяцьмі апекавалася і вучыла іх Ванда Л[явіцка]я і Ядзя Радкевіч.

Загадчыцай лічылася я, як і раней. Ездзіла я ў Карпілаўку кожную суботу… Адвозіла новапрынятых дзяцей і прадукты ад «Саюза Гарадоў». Аб прадуктах у «Саюзе Гар[адоў]» пастараўся наш віцэ-старшыня У. Фальскі.

Гэта трывала 3 месяцы да паловы кастрычніка. І тут – неспадзяванка… Тат'янінскі К[амітэ]т адмовіўся даваць нам дапамогу – матывуючы тым, што не аплачваецца ўтрымліваць асобны прытулак на малую колькасць дзяцей. У нас было 30–35 чалавек. Гэты ж Тат['янінскі] К[амітэ]т запрапанаваў нам аддаць нашых дзяцей у іх вялікі прытулак у Ратамцы.

Не было рады, і мы мусілі згадзіцца, але паставілі варунак, што дадуць нам магчымасць вучыць дзяцей асобна па-беларуску, пры чым будуць вучыць нашыя даўнейшыя вучыцелькі Ванда Л[явіцкая] і Ядзя Р[адкевіч]. Т[ат'янінскі] К[амітэ]т згадзіўся, і нам «на школу» далі побач прытулку агульнага – бачны драўляны дамок… Такім чынам, нашы дзеці апынуліся ў Ратамцы.

У Ратамку Максім ездзіў разам з іншымі сябрамі Бел[арускага] К[амітэ]ту на спектакль, які ладзілі нашы дзеці (асобна ад агульнага Тат'янінскага прытулку) з прычыны прыезду сястры Л. Талстога, якая візітавала бежанскія прытулкі.

А ў Карпілаўку мы з Максімам паехалі разам. Ён, пераначаваўшы, вярнуўся у Мінск, а я асталася, каб памагчы перавозіць дзяцей у Ратамку. Ехалі фурманкамі, а былі дзеці і зусім маленькія па 3–4 гады – значыцца, трэба было больш «апякунак», чым 2 – Ванда і Ядзя.

Якая шкада, што мае «Успаміны» не могуць дачакацца публікацыі…

Я так дакладна апісала ўсю дзейнасць К[амітэ]ту помачы ахвярам вайны…

Ведаю, што Я. Саламевіч даваў чытаць мае ўспаміны (рукапіс і дагэтуль у Я. Саламевіча, ніяк не магу дачакацца, каб яго мне вярнуў…) А. Разанаву, і той сказаў: «трэба друкаваць усё, апрача таго, што не пяройдзе…» Быццам частка «Менск» – да друку прыгатаваная. Зрабіў гэта А. Ліс і ўступ напісаў… Мае ісці ў альманах «Спадчына». Але – калі «Спадчына» – то ўжо пасля маей смерці? Ці так разумець?

Аб усім, што робіцца ў Менску з нагоды 90-годдзя Максіма я добра ведаю, бо С. Говін прысылае мне ўсе газеты, якія пішуць аб гэтым: «Звязду», «Вечерний Минск», «Бел[арускі] Універсітэт»… а С. П. Шушкевіч прыслаў «Настаўніцкую газету» і новы зборнік вершаў М. Багдановіча. Зразумела, маю «ЛіМ» – выпісваем.

Сяння прыйшоў чарговы нумар «Нівы» з Беластоку. У ім артыкул майго зяця Лявона Л[уцкеві]ча – «М. Багдановіч у Ракуцёўшчыне ў 1911 г.».

Цэлы гэты год «Ніва» прыходзіла акуратна. Што будзе далей? У сувязі з падзеямі ў Польшчы? – магчыма, больш яе не дастану.

Ці Вы чыталі літаратурную старонку «Купалінка» з Маладзечанскай газеты «Святло Камунізму». Там артыкул Г. Каханоўскага аб «новай знаходцы» нейкай старой Менскай газеты з арт[ыкулам] аб Максіме Б[агдановічы]. Там гаворыцца і аб яго працы ў Яраслаўлі з бежанцамі-беларусамі. Яго хвароба – заразіўся тыфусам і г. д. Што Вы на гэта? Ці чулі нешта падобнае? Яшчэ, што цяжка працаваў, зарабляў лекцыямі…

Вельмі хацела б ведаць, што тут праўда, а што фантазія.

Як здароўе? Ці грыпа мінула ўжо? Не хварэйце. Усё ж мусім пабачыцца – я так думаю.

Усяго добрага!

Ад маіх прывітанне.

Л. В.

*БДАМЛМ, ф. 323, воп.1, спр. 192, арк. 23-24адв.*

# ЛІСТЫ ЗОСЬКІ ВЕРАС ДА НІНЫ ВАТАЦЫ

## № 1

18/III. 76 г.
Вільня

Паважаная Грамадзянка.

Надта шкадую, што я ў свой час не напісала Вам і не запрапанавала звяртацца да мяне з пытаннямі, якія адносіліся бы Максіма Багдановіча.

Такія пытанні я атрымлівала ад с[ветлае] п[амяці] Юліі Бібілы і с[ветлае] п[амяці] Алесі Смоліч.

Я на іх сумленна адказвала, але гэта былі весткі, перасыланыя праз трэція рукі…

Што ж, сталася і нічога не вернецца.

Але пабачыўшы з якой дбаласцю, замілаваннем Вы збіралі матэр’ялы да сваей кнігі, я пастанавіла пазнаёміць Вас з фактычным месцам, дзе Максім Б[агдановіч] жыў у кватэры Бядулі. І адначасна падрабязна выясніць, чаму гэтая кватэра так добра мне знаёмая.

Мо Вас гэта зацікавіць проста так – для сябе асабіста і выкліча сякія-такія думкі і меркаванні. Каб памяць Максіма Б[агдановіча] не была для мяне дарагой і ўсё, што тычыцца Яго, не было важным – то я ў такі для мяне цяжкі і трагічны час, напэўна, не пісала б і не займалася гэтымі пытаннямі…

Пасылаю дакладны план кватэры Бядулі.

Ітак: летам 1917 г. Маці мая, змучаная працай у сталоўцы Т[аварыст]ва помачы ахвяр[ам] вайны, пакінула гэтую работу, і мы нанялі сабе пакой на Залатой Горцы. У восені Маці на пару месяцаў выехала ў Глыбокае,

а я дагаварылася з Бядуляй і на гэты час закватаравалася ў яго – у пакоі разам з яго Сёстрамі. Калі мая Маці мелася вярнуцца, я наняла для нас той пакой, дзе фактычна пражыў 5 месяцаў Максім Багдановіч. Мы жылі ў гэтым пакоі да вясны 1918 г. З намі ў гэтым пакоі жыў 13-цігадовы хлопчык Янка Зянюк, брат майго калегі з «Гарадзенскага Гуртка Беларускай Моладзі».

У той жа час у праходным пакоі, які Бядуля называе «сталовай», жылі (раскладалі сабе сяннікі на падлозе) 2 студэнты: Уладыслаў Чаржынскі (пазнейшы муж Чэрні) і Генрык Матук. Абодва знаёмыя мне як сябры малодшай секцыі Гродзенскага Гуртка.

Вось уся праўда.

План кватэры пасылаю.

Сяння напісала я ліст Алякс[андру] Мікалаевічу са спраставаннямі Бядулінай маны.

Калі Вам што было трэба, калі ласка пішыце.

З павагай Л. Войцікава.

Паміж іншым: я падавала с[ветлае] п[амяці] Юліі Бібіла прозвішча Лявона З.: Л. Заяц-Зайцаў – з цірэ, а не ў дужках. Ён любіў падпісвацца падвойным прозвішчам.

*АРК НББ. З неапрацаванай часткі архіва Н. Ватацы. Рукапіс. 2 аркушы.*

**№ 2**

2/IV.76 г.
Вільня

Паважаная Ніна Барысаўна.

Аж баюся ўяўляць сабе, што Вы аба мне думаеце… Выйшла непрыемная гісторыя, якую хачу высветліць і растлумачыць.

Я ў студні атрымала 3 экзэмпляры кніжкі «Шлях паэта». Першы экз[эмпляр] прыслаў мне Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн, другі – Іван Уладзіміравіч Саламевіч, трэці са штампам Бібліятэкі. Я думала, што яго выслала Лідзія Іванаўна, і ён у мяне па сённяшні дзень ляжаў не распакаваны…

Толькі сяння, хочучы пазычыць кніжку знаёмаму беларусу, я распакавала і знайшла Ваш ліст.

Вось чаму я Вам не адказала аж дагэтуль і не падзякавала. Так што, калі ласка, даруйце…

Мой ліст з планам Бядулінай кватэры Вы, напэўна, атрымалі? У той самы дзень я пісала Аляксандру Мікалаевічу. Мо ён паказаў Вам мой ліст. Я там ператрасла г. зв. Бядуліныя «ўспаміны» і той яго «твор» «Страцім-лебедзь». Паўтараць не буду. Адно толькі паўтару, што мне крыўдна не толькі за маю с[ветлае] п[амяці] Матку, але не менш за Максіма… Калі Вас цікавіць, а Вы таго майго ліста да А. М. Бач[ылы] не чыталі, то калі ласка папрасіце і прачытайце.

Цяпер хачу пазнаёміць Вас яшчэ з адным фактам з жыцця Максіма ў Менску. У сваіх надрукаваных успамінах «5 месяцаў…» я яго прапусціла, бо справа была даволі «дражлівая». Але Вам трэба ведаць (для сябе асабіста), бо тут ясна выразілася адна характэрная рыска Максіма – Яго надзвычайная чуткасць на чужую крыўду.

Справа вось у чым:

Як ведаеце з маіх успамінаў, у Ратамцы дзеці нашага прытулку прыгатавалі спектакль. Навучыліся ролі… але не было ў што іх апрануць – не было бел[арускіх] нацыян[альных] касцюмаў. Аб іх мелі парупіцца ў Менску мы, г. зн. Максім Б[агдановіч], А. Смоліч і я.

Думалі-думалі і нічога лепшага не прыйшло ў галаву, як звярнуцца да Р. Зямкевіча, у якога была поўная скрыня сабраных экспанатаў – народных вопратак. Папрасілі, растлумачылі на што і калі яны патрэбныя… Пачулі: «Калі ласка, з прыемнасцю дам што трэба. Скажэце калі…» Надыйшоў той дзень. Трэба было ўсё ўзяць, запакаваць і ехаць. Ідзем да Р. Зямк[евіча] – няма, выехаў. Не папярэдзіўшы, не аставіўшы ні слова… Мы ў роспачы. Каб на месцы – адлажылі бы спектакль. Але там жа назначаны дзень – чакаюць. Ды і сорамна сарваць свой беларускі спектакль, калі ў дзяцей расейскага прытулку ўсё будзе ў парадку.

Доўга мы думалі, радзіліся і прыйшлі да вываду – возьмем самі. Скрыня не зачыненая на ключ стаіць у Бел[арускай] Кнігарні (Захараўская, 24). Усё запішам, па гэтаму ж рахунку вернем. Так і зрабілі. На другі дзень усё вярнулі. Думаем, перапросім, зразумее чалавек…

У гэты ж дзень атрымліваем 2 лісты ад Р. З[ямкеві]ча – адзін мне, другі Смолічу (Максіма чапаць не адважыўся…).

Я села ў адным пакоі сталоўкі, а Яны абодва (Багд[ановіч] і См[оліч]) – у другім. Я чытаю свой. Яны – ліст См[олі]ча. Мяне лае ад зладзеяў… Я прачытала, занясла Ім – чытайце, кажу, а мне дайце свой. Смоліч кажа: «Не» – і схаваў у кішэнь. Відаць, З[ямкевіч] мяне там «абмазаў» добра…

Праз нейкі тыдзень Камітэт пом[ачы] ахв[ярам] вайны даручыў нам траім (Багд[ановічу], См[олічу] і мне) зарганізаваць спатканне Н[овага] Году – 1917-га. Усё нарыхтавалі і ўзяліся рассылаць запросіны. І тут пытанне – што рабіць з Зямкев[ічам]. Ён нас абразіў, моцна абразіў… Максім кажа: маем права Яго абмінуць.

Прыйшоў дзень спаткання. Гасцей поўная сталоўка. А я яшчэ канчала надзявацца ў сваім пакоі. Раптам, нават не пастукаўшы, убягае расхваляваны Максім: «Панна Людвіка, Зямкевіч прыйшоў!» – а тут і См[олі]ч з'явіўся. Я так і села, ногі падкасіліся… Пакуль мы са См[олічам] зар'ентаваліся – Максім выбег і да Зям[кеві]ча: «Пане Зямкевіч, хто Вас сюды прасіў?». Шмат хто ахнуў: так абражаць чалавека. Але Смоліч таму-другому растлумачыў. Усе ўспакоіліся. Селі за стол. Зям[кеві]ч – астаўся(!). Увесь вечар ніхто да Яго ні слова не сказаў – ігнаравалі. Але Ён упарта сядзеў да канца.

Вось які быў Максім… Сам жа Ён абражаны не быў, але перажываў за нас.

Што да аўтографаў. У мяне толькі адна маленечкая пісулька з гульні «ў пошту» на адным з суботнікаў. Больш нічога не маю. Цяпер шкадую, што замест немагчымых паміж намі гутарак мы не перапісваліся хоць часам у такія мінуты, як нікога ў сталоўцы не было. Максім гаварыў вельмі ціха, а ў мяне ад 19 году жыцця пачалі хварэць вушы, і я дрэнна чула. Якраз гэтае пытанне закрануў Макс[ім] у пісульцы.

А развітваючыся з намі перад ад'ездам, Ён сказаў маёй Маме: «Хацеў бы сказаць п[ані] Людвіцы шмат мілых слоў, але не магу галасней гаварыць, а Яна слаба чуе. Я напішу». У сваіх успам[інах] я крыху гэта скараціла. Усё ж непрыемна на ўвесь свет інфармаваць аб сваім калецтве…

З гэтай пісулькі раблю копію. Той самы размер, пісана алавіком. Столькі гадоў прайшло, і пісулька не зусім была выразная, і я яе «падправіла».

Папрашу Зяця, каб паспрабаваў перафатаграфаваць. Калі выйдзе – прышлю.

Надта буду рада і ўдзячная, калі да мяне напішаце. Дзякую за інфармацыі аб новай кніжцы. Усё на тэму Максіма Б[агдановіча] – цікава і цэнна.

Ці Вы чыталі ўспаміны аб М. Багд[ановічу] – пісаныя Смолічам? Іх ад некага атрымаў І. У. Саламевіч. Прыслаў мне копію. Яна ўжо ў Вільні, але дастану толькі заўтра.

Вялікая шкада, што аб См[олі]чу прыходзіцца маўчаць. Цікавы быў і надта вартасны чалавек. Я Яго ведала ад 1913 г. і доўга з Ім карэспандавала. Маю каля 20 лістоў. Думаю, што Вам варта было б іх прачытаць. Ведаць, з кім сардэчна сябраваў Максім.

Калі б у Вас была магчымасць і ахвота, калі ласка прыяжджайце. Мо зацікавілі б Вас мае ўспаміны і іншыя матэр'ялы. Пакуль жыву, рада б падзяліцца.

Што дагэтуль кніжка не была распакаваная – яшчэ адна прычына, спаткаўшае мяне цяжкае гора: 27/I г[этага] г[ода] памёр мой Сын… Цяжка гэта перажываю. Стараюся скончыць пачатае і задуманае, але не вельмі

ўдаецца… Часткова работа як быццам «абурае», але схамянуўшыся яшчэ горш сябе адчуваю.

Усяго Вам найлепшага.
Як найбольшага плёну ў працы.
Вітаю. Л. Войцік

*Сягоньня я пачуў, што «моя нешчасьліва дзевечко», і думаю увесь вечар аб гэтым, але жывем мы, як чужые людзі і ні да чаго дадумацца не можна.*[1]

*АРС НББ, ф. Ватацы, 30Н//689(026), л.1-3*

**№3**

16/IV.76 г.
Вільня

Паважаная Ніна Барысаўна.

Шчыра дзякую за ліст. Што ж, сталася і не варта аб гэтым думаць і гаварыць. Апрача ўсяго, прыкра расчаравацца ў чалавеку. Я ў сваіх успамінах Менскіх успамінаю Бядулю з сімпатыяй і ніколі мне ў галаву не прыходзіла, што Ён дзеля прэстыжу здольны на такую адкрытую ману. Я пісала да гр. А. Бачылы, што мне крыўдна і за Максіма, які паводле Бядулі быў нейкім бяздумным і бязвольным.

Праўду сказаць, вельмі цяжка лістоўна ўсё выясніць. Вось каб мне з Вамі пабачыцца, ды расказаць усё, усё.

Я, здаецца, пісала Вам 3 лісты, адзін за другім? І ў адным з іх пісала, што атрымала ад Івана Уладзіміравіча Саламевіча нечыя «Успаміны аб Багдановічу…». Быццам А. Смоліча. Але не верыцца мне, каб гэта Ён пісаў. Нешта і стыль, і мова не Яго. А змест? Проста нешта недарэчнае. Ізноў Максім паказаны ў вельмі двузначным выглядзе. Ну і мяне туды ўблыталі, ды такой нейкай… бязвольнай… і смешна, і горка.

Я прасіла Івана Уладзіміравіча растлумачыць мне: хто Яму гэтыя ўспаміны прынёс, які там подпіс… Каб мне пабачыць рукапіс, можа б, я дайшла, хто гэта пад А. С[молі]ча «падшыўся». Калі ласка, пацікаўцеся

[1] На асобным лістку памерам у дзве пушкі запалак – рукапісная копія запіскі Максіма Багдановіча. Арыгінал захоўваецца ў калекцыі дакументаў Я. Ю. Раманоўскай (БДАМЛМ, ф. 394, воп.1, спр. 5, л.1)

гэтым «творам». Буду Вам удзячная. Я цяпер, пасля смерці с[ветлае] п[амяці] Сына, не маю з кім абгаварыць такія справы. Ад Ів[ана] Ул[адзіміравіча] адказу не маю дагэтуль. Не крыўджуся, бо ведаю, які Ён запрацаваны. Ды і Яго маленькая Веранічка час Тату забірае…

Што да Вл. Рагоўскага – не ведаю, хто Ён такі. Ёсць дзве дарогі, каб адшукаць Яго і Яго артыкул. Праз Аляксандру Бергман – я да Яе якраз буду пісаць і гэтае пытанне парушу.

Другая дарога: у г. Лодзі жыве польскі пісьменнік, які цікавіцца беларускімі справамі, піша аб іх, выдае свае пераклады беларускіх твораў на польскую мову. Свае кніжкі сістэматычна прысылае ў Гудзевіцкі Краязнаўчы Літаратурны школьны Музей. Я падаю адрас выкладчыка Бел[арускай] мовы і Літар[атуры] – Аляксандра Мікалаевіча Белакоза. Ён Вам адрас таго польскага пісьменніка прышле. Спашліцеся, калі ласка, на мяне. Думаю, што так будзе хутчэй, чым каб я Яго аб гэты адрас прасіла і тады пасылала Вам.

Дзякую за тэкст «Прашэння да Мінскага Губернатара…». І як я аб гэтым магла забыцца? Сама я гэтае «прашэнне» Губернатару насіла… А мо і не дзіўна, што забылася? Як-неяк – 60 гадоў!

Я ўспаміны пачала пісаць пачынаючы ад 1909 г., пачатку Гродзенс[кага] Гуртка Бел[арускай] Моладзі. Скончыла 1922 годам. Астаецца Віленскі час, г. зн. ад 1923 г. да вайны. І вось да гэтага апошняга перыяду не магу ўзяцца. Цяпер канчаю некалькі біяграфіяў людзей, ад якіх маю шмат лістоў, уласнаручныя аўтабіяграфіі, цікавыя весткі з іх жыцця.

Якраз тых, каго ніхто нідзе не ўспамінае і не ўспомніць, а Яны зрабілі нямала…

Пішацца марудна… Ні адпаведнага настрою, ні здароўя. А да таго штодзённая хатняя работа.

Мо скончу? Пабачым.

Яшчэ не ведаю, ці выйдзе аўтограф М. Б[агдановіча]. Я Зяця прасіла, але Ён нядобра чуецца (высокі ціск крыві) і яшчэ не прабаваў. Заўтра Яму прыпомню.

Усяго найлепшага.

Будзе час і ахвота – пішыце. Буду рада і ўдзячная.

Л. В.

Белакоз Аляксандр Мікалаевіч.
п/а Гудзевічы,
Гродзенская вобл., Мастоўскі р-н.

*АРС НББ, ф. Ватацы, 30Н//690(026), л.1-2адв.*

## № 4

19/IV.76.
Вільня

Паважаная Ніна Барысаўна.

Спяшаюся выслаць Вам фотакопію (2 экз[эмпляры]) аўтографу Максіма. Не надзвычайна, але прачытаць можна.

І так дзіўна, што нешта атрымалася… Пісанае алавіком, а гадоў прайшло 59. Я забылася напісаць, што Ваш ліст «Авіа» дайшоў да мяне на 6-ты дзень!..

Усё збіралася запытацца, ці маеце здымкі таго дома ў Гродне, дзе жыў маленькі Максім? Здымкі надта добрыя 2 – бо дом рагавы і сфатаграфаваны з 2 бакоў. Там ёсць мемар'яльная дошка і вул[іца] называецца іменем М. Багдановіча. Калі не маеце, напішыце. Пастараюся для Вас дастаць. Сама маю, але ўклеены ў альбом. Яшчэ адна справа: мо помніце, як называлася польская часопісь з 1914 г., дзе быў артыкул Вл. Рагоўскага?

Я напісала да Аляксандры Бергман (ведаеце, хто гэта?) у Варшаву, але падумала, што трудна шукаць не ведаючы назову газеты.

Здаецца, на гэты раз усё.

Дрэнна чуюся і трэба легчы.

Усяго Вам добрага.

Як найлепшых рэзультатаў у працы.

Л. В.

*АРК НББ. З неапрацаванай часткі архіва Н. Ватацы.*
*Рукапіс. 2 аркушы.*

## № 5

8/V.76 г.
Вільня

Паважаная Ніна Барысаўна.

Пазаўчора атрымала я ліст з Варшавы ад гр. Александры Бергман. І аж збянтэжылася…

Я яе пыталася, ці яна «выпадкам» не ведае, хто такі «W. Rogowski», або няхай парадзіць, дзе шукаць весткі аб Ім. А яна занялася інтэнсіўнымі пошукамі…

Шукала:

1 – W polskiej encykłopedii literackiej.

2 – W informatore p. L. Pseudonimy i Kryptonimy.

3 – W informatore „Kryptonimy i pseudonimy» dotyczące Wilna.

4 – W księżce: «Czy wiesz kto to jest» – і тут знайшла:

«Rogowski Władysław-Franciszek, działacz piłsudczyków po okresie międzywojennym – ale człowiek inteligentny i z wydawnictwami miał doczynienia». Ці гэта Ён? Не ведама.

Мая вялікая віна, што я не запыталася раней Вас, дзе быў друкаваны той артыкул. А тады ўжо можна было пісаць да А. Бергман. Не мела б яна столькі работы і то без памыснага рэзультату. А яна вось-вось канчае 70 гадоў!

Ну што ж. Цяпер я Яе моцна перапрасіла і пераслала атрыманую ад Вас вестку. Буду чакаць адказу.

Дзякую за 1-а пажаданні.

Адно, што «шчасце» цяпер пасля так недаўнай смерці с[ветлае] п[амяці] майго Сына – пачуццё для мяне недаступнае. Але неяк трымаюся.

«Успаміны» мусяць крыху пачакаць, пакуль засею агарод. Скончыць іх вельмі хачу, хоць не ведаю, ці яны каму будуць цікавыя. Тут у нас існавала Каапэратыўнае пчалярскае Т[аварыст]ва «Пчала». Я была ўвесь час яго старшынёй. Дзейнасць Т[аварыст]ва, рэдагаванне яго органу «Беларускай Борці» – займалі мяне цалком. Да іншых арганізацыяў я не належала і ведала іх «здалёк». Што аб іх магу сказаць?

А такія арг[анізацыі] спецыфічныя, як «Пчала», мала каго могуць зацікавіць.

Усё ж аб гэтым напісаць трэба. Тым больш што маю ўсе матэр’ялы, ўсю «канцылярыю», рахункі, статут і г. д. А цяпер, апрача сяўбы, яшчэ адна перашкода – моцна баліць галава, шыя, карак… Ці неўралагічная боль, ці што іншае. Але перашкаджае.

Усяго Вам добрага Л. Войцікава

P. S. Ці ведаеце «Успаміны аб М. Багдановічу» быццам Смоліча? Але я не веру, што гэта пісаў См[олі]ч. Нехта пад Яго падшыўся. Гэта нешта такое «дзікае», бессэнсоўнае. Шмат нерваў я сабе папсавала, прачытаўшы.

Л. В.

*АРКР НББ, ф. Ватацы, 30Н//691(026), л.1-1адв.*

*Леанард ЗАЯЦ?*

## Успаміны пра Максіма Багдановіча

Да верасня 1916 году я ніколі не бачыў Багдановіча. Мяне ён вельмі цікавіў, я вельмі любіў яго заўсёды поўныя мыслі і безварунковага хараства вершы. З гутарак з В[андай] Л[явіцкай], з лістоў яго паважных крытычных прац я ўяўляў сабе, якое можа быць значэнне М. Багдановіча ў нашай справе.

Тады якраз я прыехаў у Мінск з цвёрдым намерам усталявацца і працаваць у сваім родным месце. Дагэтуль у Мінску былі асобныя працаўнікі, але іхніх сілаў бракавала, я рашыўся асесці ў Мінску і дапамагчы ў працы.

Якая ж была мая радасць, калі я даведаўся, што ў Мінск прыехаў Багдановіч і таксама, як і я, збіраецца тут асесці і працаваць. Я спяшаўся знайсці яго. Першы раз я пабачыў Багдановіча ў кнігарні, у заднім пакоі. Увайшоўшы, я пабачыў ля стала чалавека якогась вельмі звычайнага, шэрага. Я разгледзеў яго студэнцкую шапку, крыху згорбленую фігуру ў паношаным шэрым паліце, даўгія спушчаныя рыжыя вусы і густыя нахмураныя бровы. Але з-пад гэтых броваў глянулі прыветна нейкім цяплом і святлом вочы, і з-пад паважных вусоў паказалася радасная дзяцінная ўсмешка. І раптам змяніўся чалавек, як змяняецца часамі надвор'е ў вераснёвы дзень, калі з-за воблакаў прагляне сонейка.

Мы мала гаварылі з ім першы раз, але пасля мы з ім праводзілі ўвесь свой вольны час.

Вельмі цікавая рыса была ў [...] Багдановіча. Я ўперад не заўважыў [...] і не зразумеў шмат [...] чаго ў ім, але пасля ён сам мне ўсё выясніў.

Раз неяк гаварылі мы, ходзючы над Нямігаю, аб рэчах палітычных. «Я, – кажа, – не прызнаю самаахвяры, не прызнаю службы ідэі, я раблю тое, **што** мне міла і дзеля таго раблю, каб **мне** было добра, я хачу шчасця **для сябе**».

Не ведаю, ці гэта абрыўкі якойсь стройнай філасофскай сістэмы, ці, можа, у Багдановічы гаварыла яго хвароба, але такія гэтыя словы не адпавядалі яго жыццю, як трудна сабе прадставіць.

Багдановіч у гасцях. П'ець гарбату без цукру. І ніякія запрашэнні не прымусяць яго ўзяць хоць кавалачак цукру. Пасля доўгіх угавораў гаспадар дае спакой Багдановічу, думаючы: «Ат дзівак, ды годзе. Уздумалася нешта, от і фігуруе». Але раз мне Багдановіч растлумачыў гэтае дзівацтва. «Я, – кажа, – даў зарок не ўжываць цукру. Вакол нас мільёны бедных, галодных дзяцей мараць аб кавалачку цукру, як немаведама аб чым – і не маюць. Дык мы, дарослыя, можам абысціся».

Багдановіч вельмі любіў дзяцей. Яго найбольшым жаданнем, нават, як ён казаў, мэтаю яго жыцця было – мець свайго дзяцёнка. Гэты факт заслугуе на асаблівую ўвагу. Ён, мне здаецца, быў тэй восяй, каля каторай круціліся падзеі апошніх гадоў і дзён яго жыцця. Падрабней аб гэтым раскажуць адпаведныя людзі тады, калі на тое прыйдзе час. Багдановіч казаў, што ўжо некалькі гадоў назад ён усю сваю ўвагу трымаў на ідэі цяжарнасці. Любімым атачэннем яго былі цяжарныя кабеты і іхныя размовы. У гэтых размовах і ён меў заўсёды чыннае дачыненне і разумеўсь у гэтых справах, як які акушэр. Гэта ўсё, як ён казаў, адбілася на яго творчасці. Так ён напісаў цэлы сшытак вершаў, які меў найменне «Вагітнасць» (цяжарнасць). Гэты сшытак павінен быць у Вільні ў Власта. Спадзяюся, што ён хутка будзе надрукаван. З гэтай «найвялікшай мэтай» жыцця звязаны, відаць, і шмат якія падзеі з жыцця Багдановіча. Для таго, каб мець дзяцёнка, трэба, каб была жанчына. Вось такой шукаў Багдановіч апошнія гады. Урэшце яму ўдалося. Недзе ў Крыме ён стрэў якуюсь асобу, жонку сімферопальскага купца. Яны пакахаліся і жылі ўсё лета. «Але, – дадаваў з жалем Багдановіч, – сына ад яе не меў. Я быў тады вельмі хворы, слабы, кроў горлам ішла».

Відаць, з гэтымі мэтамі прыехаў Багдановіч і ў Мінск. Я, прынамсі, ведаю, што адна асоба (В[анда] Л[явіцкая]) пісала яму, патрабуючы яго прыезду. Ён, прыехаўшы і пабачыўшы, расчараваўся. «Яна, кажа, хоча налажыць на мяне абавязкі, а я гэтых абавязкаў прыняць не магу». Наагул у аднашэнні абавязкаў ён стаяў на такім грунце, чуў мусіць, што нядоўга яму жыць на свеце. Дзеля таго хацеў зысціся іменна з замужняю. «Каб было каму майго сына гадаваць».

Такі крыху дзіўны погляд Багдановіча стане нам зразумелы, калі мы бліжэй прыглядзімся да яго постаці. Ён лічыў, што мець і гадаваць дзіцёнка – хаця б чужога – гэта вялікае, можа, найвялікшае шчасце. А толькі што не кожнаму гэтае шчасце даступна. «От што я, бадзяга, няпэўны чалавек, хіба мне можна быць бацькам і мужам».

І вось, расчараваўшыся ў Мінску, ён рашыў ехаць прабаваць шчасця ізноў у Крым. Сухоты развіваліся, заўсёды паднятая тэмпература, заўсёды душыць кашаль, – дахтары кажуць ехаць у Крым. Але раз ён мне кажа: «Вы думаеце, я лячыцца еду ў Крым? Нічога падобнага! Я еду, каб дайсці сваёй найвялікшай мэты».

Некаторы час я думаў, што можна паправіць справу, жаніўшы Багдановіча з Л[юдвікай] С[івіцкай]. Ён, здаецца, крыху закахаўся ў ёй[1], быў, прынамсі, вельмі ласкавы (хаця, праўда, ён быў з усякім блізкім чалавекам ласкавы). Урэшце ён пачаў [...] і гаварыць з ёю аб гэтай справе, але пасля – кінуў.

«Л[юдвіка] С[івіцкая] таксама нездаровая. Ад Л[юдвікі] С[івіцкай] я не буду мець дзяцёнка».

Не ведаю, ці ўдалося дайсці сваёй мэты Багдановічу ў апошні побыт яго ў Крыме.

---

[1] Гэтая думка паўстала так. Ад некаторага часу М. Б. пачаў мне вельмі хваліць п. Л[юдвіку].; пасля стаў пагаворваць, каб я з ёю жаніўся. З яго тону відаць было, што ён яе любіць, а толькі баіцца, што п. Л[юдвіка] за яго не пойдзе. Тады я ў свой чарод пастараўся іх зблізіць.

## КАМЕНТАРЫІ

Крытыка-архіўны зборнік, прысвечаны М. Багдановічу, пакліканы запоўніць прабел, які ўзнік у сувязі з адсутнасцю запланаванага ў 1925 г. І. Замоціным 3-га тома «Твораў», куды меркавалася ўключыць эпісталярныя архівы паэта і літаратурна-крытычныя артыкулы пра яго. Па структуры кніга працягвае традыцыі выданняў 1920-х гадоў (накшталт «Янка Купала ў літаратурнай крытыцы»), а сваімі гісторыка-літаратурнымі штудыямі метадалагічна набліжаецца да зборніка ўспамінаў і біяграфічных матэрыялаў пра Максіма Багдановіча «Шлях паэта» (Мінск : Мастацкая літаратура, 1975. – 332 с., далей – Шлях паэта). Усе тэксты М. Багдановіча, акрамя спецыяльна агавораных, падаюцца паводле выдання: Багдановіч, М. Поўны збор твораў : у 3 т. Т. 1–3 / М. Багдановіч. – 2-е выд. – Мінск : Беларуская навука, 2001. – 752 с. + 600 с. + 461 с. (далей – ПЗТ).

### *АНТОН ЛУЦКЕВІЧ. ПЯСНЯР ЧЫСТАЙ КРАСЫ*

Антон Луцкевіч (1884–1942) – крытык, грамадскі дзеяч, перакладчык, палітык. Адзін з заснавальнікаў і метадолагаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху пачатку XX ст., ініцыятараў перыядычнага беларускамоўнага друку (у прыватнасці, газеты «Наша Ніва»). А. Луцкевіч, які быў асабіста знаёмы з М. Багдановічам і прадаставіў яму магчымасць пражываць у Ракуцёўшчыне падчас наведвання песняром Беларусі ў 1911 г., звяртаўся да творчасці М. Багдановіча на працягу ўсёй сваёй літаратурна-крытычнай і гісторыка-літаратурнай дзейнасці ў 1910-х – 1930-х гг., стаўшы аўтарам артыкулаў «Пясняр чыстай красы», «Максім Багдановіч», «Нязнаныя творы М. Багдановіча», «Апошні верш М. Багдановіча», некралогаў і інш. Крытык упершыню апублікаваў цэлы шэраг раней невядомых твораў М. Багдановіча з уласных архіваў і архіва газеты «Наша Ніва», кансультаваў І. Замоціна, М. Гарэцкага – супрацоўнікаў Літаратурнай камісіі Інбелкульта – па пытаннях творчай біяграфіі М. Багдановіча.

Рэцэнзія на зборнік «Вянок» «Пясняр чыстай красы» была першай сур'ёзнай працай пра М. Багдановіча; высокую ацэнку ёй даў і сам паэт. Яна стала класічным артыкулам пра творчасць паэта, увайшла як у свядомасць сучаснікаў, так і будучых пакаленняў даследчыкаў, выклікаўшы безумоўнае прыняцце, а пазней

дыскусіі і пераасэнсаванне. У БССР працы А. Луцкевіча на працягу доўгага часу замоўчваліся, імя аўтара забаранялася згадваць у друку. Публіцыстычная і літаратурна-крытычная спадчына А. Луцкевіча толькі нядаўна стала набыткам шырокай чытацкай аўдыторыі.

Друкуецца паводле выдання: Луцкевіч, А. Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва / А. Луцкевіч; уклад., прадм., камент., індэкс імёнаў, пер. з пол. і ням. А. Сідарэвіча. – Мінск : Кнігазбор, 2006. – С. 16–17. Упершыню: Наша Ніва. – 1914. – 21 лют., пад крыптанімам Г. Б.

*«Чытаць вершы Багдановіча павінны толькі тыя, хто разумее музыку слова, чыя душа бачыць хараство ў чыстай паэзіі»* – менавіта Антон Луцкевіч першым звярнуў увагу на праблему красы ў творчасці М. Багдановіча, якая распрацоўваецца даследчыкамі да сённяшняга дня. Вобраз «красы» сустракаецца ў багдановічаўскіх творах і непасрэдна (гл. «На цёмнай гладзі сонных луж балота…» і інш.). Акрамя кантыянскіх і сімвалісцкіх трактовак гэтага паняцця, крыніцай назвы Луцкевічавай рэцэнзіі можна лічыць і вобраз «гений чистой красоты» з верша А. Пушкіна «Я помню чудное мгновенье…».

«*Бачым у «Вянку» вершы такой формы, такой будовы – часта вельмі рэдкай, якой могуць пахваліцца толькі найбольш культурныя народы з найвышэй развітай літаратурнай мовай, здаецца, калі б наш«пясняр красы» меў толькі адну мэту: паказаць, што беларуская мова можа развівацца, як мова літаратурная, – дык ён гэтай мэты дайшоў*» – услед за Ул. Рагоўскім рэцэнзент падкрэслівае значнасць працы М. Багдановіча ў галіне страфікі. Сам паэт адзначаў, што ягонай мэтай з'яўляецца пашырэнне тэм і форм беларускай паэзіі. Пра важнасць выпрацоўкі літаратурнай мовы гл. артыкул М. Багдановіча «За тры гады» (1913): «Глянуўшы адразу на ўсю беларускую пісьменнасць, бачым, што за апошнія гады сярэдняя вартасць твораў падвышаецца, што цяпер кожны піша так, як некалькі год назад маглі пісаць найлепшыя пісьменнікі нашы. А гэта можа значыць толькі адно: тое, што ў нас выраблілася **літаратурная мова** (вылучэнне М. Багдановіча. – *Заўв. укл.*). Кожны, хто працаваў над гэтым, зразумее, з якою радасцю я пішу гэтыя словы» (ПЗТ. Т. 2. С. 228).

## *АНТОН ЛУЦКЕВІЧ. ПРАБЛЕМА КРАСЫ Й МАСТАЦТВА Ў ТВОРАХ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА.*
*Публічная лекцыя*

Друкуецца паводле выдання: Луцкевіч, А. Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва / А. Луцкевіч; Уклад., прадм., камент., індэкс імёнаў, пер. з пол. і ням. А. Сідарэвіча. – Мінск : Кнігазбор, 2006. – С. 206–213. Упершыню: Родныя гоні. – 1927. – Кн. III.

У публічнай лекцыі да 10-годдзя з дня смерці песняра А. Луцкевіч развівае свае думкі наконт праблемы красы, тэмы паэта і паэзіі ў творчасці М. Багдановіча. Крытык спрабуе даць нарыс эстэтыкі М. Багдановіча, аналізуючы творы, дзе закранаюцца гэтыя пытанні («Музыка»,«У вёсцы»,«Ліст да п. В. Ластоўскага»,«Апокрыф»,«Апавяданне аб іконніку і залатару»).

Форма напісання артыкула (вылучэнне прапіснымі літарамі, экспрэсіўнасць) нагадвае метад іншага заходнебеларускага крытыка – Уладзіміра Самойлы (Сулімы).

*«Мы можам паўтарыць словы выдатнага французскага мысліцеля-эстэта М. ГЮЙО»* – Мары-Жан Гюйо (1858–1888) – французскі мысляр, паэт. Сусветную славу яму прынеслі працы «Бязвер'е будучыні», «Праблемы сучаснай эстэтыкі», «Мараль без абавязку і санкцыі». Напісанае Гюйо шырока абмяркоўвалася ў інтэлектуальных колах напрыканцы XIX – пачатку XX стст. Шэраг кніг выйшаў і ў перакладзе на рускую мову. Асноўныя прынцыпы філасофіі Гюйо – адагматызм, пашырэнне сферы жыццядзейнасці індывіда. Прадракаў заняпад рэлігійных форм жыцця ў будучыні (яго кнігу«Бязвер'е будучыні» высока ацаніў Ф. Ніцшэ), аднак верыў пры гэтым у далейшае павышэнне значнасці індывідуальнага рэлігійнага чыну.

*«Максім Багдановіч… рэзка разыходзіцца з англійскай школай эстэтаў другое паловы XIX сталецця (Спэнсэр, Грант-Ален), якая зачатак красы бачыць у ЗДАВАЛЕННІ ад дасягненае КАРЫСЦІ. Паводле думкі Багдановіча, КРАСА паза эстэтычнай эмоцыяй, якая павышае ў нас жыццёвы тонус, не дае ніякае іншае карысці»* – гаворка ідзе пра даследаванні філосафаў-пазітывістаў Герберта Спэнсэра (1820 – 1903) і яго паслядоўніка, сацыяліста Гранта Алена (1848 – 1899), чые працы, між іншым, былі накіраваныя на распрацоўку эвалюцыйнай тэорыі Ч. Дарвіна як адзінага метаду для ўсіх навук. Магчыма, аўтар артыкула спасылаецца на кнігу Г. Алена «Фізіялагічная эстэтыка» (1877). Самому А. Луцкевічу (перакананаму марксісту) ідэі пазітывісцкай эстэтыкі не маглі не імпанаваць.

### *ЯЎХІМ КАРСКІ.*<br>*М. А. БАГДАНОВІЧ. БЕЛАРУСКІ ПАЭТА ЧЫСТАГА МАСТАЦТВА*

Яўхім Карскі (1860 – 1931) – адзін з найбуйнейшых усходнеславянскіх філолагаў пачатку XX стагоддзя, акадэмік Расійскай Акадэміі навук, правадзейны член Інбелкульта, аўтар шматлікіх прац па гісторыі і тэорыі славянскага мовазнаўства. Галоўную сваю ўвагу аддаваў развіццю беларусістыкі і беларускага мовазнаўства як навукі.

Друкуецца паводле першапублікацыі: Беларусь. – 1920. – № 41. – С. 2–3 (каментатар выказвае падзяку даследчыку жыцця і творчасці Яна Баршчэўскага Д. Вінаходаву, які адшукаў у пецярбургскіх кніжных сховішчах адпаведны нумар газеты, адсутны ў мінскіх бібліятэках). Артыкул з'яўляецца беларускамоўным варыянтам агляду творчасці Багдановіча, здзейсненага Я. Карскім у межах фундаментальнай трохтомнай працы на рускай мове «Беларусы».

Назва артыкула адсылае да рэцэнзіі А. Луцкевіча на «Вянок» М. Багдановіча «Пясняр чыстай красы» (гл. вышэй).

*«Максім Багдановіч… знікнуў назаўсёды, падточаны сухотамі 12 мая 1917 г., маючы ўсяго 26 год»* – Я. Карскі падае дату паводле старога стылю (у новым стылі – 25 мая), абсяг жыцця паэта вызначаны памылкова – вясной 1917-га М. Багдановіч меў толькі 25 поўных гадоў.

*«Яго пяру належаць яшчэ і празаічныя творы, напр., легенда ў «Каляднай пісанцы»; ёсць у яго і крытычныя допісы, якія напісаны літаратурнай расійскай мовай у розных журналах аб беларускім руху; ён пісаў і ў «Украинской Жизни» аб рытміцы розных украінскіх паэтаў»* – у «Каляднай пісанцы» за 1913 год быў змешчаны«Апокрыф» М. Багдановіча. Рускамоўныя рэцэнзіі гл. у ПЗТ.

Т. 2. Рытміцы ўкраінскіх паэтаў прысвечаныя артыкулы «Краса и сила», «Грицько Чупринка».

«*Пачынаюцца гэтыя вершы з апісання летапісца, надта добра (але толькі па замыслу) пераймаючага пушкінскага Пімена – летапісца ў "Барысе Гадунове"*» – гэтае параўнанне Я. Карскага трывала замацавалася ў багдановічазнаўстве, без яго не абыходзяцца пры аналізе вершаў цыкла«Старая Беларусь», прычым агаворка аўтара («але толькі па замыслу») часта не бярэцца пад увагу. Крытычна пераасэнсаваў думку Я. Карскага ў сваёй дысертацыі Р. Жалязняк.

## *МІХАЙЛА ПІЯТУХОВІЧ.*
## *МАКСІМ БАГДАНОВІЧ ЯК ПАЭТА ІМПРЭСІЯНІСТЫ*

Міхайла Піятуховіч (1891–1937) – крытык, літаратуразнаўца, сябра згуртавання «Полымя». Выкладаў літаратуразнаўчыя дысцыпліны ў Белпедтэхнікуме і БДУ. З 1925 г. – правадзейны член Інбелкульта (у 1929–1936 гг. – правадзейны член АН БССР). З 1926 г. – дэкан педагагічнага факультэта БДУ, прафесар кафедры беларускай літаратуры. У 1930-я гады патрапіў у поле жорсткай партыйнай крытыкі і быў рэпрэсаваны. Актыўна выступаў у друку з артыкуламі, прысвечанымі гісторыі беларускай літаратуры, манаграфічнымі работамі пра пісьменнікаў-нашаніўцаў: Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Цішку Гартнага, Ядвігіна Ш., а таксама пра паэтаў і празаікаў-маладнякоўцаў. Пад уплывам гістарычнай сітуацыі 1920-х – 1930-х гг. погляд М. Піятуховіча на лірыку пастаянна змяняўся. У артыкуле, што друкуецца ў дадзеным зборніку, аўтар кіруецца культурна-гістарычным метадам апісання паэтыкі, толькі месцамі робячы пэўны сацыялагічны акцэнт на ўмовах выхавання паэта. У артыкуле «Цені і святло ў творчасці М. Багдановіча» гэты дадатковы элемент ужо становіцца вызначальным у крытыка: ён падкрэслівае сацыяльныя матывы ў творчасці М. Багдановіча, якія супернічаюць з матывамі «ўпадніцтва» (нягледзячы на сацыялагічную скіраванасць, метад яго і падыход да аналізу твора застаецца нязменна вытрыманым у межах культурна-гістарычнай школы). Апагею крытычная скіраванасць дасягае ў працы М. Піятуховіча «Буржуазны нацыяналізм у беларускай літаратурнай крытыцы і літаратуразнаўстве», дзе М. Багдановіч быў залічаны да кагорты «нацдэмаў».

Артыкул «Максім Багдановіч як паэта імпрэсіяністы» дагэтуль з'яўляецца праграмным для вывучэння характару імпрэсіяністычнага ў паэзіі М. Багдановіча.

Друкуецца паводле першапублікацыі: Полымя. – 1923. – № 7–8. Напрыканцы ў арыгінале быў змешчаны тэкст: «*Увага рэдакцыі:* Рэдакцыя з думкамі аўтара не згаджаецца».

«*У якасці эпіграфаў да сваіх твораў наш паэт часта прыводзіць у арыгінале выпіскі з Дантэ, Ниgo, Верлена, Гейнэ, Пушкіна, Брусава і інш.*» – маюцца на ўвазе эпіграфы да цыклаў і асобных твораў у кнізе «Вянок» з паэтаў Дантэ Аліг'еры (1265–1321), Віктора Гюго (1802–1885), Поля Верлена (1844–1896), Генрыха Гейнэ (1797–1856), Аляксандра Пушкіна (1799–1837), Валерыя Брусава (1873–1924).

«*Лёс надта рана, яшчэ ў дзіцячыя гады, адрывае яго ад роднай глебы Гарадзеншчыны*» – больш правільна лічыць малой радзімай паэта горад Мінск, дзе Максім Багдановіч нарадзіўся ў 1891 г., але Гродна, зразумела, таксама падыходзіць пад азначэнне «роднай глебы».

*«У вёсцы, дзе выхоўваліся Янка Купала, Якуб Колас і іншыя песняры Беларусі»* – Янка Купала (1882–1942) і Якуб Колас (1882–1956) – класікі беларускай літаратуры XX стагоддзя.

*«Калі беларускія паэты-народнікі шырока абхапляюць жыццё; у той час, калі іх малюнкі паходзяць на шырокія палотны Рэмбрандта»* – М. Піятуховіч адсылае чытача да карцін галандскага мастака Рэмбранта ван Рэйна (1606–1669). Трэба адзначыць, што прыклад Рэмбранта не надта ўдалы, бо гэты мастак якраз не быў схільны да стварэння эпічных палотнаў (за выключэннем хіба славутай «Начной варты»). Большасць яго праслаўленых карцін – партрэты і ўзнаўленні класічных сюжэтаў, і ў гэтым ён якраз набліжаецца да творчага метаду М. Багдановіча.

*«Гэты прыём фіксаваць мімалётныя ўражанні мясцовага жыцця нагадвае ўсім вядомую манеру Бадлера, Верхарна»* – аўтар згадвае французскага паэта Шарля Бадлера (1821–1867), пачынальніка дэкадансу ў еўрапейскай паэзіі, які шмат увагі аддаваў адлюстраванню сучаснага яму парыжскага гарадскога жыцця. Бельгіец Эміль Верхарн (1855–1916) узняў тэму яшчэ больш востра: менавіта ён у зборніку «Гарады-спруты» (Les Villes tentaculaires, 1895) разгарнуў містычна-апакаліптычную карціну горада. Праз гэтую кнігу тэму ўспрыняў і творча пераасэнсаваў на рускай глебе В. Брусаў, які быў асабіста знаёмы з Верхарнам, перакладаў фламандскага паэта і актыўна ліставаўся з ім.

*«Мы не знойдзем у яго ніводнага твора, які бы хоць здалёку напамінаў нам купалаўскае «Над Нёманам», дзе дадзена шырокая панарама гістарычнай беларускай прошласці»* – маецца на ўвазе верш Я. Купалы «Над Нёманам» (1911). Твор у савецкі час выключаўся са збораў твораў песняра за сваю нацыянальную арыентаванасць: «Рынкам жывога тавару няслава, / Край ўвесь зрабіла, загнала на ўбой, / Дзе ўжо лет сотні Масква і Варшава / Торг груганоўы вядуць між сабой».

*«Гэты сімвал напамінае нам аналагічны вобраз французскага рамантыка Альфрэда дэ Віньі»* – творчасцю гэтага французскага пісьменніка М. Піятуховіч займаўся адмыслова. У даведках і выкладчыцкіх планах навукоўца, якія захоўваюцца ў фондзе БДУ ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, неаднаразова згадваецца падрыхтоўка манаграфіі па творчасці Альфрэда дэ Віньі (1797–1863), праца з адпаведнымі крыніцамі ў бібліятэках Масквы і Санкт-Пецярбурга.

*«М. Багдановіч з захапленнем цытуе выраз Верлена "de la musique avant toute chose"»* – «Музыкі перш за ўсё», вядомы радок з верша П. Верлена «Мастацтва паэзіі» («Art poétique», 1874). М. Багдановіч узяў яго за эпіграф да верша «Маёвая песня» (гл. ПЗТ. Т. 1. С. 75–76).

*«Гэты прыём музыкальнай лірыкі збліжае нашага паэту з Верленам, Верхарнам і, асабліва, з Бальмонтам, які надта часта ўжывае ў вершах сродкі музыкі»* – гаворка пра рускага паэта-сімваліста Канстанціна Бальмонта (1867 – 1942), чые творы сапраўды вызначае адметны музычны тон.

«*Лансон кажа: "Le mythe est la forme essentiele de son intelligence… Toute sensation tend a devenir symbole tout symbole a se developper en mythe"*» – цытата з кнігі французскага філолага Гюстава Лансона «Гісторыя французскай літаратуры» (1909): «Міф – асноўная форма яго [Віктора Гюго] свядомасці. Кожнае адчуванне становіцца сімвалам, кожны сімвал перарастае ў міф».

*«Французскі класіцызм звязан, напрыклад, з філасофіяй Дэкарта, вялікія сістэмы Шэлінга і Фіхтэ стварылі сабою філасофскі грунт рамантызму, развіццё рэалізму ў літаратуры супадае з пазітывізмам у філасофіі.*

*Філасофскай асновай імпрэсіянізму, як даводзіць гэта Оскар Вальцэль, служыць тэорыя рэлятывізму, якая асабліва была развіта аўстрыйскім фізікам Эрнстам Махам».* – М. Піятуховіч пераводзіць праблему ў філасофскае рэчышча. Ён зводзіць філасофію і эстэтыку як узаемазалежныя з'явы. Рацыяналізм Рэнэ Дэкарта (1596–1650) перарастае ў літаратурны напрамак класіцызму. Суб'ектыўны ідэалізм Ёгана Фіхтэ (1762–1814), а следам за ім трансцэндэнтальны ідэалізм Фрыдрыха Шэлінга (1775–1854), на думку вучонага, прыводзяць да ўзнікнення рамантызму. Спасылаючыся на нямецкага філолага Оскара Вальцэля (1864 – 1944), чые працы былі надзвычай папулярныя ў 1920-я сярод усходнеславянскіх філолагаў, М. Піятуховіч адзначае сугучнасць канцэпцыі Эрнста Маха (1838 – 1916), погляды якога потым перараслі ў школу махізму, эстэтыцы імпрэсіянізму. Махізм браў суб'ектыўны досвед за першаснову пазнання. Ключавую ролю адыгрывалі ў ім дадзеныя інтуіцыі і комплексы адчуванняў.

*«Такія адносіны да смерці мы находзім, напрыклад, у Пушкіна. Яму належаць вядомыя словы: «Всё благо: бдение и сна / Приходит час определенный, / Благословен и день забот, / Благословен и тьмы приход».* – Цытата з 6 главы рамана ў вершах А. Пушкіна «Яўгеній Анегін». Радкі ўваходзяць таксама ў славуты раманс «Куда, куда вы удалились…» (муз. П. Чайкоўскага).

*«У сувязі з думкай аб смерці магчыма філасофская трывога духу, паколькі смерць уносіць дысананс у агульную гармонію светабудовы. Гэткую філасофскую трывогу духу мы знаходзім, напрыклад, у Альфрэда дэ Мюсэ, з грудзёў каторага вырваўся хваравіты крык: "O Dieu juste, pourquoi la mort?"»* – маецца на ўвазе верш французскага паэта-рамантыка Альфрэда дэ Мюсэ (1810 – 1857) «Надзея на Бога» («L'espoir en Dieu», 1850).

## *УЛАДЫСЛАЎ ДЗЯРЖЫНСКІ.*
## *МАКСІМ БАГДАНОВІЧ ЯК СТЫЛІЗАТАР БЕЛАРУСКАГА ВЕРША*

Уладыслаў Дзяржынскі (сапр. Чаржынскі) (1897–1974) – крытык, літаратуразнаўца. У 1910-я гг. удзельнічаў у Гродзенскім гуртку беларускай моладзі. У 1920-я – студэнт і выкладчык БДУ, пазней выкладаў у Камуніверсітэце (1925 – 1930). У 1931 г. абвінавачаны як «саўдзельнік» Саюза вызвалення Беларусі і прысуджаны да высылкі на 5 гадоў у Казань, дзе пасля адбыцця тэрміну застаўся на сталае жыхарства, выкладаў нямецкую мову ў мясцовых ВНУ.

Спецыяльна М. Багдановічу крытык прысвяціў два артыкулы: «Прырода ў творчасці М. Багдановіча» (асобнік часопіса «Вольны сцяг» (№1, 1922) з'яўляецца бібліяграфічнай рэдкасцю і не выяўлены на наш запыт у найбуйнейшых бібліятэках Мінска і Санкт-Пецярбурга), «Максім Багдановіч як стылізатар беларускага верша» (публікуецца ў дадзеным зборніку). Творчасць М. Багдановіча закранаецца ў аглядавым артыкуле «Да пытання аб псіхалагічным стылі нашаніўскай паэзіі». У. Чаржынскі таксама апублікаваў рэцэнзію на 2-і том «Твораў» М. Багдановіча выдання Інбелкульта (1928), дзе прывёў некаторыя недахопы кнігі, а таксама адзначыў фактычныя супадзенні тэматыкі вершаў М. Багдановіча з лірыкай рускага паэта Ф. Салагуба.

У артыкуле «Максім Багдановіч як стылізатар беларускага верша» аўтарам была зроблена спроба разгляду паэтычнага майстэрства М. Багдановіча, наватар-

ская па сваім характары для тагачаснага беларускага літаратуразнаўства. Аналіз, тым не менш, не выходзіў за межы нарматыўнай («школьнай») паэтыкі. Даследаванне праводзілася на аснове адзінага на той час выдання багдановічаўскай паэзіі – кнігі вершаў «Вянок», і таму гаварыць пра больш ці менш поўны ахоп лірыкі Багдановіча не даводзіцца. Але бясспрэчна, што некаторыя назіранні У. Дзяржынскага паўплывалі на далейшае развіццё багдановічазнаўства ў кірунку аналізу формы яго вершаў (А. Вазнясенскі, Р. Жалязняк).

Друкуецца паводле першапублікацыі: Адраджэнне. – 1922. – № 1.

*«Рыфма:«І ўмёрлі яны. Але тут як на смех / Паднялася сонца, цалуючы ўсіх». Яна, безумоўна, напісана пад уплывам расейскага слова "всех", якое добра рыфмуе к слову "смех"»* – памылковае сцвярджэнне. Верш з'яўляецца перакладам з украінскага паэта Олэся, а ва ўкраінскай мове рыфма прагучала як «сміх / всіх», і М. Багдановіч свядома дапусціў недакладную рыфму дзеля захавання большай адпаведнасці арыгіналу.

## *АЛЯКСАНДР ВАЗНЯСЕНСКІ. ПАЭТЫКА МАКСІМА БАГДАНОВІЧА*

Аляксандр Вазнясенскі (1888–1966) – крытык, літаратуразнаўца. У 1921 г. прыехаў у Беларусь для выкладання літаратуразнаўчых дысцыплін у новастворaным Беларускім дзяржаўным універсітэце. З 1927 г. – прафесар БДУ. У 1930 г. быў вымушаны пакінуць Беларусь, выкладаў у маскоўскіх ВНУ. Трапіў пад хвалю рэпрэсій у сувязі з маскоўска-ленінградскай «справай славістаў» і ў 1934–39 гг. адбываў пяцігадовы тэрмін у САЗЛАГу. З 1939 г. стала жыў у Казані, там жа абараніў доктарскую дысертацыю (1944), быў дэканам гісторыка-філалагічнага факультэта Казанскага дзяржаўнага ўніверсітэта, загадваў кафедрай рускай літаратуры, развіваў беларусістыку ў сценах гэтай ВНУ. Працы А. Вазнясенскага ў часе жыхарства яго ў Беларусі падзяляюцца на тэарэтыка-метадалагічныя, прыватна-паэталагічныя і тэатразнаўчыя. Аналізу творчасці М. Багдановіча ў літаратурна-крытычных працах А. Вазнясенскага па беларускай літаратуры прысвечана колькі старонак у дакладзе «Паэтычнае мастацтва навейшай беларускай літаратуры», з якім даследчык выступаў на Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускай азбукі і правапісу (1926). Асноўныя палажэнні манаграфіі «Паэтыка Максіма Багдановіча» былі агучаны вучоным у аднайменным дакладзе на пасяджэнні Літаратурнай секцыі Інбелкульта. Трэба адзначыць, што сам факт публікацыі разгорнутага даследавання вучонага з падсавецкай Беларусі ў часопісе В. Ластоўскага быў на той час учынкам ледзь не адзінкавым і даволі мужным. Найбольш верагодна, што існаваў рускамоўны арыгінал манаграфіі, перасланы аўтарам у рэдакцыю «Крывіча» і перакладзены там на беларускую мову. Лексіка-стылістычныя асаблівасці тэксту даследавання схіляюць да думкі, што да перакладу работы мог спрычыніцца Вацлаў Ластоўскі, які цалкам кантраляваў работу часопіса і запаўняў яго пераважна сваімі артыкуламі і творамі (як пад уласным прозвішчам, так і пад псеўданімамі, крыптанімамі). Сціслы пераказ сваёй манаграфіі А. Вазнясенскі зрабіў у дакладзе «Паэтычнае мастацтва навейшае беларускае літаратуры» (гл.: Працы акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (14–21 лістапада 1926 г.) / пад рэд. У. Ігнатоўскага, С. Некрашэвіча. – Мінск : Выда-

вецтва Інстытута беларускае культуры, 1927. – С. 334–358). Аўтары найноўшай біяграфіі А. Вазнясенскага, казанскія філолагі Л. Ачкасава і Г. Балакін адзначаюць: «Являясь первым в стране доктором наук в области изучения белорусской литературы, Вознесенский и в последующие годы [пасля абароны доктарскай дысертацыі ў 1943 г. – *Заўв. укл.*] продолжает свои исследования творчества белорусских писателей (в частности, готовит монографию о поэзии Максима Богдановича)» (гл.: Ачкасова, Л. С., Александр Николаевич Вознесенский. 1888–1966 / Л. С. Ачкасова, Г. А. Балакин; науч. ред. И. И. Андреева, Л. Я. Воронова. – Казань : Казан. гос. ун-т, 2009. – С. 13). Такім чынам, вучоны працягваў працу ў галіне багдановічазнаўства і ў сталыя гады. Пад кіраўніцтвам і пры апаніраванні А. Вазнясенскага быў абаронены шэраг кандыдацкіх дысертацый па гісторыі беларускай літаратуры (у прыватнасці, згадаем работу Барыса Кормана «Паэзія Максіма Багдановіча», 1950).

Падыход да аналізу мастацкага твора ў А. Вазнясенскага – сінтэтычны. Засвойваючы здабыткі рускіх фармалістаў 1920-х гг. і працы нямецкіх філосафаў-неакантыянцаў бадэнскай школы, ён быў скіраваны на сцыентызацыю літаратурнай навукі. Найбліжэйшым яго сучаснікам у гэтай справе бачыцца рускі філолаг Барыс Ярхо, стваральнік «метадалогіі дакладнага літаратуразнаўства», заснаванай на статыстычным падыходзе. Ідэі двух кірункаў у паэзіі – рамантычнага і класічнага – былі ўсвоеныя А. Вазнясенскім праз нямецкую эстэтыку Ніцшэ, Шпенглера, а таксама з прац рускага даследчыка В. Жырмунскага.

Друкуецца паводле асобнага адбітку з публікацыі ў часопісе «Крывіч» (1926, №1): Узнесянскі, А. Паэтыка Максіма Багдановіча / А. Узнясенскі. – Коўна: [Б.в.], 1926. – 55 с. (Каментатар выказвае падзяку філолагу і бібліёграфу Л. Юрэвічу, дзякуючы якому быў атрыманы арыгінальны экзэмпляр манаграфіі, што значна спрасціла працу па рэдагаванні тэксту).

*«Падробна аб метадалагічных асновах паэтыкі і яе тлумачэнні гл. другую нашу работу (якая знаходзіцца ў друку) «Заданні беларускай гісторыка-літаратурнай навукі»* – маецца на ўвазе артыкул А. Вазнясенскага «Асноўныя прынцыпы пабудовы беларускае навукі аб літаратуры», надрукаваны ў № 16 «Працаў БДУ» за 1927 год.

## *ДЗМІТРЫЙ САВАНОВІЧ. «СТАРАЯ БЕЛАРУСЬ» М. БАГДАНОВІЧА*

Дзмітрый Савановіч – беларускі літаратуразнаўца. Напрыканцы 1930-х вучыўся на філалагічным факультэце Ленінградскага ўніверсітэта разам з Р. Жалязняком, М. Смолкіным і інш. Паводле сведчання М. Смолкіна, памёр ад голаду ў блакадным Ленінградзе.

Друкуецца паводле першапублікацыі: ЛіМ. – 1941. – 8 лют.

## *ДЗМІТРЫЙ САВАНОВІЧ. ФАЛЬКЛОР У ТВОРЧАСЦІ М. БАГДАНОВІЧА*

Друкуецца паводле першапублікацыі: ЛіМ. – 1941. – 19 крас.

## ГРИГОРИЙ ЖЕЛЕЗНЯК. ПОЭЗИЯ М. А. БОГДАНОВИЧА

Рыгор Жалязняк (1914–1942) – крытык, літаратуразнаўца, паэт. Выдаў у Віцебску дзве кнігі вершаў – «Першы вытап» (1933, у сааўтарстве з Б. Люгоўскім) і «Вясковыя будні» (1934). У 1938 г. скончыў філалагічны факультэт Ленінградскага ўніверсітэта і паступіў у аспірантуру пры ім, там жа абараніў кандыдацкую дысертацыю «Поэзия Максима Богдановича», рыхтаваў яе да друку, аднак планы даследчыка не былі рэалізаваныя: у 1941 г. ён пайшоў дабравольцам на фронт, дзе і загінуў. Пра М. Багдановіча пры жыцці паспеў надрукаваць два невялікія артыкулы ў газеце «Літаратура і мастацтва» (абодва ў 1940 г.). Вартасць работ Р. Жалязняка, акрамя незаангажаванай пазіцыі крытыка і ўдумлівага падыходу да эстэтычных з'яў, добрай арыентацыі ў сучаснай М. Багдановічу паэзіі сімвалістаў, заключаецца ў тым, што дысертант наўпрост працаваў са згубленым у часы ВАВ архівам паэта, перапісваўся з сябрамі і роднымі М. Багдановіча, будаваў сваё даследаванне на аснове фактаў, якія цяпер недаступныя багдановічазнаўцам.

У дысертацыі ўпершыню ў багдановічазнаўстве дэталёва асвятляюцца пытанні «Багдановіч і руская паэзія», «Багдановіч – даследчык формы», «Эстэтыка Багдановіча», «Наватарства М. Багдановіча ў кантэксце сур'ёзнай і масавай нашаніўскай паэзіі».

Друкуецца ўпершыню паводле аўтарызаванага машынапісу з аўтарскай праўкай, які захоўваецца ў фондзе Лукаша Бэндэ ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ, ф. 66, воп. 1, спр. 1389–1391). Невядомыя вершы і артыкулы М. Багдановіча з работы Р. Жалязняка апублікаваныя Н. Ватацы і Н. Лапідусам у артыкуле «Невядомыя творы Максіма Багдановіча» (Полымя. – 1957. – № 5. – С. 155–162). Выбраныя фрагменты дысертацыі друкаваліся ў 1966 г. (гл.: Железняк Г. Он совершил все, что мог // Нёман. – 1966. – № 12. – С. 160–169).

*«Нарымский край»* – у Расійскай імперыі назва паўночнай часткі Томскага павета (Томскай акругі) па абодвух берагах Абі. Межаваў на поўначы з Табольскай губерняй, з паўночнага ўсходу і ўсходу – з Енісейскай.

*«Один из сотрудников журнала «Маладая Беларусь» писал в 1912 г. Богдановичу»* – мяркуючы па вопісе лістоў да М. Багдановіча, змешчаным у *Творах* (гл. ПЗТ. Т. 3. С. 429), гэтым супрацоўнікам «Маладой Беларусі» хутчэй за ўсё з'яўляецца Антон Грыневіч (1877–1937) – збіральнік фальклору, выдавец, кампазітар. З 1906 г. быў сябрам пецярбургскага таварыства «Загляне сонца і ў наша ваконца», пасля Рыжскага міру жыў у Вільні, з 1925 г. – у БССР, сакратар музычнай падсекцыі Інбелкульта. У 1933 г. арыштаваны, у 1937 г. расстраляны. Другім супрацоўнікам «Маладой Беларусі» з'яўляўся тады Янка Купала, але ён дысертантам мог быць названы, у адрозненне ад А. Грыневіча: згадваць апошняга ў той час забаранялася.

*«Один из членов редакции «Нашей Нивы», Маньковский»* – Язэп Манькоўскі (1888-?) (Янка Окліч) – публіцыст, супрацоўнік «Нашай Нівы» і рэдактар заснаванага братамі Луцкевічамі «Кур'ера краёвага», адзін з заснавальнікаў выдавецтва «Наша Хата».

*«Для тебя, отчизна предков моих»* – збоку старонкі надпіс алоўкам: «прадедов?». Для захавання рытму найбольш верагодным здаецца ўжыванне менавіта

гэтага слова. Але, праз адсутнасць арыгінала, усе выданні твораў М. Багдановіча падаюць першы радок з словам «предков».

*«Ён пільна летапіс чацвёрты піша год»* – аўтар цытуе другую рэдакцыю «Летапісца» (гл. ПЗТ. Т.1. С. 411–412).

*«Наиболее полно свои взгляды на творческий процесс Богданович изложил в стихотворении 1913 года «Хоць значыць гэтае несць у Афіны совы…» (название по первой строке)»* – насамрэч верш называецца «Ліст да п. В. Ластоўскага», але адрасат твора быў на той час абвешчаны ворагам народа, і таму імя ягонае не магло фігураваць у друку і ў навуковых даследаваннях.

*«В основе стихотворения лежит тема романтического видения, преследующего человека, своебразная модификация темы пушкинского "Бедного рыцаря"»* – у пушкінскім «Скупом рыцаре» падобных матываў няма. Маецца на ўвазе, відаць, паэма А. Пушкіна «Медный всадник» (1833); Яўгеній, яе герой, пасля паводкі ў Санкт-Пецярбургу вар'яцее і бачыць, як за ім гоніцца Пётр І, з вядомага помніка Фальканэ: «И, озарен луною бледной, / Простерши руку в вышине, / За ним несется Всадник Медный / На звонко-скачущем коне».

## *ІВАН ЗАМОЦІН. ЛІТАРАТУРНАЯ КАМІСІЯ ІНБЕЛКУЛЬТУ Ў ПРАЦЭСЕ ПРАЦЫ НАД ЗБОРАМ ТВОРАЎ М. БАГДАНОВІЧА*

Іван Замоцін (1874–1942) – літаратуразнаўца. Прафесар кафедры рускай літаратуры Варшаўскага, пасля 1915 г. Данскога, а з 1922 г. Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Укладальнік двухтомніка «Творы» М. Багдановіча (Мінск: ІБК, 1927-1928), аўтар грунтоўнага крытыка-біяграфічнага нарыса «Максім Багдановіч», які ўвайшоў у другі том «Твораў», а таксама пабачыў свет у выглядзе асобнага адбітку.

Даклад, прачытаны І. Замоціным у Інстытуце беларускай культуры як справаздача аб працы Літаратурнай Камісіі па спадчыне М. Багдановіча, прысвечаны паўстаdanню двухтомнага збору твораў паэта, распавядае пра характар і методыку абагулення матэрыялаў архіву Максіма Багдановіча, асаблівасці і ўмовы працы даследчыкаў, раскрывае канцэпцыю выдання.

Друкуецца ўпершыню паводле машынапісу з праўкай В. Мачульскага, што захоўваецца ў фондзе Адама Багдановіча ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча (КП 8980). Падрабязнае апісанне дакумента было здзейснена В. Скалабанам і М. Токаравым (гл.: Скалабан В., Токараў М. Браты Гарэцкія і Інбелкульт. Новыя матэрыялы // Максім і Гаўрыла Гарэцкія. Жыццё і творчасць. Матэрыялы XVIII Гарэцкіх чытанняў (прысвячаюцца 110-годдзю з дня нараджэння Гаўрылы Гарэцкага). Мінск, 11 чэрвеня 2010 г. / Рэдкал.: Я. Аношка, Р. Гарэцкі (адк. рэд.) [і др.] – Мінск: [Б.в.], 2010. – С. 27-28).

*«Камісія пачала працу… ў палове сакавіка …. г. г.»* – маецца на ўвазе 1925 год.

*«Сакратара – М. І. ГАРЭЦКАГА»* – Максім Гарэцкі (1893–1938) – вядомы беларускі празаік, крытык, аўтар першай «Гісторыі беларускае літаратуры», куды ўвайшоў і артыкул пра М. Багдановіча. У 1923–1926 гг. жыў у Мінску, працаваў у Інбелкульце, БДУ, Камуніверсітэце.

*«З паловы красавіка ў склад камісіі вайшоў т. ДУБОЎКА Ул. М.»* – Уладзімір Дубоўка (1900–1976) – беларускі паэт, крытык, перакладчык. Разам

з А. Александровічам і А. Вольным адшукаў месца пахавання М. Багдановіча (гл. яго эсэ «На Багдановічавай магілцы» ў час. «Узвышша», 1927, № 2).

*«З 1-га чэрвеня для працы ў камісіі ў якасці часовага сакратара запрошан В. Ф. МАЧУЛЬСКІ»* – Васіль Мачульскі (1893–1973) – крытык, літаратуразнаўца. Працаваў у Інбелкульце, а пазней у БелАН з 1925 г. У 1933 г. быў звольнены з Акадэміі як «класава-варожы элемент». З 1934 г. стала жыў у Маскве – выкладаў, настаўнічаў. У 1946 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю «Даследаванні па гісторыі беларускай літаратуры». Афіцыйным апанентам работы быў А. Вазнясенскі (гл. яго водгук на дысертацыю ў фондзе В. Мачульскага ў БДАМЛМ). Захаваў працу М. Піятуховіча «Рукапісы А. Рыпінскага». Яе копія – адзіная крыніца «кананічнага» тэксту паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», бо арыгінальныя спісы Рыпінскага не захаваліся. У 1920-я гг. В. Мачульскі ў цесным кантакце з І. Замоціным працаваў над двухтомнікам «Твораў» М. Багдановіча, перапісваўся з бацькам паэта (гл. Шлях паэта, с. 139–169).

*«З 13 сакавіка, калі былі прыняты ёю ад т. Дылы рукапісы паэты»* – Язэп Дыла (1880–1973) – гісторык, празаік, мемуарыст, дзяржаўны дзеяч. Менавіта пры яго спрыянні ад А. Багдановіча ў 1923 г. быў атрыманы і перавезены ў Беларусь рукапісны архіў М. Багдановіча.

*«Ліст яго да гр. Ластоўскага застаўся пакуль што без адказу, аб чым прыходзіцца пашкадаваць»* – неўзабаве Вацлаў Ластоўскі (1883–1938) напісаў і апублікаваў у сваім часопісе «Крывіч» успаміны пра М. Багдановіча.

## *ДИОДОР ДЕБОЛЬСКИЙ. ВОСПОМИНАНИЯ*

Дзіядор Дзябольскі (1892–1964) – гімназічны сябра Максіма Багдановіча, мемуарыст. Скарочаны варыянт яго ўспамінаў пра паэта ўпершыню быў надрукаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва» ў нумары ад 5 лютага 1958 года. Поўны варыянт з архіва Н. С. Дзябольскай быў апублікаваны ў альманаху «Скарыніч». Друкуецца паводле першапублікацыі (Диодор Дебольский. О Максиме Богдановиче // Скарыніч : літаратурна-навуковы гадавік. Вып. 8-9. / Укл. А. Каўка. – М. : Советский писатель, 2010. – С. 166-173). Тэкст спраўджаны з машынапіснай копіяй успамінаў, якая захоўваецца ў фондах Літаратурнага музея М. Багдановіча (КП 3943).

«*Приехал какой-то новичок из Нижнего*» – сям'я Багдановічаў пераехала з Ніжняга Ноўгарада ў Яраслаўль у чэрвені 1908 года. Максім Багдановіч пераводзіцца ў шосты клас гімназіі.

«*Сборник стихов «Русская муза», составленный и несколько раз издававшийся П.Я. Мельшиным, принесенный Максимом…*» – маецца на ўвазе хрэстаматыя рускай лірыкі XIX ст. «Русская Муза» Пятра Філіпавіча Якубовіча (псеўд. Мельшин) (1860–1911), рускага паэта-народніка, якая выдавалася тройчы ў Санкт-Пецярбургу ў 1904, 1908, 1914 гг.

«*Читая что-нибудь не такое уж известное из Майкова, Фета, Тютчева, и жмурился от удовольствия (Очень ценил «Приметы осени» Грекова и […] Мея)*» – гаворка пра рускіх паэтаў Апалона Майкава (1821–1897), Афанасія Фета (1820–1892), Фёдара Цютчава (1803–1873), Льва Мея (1822–1862). «Приметы осени» (1855) – верш Мікалая Грэкава (1807–1866), вядомага

ў 1860-х гг. лірыка, блізкага ў паэтыцы да Пушкіна: «Приметы осени во всем встречает взор: / Там тянется, блестя на солнце, паутина, / Там скирд виднеется, а там через забор / Кистями красными повиснула рябина; // Там жнива колкая щетинится, а там / Уж озимь яркая блеснула изумрудом, / И курится овин, и долго по утрам, / Как белый холст, лежит туман над синим прудом».

«*Были бы только стихи издания "Скорпион" или "Грифа"*» – «Скорпион» і «Гриф» – выдавецтвы маскоўскіх сімвалістаў пачатку XX ст.

«*Максим любил читать вслух "Выхожу я в путь открытый взорам..." ...И с особенным выражением конец: "Буду слушать голос Руси пьяной, ночевать под крышей кабака"*» – верш «Осенняя воля» (1905) рускага паэта Аляксандра Блока (1880 – 1921). Канцоўка твора гучыць па-іншаму: «Много нас – свободных, юных, статных – / Умирает, не любя... / Приюти ты в далях необъятных! / Как и жить, и плакать без тебя!»

«*Какие-нибудь вздорные строки Бальмонта «Предо мной все другие поэты предтечи» принимались как констатация факта*» – радок з верша К. Бальмонта «Я – изысканность русской медлительной речи...» са зборніка «Будем как солнце» (М.: «Скорпион», 1903).

«*Хорошо меж подводных стеблей. Тишина, глубина*» – цытуецца верш К. Бальмонта «Меж подводных стеблей» (каля 1903) з кнігі «Только любовь. Семицветник» (М.:«Гриф», 1903).

«*Максим с младшим братом Левой*» – Леў Багдановіч (1894–1918) – брат М. Багдановіча, здольны матэматык. Трагічна памёр падчас грамадзянскай вайны.

«*Левая сторона стола – Максима, на ней неизменный белорусский словарь Карского*» – найбольш верагодна, што гэта быў «Словарь белорусского наречия» (1870) І. Насовіча. Аднак нельга адкідаць думку, што М. Багдановіч трымаў на стале і адзін з тамоў «Белорусов» Я. Карскага.

«*В последние гимназические годы Максим познакомился с семьей своего одноклассника Рафаила Кокуева*» – гл. каментары да публікацыі «Лісты Мікалая Лілеева да Ніны Ватацы».

«*Особо стоит его поездка в Белоруссию, из которой он вернулся окрыленный с радостными рассказами о Янке Купало, Якубе Коласе и еще встречах*» – памылка. На момант знаходжання М. Багдановіча ў Беларусі ані Янкі Купалы, ані Якуба Коласа ў Вільні не было. Паэт пазнаёміўся асабіста з братамі Луцкевічамі, В. Ластоўскім, некаторымі іншымі адраджэнцамі.

«*Он протянул мне тоненькую белую тетрадку; это был только что им полученный номер «Нашей Нивы». Он подал его раскрытым, и я прочел: "Чуеш гул? – Гэта сумны, маркотны лясун"*» – верш «Лясун» быў надрукаваны ў «Нашай Ніве» ў № 30 за 22 ліпеня 1910 г.

*«Это были старые, наверное, в шестидесятых годах XIX в. издания – книжки первых белорусских писателей, Сырокомли и еще кого-то»* – памылка. Беларускамоўных выданняў знакамітага польскамоўнага пісьменніка-беларуса Уладыслава Сыракомлі (1823–1862) на той час яшчэ не было.

«*В его сонете, посвященном А. Погодину*» – маецца на ўвазе верш «Санет» («Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі...»).

*«Среди стихотворений Максима должно быть одно, не очень свойственное ему по теме. Оно называлось «Звезда»... Я был под сильным впечатлением только что прочитанной книги Джемса. Стихотворение интересно тем, что показывает силу поэтической восприимчивости Максима даже и к тому, что*

*было ему не совсем близко»* – верша з падобнай назвай сапраўды ў спадчыне Багдановіча не захавалася, аднак ход разважанняў Д. Дзябольскага дазваляе высунуць гіпотэзу, што гэтым творам мог быць верш «Д. Д. Дзябольскаму» (гл. ПЗТ. Т. 1. С. 245). Што праўда, ідэі амерыканскага філосафа і псіхолага Уільяма Джэмса (1842 – 1910) сапраўды раскрываюць значэнне рэлігіі для развіцця асобы, але на платформе хрысціянскай дактрыны. Аднак у згаданым творы М. Багдановіча аналізуецца вучэнне аб рэінкарнацыі (перасяленні душаў). Для лірыкі песняра, які быў, па сведчанні Д. Дзябольскага, часцей «настроен позитивистически», гэты верш сапраўды не характэрны.

*ЛІСТЫ ДЗІЯДОРА ДЗЯБОЛЬСКАГА ДА ЮЛЬЯНА ПШЫРКОВА*

Друкуюцца ўпершыню паводле аўтографаў, якія захоўваюцца ў фондзе Ю. Пшыркова ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі імя Якуба Коласа. Усяго выяўлена 7 лістоў Д. Дзябольскага да Ю. Пшыркова (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 30, воп. 1, спр. 987, арк. 1-14). У нашым выданні змешчаны 4 з іх (аркушы 1, 3-3адв., 5-6, 11-11адв. адпаведна).

У лістах закранаюцца пытанні публікацыі ўспамінаў Д. Дзябольскага, кола знаёмых М. Багдановіча, выказваюцца версіі наконт прататыпаў некаторых вершаў.

№ 1. *«просьбу, опубликованную в Литературной Газете от конца мая м[еся]ца»* – У № 64 (3720) «Литературной газеты» за 28 мая 1957 г., да 40-годдзя з дня смерці паэта была змешчана нататка «Памяти Максима Богдановича» (без подпісу), дзе сцісла асвятлялася біяграфія паэта, паведамлялася пра адкрыццё бронзавага бюста ў крымскім санаторыі «Беларусь», пра літаратурныя вечары памяці М. Багдановіча. Завяршалася нататка наступнымі словамі: «Правление Союза писателей Белоруссии и Институт литературы Академии наук БССР просят всех, кто имеет рукописи, письма, фотоснимки белорусского поэта Максима Богдановича и другие материалы о его жизни и творчестве, прислать их по адресу: Минск, Академия наук БССР, Институт литературы. Правление Союза писателей Белоруссии и Институт литературы Академии наук БССР просят также всех, кто знал лично М. Богдановича, прислать свои воспоминания о поэте».

№ 2. *«Если Вы также сочтете это нужным, то я попросил бы… добавить следующее»* – тэкст у друкаваны варыянт успамінаў не ўвайшоў.

*«Предполагая, что воспоминания Адама Егоровича Б[огданови]ча непременно будут опубликованы»* – «Матэрыялы да біяграфіі Максіма Адамавіча Багдановіча» аўтарства А. Я. Багдановіча былі апублікаваныя толькі ў 1960 г. у кнізе «Беларуская літаратура. Даследаванні і публікацыі. Вып. 3».

№ 3. *«Благодарю за присланную Вами книгу»* – можна выказаць меркаванне, што гэтай кнігай быў аднатомны збор твораў М. Багдановіча, які пабачыў свет у 1957 годзе.

*«В примечании говорится, что ст[ихотворе]ние посвящено А. Гапанович, но утверждение это ничем не документировано»* – як вядома, для Ганны Гапановіч Максімам Багдановічам быў уласнаручна зроблены адмысловы сшытак перакладаў шэрагу ягоных вершаў на рускую мову «Зеленя». Доказам прызначэння верша «Касцёл св. Ганны» Г. Гапановіч з’яўляецца, на думку каментатараў Поўнага збору твораў, выказванне ў лісце А. Я. Багдановіча ад 9/X-26 г., дзе гэта сцвярджае

бацька паэта (гл. ПЗТ. Т. 1. С. 674). У той жа час нельга не адзначыць правамоцнасць прапановы Д. Дзябольскага наконт далучэння верша «Касцёл св. Ганны» да «аннаўскага» цыклу твораў Багдановіча, прысвечаных Г. Какуевай.

*«И в том, и в другом стихотворении и храму, и «Анне» придается один и тот же эпитет – "стройный" – "Храм стройный легкою стопою" и, "я вспоминаю Вас… прекрасной, стройной"»* – Адрасатам верша «Я вспоминаю Вас такой прекрасной, стройной…» каментатары Поўнага збору твораў палічылі Г. Какуеву (гл.: ПЗТ. Т. 1. С. 341).

*«Надпись на фотокарточке – «Я вспоминаю дом старинный… и сад и двор просторный и пустынный» – говорит о большом дворе дома Кокуевых»* – пацверджана сынам Г. Какуевай М. Лілеевым, які ў 1971 г. пераслаў у Беларусь фотаздымак Багдановіча з вершаваным рукапісным прысвячэннем гэтага верша М. Какуеву (у надпісе маецца і другая страфа з апісаннем сумесных гульняў у двары Какуевых – гл. ПЗТ. Т. 1. С. 669–670). Тэкст твора ўвайшоў у паэму М. Багдановіча«Вераніка».

*«Акростих также, и это не требует уже ни прямых, ни косвенных доказательств, написан для Анны Раф[аиловны] Кокуевой»* – маецца на ўвазе «Четверной акростих» М. Багдановіча (гл. ПЗТ. Т. 1. С. 324).

*«Мог бы переслать фото девочки Вероники, относящееся к 1911 году»* – маецца на ўвазе маленькая пляменніца Д. Дзябольскага Вераніка (1910 г. н.), з якой пасябраваў беларускі паэт і нават прысвяціў ёй жартоўны верш. Мемуарыст лічыў, што менавіта ад імя ягонай пляменніцы М. Багдановіч узяў назву для сваёй знакамітай паэмы «Вераніка». Фота цяпер захоўваецца ў фондах ЛММБ.

*№ 4. «Получить напечатанные «воспоминания» и Ваше доброе письмо было мне очень приятно. Сокращения сделаны умело, умно и не вызывают никаких нареканий»* – мемуары Д. Дзябольскага былі надрукаваныя ў перакладзе на беларускую мову са скарачэннямі (гл.: Літаратура і мастацтва. – 1958. – 5 лют.). Аб'ём скарачэнняў Д. Дзябольскі агаворваў у лісце да Ю. Пшыркова ад 17.01.1958 (гл.: ЦНБ НАН Беларусі, ф. 30, воп. 1, спр. 987, арк. 8-9адв.). Арыгінальны тэкст быў выдрукаваны ў альманаху «Скарыніч» (Масква, 2010).

*«Я знаю фамилии двоих, знавших Богдановича. Это – Ашукин, поэт и, точно бы, литературовед»* – Ашукін Мікалай Сяргеевіч (1890 – 1972) – рускі літаратуразнаўца, тэкстолаг, бібліёграф, паэт. У 1910-я – супрацоўнік яраслаўскай газеты «Голас». Пазней – у Маскве. М. Багдановіч надрукаваў рэцэнзію на ўкладзены М. Ашукіным і выдадзены рэдактарам «Голоса» К. Някрасавым зборнік «Архив села Карабихи. Письма Н. А. Некрасова и к Некрасову» (гл. ПЗТ. Т. 2. с. 396–397: «Примечания к письмам составлены г. Ашукиным; работа выполнена им достаточно тщательно, но не совсем полно» (там жа, с. 397)). У «Апісе рукапісаў М. Багдановіча і матар'ялаў да яго біографіі», складзеным В. Мачульскім для двухтомніка «Твораў» М. Багдановіча (Мінск: Інбелкульт, 1927-1928), паказана наяўнасць у архіве паэта 4 лістоў М. С. Ашукіна (гл. ПЗТ. Т. 3. с. 429). Лісты М. Багдановіча да М. Ашукіна не выяўлены. Дагэтуль невядомыя і мемуарныя згадкі Ашукіна пра паэта. У фондзе ЛММБ захоўваецца копія ліста М. Ашукіна да С. Каныгіна ад 16.06.1957: «<…> Конечно, я Вас помню, как и других сотрудников «Голоса». В числе «деятелей ярославской печати», о коих Вы собираете материалы, я состоял очень недолго. Но желание Ваше исполняю и посылаю свою биографию. Об Огурцове Н. Г. ничего не знаю. Что касается М. А. Богдановича, то сведения о нем Вы найдете во 2-м издании «Большой

Советской энциклопедии». О том, что К. Ф. Некрасов умер, Вам, вероятно, известно <…>» (НД 2424 – 2426). У музеі таксама захоўваецца і копія дарчага надпісу М. Багдановіча М. Ашукіну на кнізе «Вянок». Гэта адзіныя выяўленыя на сённяшні дзень сведчанні ўзаемін М. Ашукіна і М. Багдановіча.

«*И Николай Михайлович Тарабукин – искусствовед*» – Тарабукін Мікалай Міхайлавіч (1889–1956) – вядомы рускі мастацтвазнаўца, філосаф. Аўтар даследаванняў «Праблема прасторы ў жывапісе», «Сэнс іконы», «Міхаіл Аляксандравіч Врубель», «Нарысы па гісторыі касцюма». Скончыў Яраслаўскую гімназію ў 1911 г. і паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта. Пасля перавёўся ў Яраслаўскі Дзямідаўскі юрыдычны ліцэй, скончыў яго ў снежні 1916 г. Стала жыў у Ленінградзе, пасля – у Маскве, дзе і былі напісаныя асноўныя яго навуковыя даследаванні. Удзельнічаў у працы Дзяржаўнай акадэміі мастацкіх навук. Выкладаў у Дзяржаўным інстытуце кінематаграфіі, Маскоўскім дзяржаўным універсітэце, Дзяржаўным інстытуце тэатральнага мастацтва, Літінстытуце, школе-студыі Маскоўскага мастацкага акадэмічнага тэатра. Сувязі Максіма Багдановіча з Мікалаем Тарабукіным да гэтага часу не ўваходзілі ў поле зроку даследчыкаў біяграфіі беларускага паэта.

«*Возможно, что еще жива Анна Р[афаиловна] Кокуева. Если это так, то должна проживать в Ленинграде. По мужу ее фамилия – Лилеева*» – Ганна Рафаілаўна Лілеева (1890-1961) на той час сапраўды жыла ў Ленінградзе разам з сям'ёй, але лістоў яе ў фондзе Ю. Пшыркова не выяўлена. Некаторыя аўтографы М. Багдановіча і сведчанні пра яраслаўскае яго атачэнне былі атрыманыя Н. Ватацы праз яе сына, М. Лілеева.

«*Машинопись воспоминаний Егора Ад[амови]ча*» – так у тэксце. Правільна – Адама Ягоравіча Багдановіча.

«*Редактор меня поправил – "Носовича"*» – сапраўды, у перакладзе ўспамінаў Д. Дзябольскага «слоўнік Карскага» быў выпраўлены на «слоўнік Насовіча». Публікатар рускамоўнага арыгінала ўспамінаў А. Каўка таксама ўказвае на памылку мемуарыста (гл. Скарыніч. Вып. 9. М., 2010). Але можна дапусціць і тое, што гэтай настольнай кнігай былі «Белорусы» Я. Карскага.

## *ЛІСТЫ МІКАЛАЯ ЛІЛЕЕВА ДА НІНЫ ВАТАЦЫ*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографаў, якія захоўваюцца ў фондзе Н. Ватацы ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Часткова былі апублікаваныя ў перакладзе на беларускую мову ў нарысе Ніны Ватацы «Яна – выдумка маёй галавы» (упершыню: Маладосць. – 1973. – № 8). Артыкул увайшоў таксама ў зборнік «Шлях паэта» (Мінск, 1975).

№1. Аддзел рукапісаў і старадрукаў НББ, фонд Н. Ватацы, 30Н//729(026).

«*Дом моей бабушки, Татьяны Рафаиловны Кокуевой, в Ярославле. С ней жили младшие Кокуевы: моя мать Анна Рафаиловна (старшая из детей), близнецы Варвара и Рафаил и младший брат Николай*» – М. Лілееў пералічвае сваякоў па лініі маці. Гл. у ягоных успамінах: «Татьяна Рафаиловна /1860-1942/. Потомственная почетная гражданка. Продала большой дом на Воздвиженской, гостиницу с книжной лавкой и построила двухэтажный каменный дом / общ. пл. 500 кв.м./ с надворными постройками на углу Дворянской и Воздви-

женской улиц. /ныне пр. Октября, 14/ и имела еще усадьбу в селе Щекотово на р. Вондель. Поздней осенью 1918 г. она переехала в Петроград, оставив дом и все имущество. Жила в семье Лилеевых, работала в школьной библиотеке и заработала себе пенсию. Скончалась во время блокады в возрасте 82 лет. (…) Старшая, Анна /1890-1961/. Училась в Ярославской женской гимназии, а затем в том же Александровском институте. В институте порядки были строгие. Например, за плохую осанку за столом под локти ставили железный аршин, и так надо было сидеть до конца трапезы. Успеваемость оценивалась по 12-и бальной системе, и находились чудаки – преподаватели, ставившие «3-». (…). В апреле 1914 г. она хорошо окончила Петроградскую консерваторию по классу фортепиано проф. Миклашевского, а в мае вышла за Ивана Лилеева замуж. Она преподавала в музыкальном училище в Чернышевом пер. /ныне ул. Ломоносова/ и давала уроки на дому.

В молодости Аня, как и ее братья, была хорошей наездницей, любила пешие прогулки. Летом молодежь покупала баркас и на вёслах спускалась вниз по Волге. В намеченном пункте баркас продавался, и все возвращались поездом.

Близнецы Рафаил и Варвара: Рафаил /1892-1942/. Учился в той же гимназии, но на класс старше. В 1924 г. окончил агрономический факультет Ярославского гос. университета. Работал зоотехником на конзаводе пос. Сиверский. Был арестован за «вредительство» и сослан на Соловки. Там он работал нормировщиком. После освобождения поехал работать в Оренбург также на конзавод. Там его вторично арестовали. Скончался он где-то под Самаркандом. Был женат и имел рано умершую от туберкулеза дочь.

Варвара /1892-1942/. Училась в Ярославской женской гимназии, затем отлично окончила Московский Александровский институт. В 1909 г. ей присвоили звание «Домашней наставницы». В 1913 г. вступила в брак с Владимиром Сергеевичем Крыловым и имела сына. После революции жила в Щекотово, где трагически погибла.

Николай /1892-1951/. С 1903 по 1911 годы учился в вышеупомянутой гимназии с Иваном Лилеевым и др. В 1926 г. окончил Политехнический институт в Петрограде. Работал в Нижнем Новгороде /тогда Горьком/, Новосибирске главным конструктором Института авиации. Имел звание Военинженер 2-го ранга. Награжден орденом «Знак почета» и медалью «За доблестный труд в ВОВ». Был дважды женат и имел двух сыновей». (Нёман – 2011. – №12).

«*В отношении автобиографичности поэмы меня берет сомнение, т. к. никто из Кокуевых, по-моему, не может служить прообразом Вероники*» – паэма «Вераніка» сінтэзуе чалавечы і мастацкі вопыт М. Багдановіча. Адным з прататыпаў Веранікі была маці М. Лілеева Ганна Рафаілаўна Какуева, у якую паэт быў закаханы.

№2. Аддзел рукапісаў і старадрукаў НББ, фонд Н. Ватацы, 30Н//730(026).

«*А[нна] Р[афаиловна] была лично знакома с Анатолием Федоровичем Кони – известным юристом*» – Анатоль Коні (1844–1927) – вядомы рускі юрыст, мемуарыст.

«*Получил я еще письмо от А. Н. Бачило*» – Алесь Бачыла (1918–1983) – паэт, даследчык біяграфіі і творчасці Максіма Багдановіча, аўтар лібрэта оперы «Зорка Венера», кнігі «Дарогамі Максіма Багдановіча».

## *ЛІСТ АДАМА БАГДАНОВІЧА ДА АНТОНА ЛУЦКЕВІЧА*

Друкуецца ўпершыню паводле копіі аўтографа з фондаў ЛММБ (КП 4622). Арыгіналы лістоў А. Багдановіча да А. Луцкевіча захоўваюцца ў «беларускім фондзе» №21 у бібліятэцы Літоўскай Акадэміі навук (Вільнюс).

«На земле мир, и в человецех благоволение» – цытата з Новага Запавету «Слава в вышних Богу, и *на земли мир*, в *человецех благоволение*» (Евангелле паводле Лукі, 2:14). Гэтымі словамі Анёлы абвяшчаюць нараджэнне Госпада Ісуса Хрыста. Выкарыстоўваецца ў царкоўна-славянскіх песнаспевах.

*«Когда народы, распри позабыв, в единую семью соединятся»* – цытата з верша А. Пушкіна «Он между нами жил…» (1834), прысвечанага асобе А. Міцкевіча і палеміцы з ім.

*«Вашу книжку «Адбітае жыццё» – получил»* – зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў А. Луцкевіча «Адбітае жыццё» пабачыў свет у Вільні ў 1929 годзе. Кніга стала этапнай у развіцці беларускай крытыкі і літаратуразнаўства. Сярод іншага ў ёй быў надрукаваны тэкст публічнай лекцыі «Праблема красы й мастацтва ў творах Максіма Багдановіча», што рэпублікуецца і ў нашым выданні.

*«Речь становится полупольской, что едва ли в интересах сохранения самобытности белорусского народа, искони считавшегося народом русским»* – тут А. Багдановіч у пэўным сэнсе паўтарае праграму ідэолагаў «заходнерусізму».

*«Выражения, которые можно назвать "застенковщиной"»* – ад «засцянковай» шляхты, збяднелага прывілеяванага саслоўя, якое часта станавілася аб'ектам кпінаў з боку беларускага сялянства.

*«Грешил этим, в подражание Вашему примеру, мой покойник, портя свой стиль»* – маецца на ўвазе Максім Багдановіч. А. Багдановіч толькі зрэдку згадваў М. Багдановіча ў сваіх лістах да А. Луцкевіча. Гл. яшчэ ліст ад 27.06.1927: «С грустью и сожалением узнал из Вашего письма о смерти Вашего, доброй памяти, брата Ивана (маецца на ўвазе Іван Луцкевіч (1881–1919), палітык, калекцыянер, брат Антона Луцкевіча – *Заўв. укл.*). Я знаком и с его, и с Вашей деятельностью по русской и польской печати и со слов покойного сына, который восхищался его коллекцией слуцких поясов и другой белорусской старины, а так как я также любитель старины, то это роднило нас на почве общей склонности» (фонды ЛММБ, КП 4621).

*«Не черпали Вы из сокровищницы нашей средневековой речи, как переводы Скорины, писания Будного, словари Берынды и многих других писателей – все это ценное наследие осталось и остается нетронутым. А оно также могло бы содействовать выработке высокого стиля»* – А. Багдановіч слушна адзначае незапатрабаванасць старабеларускай моўнай і мовазнаўчай традыцыі (пераклады Бібліі Францішка Скарыны, «Лексікона славянаросскага…» Памвы Бярынды, «Катэхізіса» Сымона Буднага) у часы «Нашай Нівы», што ў далейшым паўплывала на адсутнасць высокага стылю ў літаратуры. Але трэба адзначыць, што руская і беларуская кніжная традыцыі не могуць параўноўвацца непасрэдна, бо адна з іх (руская) не мела перапынкаў у сваім развіцці; другая ж (беларуская) была гвалтоўна перарваная.

*«Из Ваших критических отзывов меня заинтересовала книжка Натальи Арсеньевой «Пад сінім небам», поэтессы мне совсем не ведомой»* – маецца на ўвазе змешчаны ў кнізе «Адбітае жыццё» артыкул А. Луцкевіча «"Пад сінім не-

бам”. Характарыстыка творчасці Наталлі Арсенневай» пра дэбютны зборнік заходнебеларускай паэткі Наталлі Арсенневай (1903 – 1997); апошні пабачыў свет у выдавецтве Б. Клецкіна ў Вільні ў 1927 годзе пры спрыянні А. Луцкевіча. Трэба адзначыць, што А. Луцкевіч быў настаўнікам Н. Арсенневай па Віленскай беларускай гімназіі.

«*Кстати, Арсеньева – это фамилия по мужу или урожденная? Если верно последнее – это было бы любопытно*» – верагодна, А. Багдановіч выказвае здагадку пра сваяцкую сувязь Н. Арсенневай з родам рускага паэта М. Лермантава, што сапраўды мела месца.

«*Послал ли я Вам I том стихов Максима*» – гаворка пра першы том «Твораў» Максіма Багдановіча выдання Інбелкульта (1927).

## *ЛІСТ АДАМА БАГДАНОВІЧА ДА ВАЦЛАВА ЛАСТОЎСКАГА*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа, які захоўваецца ў калекцыі матэрыялаў па гісторыі, навуцы, літаратуры ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі імя Якуба Коласа (ЦНБ НАНБ, ф. 23, воп.1, спр.775, арк. 1-4адв.).

Лексічныя асаблівасці аўтарскага стылю, правапісу і пунктуацыі захаваныя. Рознасць напісанняў уніфікавана да больш ужывальных выпадкаў.

Тэкст з’яўляецца адказам на лісты Вацлава Ластоўскага ад 03.04.1936 і 12.04.1936 г. (гл.: В. Ластоўскі Выбраныя творы / Уклад. Я. Янушкевіч. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1997. – С. 447–450).

«*Как жаль, что Вы оба – Вы и жена – вместе хвораете <…> Я не знаю – что такое болезнь печени*» – у лісце ад 03.04.1936 В. Ластоўскі пісаў: «Теперь несколько слов о себе. Работаю там же. Здоровье мое крепко пошатнулось. Этой зимой переболел гриппом с осложнениями: воспаление почек. Печень побаливает…» (В. Ластоўскі. Выбраныя творы…, С. 448).

«*Вроде путешествия стариков и старух в Киев или Почаев или к Остробрамской*» – маецца на ўвазе паломніцтва да хрысціянскіх святыняў у Кіева-Пячэрскую лаўру, Пачаеўскую лаўру (абодва манастыры сёння знаходзяцца на тэрыторыі Украіны) і да іконы Маці Божай Вострабрамскай (у Вільні).

«*Александра Афанасьевна, моя почтенная супруга*» – Аляксандра Апанасаўна Мякота, трэцяя жонка Адама Багдановіча і адначасова родная сястра Марыі Мякоты (маці Максіма Багдановіча).

«*Про «шендзика» я ничего не слышал*» – у лісце ад 12 красавіка 1936 г. В. Ластоўскі пісаў: «О змеях деньгоносцах Вы также впервые поставили точку над «і». Между прочим, его называют, под большим секретом, Шент, Шэнцік, Шэнтыр (ибо кто знает имя, обладает вещью). А обзавестись этим полезным животным многие зарились, но имя ему знали немногие. В переводе имя его буквально – шчастье, шэнціць, щастить» (В. Ластоўскі. Выбраныя творы…, С. 449–450).

«*Христина “Удушливая”, которая бывала и в Киеве, и в Почаеве, не говоря уже об Острой Браме и Бялыновичах*» – акрамя згаданых, Адам Багдановіч указвае на беларускую святыню – абраз Бялыніцкай Маці Божай.

Выбраныя лісты Людвікі Войцікавай (Сівіцкай) (Зоські Верас (1892–1991)) да Алеся Бачылы друкуюцца ўпершыню паводле аўтографаў, якія захоўваюцца ў фондзе А. Бачылы ў БДАМЛМ. Выбар быў спынены толькі на тых фрагментах эпісталярыя, якія маюць адносіны да асобы і творчасці М. Багдановіча. Частка лістоў выкарыстоўвалася паэтам і літаратарам А. Бачылам у сваіх даследаваннях, прысвечаных М. Багдановічу. З 1968 г. паэт збіраў матэрыялы да лібрэта оперы «Зорка Венера» (1970). Алесь Бачыла датkліва прапрацоўваў увесь корпус біяграфічных тэкстаў, які адносіўся да М. Багдановіча, сустракаўся з сваякамі паэта, вёў актыўную перапіску. Вынікі яго пошукаў былі аб'яднаныя ў вышэйзгаданым лібрэта, сцэнары дакументальнага фільма, прысвечанага М. Багдановічу, а таксама ў кнізе навукова-папулярных нарысаў «Дарогамі Максіма Багдановіча» (1971; 1983, 2-е выд., перапрац. і дапоўн.). Лісты А. Бачылы да Зоські Верас апублікаваныя (гл.: Маладосць. – 1992. – № 9. – С. 216–231).

Публікацыя структураваная паводле храналагічнага прынцыпу. Лексічныя асаблівасці аўтарскага стылю захаваныя. Правапіс і пунктуацыя прыведзеныя ў адпаведнасць з сучаснымі нормамі беларускай мовы.

№ 1. *«Прыслаў мне С. Новік-Пяюн «Маладосць»…»* – верагодна, паэт і былы супрацоўнік часопіса Зоські Верас «Заранка» Сяргей Новік-Пяюн (1906 – 1994) перадаў нумар часопіса, дзе быў змешчаны нарыс А. Бачылы «Максімавымі сцежкамі» (Маладосць. – 1968. – №11. – С. 149-158).

*«Я ў Менску не была "Войцікавай", Сівіцкай»* – Людвіка Сівіцкая выйшла замуж за Антона Войціка толькі ў 1926 годзе.

*«Ф. Ждановіч у нас у «Бел[арускай] Хатцы» (так называлася сталоўка) не бываў»* – Фларыян Ждановіч (1884–1937) – акцёр, рэжысёр, у Мінску працаваў у Мінскай гарадской думе. Адзін з заснавальнікаў і кіраўнік Першага беларускага таварыства драмы і камедыі (1917–1920).

*«Бядуля аб сваіх зносінах з маей Маткай не пісаў… Прачытайце, калі ласка, Бядуліны «Апавяданні пра М. Багдановіча», менавіта «Страцім-лебедзь» – тады, можа, прыпомніце, у чым была справа»* – апавяданне-ўспамін З. Бядулі «Страцім-лебедзь» упершыню было надрукавана ў газеце «ЛіМ» ад 5 сакавіка 1941 года. Твор мае шэраг факталагічных недакладнасцей, якія тым не менш трывала ўвайшлі ў айчыннае багдановічазнаўства і якія пастаянна абвяргала ў сваіх лістах З. Верас.

*«Што я старалася спраставаць і растлумачыць, ведае Алег Антонавіч Лойка (можа, мой ліст у Яго захаваўся), ведае гр. М. Стральцоў»* – пісьменнікі і крытыкі Алег Лойка (1931–2008) і Міхась Стральцоў (1937–1987) у 1960-я гг. лічылісяаднымі з найбольшых спецыялістаў па творчасці М. Багдановіча.

*«Каб ведала, што Вы перапіску з маёй сяброўкай выцягнеце на свет, нічога б не ўспамінала»* – гаворка пра пісьменніцу Ванду Лявіцкую (Лёсік) (1895–1968), дачку Ядвігіна Ш., з якой у М. Багдановіча была перапіска (абставіны яе А. Бачыла даволі падрабязна асвятляе ў нарысе «Максімавымі сцежкамі»). З. Верас, відаць, хвалявалася дарэмна. В. Лявіцкая памерла праз пяць дзён пасля адсылкі гэтага ліста, 8 снежня 1968 г.

*«Ладзіўся ў прытулку Тат'янінскага Камітэту дзіцячы спектакль»* – Камітэт вялікай княгіні Таццяны Мікалаеўны для аказання часовай дапамогі пацярпелым ад ваенных дзеянняў быў створаны 14 верасня 1914 г., праз тры

месяцы пасля пачатку I сусветнай вайны. Займаўся дапамогай бежанцам, матэрыяльна падтрымліваў іх, уладкоўваў на жыхарства, выдаваў часовае харчаванне. Ліквідаваны ў 1917 г.

«*Па ініцыятыве працаўнікоў Камітэту Т[аварыст]ва помачы ахвярам вайны*» – маецца на ўвазе Мінскі аддзел Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, якое было заснаванае летам 1915 г. у Вільні (старш. В. Іваноўскі, нам. – А. Луцкевіч і В. Ластоўскі).

№ 2 «*Цяпер я добра зразумела сутнасць оперы*» – гаворка пра оперу «Зорка Венера» (муз. Ю. Семянякі, лібр. А. Бачылы), прысвечаную асобе М. Багдановіча.

«*Ён разам з Я. Саламевічам*» – Янка Саламевіч (н. 1938) – беларускі лексікограф, фалькларыст, гісторык, архівіст, даследчык псеўданімаў. З Зоськай Верас меў сталае ліставанне.

«*Бегала ў рэдакцыю і да М. Танка*» – на той час паэт Максім Танк (1912–1995) з'яўляўся старшынёй Вярхоўнага савета БССР і 1-м сакратаром Саюза пісьменнікаў БССР.

«*Што Бядуля піша няпраўду, ведалі Яго Сёстры ды ведаў муж малодшай – Чэрні*» – мужам малодшай сястры Змітрака Бядулі быў крытык Уладыслаў Чаржынскі.

«*"Полымя" артыкул? "Багдановіч і музыка"*» – магчыма, маецца на ўвазе артыкул С. Нісневіча «Удумлівы знаўца музыкі» (ЛіМ. – 1957. – 25 мая).

«*Ці не павінны прыняць у гэтым удзел такія даследчыкі, як А. Лойка і Н. Ватацы?*» – Ніна Ватацы (1908–1997) – бібліёграф, даследчык біяграфіі Максіма Багдановіча, збіральнік яго спадчыны, укладальнік зборніка «Шлях паэта».

№ 3 «*Рэцэнзія М. Стральцова не такая ўжо пацешаючая*» – маецца на ўвазе водгук М. Л. Стральцова «У вянок паэту», дзе, апрача ўхвальнай ацэнкі самой ідэі тэлефільма пра Багдановіча, адзначаліся шматлікія яго недахопы. У прыватнасці, залішняя засяроджанасць на асобе А. Я. Багдановіча.

«*Цяпер мая Дачка замужам за малодшым Сынам Антона Луцкевіча*» – гаворка пра Галіну Войцік і Лявона Луцкевіча.

№ 4. «*Мы пыталіся аб кніжку «Белавежская пушча» М. П. Ананьіна*» – маецца на ўвазе выданне: Белавежская пушча : фотаальбом / фатаграфіі А. і М. Ананьіных; аўтар тэксту У. Караткевіч. – Мінск : Беларусь, 1973. – 108 с.

«*Уяўляю сабе, якія цікавыя матэр'ялы Вы сабралі аб хроснай Максіма Б[агдановіча]*» – менавіта Алесь Бачыла ўпершыню падаў біяграфію Вольгі Епіфанаўны Сёмавай, звесткі для якой былі атрыманыя даследчыкам ад людзей, якія непасрэдна ведалі хросную маці М. Багдановіча.

«*Пісаў мне Арсень Сяргеевіч*» – Арсень Ліс (н. 1934) – гісторык, літаратуразнаўца, фалькларыст.

«*Выйшла з друку (ці мае выйсці) кніжка Н. Ватацы аб М. Б[агдановічы]…*» – маецца на ўвазе зборнік успамінаў і біяграфічных матэрыялаў пра М. Багдановіча «Шлях паэта» (уклад. Н. Ватацы), які пабачыў свет толькі ў другой палове 1975 года.

«*Пісаў мне гр. Прашковіч…*» – Мікола Прашковіч (1932–1983) – літаратуразнаўца, даследчык старажытнай беларускай літаратуры. Абвінавачаны ў нацыяналізме, быў звольнены з працы ў АН БССР у 1974 г. Трагічна загінуў падчас пажару.

№ 5. *«Калі я рэдагавала “Беларускую Борць“ і “Заранку”…»* – часопіс Беларускага кааператыўнага таварыства «Пчала» (выходзіў у Вільні ў 1934-38 гг.) і дзіцячы часопіс (1927–1931), якімі кіравала Зоська Верас.

*«Хачу падзяліцца з Вамі… сваімі думкамі аб артыкуле Я. Рамановіча аб Ф. Ждановічу»* – Яўген Рамановіч (1905–1979) – драматург, тэатразнаўца. Які менавіта артыкул мае на ўвазе Зоська Верас, высветліць не ўдалося.

*«Ставілі “Пашыліся ў дурні”, “Мікітаў лапаць”, “Апошняе спатканне”, “У зімовы вечар”»* – «Пашыліся ў дурні» – п’еса аднаго з заснавальнікаў украінскага тэатра Маркі Крапіўніцкага (1840–1910). «Мікітаў лапаць» – п’еса Міхася Чарота (1896–1937). Уладзіслаў Галубок (1882–1937) быў аўтарам п’есы «Апошняе спатканне». Спектакль «У зімовы вечар» быў пастаўлены на аснове перакладзенага на беларускую мову аднайменнага аповеду Э. Ажэшкі.

*«Пазнаёміцца з У. Фальскім і Яго маленькім хорам, дзе пяялі сёстры Бядулі, дзяўчаты Вера і Люба (прозвішча знайду…), Галубок і інш.»* – Усевалад Фальскі (1887–1924?) – кіраўнік хору, удзельнік клуба інтэлігенцыі«Беларуская Хатка». Асуджаны ў 1921 да вышэйшай меры пакарання па абвінавачванню ў шпіянажы (заменена на 5 гадоў турмы), вызвалены ў 1923 г.

*«Хор Тэраўскага»* – Уладзімір Тэраўскі (1871–1938) – дырыжор, кампазітар, служыў у царкве. Заснавальнік Мінскага беларускага хору. Праходзіў у 1921 г. па адной справе з У. Фальскім, атрымаў такое ж пакаранне. Пасля вызвалення працаваў у БДУ і Інбелкульце. У 1930-я зноў зазнаў рэпрэсіі, быў расстраляны. Меркаванне, што да працы Ф. Ждановіча хору У. Тэраўскага не было, выглядае спрэчным.

*«Ці Ф. Ж[данові]ч раней спатыкаўся з Буйніцкім – не ведаю»* – Ігнат Буйніцкі (1861–1917) – акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч, стваральнік беларускага прафесійнага тэатра.

*№ 6. «Пакуль жыла с[ветлае] п[амяці] Юлія Бібіла»* – Юлія Бібіла (1897–1974) – бібліёграф, літаратуразнаўца, мемуарыст. Стала перапісвалася з Зоськай Верас.

*«Пытанні заўсёды прыходзілі праз Ю. Біб[ілу] або праз Аляксандру Смоліч»* – Алеся Смоліч (памерла ў 1974 г.), жонка вучонага і грамадскага дзеяча Аркадзя Смоліча (1891–1938), мемуарыстка, пісьменніца. Стала перапісвалася з Зоськай Верас.

*«Ведала адно, што працуе ў магістраце ў аддзеле харчавання»* – М. Багдановіч у Мінску працаваў сакратаром у харчовым камітэце Мінскай гарадской управы.

*«Вы, зразумела, чыталі кніжку «Альберт Паўловіч», а ў ёй успаміны Яго Дачкі? Яна там піша, што ў Іх бываў Максім Багдановіч»* – маецца на ўвазе кніга выбранага паэта-нашаніўца Альберта Паўловіча (Мінск: Мастацкая літаратура, 1975), дзе былі надрукаваныя «Успаміны пра бацьку» Т. Паўловіч-Кліменка. У прыватнасці, яна пісала: «Максім Багдановіч запомніўся мне сваім гарадскім выглядам, вельмі адметным ад астатніх, чыё жыццё прайшло на вёсцы. Ён быў высокакультурным і адукаваным чалавекам. Я не раз чула, як бацька і іншыя таварышы гаварылі пра яго з глыбокай павагай. Ён заходзіў да бацькі ненадоўга, толькі па справах і хутка знікаў».

*«Яго Дачку Уладзю, і Яе мужа Я. Фарботку»* – Язэп Фарботка (1893–1956) – паэт, грамадскі дзеяч, фатограф.

*«Хіба такая… сям’я не лічыла магчымым сустракацца з …«Андрэем Зязюлем» (Астрамовічам)»* – Аляксандр Астрамовіч (псеўд. Андрэй Зязюля) (1878–

1921) – паэт-нашанівец, каталіцкі святар, аўтар зборніка «З роднага загону» (1913). М. Багдановіч іранічна адгукнуўся на яго паэзію ў крытычным артыкуле «За тры гады»: «Аб ім можна сказаць толькі тое, што, напэўна, сказана ў яго пашпарце: “Каталік. Асаблівых прыкмет не мае”». (гл. ПЗТ. Т.2. С.229).

*«Калі ж гэта прыязджаў у Менск праф. Б. Эпімах-Шыпіла»* – Браніслаў Эпімах-Шыпіла (1859–1934) – выдавец, бібліятэказнаўца, філолаг, педагог, збіральнік беларускіх архіваў. Перапісваўся з М. Багдановічам. Т. Паўловіч-Кліменка піша: «Да 1915 года беларускія пісьменнікі жылі пераважна не ў Мінску, таму, прыязджаючы сюды, заходзілі да нас. (…) Прыезды Браніслава Шыпілы ў Мінск былі падзеяй і заўсёды адзначаліся ўрачыстай сустрэчай, на якую збіраліся ўсе, хто меў дачыненне да культурна-асветніцкай працы».

№ 7. *«Грошы здабыў У. Фалькі, альбо ў Тат’янінскім К[амітэ]це… або ў “Саюзе Гарадоў”»* – Усерасійскі Саюз Гарадоў як дабрачынная арганізацыя дзейнічаў з 1914 па 1918 г. Задачы – дапамога ўраду імперыі ў вядзенні вайны. У Саюз Гарадоў уваходзілі заможныя слаі гарадскога насельніцтва.

*«Нат бел[арускі] архітэктар Лявон Дубейкоўскі»* – Лявон Дубейкаўскі (1869–1940) – інжынер, будаўнік, грамадскі дзеяч. Член Белнацкома (1917), прадстаўнік БНР у Варшаве.

№ 8. *«Добрыя людзі разумеюць мой боль»* – неўзабаве перад гэтым лістом 27 студзеня 1976 г. у Зоські Верас памёр сын.

*«Кніжкі не прысылайце…»* – маецца на ўвазе зборнік «Шлях паэта».

*«І Вы, і А. Мальдзіс дамагаецеся, каб я канчала ўспаміны… Не! Больш пісаць не буду»* – успаміны Зоська Верас усё-такі скончыла, але поўны варыянт тэксту, што захоўваецца ў фондзе дзяячкі ў БДАМЛМ, яшчэ не апублікаваны.

№ 9. *«Вы лічыце, як бы ў стасунку да маей с[ветлае] п[амяці] Маткі Бядуля “пакрывіў душой”»* – Пар. у «Страцім-лебедзі» З. Бядулі: «Кватэрная суседка дзень у дзень нервіруе мяне: – У Багдановіча адкрыты працэс. І вы, і вашы сёстры, і я, і мая дачка – у вялікай небяспецы! (…) Вы маеце права ахвяраваць толькі сабою, а не вашымі сёстрамі, і не мною, і не маёй Людвіськай. Ад яго кашлю я спаць не магу! Як вы спіцё? А плявацельніца, выбачайце, адзін жах. (…) Сівіцкая наступае на мяне часта» (Шлях паэта, с. 76).

*«Максім …згаджаўся жыць у адным пакоі са здаровым чалавекам?»* – паводле бядулеўскага«Страцім-лебедзя», З. Бядуля і М. Багдановіч жылі ў адным пакоі. Зоська Верас пераканаўча даводзіць, што гэта непраўдзівая інфармацыя.

*«А гэтыя страшныя прыступы кашлю…»* – Пар. у «Страцім-лебедзі» З. Бядулі: «Мае думкі перабівае працяглы кашаль Максіма» (Шлях паэта, с. 73),«Я прачынаюся ад гучнага кашлю Максіма» (Шлях паэта, с. 77).

*«А ў Б[ядулі] Ён выступаў з рэфератамі, дэкламацыямі…», «Паміж іншым, Бядуля ні разу на суботніках не быў, так, як ні разу не быў у «Беларускай Хатцы»… Цікава, чаму гэта суботнікі былі “нелегальныя”?»* – Пар. у «Маіх успамінах» З. Бядулі: «Раз на тыдзень у адной з беларускіх сталовак для ўцекачоў ладзіліся нелегальныя вечарынкі-суботнікі, дзе збіралася наша моладзь. На гэтых вечарах Багдановіч заўсёды выступаў з рэфератамі і дэкламацыямі сваіх вершаў. Гаварыў ён заўсёды натхнёна, з пад’ёмам і вельмі красамоўна» (Шлях паэта, с. 63).

*«Скуль узяўся Скірмунт?»* – Раман Скірмунт (1868–1939) – грамадскі дзеяч, мецэнат, землеўласнік. З сакавіка 1917 г. узначаліў Беларускі нацыянальны камітэт. У «Страцім-лебедзі» З. Бядулі хворы М. Багдановіч прамаўляе:

«Я павінен напісаць нудную справаздачную брашуру. Пан Скірмунт думае надрукаваць яе. Якая для мяне пакута, кара божая. Яна гняце больш за хваробу. Мне б цяпер у Крым, пакуль не позна, шкада будзе… Але прасіць аб гэтым пана Скірмунта не магу. Лепш загіну!» (Шлях паэта, с. 75).

*«Толькі як стварыліся палітычныя арганізацыі пасля З'езду – «Цэнтральная рада Бел[арускіх] арг[анізацый]»* – пасля Нацыянальны К[амітэ]т» – ЦРБА – орган, які імкнуўся каардынаваць дзейнасць нацыянальных партый і арганізацый у ліпені-кастрычніку 1917 г. (кіраўніком быў А. Смоліч). Беларускі нацыянальны камітэт – прадстаўнічы палітычны орган Беларусі (сакавік-ліпень 1917).

№ 10. *«Аўтар артыкула нейкі Н. Лапідус»* – вядзецца пра артыкул літаратуразнаўцы Навума Лапідуса, які разам з Н. Ватацы паспяхова займаўся пошукам невядомых тэкстаў М. Багдановіча.

№ 13. *«Я. Саламевіч даваў чытаць мае ўспаміны… А. Разанаву»* – Алесь Разанаў (н. 1947), беларускі паэт, на той час працаваў у рэдакцыі выдавецтва «Мастацкая літаратура».

*«Мае ісці ў альманах "Спадчына"»* – у 1983 г. ужо набраны альманах «Спадчына» загадалі знішчыць. У кнізе мелася выйсці і п'еса Я. Купалы «Тутэйшыя». Супрацоўнікі выдавецтва атрымалі спагнанні (гл. дзённікі тагачаснага дырэктара «Мастацкай літаратуры» М. Дубянецкага).

*«С. П. Шушкевіч прыслаў «Настаўніцкую газету» і новы зборнік вершаў М. Багдановіча»* – Верагодна, паэт Станіслаў Шушкевіч (1908–1991) даслаў Зосьцы Верас выбранае М. Багдановіча, што пабачыла свет у серыі «Школьная бібліятэка» (1981).

*«Цэлы гэты год «Ніва» прыходзіла акуратна. Што будзе далей?»* – Зоська Верас мае на ўвазе падзеі ў Польшчы, звязаныя з пашырэннем руху прафсаюзаў «Салідарнасць». Па ўсёй краіне адбыліся масавыя страйкі, што выклікала крайне рэзкую рэакцыю ўладаў ПНР. Якраз раніцай 13 снежня 1981 г., у дзень напісання ліста, генерал Войцэх Ярузэльскі з экранаў тэлебачання абвясціў у Польшчы надзвычайнае становішча.

## *ЛІСТЫ ЗОСЬКІ ВЕРАС ДА НІНЫ ВАТАЦЫ*

Выбраныя лісты Зоські Верас да Ніны Ватацы друкуюцца ўпершыню паводле аўтографаў, якія захоўваюцца ў фондзе Н. Ватацы ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Перапіска адбывалася ў 1976 годзе і датычылася пераважна ўкладзенага Нінай Ватацы зборніка ўспамінаў і біяграфічных матэрыялаў пра Максіма Багдановіча «Шлях паэта».

Публікацыя структураваная паводле храналагічнага прынцыпу. Лексічныя асаблівасці аўтарскага стылю захаваныя. Правапіс і пунктуацыя прыведзены ў адпаведнасць з сучаснымі нормамі беларускай мовы.

№1. *«Сяння напісала я ліст Алякс[андру] Мікалаевічу са спраставаннямі Бядулінай маны»* – гл. у нашым выданні ліст №9 да Алеся Бачылы.

№2. *«Я думала, што яго выслала Лідзія Іванаўна»* – маецца на ўвазе Лідзія Збралевіч, на той час – загадчык аддзела рукапісных, старадрукаваных і рукапісных кніг бібляітэкі НАН Беларусі.

*«Звярнуцца да Р. Зямкевіча»* – Рамуальд Зямкевіч (1881–1944) – бібліёграф, літаратуразнаўца, перакладчык, збіральнік беларускіх архіваў. Ягоныя зборы былі страчаны падчас II сусветнай вайны.

№ 3. «*Праз Аляксандру Бергман*» – Аляксандра Бергман (1906–2005) – гісторык, удзельнік заходнебеларускага руху 1920-1930-х гг. Аўтар дзясяткаў артыкулаў і дзвюх кніг па гісторыі КПЗБ і БСРГ, даследавала жыццё і дзейнасць Б. Тарашкевіча, А. Луцкевіча, С. Рак-Міхайлоўскага і інш.

«*Я падаю адрас выкладчыка Бел[арускай] мовы і Літар[атуры] – Аляксандра Мікалаевіча Белакоза*» – Алесь Белакоз (н. 1928) – педагог, заснаваў у 1968 г. на базе кабінета беларускай мовы і літаратуры Гудзевіцкі літаратурна-краязнаўчы музей. З 1990 г. Гудзевіцкі літаратурна-этнаграфічны музей мае статус дзяржаўнага, налічвае больш за 12 тысяч экспанатаў. Настаўнік перапісваўся з многімі беларускімі літаратарамі.

№ 5. «*Ці ведаеце «Успаміны аб М. Багдановічу» быццам Смоліча?*» – Гл. далей«[Леанард Заяц?] Успаміны пра Максіма Багдановіча».

## *[ЛЕАНАРД ЗАЯЦ?] УСПАМІНЫ ПРА МАКСІМА БАГДАНОВІЧА*

Леанард Заяц (1890–1935) – грамадскі дзеяч. Скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт. Працаваў у Віленскім акцызным упраўленні (1914–1916), пасля – адказным сакратаром Мінскага аддзялення Усерасійскага земсаюза (1916–1917). Член Рады І Усебеларускага з’езду (1917). Удзельнічаў у стварэнні і працы БНР. З 1925 г. – кансультант у Народным камісарыяце фінансаў БССР. Арыштаваны ў 1930 г. па справе «Саюз вызвалення Беларусі» і высланы ва Уфу на 5 гадоў. У 1935 г. паўторна арыштаваны. Памёр у турме. Аўтар успамінаў пра М. Багдановіча, апублікаваных у віленскай аднадзённай газеце «Іскра».

Друкуецца паводле першапублікацыі, падрыхтаванай І. У. Саламевічам (Полымя. – 2011. – №8. – С. 149–150). Пра гэты тэкст вядзецца гаворка ў лістах №№ 3, 5 Зоські Верас да Ніны Ватацы, змешчаных у нашым выданні. Верагодным аўтарам спачатку лічыўся А. Смоліч, аднак публікатар у прадмове да ўспамінаў выказвае цвёрдае перакананне ў аўтарстве Лявона Зайца. Арыгінал мемуараў захоўваўся ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі. Супрацоўнік аддзела А. Сарокін перадаў у 1968 г. копію гэтага тэксту І. У. Саламевічу, паводле якой ён і апублікаваны. Рукапіс, які нібыта быў парваны на кавалкі і складзены ў канверт, пакуль не знойдзены, і таму гаварыць аб дакладным атрыбутаванні мемуараў не даводзіцца. Тым больш, што, паводле сведчання Зоські Верас, менавіта А. Смоліч быў лепшым сябрам М. Багдановіча і праводзіў з ім найбольш часу, як і аўтар успамінаў (пар. у тэксце: «Мы мала гаварылі з ім першы раз, але пасля мы з ім праводзілі ўвесь свой вольны час»).

# ГЛАСАРЫЙ

**адвалочнасць** – адцягненасць, абстракцыя; абстрагаванне
**адвалочны** – адцягнены
**адмена** – варыянтнасць (рус. *разновидность*)
**адназгучны** – манатонны
**адоймны** – адмоўны (ад *адымаць*, рус. *отнимать*)
**акрасляцца** – акрэсліваацца
**акрасляць** – акрэсліваць
**асноведзь** – фон
**асобнасць** – асаблівасць
**ачавіста** – відавочна (рус. *очевидно*, пол. *oczywiście*)
**бадач** – даследчык (пол. *badacz*)
**барвíсты** – маляўнічы; каляровы
**барва** – фарба
**бытнасць** – прысутнасць, наяўнасць
**валваваць** – хваляваць
**валвістасць** – хвалістасць; хваляванне
**валвуючы** – хвалёўны, хвалюючы (ад *валва* 'хваля', 'вал')
**восенны** – восеньскі
**выабражаць** – уяўляць
**вымыкаць** – тут: выслізгваць
**выходзіць** – зыходзіць
**гатунак** – сорт; кшталт; жанр
**гатунковасць** – якасць; жанравасць
**гатунковы** – якасны; жанравы
**гвязда** – звязда (пол. *gwiazda*)
**гон** – імкненне
**горскі** – горны
**дабачаны** – відочны, згледжваны (рус. *усматриваемый*)
**двохчэлесны** – двухчленны
**дзедзіна** – галіна, сфера
**дослед** – даследаванне
**жосткасць** – жорсткасць
**забарвлены** – зафарбаваны
**завілы** – мудрагелісты (рус. *витиеватый*)
**закрэс: у закрэсе** – у абсягах, у межах
**запраўдны** – сапраўдны
**застасаваць** – ужыць, выкарыстаць
**зваротка** – страфа
**знеэстэтычны** – пазаэстэтычны
**зысціцца** – ажыццявіцца (пар.: *ісціць* 'ажыццяўляць')
**істотнасць** – існасць, сутнасць
**канечна патрэбны** – неабходны
**канечнасць** – неабходнасць
**канечны** – абавязковы
**канструктаванне** – канструяванне
**канчальны** – канчатковы
**кастырны** – косны, кансерватыўны
**клыгатанне** – бурленне
**крэзвасць** – бадзёрасць
**крэзвы** – бадзёры
**кунежлівы** – любосны (рус. *ласкательный*)
**ласне** – уласна
**лічэбнасць** – колькасць (рус. *численность*)
**лучнасць** – сувязь
**малалічэбны** – малалікі
**мера** – стапа
**мерны** *(ямб)* – стопны
**месік** – месяц
**мігак** – маяк
**многалічэбны** – шматлікі
**мэтаадпаведнасць** – мэтазгоднасць
**наагул** – наогул
**напарý** – калі-нікалі
**наўзвоч** – у наяўнасці (рус. *налицо*); навочна, наглядна
**неаднакрот** – не раз
**немень** – адсутнасць *(рэчы)*
**ночны** – начны
**нямаль** – амаль
**няўздолле** – немач; няздольнасць
**падрахаванне** – падсумаванне
**палыскуючы** – бліскучы
**паўзбежны** – паралельны
**пачатны** – пачатковы
**пачовісты** – адчувальны (ад *човы* 'пачуцці')
**пачовісты** – пачуццёвы (рус. *чувственный*)
**позны** – позні
**прасычаны** – прасякнуты (рус. *пропитанный*)
**прыгажство** – харaство, краса, прыгажосць
**прыметны** – прыметнікавы
**прыпадак** – выпадак
**прыпадковы** – выпадковы
**пярокрыжны** – перакрыжаваны
**разнаякі** – разнастайны
**распадзяляць** – чляніць
**распаклад** – размеркаванне
**распакласці** – размеркаваць (рус. *распределить*)
**распашырацца** – распаўсюджвацца
**рожнаякасць** – разнастайнасць
**рожны** – розны
**рухлівы** – рухавы, неспакойны
**ручво** – рэчышча
**самаісты** – самастойны
**светагляд** – светапогляд
**свомасць** – уласцівасць
**свомны** – уласцівы
**серыя** *(вершаў)* – цыкл, нізка
**скірчэнне** – стракатанне
**складны** – складовы, састаўны
**содні** – суткі
**спастаўленне** – супастаўленне
**спаўграмадзяне** – суграмадзяне
**ступá** – крок
**сутарлівы** – тлумны
**сюжэтасклад** – укладанне сюжэтаў (рус. *сюжетосложение*)
**тасоўна** – што да *(чаго)*, адносна *(чаго)*, у дачыненні *(да чаго)*
**тасунак** – стасунак
**тлумачны** – тлумачальны
**увыдатняць** – утрыраваць, узмацняць
**упорчыва** – упарта
**усцігнуць** – змагчы
**уходзіць** – увaходзіць
**часць** – частка
**чоўкасць** – пачуццёвасць (рус. *чувственность*)
**чысленны** – лічаны
**чэлесаванне** – чляненне, распадзел
**чэлес** – член
**штрофа** – страфа

# ЗМЕСТ

Навуковае выданне

# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ: ВЯДОМЫ І НЕВЯДОМЫ

Зборнік літаратуразнаўчых
і архіўных матэрыялаў

Укладальнік:
**ЧАРНЯКЕВІЧ** Ціхан Валер’евіч

Рэдактар *Ц. В. Чарнякевіч*
Мастак *А. Ф. Вашчанка*
Вёрстка *Л. В. Касцюкевіч*
Стыльрэдактар *А. А. Карп*
Мастацкі рэдактар *Я. К. Вашчанка*

Падпісана ў друк 18.11.2011. Фармат 70×100 1/16.
Папера афсетная. Афсетны друк. Ум.друк.арк. 31,8.
Ул.-выд.арк. 23,39. Тыраж 1100 экз. Заказ .

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»
ЛИ 02330/0494044 ад 03.02.2009.
Вул. Захарава, 19, 220034, г. Мінск

Адкрытае акцыянернае таварыства
«Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа».
ЛП 02330/0150496 ад 11.03.2009.
Вул. Чырвоная, 23, 220600, г. Мінск.